Рэцэнзент Г. Шупенька

**Капыловіч М.**

К 20 Дні ціхай восені: Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 256 с., іл.

У пер.: 1 р. 10 к.

Новая кніга Міколы Капыловіча пра нашых сучаснікаў. Апавяданні, што склалі гэты зборнік, розныя па тэмах і жыццёвых сітуацыях, прасякнуты любоўю да людзей, увагай да іх душэўнага свету, трывожным роздумам пісьменніка над складаным лёсам герояў.

К $\frac{70303-064}{М 302(05)-81}$ 13—81 4702120200

ББК 84 Бел 7
Бел 2

# Мар'я з Хатак

## 1

Васіль Клёпік забраў увечары з дзіцячага сада дачку, прывёў яе дамоў, раснрануў і адправіў гуляць у спальню, а сам сеў ля тэлевізара паглядзець футбол. Уставіўся вачыма ў экран і не пачуў, што з работы прыйшла жонка, прысела да яго на канапу.

Яна: — Прафсаюзны сход быў. Будуць даваць кватэры. Падала заяву на трохпакаёвую. Гаварыла з дырэктарам...

Ён: — У нас трыццаць метраў на тры чалавекі. Выканком не дасць згоды на пашырэнне. Па закону...

Яна: — Дык што рабіць?

Ён: — Трэба, Ніна, некага прыпісаць.

Яна: — А каго?

Ён: — Хіба маю матку.

Яна: — Будзе нам і Ірынку глядзець. У сад не трэба будзе вадзіць.

Ён: — А ці згодзіцца яна?

Яна: — Едзь і пагавары.

Прыехаў Васіль у Хаткі надвячоркам і маці дома не застаў — на дзвярах вісеў замок. Ён паставіў на ганак сумку і пайшоў на агароды. Старая Мар'я хадзіла, падаткнуўшы спадніцу, па разоры, ірвала ў кашэль бярозку, малачай, лебяду свінчаці і не ўбачыла, што падышоў Васіль. Калі ён паздароўкаўся, разагнулася, і ціхая ўсмешка разышлася па яе твары:

— Добра, што прыехаў, сынок. Занудзілася тут адна.

— Думаю, пад'еду.

— Хадзем, пакажу, што расце на сотках.

Яна зняла з пляча, паставіла на зямлю кашэль і павяла сына па разорах.

Картопля займала ці мала загонаў ад хлява да самага поплаву і густа павыпускала над сабою белыя кветкі. Здавалася, віселі яны над тоўстай і высокай, як лаза, гіччу.

— Добра вясною мачыла. І гною дала.

У голасе маці чуваць была радасць, што з ураджаем цяпер будзе добра, і гонар за сябе — старалася, рачкавала на сотках.

— Гуркоў будзе багата. Завязь густа ўзялася...

Яны падышлі да град. Гуркоўнік сплёўся і, як цеста з дзяжы, расплываўся з загона ў разоры, завязвалася ў качаны капуста, намотваліся на тычкі зялёныя ніткі фасолі.

Маці ўзяла кашэль з зеллем і павяла сына паглядзець на сад. Яго ад хаты да хлява абдымаў штыкетнік. На дрэвах пузаціліся антонаўкі, чырванелі грушы, рэпехам віселі на галлі слівы. На яблыні, што расла пад самаю хатаю, ніжнія галіны былі не падрэзаны — бацька вярнуўся з фронту, пасадзіў сад і памёр,— і зараз сцаліся па зямлі, і яблыкі на іх былі падзяўбаныя курамі. Падышлі да грушы, якую летась выкапаў на поплаве і пасадзіў ля хлява Васіль, калі ўвосень прыязджаў да мацеры. Вясною хацеў было прыехаць і прышчапіць яе, ды не выбраўся неяк. Дзічка была вялая, на ёй распусціліся і засохлі дробныя лісці, вусень пааблажваў іх павуціннем, паскручваў у кацёлкі.

— Не прынялася, бач,— хадзіў вакол грушы і мацаў галлё Васіль.— І, здаецца ж, выкапаў яе з усімі карэннямі. Мо ты не палівала?

— Палівала. Тут другое. Прывыкла расці на нізкім, сырым месцы, а перасадзілі яе на высокае, пясчанае. От і звяла. Так мне Макар казаў, ён калгасны сад даглядае.

Яны яшчэ трохі пахадзілі па садзе і пайшлі на двор.

Малінавае сонца наткнулася на вяршкі дрэў за вёскай і памалу ціснулася да зямлі, патужэла ад водару паветра, налівалася памалу сінім неба. На вуліцы стаяў, як туман, пыл, яго зносіла за платы — гналі з пашы худобу. Таўханула рагамі варотцы матчына карова, увайшла ў двор напашчаная, круглая, як бочка, і вымя пад ёю аж распіралася ад малака.

Калі змерклася, яны сядзелі ў хаце за сталом і гаварылі.

Васіль: — Даюць нам новую кватэру. З трох пакояў. Пераязджай да нас жыць, мама.

Маці: — І доўга ты думаў, каб такое сказаць? Кінуць-рынуць селішча сваё і ехаць... І хату, і карову, і соткі...

Васіль: — Прадасі. Грошы не прападуць — на кніжку паложыш.

Маці: — Тут і дзед мой жыў, і бацька, і маці. Вас выгадавала, у свет пусціла з гэтай хаты.

Васіль: — Гэта было даўно. З сенам ды дрывамі клопату багата. Без мужчыны.

Маці: — Захар, дзякаваць яму, памагае.

Васіль: — У яго ж свая сям'я. Не кожны раз помачы ад яго дачакаешся... Рукі вунь павырывала на гаспадарцы, а на сваім стаіш.

Маці: — Нічога не скажу — павырывала, баляць.

Васіль: — Хату шкадуеш, а здароўе не.

Маці: — А што я буду рабіць у тым горадзе?

Васіль: — Адпачываць, унучку глядзець. Палучым кватэру — пакой адзін адвядзём табе.

Маці: — А каму я прадам хату, хлеў, карову, кабана?

Васіль: — Людзі добрыя знойдуцца.

Маці: — Век жылі, нажывалі, мучыліся на сваёй вотчыне. Гора і таго шкада кідаць.

Васіль: — Дык не задарма аддасі. Грошы возьмеш.

Маці: — Тут гарачку, сынок, пароць не трэба. У галаве прыкіну, падумаю, з добрымі людзьмі пагавару.

2

Раніцай залапатаў крыллямі пад акном, закрычаў на ўсё горла певень, і Васіль прачнуўся. Ён устаў з ложка, павадзіў па твары электрабрытваю, памыўся, апрануўся і выйшаў на вуліцу — трэба было адведаць брата, што жыў у самым канцы вуліцы.

Сонца ўжо даўно выйшла з-за лесу, пабялела, пазырчэла — быў той час, калі ў вёсцы садзіліся людзі снедаць. У цяньку пад хатамі, платамі, дзе не даставала сонца, макрэла яшчэ ад расы зелле, цямнеў сыры пясок; з каміноў сплываў на дахі рэдзенькі і белы, як пара, дым; на дварах рохкалі свінні, сакаталі куры. Ён ішоў па густа скапычанай худобаю вуліцы, непрывыкла для сябе бачыў пад нагамі сляды коней, кароў, авечак, раскіданыя па пяску каравякі і гідзіўся на іх глядзець — здавалася, што ніколі не жыў тут і ніколі не бачыў гэтага.

Ступаў паўз плот і пазіраў у двары.

І раптам аднекуль:

— Здароў, Васіль!

Ён спыніўся, зірнуў туды, адкуль пачуў голас,— у двары, на якім стаяла новая, вялікая, як клуб, хата, Мацвей Кулік, яго аднакласнік, калоў дровы. Васіль да

яго ў двор не пайшоў, стаяў і чакаў, пакуль сам Мацвей выйдзе на вуліцу. А той спытаў з дрывотні:

— Як жывеш, хлеб жуеш?

— Жыву. А ты?

— На трактары хлеб зарабляю. Даўно прыехаў?

— Учора.

— А калі паедзеш?

— Заўтра.

— Мо сена мацеры пойдзеш сёння касіць? Далі ёй у калгасе на працэнты...

— Пагляджу.

— Глядзець не трэба, касу ў рукі і — пайшоў. Пагода добрая стаіць... Сена як чай будзе.

Васіль нічога яму не сказаў, пайшоў далей.

...Было гэта даўно, узімку, пасля вайны, калі Мацвей з Васілём хадзілі ў шосты клас. Стаялі тады лютыя маразы, аж у вуглах хат страляла, платы пазаносіла снегам, а на вуліцах, як горы, ляжалі гурбы снегу. Мацвей чатыры дні не хадзіў у школу, сядзеў дома на печы і глядзеў у акно. На дварэ завея круціла снег, вецер цёрся аб сцены хаты, нудна выў у плоце, аж за душу скрэбла. Маці сядзела на лаве, кроіла лазовы верч, каб сплесці яму лапці... Вось ужо ўзяла ў рукі дзяжкі і хацела было звязаць насок лапця, уплесці ў яго вушкі, але круціла-вярцела іх у руках і не ведала, як пачаць. Не вучылася гэтай мужчынскай рабоце, бо не спадзявалася, што давядзецца жыць пасля вайны без гаспадара. І не вытрымала, шпурнула ад злосці лазу ў кавешнік і, праклінаючы богам свой лёс, выйшла за парог. Доўга яе не было, вярнулася на прыцемкі, з лапцямі пад пахаю ступіла на парог і кінула іх Мацвею на печ:

— Заўтра на ўрокі пойдзеш.

Мацвей ледзь не захлынуўся ад радасці — на яго каленях ляжалі новенькія лутовыя лапці-саракавушкі. Былі, праўда, вялікія на яго, але падыдуць, калі на ногі накруціць багатаануч.

Раніцай Мацвей ужо сядзеў ціха на задняй парце і чакаў, калі пачнецца ўрок. Затарахцеў на калідоры званок, дзеці перасталі бегаць па класе, селі на свае месцы і пазіралі на дзверы — вось-вось у клас увойдзе Таццяна Цімафееўна. Зардзелая ад марозу, настаўніца ступі-

ла на парог, падышла да стала, паклала сшыткі і абвяла позіркам клас. Убачыла Мацвея:

— О, як добра! Кулік у школу прыйшоў! Дзе ты прападаў?

Мацвей падняўся з-за парты, апусціў галаву:

— Лапці знасіліся, а новых не было.

— І на тым тыдні два дні прапусціў.

— З саматужкамі па дровы ў лес ездзіў.

Сказаў і пацягнуў рукавом па носе.

Настаўніца падышла, паклала яму на галаву руку:

— Двоек нахапаў, у школу не ходзіш. Трэба, Мацвей, падцягнуцца, бо на другі год застанешся. Перасядзь на першую парту да Васіля. Ён у нас выдатнік, будзе памагаць табе.

— Не буду з ім сядзець,— закруціўся Васіль на месцы.

— Будзеш сядзець і памагаць свайму таварышу,— сказала Таццяна Цімафееўна, узяла Мацвея за руку, павяла яго на першую парту і пасадзіла да Васіля. Потым раздала вучням сшыткі, разгарнула перад сабою падручнік:

— А цяпер, дзеці, будзем пісаць дыктоўку.

Мацвей прывязаў ніткаю да алоўка пяро, разгарнуў сшытак. Чарніла ў яго не было, і калі настаўніца пачала дыктаваць першы сказ, хацеў умакнуць у чарніліцу Васіля, але той адштурхнуў яго ўбок, падняўся з-за парты:

— Таццяна Цімафееўна, у маё чарніла мачае Кулік.

— Заўтра сваё прынясе, а сёння хай тваім папіша.

Пісаў Мацвей і больш сачыў не за тым, што дыктуе настаўніца, а за чарніліцай, у якую цяжка было клюнуць пяром, бо адсунуў яе Васіль аж на самы канец парты. І калі шанцавала ўмакнуць у неразлівайку, браў на ручку чарніла столькі, што аж нітка на алоўку ля пяра набрыняла ад яго. І хутка пасадзіў на сшытак пляму. Пакуль выціраў яе, настаўніца скончыла ўжо дыктаваць сказ. Зазірнуў у Васілёвы сшытак, каб падгледзець у яго, але Клёпік засланіўся ад Мацвея:

— Таццяна Цімафееўна, ён спісвае ў мяне!

— Не перашкаджай, Вася, весці ўрок,— падняла голас настаўніца.

Другі ўрок праводзіў Даніла Якаўлевіч. Была арыфметыка. Падручнікаў у вучняў не было, і, каб даць дамоў заданне, настаўнік пісаў прыклады на дошцы, а дзе-

ці спісвалі іх сабе ў сшыткі. Так было і на гэты раз у канцы ўрока. Васіль першы перапісаў у сшытак слупок з лічбамі і цяпер сядзеў, пазіраў на клас. І падняў руку.

— Што такое, Клёпік? — спытаў яго Даніла Якаўлевіч.

— Пеця і Валодзя вунь на вашым уроку прыклады не перапісваюць, а гісторыю вучаць.

— Мы ўжо перапісалі, Даніла Якаўлевіч,— пачырванелі хлопцы.

Настаўнік падышоў да іх, глянуў у сшыткі, кіўнуў галавою і — да Клёпіка:

— Нагаворваеш, Вася.

— Ён на кожным уроку так,— загаварылі дзеці.

Вася ўстаў:

— Я староста класа... На ўроку пабочнымі справамі займацца не трэба. Так напісана ў «Правілах для вучняў».

І сеў.

А вось і братава хата. Васіль узяўся за зашчапку, адчыніў весніцы.

Весела, шумна было на двары ў Захара: гергеталі гусі, у карыце паласкаліся качкі, хадзіла багата курэй, ад варот да хлява бегала, падбрыквала нагамі цялё, пад плотам ляжалі з заплыўшымі ад тлушчу вачыма вепрукі.

За хатаю шаргацела піла, і ён пайшоў туды, Захар з сынам клалі на козлы і пілавалі асінавыя плашкі. Піла памалу танула ў дзераве, пырскала з-пад яе тырса і біла ў нос саладкаватым пахам.

Захар убачыў Васіля і выпусціў з рук пілу.

— О, браток прыехаў! — Разагнуўся, абабіў са штаноў тырсу і падаў яму руку: — Здароў, здароў, начальнік! Хадзем у хату.— І — да сына: — Бяжы на агарод, маму пакліч. А потым гэтыя цялешыкі паколеш.

Хлопец паклаў пілу, пабег, пераскочыўшы цераз плоцік, на грады, а Захар з Васілём ступілі на ганак.

У хаце нікога не было.

— А дзе ж твае дзеці? — спытаў Васіль.

— Косцік з Мішам пайшлі на поплаў сена раструшваць, каб высахла да вечара, Пятро з Сяргеем кароў па-

суць, а большы, Юрка, у арміі.— Захар зняў шапку, павесіў яе на цвік ля дзвярэй: — Я, можна сказаць, брыгадзірам у іх. Пабуджу ранкам, дам нарад на дзень — усё робяць. Улетку рэдка сам пасу калгасных кароў. Толькі вясною і ўвосень, калі яны ў школу ходзяць.

— І добра вучацца?

— Пахвальныя лісты прыносяць. Гора з імі не знаю. Помач мне вялікая.

Увайшла ў хату гаспадыня, выцерла аб фартух руку, падала яе Васілю.

— Прабачай, што пальцы ў брудзе... У зямлі капаемся,— засаромелася яна.

І замітусілася ля печы.

— Рыбы табе, Васіль, насмажу. Учора хлопцы цэлую торбу налавілі.

Усё аж гарэла ў яе руках: хутка мылася пасуда, лупілася бульба, шыпелі ў печы патэльні з яечняю і шчупакамі. Пакуль браты перакінуліся словамі, дык і снеданне ўжо стаяла на стале.

— Сядай, браток, пачастуемся,— Захар палез у халадзільнік, выняў бутэльку.— Тут у мяне першачок стаіць.

Селі за стол.

Захар наліў сваю чарку поўнай, пацягнуўся да братавай шклянкі, каб наліць госцю, але Васіль перахапіў рукою бутэльку, адхінуў яе ўбок:

— Не п'ю самагонку...

Захар з жонкаю наперабой сталі ўгаворваць:

— Ды хоць кроплю!

— От табе на!

— Для апетыту выпі, Васілька!

— Толькі сухое віно п'ю.

— Кісляціну тую? — здзівіўся Захар.— Задарма з магазіна не браў бы. Бабам і дзецям яно падходзіць.

— То мо настойкі вып'еш?

— Гэта можна. Хіба толькі пад рыбу.

На стале з'явілася бутля настойкі, і яны чокнуліся, выпілі.

Васіль браў з талеркі рыбу, апякаў ёю губы, чамкаў ротам: шчупакі былі добра высмажаныя ў алеі, з хрумсткаю жоўтаю скарынкаю, салодкія і духмяныя, аж у грудзях зацінала ад іх паху.

— Колькі табе, калгаснаму пастуху, выходзіць у ме-

сяц? — пацікавіўся Васіль у брата і калупнуў відэльцам у бульбіну.

— Грошай? Дзвесце рублёў.

— Ого! — падняў на Захара вочы і здзівіўся госць.— Як у кандыдата навук.

— Умець даглядзець скаціну таксама, скажу табе, вялікая навука,— адказаў Захар.— Нават вучоныя пра гэта думаюць.

Васіль здаволіўся рыбаю, выцер губы ручніком, які паслала яму на калені, каб штаны не замазаліся, Захарава жонка, сказаў брату:

— Маці хачу да сябе забраць.

— Наўрад ці паедзе.

— Чаму?

— Ёй і тут добра. Пенсію палучае, хлеб ёсць і да хлеба... Усё сваё... Кожны раз і табе сала і мяса прысылае.

— Адна ж гаруе.

— Усе так гаруюць. Ад ночы да ночы робяць. Зямля, браток, спаць у шапку не дае, лежняў не любіць.

Васіль падзякаваў за снеданне, устаў і выйшаў з-за стала, за ім падняўся Захар. Пайшлі ў другую палову хаты, каб перакурыць, перадыхнуць пасля добрай яды. Стаяў тут халадок, і госць расшпіліў сарочку, каб трохі астыць ад духаты. На вокнах цвілі вазоны, покуць заплёў галлём фікус і ўпіраўся вяршком у столь. Васіль убачыў на стале тэлевізар і спытаў у Захара:

— Учора ты футбол не глядзеў? Нашы гулялі.

— Гэта ты пра тых, што мяч адзін аднаму перакідаюць на траве?

— А што? — не зразумеў Васіль, што хоча сказаць брат.

— Падурэлі, браток, вы там у горадзе ад гультайства. Тваім футбалістам косы б у рукі — хай бы пагулялі на нашай траве.

Васіль глянуў на брата, усміхнуўся — што з ім гаварыць.

## 3

Пад вечар, калі ў хаце было ўсё параблена, Мар'я накінула на галаву белую паркалёвую хустку, завязала на сабе фартух і пайшла да суседкі Вольгі.

Вольгу па-вулічнаму звалі «Дзень добры». Людзі казалі, што яшчэ да вайны паехала была яна першы раз у горад гасцяваць да дачкі, выйшла з вакзала на гарадскую вуліцу, стала і давай кожнаму, хто праходзіў паўз яе, кланяцца і гаварыць направа і налева:

— Дзень добры, дзень добры!

Людзей на вуліцы было багата, і з кожным хацелася Вользе павітацца, але ніхто ёй не адказваў, усе некуды беглі, пацiскалі плячыма, усміхаліся і думалі пра яе немаведама што. Адзін, праўда, гарадскі чалавек, калі Вольга пaздароўкалася з ім, спыніўся, падышоў і сказаў:

— Нешта я вас не ведаю.

— І вы мне чужы чалавек,— адказала Вольга.

— Чаму ж тады павіталася са мною?

— У нас у Хатках завядзёнка такая,— растлумачыла Вольга.— На сваёй вуліцы калі стрэнемся, здароўкаемся з людзьмі.

Гарадскі махнуў рукою і пабег сваёй дарогай.

З колішняга часу Мар'я і Вольга разам гадаваліся ў вёсцы, хадзілі ў дзеўках, і замуж іх пабралі ў адзін год. Толькі Вользе не пашанцавала больш, чым Мар'і,— чалавек яе, Нічыпар, вясёлы, хлёсткі целам хлопец, як пажаніліся, скруціўся, кінуўся ў распусту, не стаў пільнавацца сваёй хаты і некуды знік, пакінуўшы на руках у Вольгі дачушку Соню. Прымакоў яна сабе не брала, хоць і знаходзіліся, усю ласку аддавала дачцэ, вывучыла яе на настаўніцу, але вайна перашкодзіла і гэтаму яе шчасцю — Соня пайшла ў партызаны і паклала недзе ў лесе галаву. Засталася Вольга адна — ні чалавека, ні дзяцей, ні ўнукаў. І ўсё гора сваё душыла ў рабоце — дзень у дзень ад самай вайны ходзіць на калгаснае поле. Там з людзьмі ёй весялей.

Старая Мар'я адчыніла дзверы і зайшла ў хату. Вольга стаяла над цэбрам і таўкла качаргою парасяці вараную бульбу. З цэбра валіла пара, цякла ў печ — яе туды цягнуў агонь.

— Добрага здароўечка, Вольга! — павіталася Мар'я.

— Дзень добры! Прысядзь на ўслон, я хутка ўпраўлюся. Трэба гэтаму злыдню наліць у карыта, бо вунь хлеў разносіць, на сцяну аж лезе.

Яна падсыпала ў цэбар мукі, перамяла, перамяшала рукамі вараную бульбу, вынесла з хаты цэбар, вярнулася, прапаласнула ў старым вядры рукі:

— Чула, што Васіль у госці прыехаў.

— Адведаў, дзякаваць богу. Хоча, каб папрадавала ўсё і ехала да яго жыць.

— Дык і едзь. Хоць перад смерцю адпачнеш, клопат з сябе скінеш. Пры дзецях весялей табе будзе... Маю Соню пасля вучобы ў горадзе былі аставілі. Каб жыла, дык даўно забрала мяне б.

— Боязна, суседачка. Не буду бачыць свайго селішча, Захара з дзеткамі.

— Будзеш прыязджаць.

— Каб гэта кожны дзень бачыць.

Вольга не ўцярпела, скубянула суседку за рукаво:

— У цябе галава не варыць. У горад цяпер усе едуць. Там ваду не трэба ў хату насіць, грэць у печы яе не трэба — гатовую па трубах у дамы прысылаюць. З дрывамі ніякага клопату, з сенам... Эх, каб мне тваё шчасце...

Мар'я паслухала, уздыхнула:

— Паеду, калі так гаворыш.

4

Ірынка пачула, што ля пад'езда загула машына, глянула ў акно і кінулася ў спальню да маці:

— Прыехала бабуля!

Ніна натыкнула на ногі туфлі, накінула на плечы ўпярэдняй, каб цяплей было, паліто, выйшла за дзверы і стала спускацца па лесвіцы з чацвёртага паверха на двор.

З таксі выйшаў Васіль, падаў руку і памог вылезці з машыны маці, пайшоў адчыняць багажнік, каб забраць клункі. Мар'я ўбачыла нявестку, якая выйшла з пад'езда, ступіла ёй насустрач, і жанчыны пацалаваліся.

— Ці не стаміліся, мама, у дарозе? — абняла Мар'ю за плечы і спытала нявестка.

— Не,— выняла старая з кішэні хусцінку і выцерла слёзы.— Добра было, дзякаваць богу, ехаць.

— Чаго ж вы плачаце?

— Так трэба. Новае ж месца.

Васіль панёс наперадзе клункі, Ніна ўзяла пад руку свякруху, і яны пайшлі ў пад'езд.

— Не спазніўся Васіль да цягніка, калі вас сустракаў? — спытала Ніна.

— Якраз управіўся.

А вось і чацвёрты паверх. Старая, пакуль паднялася, добра задыхалася. Нявестка пачала адчыняць ключом кватэру, і Мар'я ўбачыла, што дзверы, за якімі жыў Васіль з сям'ёю, абабіты чорнаю кляёнкаю, а на ёй — белыя кнопачкі. Дзверы адчыніліся, і да бабулі кінулася Іра, прылашчылася.

— Ах ты, шчабятуха мая! — Мар'я нагнулася і пацалавала ўнучку ў шчаку.— Я вось табе арэхаў прывезла...

Выняла з кішэні і падала Іры гасцінец.

У кватэры нявестка памагала старой распрануцца, правяла яе ў гасціную, пасадзіла ў крэсла і пабегла ў кухню, каб зварыць вячэру. Васіль паклаў у бакоўку клункі, прыйшоў і сеў на канапу насупраць маці:

— Выгадна прадалі хату?

Мар'я ўздыхнула, зноў стала выціраць вочы:

— Па сходнай цане. Купец добры знайшоўся. З Мазыра. Пахадзіў, паглядзеў і не цанаваўся вельмі, даў, колькі прасіла. Дзерава, кажа, здаровае, не рассыплецца, калі буду перавозіць. А карову, цяліцу, кабана прадала другому чалавеку.

— А як з садам?

— Аніяк. Той, што хату з хлявом купіў, пра яблыні і грушы і гамонкі не вёў... Не павязе ж ён яго ў горад. Стаіць сад.

Гаварыла вінаватым голасам, быццам апраўдвалася перад сынам, потым не ўсядзела ў крэсле, паднялася, пахадзіла па кватэры, выйшла на расчынены балкон і, калі глянула на вуліцу, адступілася назад — хадзілі далёка ўнізе маленькія людзі, бегалі машыны, стаялі нізкія дрэвы, і здалося старой, што стаіць яна на высокай гары і вось-вось зваліцца з яе.

— Галава закружылася,— выдыхнула Мар'я.— Высока жывяце. Аж страшна.

— Прывыкнеш і ты, мама,— засмяяўся Васіль.

З кухні выйшла Ніна і запрасіла ўсіх на вячэру.

5

Прачнулася старая Мар'я на досвітку, калі на дварэ было яшчэ цёмна. Хацела было ўжо апрануцца, ісці ў сенцы па даёнку, каб падаіць карову, але прыслухалася спрасонку, пачула, што нехта блізка дыхае — спала

ўнучка,— і толькі цяпер здагадалася, дзе яна. І ўжо не заснула, павярнулася на другі бок, тварам да сцяны, моўчкі ляжала, нешта думала сваё і чакала белага дня.

Пачынала віднець, пасінелі шыбы ў акне, са змроку пачалі выплываць сцены, ложак Ірынкі, шафа, недзе застукалі дзверы, загаварылі людзі, унізе, на вуліцы, зараўлі машыны, і яна паднялася з ложка. Устаў ужо і Васіль з жонкаю — у другім пакоі загарэлася святло, пачуліся шыпенне электрабрытвы, ціхая гамонка.

Старая выйшла са спальні.

— Чаму так рана ўсталі? — спытала нявестка.— Можа, мы збудзілі?

— Не, па прывычцы гэта,— адказала яна.

Ніна выняла з сумачкі і паклала на стол грошы:

— Схадзіце, мама, у магазін. Купіце малака, цукру, мяса. Гастраном цераз вуліцу.

— У мяне самой грошы ёсць.

На гэта нявестка нічога не сказала, апранулася і пайшла з Васілём на работу.

За шклом ляжалі куры, хораша нарэзанае мяса, селядцы, сыр, яйкі. Мар'я пераходзіла ад аднаго прылаўка да другога, і аж вочы ў яе разбягаліся — усяго хацелася купіць. Узяла тое, што наказала нявестка, даклала сваіх грошай на селядцы, бо даўно не спытала іх, і выйшла з магазіна. Вуліцу пераходзіць доўга не адважвалася — па ёй густа ішлі машыны,— потым улаўчыла момант, перабегла і патупала дамоў. Спынілася ля дома, у якім цяпер жыла, і ён здаўся старой Мар'і харашэйшым, чым учора,— вялізны, з белымі сценамі, бліскучымі вокнамі. Паднялася на чацвёрты паверх, дастала з кішэні ключы і хацела было адчыняць сынаву кватэру, ды перадумала — дзверы былі чужыя. Васілёвыя абабіты чорнай кляёнкай, на ёй белыя кнопачкі, а гэтыя голыя, жоўтыя. Заблудзілася. Выйшла з пад'езда, убачыла насупраць такі ж, як і гэты, дом, пайшла да яго. Зноў не туды трапіла. За тым домам яшчэ стаялі дамы, і ўсе як адзін, нібы вылітыя.

Насупраць ішлі два маладыя грывастыя хлопцы. Старая спыніла іх:

— Не ведаеце, дзеткі, у якім доме жыве Васіль Клёпік?

Хлопцы глянулі на жакетку, у якой была Мар'я, зразумелі, што бабуля з вёскі, усміхнуліся:

— Хэ, а вуліцы не памятаеце?

— У яго чорныя дзверы.

— Хэ, вобразна сказана. А нумар дома?

— Тут недзе.

— Едзьце на вакзал у бюро даведак. Там скажуць.

І пайшлі сабе, пасмейваючыся.

Не на жарт перапалохалася Мар'я. Недзе Ірынка прачнулася, плача, есці хоча, а яна, старая кавеня, цягаецца між дамоў, кватэру не можа знайсці. Каб ведала такое, метку якую б паклала ля сынавага дома. Хадзіла, пыталася ў людзей, але ніхто нічога не сказаў ёй. Ужо, ходзячы, ногі ў старой забалелі, яна села на лаўку перад адным домам, апусціла галаву і стала гараваць.

— Чакаеце каго? — пачула раптам блізка ля сябе нечы голас.

Падняла вочы — перад ёю стаяла пажылая жанчына ў акулярах, з падведзенымі бровамі. Гарадская. Начальніца, няйначай, нейкая.

— Сынаву кватэру ніяк от не знайду,— уздыхнула Мар'я.— З чорнымі дзвярыма яна.

— А хто ваш сын?

— Інжынер. Васілём Клёпікам завуць,— гаварыла яна і не падымала галавы.

— Над намі ён жыве. У гэтым пад'ездзе.

— Праўда? — усхапілася Мар'я з лаўкі.— Каб вам бог шчасця даў!

Пакланілася жанчыне і як не пабегла ў пад'езд.

## 6

— Бабуля, хадзем на двор,— стала раніцай тармасіць за руку Мар'ю ўнучка.— Хадзем, снег на зямлю апусціўся.

— Зараз. Дай хоць адзежыну ўзяць.

Мар'я зняла з вешалкі і апранула сваю плюшаўку, завязала на галаву хустку, узяла за руку Ірынку, і яны падаліся за парог. Выйшлі з пад'езда, і Мар'я зажмурылася — у вочы балюча рэзала бель. Прыбралася, пасвятлела зямля, снег ляжаў на тратуарах, на дахах дамоў, вісеў на голлі ліп. Старая чула яго прэсны пах, і хораша стала на душы, быццам якое свята прыйшло...

Недзе там, у вёсцы, рыпяць цяпер вароты, людзі скубуць са сваіх стажкоў сена, носяць бярэмкамі ў хлеў каровам, а ззаду іх цярушацца на белы снег зялёныя сяніны; там смачна пахне з комінаў, бо нехта шчэ на досвітку абсмаліў, вышараваў і абскроб да жоўтага, як бульбіну-пячоніка, вепрука, занёс яго з мужчынамі ў хату, і цяпер яго гаспадыня паставіла ў печ на патэльні смажанне; там хтосьці шаткуе, гняце капусту таўкачом у бочцы, пасыпае белае шаткаванне журавінамі, і яны блішчаць на ім, як на снезе.

Стаяла Мар'я на двары, маркоцілася, хацелася з кім-небудзь пагаварыць, душу адвесці, але людзі, што праходзілі паблізу, былі чужыя, незнаёмыя, і да іх з размоваю не палезеш.

— Пра што суседка думае?

Старая павярнула на голас галаву і ўбачыла ля пад'езда тую жанчыну, што паказала, калі яна заблудзілася, Васілёву кватэру, і ўзрадавалася:

— А-а, гэта вы? Думаю от, што само ў галаву прыйдзе.

Жанчына падышла бліжэй, яны селі на лаўку.

— Як на новым месцы жывецца?

— Так сабе,— уздыхнула Мар'я.— Уежна, улежна, але моташна. Каб якая работа, весялей было б. Хаджу от па кватэры з кута ў кут як кручаная. Ад нуды памерці можна.

— Хай маладыя працуюць.

— І старым і маладым без работы няма радасці.

— Па сваёй вёсцы, відаць, сумуеце?

— Праўду кажаце.

— Дзіва! — усміхнулася жанчына.— Што там добрага. Летась ездзіла да сына. У саўгасе ён аграномам працуе. Не пабыла там і тыдня, паехала... Ціха, цёмна, гразь на вуліцы, аўтобусы не ходзяць. У вёсцы ні за якія грошы не жыла б. У горадзе весялей жыць, скажу.

— Няпраўду кажаце.

Мар'і з суседкай больш не было пра што гаварыць, яна паклікала Ірынку і павяла ў пад'езд. Цяжка падымалася па лесвіцы, маўчала — старой здавалася, што жанчына пакрыўдзіла яе.

7

— Танцуйце, усе танцуйце! — У дзвярах стаяла Ніна і размахвала перад сабою паперай.— Сорак пяць метраў, цэнтр горада, другі паверх!

Васіль у гэты час сядзеў у гасцінай, праглядаў газеты і, калі пачуў у калідоры радасны голас жонкі, ускочыў з канапы, падбег да яе:

— Няўжо праўда?

Выхапіў з жончынай рукі ордэр, пачаў яго мацаць, круціць у пальцах, прыслепвацца да пячаткі. Не вытрымаў, нават паглядзеў праз яго на святло і, убачыўшы на паперы вадзяністыя, як на грашах, знакі, толькі паверыў цяпер, што дакумент сапраўдны, не падроблены, і заскакаў:

— Наша ўзяло, наша ўзяло!

Ніна распранулася, заглянула ў спальню.

— А дзе маці з Ірынкаю?

— Гуляюць на двары,— адказаў ён.

— Заві іх есці.

Абедалі і толькі гаварылі пра кватэру. Ніна сядзела за сталом, забывалася есці і паказвала рукамі, якая планіроўка новага жытла, не пераставала гаварыць, а старая Мар'я трымала ў руцэ лыжку, слухала яе і радавалася больш, чым нявестка,— маці заўсёды робяцца шчаслівымі, калі іх дзецям сёння лепш жывецца, чым учора.

Калі разлілі ў шклянкі чай, пачалі прыкідваць, што трэба з мэблі ў новую кватэру.

Гаварыла больш нявестка:

— Наглядзела на Камароўцы нямецкі гарнітур за тысячу дзвесце. Блішчыць так, што можна ў яго, як у люстра, углядацца. Купіць бы.

— У вас жа ўсё ёсць,— азвалася Мар'я.— Канапа, новая шафа, два харошыя ложкі...

Ніна ўсыпала ў шклянку цукру.

— З моды выйшла гэтае барахло. Трэба ў скупачны здаць.

— З грашыма тугавата...— Васіль пераглянуўся з жонкаю, уздыхнуў.— Каб не стаялі на машыну...

Памаўчалі.

Ніна міргнула, каб не заўважыла Мар'я, Васілю, пачала здалёк:

— У мамы на кніжцы грошы ёсць, але яны самой ёй трэба... Ці мала што ў жыцці бывае.

— Пазычым, аддадзім,— зразумеў ён, што хоча сказаць жонка.— Жывём жа разам. Праўда, мама?

Мар'і, калі пачула такое, стала сорамна, здалося, што Васіль з жонкаю думаюць, што яна шкадуе грошай.

— А хіба я што паганае сказала? Калі дома жыла, трэба быў які рубель, каб дроў прывезці, сена. А цяпер нашто яны мне... Жыву на гатовым...— Зірнула на Васіля.— Пойдзем, сынок, здымем з кніжкі, сам жа іх клаў... Каб толькі вам было добра, а мне...

Нявестка не дала ёй дагаварыць, падбегла, абняла і пацалавала свякруху.

8

Моташна прайшла зіма. Кожны дзень здаваўся для Мар'і годам, і каб як-небудзь прабавіць час, рабіла не прысядаючы ўсё ў кватэры, часта мыла падлогу, паласкала бялізну, працірала вокны. Багата было клопату і з унучкай. Гаварыць ёй не было з кім, можна было б паглядзець у тэлевізар на людзей і паслухаць, што яны гавораць, але падыходзіць і круціць яго баялася. Каб граматная была, узяла б у рукі кніжку — усё-такі забава. У Хатках можна было хоць з суседзямі словам перакінуцца, а тут... Весялей, праўда, рабілася трохі ўвечары, калі з работы прыходзілі Васіль з жонкаю, але яны больш гаварылі пра свае клопаты, не заўважалі яе, нібыта Мар'і і дома не было.

Вясна доўга натужвалася прагнаць зіму: спярша добрыя два тыдні шумеў за вокнамі сыры вецер, потым хлынуў цёплы дождж, змыў з зямлі снег, і яна стала шэрай, цёмнай, як неба, засланае нізкімі цяжкімі хмарамі, і прыгрэла сонца — на двары паўз тратуары выпырскнулася травіца, захмялелая ад вясенняй цеплыні і парнасці, рэдзенька і бледна зазелянелі на таполях лісці.

У нядзелю ўвесь дом высыпаў на двор упарадкоўваць кветнікі. Мужчыны ладзілі маленькі плоцік, што агортваў панадворныя гародчыкі, жанчыны перакопвалі градкі, разбараноўвалі іх граблямі і сеялі насенне кветак.

Старалася з усімі і Мар'я. Ніхто не заўважыў, што прыйшла яна ў гародчык з падаткнутым за пояс фартухом, у якім цялёпалася нешта важкаватае. Нейкая не-

зразумелая радасць захлынула яе ўсю, казытала ў грудзях; хораша кружылася галава і ад прэлага паху вясенняй зямлі, і ад таго, што рукі перабіраюць леташнія карэньчыкі ў ёй, ператрасаюць іх, як на сотках, размінаюць грудкі чарназёму; яна быццам прыгарнулася сэрцам да гэтай круглай градкі-клумбы, якую ўскапаў Васіль з жонкаю,— хацелася от так і корпацца, гаварыць моўчкі з сабою. Як дома. І неспакой, трывожны і тужлівы, падняўся ў яе грудзях — як у вясенняй птушкі.

Васіль з жонкаю адышліся да суседзяў, што матычылі побач градкі, і сталі раіцца, якія на клумбе лепей кветкі пасадзіць. Пагаварылі і вярнуліся — маці старанна, лагодна разграбала ў зямлі ямкі, брала з фартуха бульбу і саджала ў клумбу.

— Што вы робіце, мама?!

Яна разгарнулася.

— Нічога. Саджу бульбу. І кветкі яна харошыя выпусціць, і ў міску будзе што...

Усе засмяяліся.

Стаяла, апусціўшы брудныя рукі, глядзела з дакорам на людзей, шукаючы ў іх вачах спагады.

Хутка Мар'я паехала гасцяваць у Хаткі.

## 9

Яна ішла раніцай з вузельчыкам у руцэ па сваёй вуліцы і ўжо ведала, куды хто з хаткаўцаў сёння пайшоў і што рабіў — на прыплясканым дажджом пяску бачыла знаёмыя сляды. Стары Дзяркач, няйначай, пачыкільгаў у праўленне мужчын паслухаць — у пяску паўтыкаў сваёй нагой-дзеравяшкай роўныя ямкі. А вось на ўсю вуліцу маленькія сляды ад сандалікаў, чаравікаў — вучні пайшлі ў школу. Далей, за фермай, пясок быў спрэс падзяўбаны дробнымі авечымі капытамі. Пагнаў іх на пашу, ведала, Дзямід.

У Мар'і цёпла заныла сэрца, заварушыліся вусны, хацела нешта добрае сама сабе сказаць, бо даўно не бачыла слядоў на сваёй вуліцы.

Вясковая вуліца — не гарадская. На гарадской слядоў няма.

Калі падыходзіла да свайго селішча, спынілася, перавяла дых — баялася быццам сябе, быццам тое, што не

ўбачыць сваю хату, хлеў, сцёбку. І ўбачыць зелле на глухім двары, паламаныя яблыні, грушы. І раптам падалося ў вушах, што нехта на яе хатнішчы чэхае сякераю. Ціха, нібы крадком, падалася бліжэй да свайго двара. І праўда — на двары ляжала багата пален. Адно было адкочана ўбок, і яго абчэсваў чалавек у майцы. Махаў сякераю з-за пляча, адвальваў ад берваяна вялізныя скібы-трэскі.

Пачуў, што нехта падышоў, падняў вочы:

— Дзень добры, цётка Мар'я!

— А-а, Грышка... Хату ставіш... Бог у помач...

Яна прысела на палена.

— Вярнуўся от з цаліны, сельсавет выдзеліў ваша селішча...

— Хіба там было пагана жыць?

— Ні лесу, ні рэчкі... Нават балота няма. Адзін стэп. Грыба і ягадзіны ў вочы не бачыў за пяць гадоў.

Памаўчалі. Мар'я абвяла вачыма двор. Хораша, густа цвілі белым і ружовым цветам яблыні, на іх гулялі пчолы; тую грушку, што пасадзіў Васіль, нехта вырваў, яна ляжала на трэсачніку.

Соткі былі паараныя.

— Ці не ты, Грышка, што пасеяў?

— Бульбу пакідаў,— выцер ён падолам майкі пот з твару.

— Добрыя былі ў мяне соткі. Лепшых і не знойдзеш... Нізіна, чарназём. І ўгноеныя.

— Конь ледзьве плуг цягнуў.— Ён закурыў.— А вы ў горад перабраліся да Васіля?

— У горад.

Мар'я зноў змоўкла. Не магла ніяк яшчэ прывыкнуць, што і двор, і соткі, і сад ужо не яе, што ўсё гэта чужое; брала зайздрасць да новага гаспадара, крыўда на сябе, і не вытрымала — слёзы самі навярнуліся на вочы.

— Не запускай, Грышка, гаспадарку. Глядзі, каб на селішчы лепей было, чым у мяне.

Выцерла фартухом вочы, устала з берваяна і пайшла з двара цераз вуліцу да Вольжынай хаты.

— Яблыкі і грушы няхай увосень патрусіць Захар. Сад жа не мой! — крыкнуў ёй наўздагон новы гаспадар.

— Дзяліцеся самі як-небудзь,— адказала яна.

Вольжына хата была адчынена насцеж, і Мар'я ціха ступіла на парог. Жоўтая кура — дзяўбла ў кавешніку — з перапалоху залапатала крыллямі, закіркала, кінулася ёй пад ногі і вырвалася на двор. Вольга тым часам сядзела за сталом і перабірала ў рэшаце фасолю на насенне. Яна павярнулася да дзвярэй.

— Ты, Мар'я?! — здзівілася.— Божачка, божачка, прыехала, бач. Я так і ведала — два дні кот умываўся.— Выбегла з-за стала насустрач, яны пацалаваліся. Потым Вольга знайшла трапкач, выцерла на лаве мокрае.— Сядай, сядай жа, Мар'ячка. Ці ж надоўга?

— У адведы. Пагасцюю трохі і паеду.

Яна прысела на лаве.

— Расказвай жа, як жытка гарадская. Усё расказвай.

— Добра даглядаюць мяне, дзякаваць богу. І Васіль і нявестка. Няма чаго крыўдзіцца.

Вольга ўзяла Мар'ю за рукі, памацала іх.

— Бач, беленькія якія сталі, як у паненкі.

— Нічога ж, Вольжачка, там не раблю.

— А я табе што казала — едзь...

— Толькі от пагана, што людзі незнаёмыя. Няма з кім пагаварыць.

— Толькі той бяды.

— І без работы моташна.

— Прывыкнеш.— Вольга ўздыхнула.— Зайздрошчу табе, Мар'я. Каб мне хоць дзянёк так пажыць у старасці. Век адна, дзень і ноч адна. І да смерці так будзе. А калі памру, костачак не будзе каму заграбці.

Вольга згорбілася на лаве, засмаркалася ў насоўку.

Мар'я зайшла ў Захараў двор і ўбачыла ўнука Косціка. Той стаяў нагінкам ля хлява, насыпаў з мяшка картоплю — яна глуха і дробна барабаніла па дне кашаля.

— Бабуля прыехала!

Косцік выпусціў з рук гічку мяшка, падбег і абняў старую. Мар'я нагнулася, пацалавала ўнука, пагладзіла яго па галаве, развязала свой клуначак і пачала сыпаць у Косцікавы кішэні цукеркі. Ён стаяў, апусціўшы галаву, выціраў аб палу сарочкі запэцканыя ў зямлі рукі,

саромеўся гасцінца і самой бабкі — трохі адвык ад яе за гэты час.

— А дзе бацька і маці, Косцік?

— На сотках. Картоплю саджаем.

Яна набрала ў фартух бульбы і пайшла з унукам за хлеў.

Густа пахла расцярушаным па загонах свежым гноем, раллёю. Ішоў за плугам спіною да Мар'і сын, хутка пераменьваў ногі на разоры, панокваў на коней, шлёгаў пугаю; баразна гарнулася да загона, рассыпалася на камякі; за Захарам спяшаліся, пераляталі з месца на месца і збіралі белых чарвякоў чорныя, як ралля, гракі. Па другой баразне перад коньмі подбегам спяшаўся Міхаська з маткаю, кідаючы пад плуг бульбу.

Мар'я як не ўзбегла на загон, стала класці з фартуха ў шнурок на разоры бульбу, і цёплая радасць, як трымценне, найшла на яе — так бывае тады, калі чалавек адводзіць душу ў рабоце, што здаўна ведаў, любіў, прывык і доўга па ёй сумаваў.

Калі пааралі соткі і пасадзілі бульбу, Захар пакарміў коней, адвёў іх на ферму і хутка вярнуўся дамоў. Усе ўжо сядзелі за сталом, чакалі яго — трэба было снедаць. Мар'ю пасадзілі на покуце — госць жа. Захарава жонка адлучылася ў сенцы — нечым шкрабала там, нешта там забулькала,— прынесла і паставіла на стол бутэль белага самаробнага віна. Выпілі за госцю спачатку, потым за тое, каб на сотках урадзіла бульба, і ўзяліся за сняданак. Мар'я не стала чапаць лыжкаю ні смятаны, ні браць у рукі пернікі, падсунула бліжэй да сябе міску з варанай бульбаю, натыкнула на відэлец цупкі гурок.

— Даўно нашай яды не спытала. Здаволюся хоць...

— А што ты там, мама, ясі? — папытаў Захар.

— Харчо, біхштэкс, гуляш... Усё-ўсякае гарадское... Што яны, тое і я...

— Як там Васіль з сям'ёю жыве?

— Дай бог кожнаму так жыць. Стаіць на чарзе, каб легкавік купіць, новую кватэру выдзелілі яму,— Мар'я расказвала і хрумстала пярэднімі шчэ цэлымі зубамі гурок, заядала яго сопкаю бульбінай.— Купілі за дзве тысячы мэблю... Гарнітур называецца... Нажылі новы тэлевізар, што ўсе колеры паказвае.

— І дзе яны грошы бяруць? — пацiснуў плячыма Захар.

— Свае ўсе аддала з кніжкі... Кажуць мне: «Пазыч, мама...» А хіба ж будзеш роднаму дзіцяці пазычаць? Дзе ж гэта было відана... Колькі мне, старой, тых грошай трэба. На той свет іх не забярэш...

— Можа, той свет шчэ далёка,— азвалася Захарава жонка.

— Гм...— крутнуў галавою Захар і нічога больш не сказаў.

Больш не гаварылі, маўчалі і вяла елі...

## 10

Вярнулася Мар'я назад у горад у пятніцу. Паднялася па лесвіцы і стала ля кватэры Васіля — дзверы быццам бы не тыя. Чорнай кляёнкі на іх не было, а там, дзе быў верхні замок, свяцілася — пальцы ўлезуць — дзірка. «Можа, зноў заблудзілася?» — пахаладзела ў яе грудзях. Пастаяла трохі, рашыла пазваніць і баязліва націснула на кнопку званка.

Дзверы адчыніў сам Васіль.

— О-о, дзякуй богу! — узрадаваўся ён.— А мы ўжо хацелі тэлеграму даваць. Прыедзеш, думаем, і не застанеш нас тут. Перабіраемся.

— Акурат у пару выехала.

Яна распранулася, пайшла ў кватэру, пашукала было вачыма табурэт, каб прысесці і перадыхнуць з дарогі, ды не знайшла. Агледзелася, убачыла, што і ў прыхожай, і ў спальні гола — ні ложка, ні канапы, ні крэсла.

— Не дзівіся, мама. Усё мы здалі ў скупку.

— А на чым спаць?

— Мы на той новай кватэры будзем. Гарнітур учора туды з магазіна прывезлі. Ты гэтую ноч пераспіш тут на падлозе. А заўтра назусім пераедзем.

— Перасплю — толькі той бяды. А дзе жонка з Іраю?

— Вокны пайшлі мыць на новую кватэру.

Мар'я патупала па падлозе, зазірнула ў спальню, потым падышла да дзвярэй і памацала рукою тое месца, дзе быў замок:

— Хто гэта яго выняў?

— Я.

— І кляёнку з дзвярэй злупіў?

— А што тут такога? — здзівіўся Васіль.— Я ж за гэта грошы плаціў... Спатрэбіцца ў новай кватэры...

Памаўчала, уздыхнула:

— Як ты будзеш людзям у вочы глядзець? Пазычыш іх у каго-небудзь?

— Дэрмацін і замок ніхто мне не пазычаў і не пазычыць.

— Людзям, каторыя тут жыць будуць, пакінуў бы... Добрая на цябе памяць бы ў іх асталася.

11

Увесь дзень Мар'я пакавала клункі, а пад вечар, калі прыйшла машына, усё гэта пагрузілі і перавезлі на новую кватэру.

Вузлы з адзежаю Васіль з маці развязваў у спальні, а Ніна на кухні выбірала са скрынак посуд, выцірала яго і ставіла за шкло новенькага бліщчастага буфета.

І раптам:

— Ой!

Васіль з маці кінуліся на кухню, пачуўшы Нінін голас.

— Што здарылася?

— Фужэр, фужэр разбіўся,— трымала ў руках і паказвалараструшчанае шкло.— Хіба не бачыце?

Высыпала шкельцы на стол, пачала перабіраць іх пальцамі, прыстаўляць адно да другога і, зразумеўшы, што фужэра ўжо не склеіш, як не загаласіла.

— Чаго так убівацца... Вялікая бяда там...— пачала Мар'я супакойваць нявестку.

— Вам што?! — яшчэ больш узбелянілася тая.— Каб добра ўкруцілі, не разбіўся б... У вату трэба было. З каструлямі разам паклала... Вядома, не сваё!

— Я новы куплю. Зараз от пайду,— не ведала дзе падзецца Мар'я.

Ніна забегала па кухні.

— «Пайду, пайду»... Дзе такі сервіз дастанеш?! Харраство такое — на стол ні разу не ставіла... Шкада было... Чэхаславацкае шкло. Ледзь купіла па знаёмству.— Зірнула на Васіля.— А ты чаго маўчыш?

Ён кашлянуў:

— Добрую рэч вельмі цяжка купіць... Тут нічога не скажаш...

Пайшла старая Мар'я ў спальню і там ціха, каб ніхто не чуў, не бачыў, сама сабе паплакала. Потым да самага позняга вечара хадзіла сюды-туды па кватэры. Прысесці на якое крэсла ці канапу баялася — усё дарагое, далікатнае,— а простага табурэта не было ў пакоях. За дзень стамілася, увязваючы і носячы клункі, хацелася ўжо прылегчы дзе, і яна паклікала ў кухню Васіля.

— На канапе, сынок, мне спаць?

— Не, Ніна кажа, што ўвамнецца. Вялікія ж грошы аддалі. На ёй толькі сядзець можна... І то нядоўга. Я табе раскладанку пастаўлю.

— Мне б толькі галаву дзе прыкласці.

12

У тую ноч старой Мар'і пагана спалася. Прачыналася ноччу, варочалася з боку на бок, цяжка ўздыхала, думала пра ўсё, што ў галаву лезла, і не магла перадумаць. Няскладна пайшло яе жыццё ў Васілёвай сям'і. Наракала на сябе: ці ж трэба было кідаць сваё селішча і ехаць сюды, у горад? І назад, у Хаткі, цяпер не паедзеш, бо людзі будуць там смяяцца, думаць, што выгналі Васіль з жонкаю — злыя языкі не завяжаш. Вывучыла, маўляў, сына на сваю галаву. Ды і ехаць няма куды, свае ж хаціны няма, хіба да Захара. Той прыме да сябе, але доўга будзе дапытвацца, як ёй было ў Васіля. Калі ж праўду скажаш — пасварыш сына з сынам на ўсё жыццё. А хіба ж хочацца, каб родныя дзеці варагавалі? Свая ж кроў. Не, нікуды не дзенешся, трэба жыць тут, як жывецца, цярпець перад смерцю, не смяшыць людзей — колькі той жыткі засталося. Нагаравалася, нажылася, хутка ўжо нічога не трэба будзе, на тым свеце, каб толькі дзеці добра жылі.

Прыгадала Хвядору, старэйшую сястру. Памерла яна пазалетась у жніво. Усе хаткоўцы праводзілі на клады. Калгас даў аркестр, старшыня калгаса над труною добрыя словы пра яе гаварыў. І паклалі Хвядору ля магілак маці і бацькі, дзеда — там, дзе ўся радня ляжыць.

Думала так Мар'я, і не хацелася ёй тут, у горадзе, памерці, ляжаць з чужымі, незнаёмымі людзьмі, хай бы закапалі ў Хатках. І зямля там свая, і людзі свае занясуць труну за вёску, і спачываць на тым свеце з раднёй

весялей, і адведаць магілу на раданіцу будзе каму — сваякоў поўныя Хаткі... А тут...

І не заснула да самай раніцы. На вуліцы загулі машыны, зашоргаў венікам па асфальце дворнік, чуваць былі крокі і галасы людзей. У пакоі пасвятлела.

Прачнуліся і Васіль з жонкаю, збіраліся на работу і шэптам нешта гаварылі ў спальні. Мар'я прыслухалася. Гаварылі пра яе.

Ён: — Трэба маці які ложак купіць.

Яна: — Будзе займаць лішняе месца ў кватэры. А раскладанку можна на дзень і ў кладоўку паставіць.

Ён: — Старому чалавеку мулка спаць на раскладанцы.

Яна: — Не пані.

Памаўчалі.

Яна: — Іра ў першы клас пойдзе. Не трэба будзе тваёй маці за ёю глядзець. Паедзе, відаць, назад у Хаткі — не захоча быць адной у кватэры. Сумаваць не захоча.

Ён: — Табе так гаварыла?

Яна: — Нічога не гаварыла. Проста няма што рабіць ёй у нас.

Зноў памаўчалі.

Ён: — Выходзіць, выганяем яе.

Яна: — Чаму выганяем?.. Сама разумее.

Ён: — А як з грашмі?

Яна: — Пабагацеем — аддадзім.

Ён: — Хату яна ж прадала.

Яна: — Будзе ў Захара жыць.

Маўчалі доўга.

Ён: — Калі хочаш, каб маці не жыла з намі, пагавары з ёю па-харошаму, бо будзе крыўдзіцца, плакаць.

Яна: — Пагавару, калі прыйдзем з работы.

## 13

Яна цэлы дзень не знаходзіла месца, нічога не ўзяла ў рот, хадзіла панура з кута ў кут, маўчала, толькі зрэдку перакідвалася словамі з Ірынкаю. Паклала ў чамадан сваю плюшаўку, выхадныя чаравікі, хустку і даўно ўжо паехала б на вакзал, калі б не ўнучка — не пакінеш жа яе адну ў кватэры. І толькі пад вечар, калі Васіль з жонкаю вось-вось павінны былі прыйсці з работы, узяла ў руку чамадан, пацалавала Іру:

— Скажаш, унучка, бацьку і маме, што я паехала. І не выходзь на вуліцу.

Іра заступіла ёй дарогу:

— А куды ты паедзеш?

— У вёску.

— Не трэба ехаць. Мне боязна адной.

— Папа з мамай хутка прыйдуць.

— Не хачу, каб ты ехала.

— Я ненадоўга,— схлусіла Мар'я.— Хутка прыеду, гасцінец табе прывязу.

— А які?

— Макавак. Нарву на агародзе... І бобу... Толькі глядзі, гуляй у хаце, дзверы не адчыняй, нікуды не выходзь...

— Бобу прывязі, бобу,— заскакала, зарадавалася Ірка.— Я нікуды не пайду. Буду чакаць цябе, бабуся.

Мар'я падала ёй ключ ад кватэры, потым нагнулася, зноў пацалавала ўнучку, і слёзы пакаціліся з вачэй.

— Чаго ты, бабуся, плачаш?

— Я не плачу... Я так...

Трохі супакоілася, пастаяла ў парозе, пачакала, пакуль высахнуць на вачах слёзы — не хацела, каб людзі на вуліцы ўбачылі, што яна плача,— і выйшла за дзверы.

14

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Васілю Клёпіку захацелася сала. Свежага, марожанага, з жоўтаю скуркаю і праслойкамі мяса. Дамашняга. Пайшоў у кухню, узяў у буфеце цыбуліну, аблупіў яе нажом, адрэзаў скібку хлеба і адчыніў халадзільнік. Стаяла ў бутэльках малако, масла на сподку, у маразільніку, што аброс інеем, ляжала, адубянелая, аж сіняя, кура. Сала не было. І нешта халоднае ткнула яму ў душу — як з халадзільніка. Стаяў і маўчаў. Не тое каб вельмі шкадаваў, што звялося сала, што больш яго не будзе, нешта другое зашкрабло ўсярэдзіне, сіратлівае і пустое... Чамусьці здалося, што пахаваў сваю маці.

# Жыві

У іх абодвух ужо было нешта паважнае, старэчае: не кінуліся, калі ўбачыліся, у абдымкі, а толькі пацісвулі адзін аднаму рукі, хоць і не бачыліся добрых тры гады — як скончылі інстытут. Стаялі ў цёмным доўгім калідоры рэдакцыі, трохі чужыя, трохі свае, звыкаліся, прыглядаліся адзін да аднаго.

— Ледзьве знайшоў цябе, Васіль.

— Я тут карэктарам. Два гады ўжо.

Смажыла траву сонца на прагалах, парнасць і духата стаялі над ліпамі, нуднавата мядовым пахам тхала ад клумб, вышытых, бы цюбецейкі, кветкамі; нацягнутаю струною густа гудзеў горад, яны ішлі скверам, і Яўген расказваў пра сябе:

— Пасля інстытута, як ведаеш, паслалі мяне ў Драгічын. Ад яго кіламетраў за дваццаць стаіць вёсачка Забалоцце. У ёй я і апынуўся настаўнікам. Адгараваў я сяк-так адзін год і — у раёна да загадчыка: пусціце, маўляў, з раёна. А ён і гаварыць нават не захацеў, сядзіць ды толькі зубы скаліць: «Хуткі ты вельмі на нogi, Кантаровіч... Сядзі і не рыпайся, дзяржаву паважай — яна цябе вучыла...» Давялося ў Забалоцце вярнуцца і зноў год сеяць там у галовы вучняў добрае, разумнае, вечнае. Прыйшло лета. Я — зноў да загадчыка... І толькі от цяпер забраў дакументы... Забраў, праўда, з рук новага загадчыка — таго выперлі. І вось у Мінск прыехаў, каб на работу дзе-небудзь прыладзіцца. Знайшоў ужо месца ў школе-інтэрнаце, але не бяруць — трэба гарадская прапіска... А прапісацца няма дзе... Вось і бегаю, як заяц, шукаю жылплошчу.

— Жылплошчу? — Васіль стаў, зірнуў у вочы Яўгена і ўзрадаваўся, што абнадзеіць, узрадуе яго сваімі словамі, якія зараз жа скажа. І сказаў: — У мяне ёсць жылплошча... Дваццаць свабодных метраў...

— Прапішы, век не забуду.

— Зраблю. Толькі трэба з жонкаю пагаварыць. Пагавару сёння...

— Да смерці буду помніць... На цябе апошняя надзея.

— Кінь ты, мы ж людзі...

— Даўно палучыў кватэру?

— Я не палучаў. Кааператывам пабудавалі.
— Колькі пакояў?
— Тры... На два чалавекі...
— Ого! Дзе ты столькі грошай узяў?
— Цесць даў.
— Ого! Выгадна ажаніўся.
— Не ведаю.

Ішлі ўжо праспектам. Ад асфальту тхала ў твар гарачым, бы з печы, духам. Ступалі па куцых, пабітых на дробныя сонечныя плямы лахманах ценяў ад ліп. Спыніліся на Круглай плошчы.

— Можа, зойдзем? — Яўген кіўнуў галавою ў бок гастранома.— Адзначым сустрэчу...

Васіль паціснуў плячыма:

— Жонка, ведаеш, дала толькі пяцьдзесят капеек на абед. Піва можна...

— У мяне грошы ёсць... Пра што мы гаворым.
— Ты ж мой госць...
— А ты мой сябар...

Былі ў Васіля дома.

Ад белых сцен, шырокіх вокан, жоўтага паркету ў кватэры было чыста і светла, і Яўген сядзеў за сталом, аглядаў кватэру і саромеўся ўсяго таго, што было ў ёй: да зіхатлівасці бліскучага серванта, чысціні, дарагіх дываноў і крэсел — адвык у вёсцы ад усяго гарадскога.

Васіль тупаў у кухні, бразгацеў посудам, відэльцамі, прыбягаў адтуль да стала, ставіў, клаў на яго ўсё, што трапілася на хуткую руку — сырыя яйкі, вяндліну, каўбасу,— і зноў бег назад. Пакроіў кулідку на тоўстыя лусты, з серванта ўзяў фужэры.

Моўчкі жавалі вяндліну.

Ад выпітага лёгка закружылася галава.

— Пра сябе ты, Жэня, расказаў... Цяпер паслухай мяне.

Васіль падсунуўся з крэслам, на якім сядзеў, бліжэй да стала і пачаў гаварыць:

— ...Школа стаяла на ўзгорку за вёскай. Я амаль дняваў і начаваў у ёй: удзень даваў урокі, а ўвечары рыхтаваўся да іх, сядзеў за падручнікамі. Гуляць не хадзіў — не было куды. Хіба калі ў нядзелю ў Брэст адскочваў, каб па-людску паабедаць, бо гаспадыня душы-

ла мяне заціркай, хоць і не саромелася за гэта браць грошы.

Уяві сабе: цёмны, хоць вочы выпары, суботні вечар, за зашэрхлымі ад марозу шыбінамі па-воўчы вые — аж душа стыне — завіруха, абдувае вуглы школы, грымае ў рамы... Недзе людзі весяляцца, а ў настаўніцкай сядзіць сам-насам, як які арыштант, малады юнак, з універсітэцкім значком на лацкане пінжака, юнак, які спазнаў спакусу гарадскога жыцця, студэнцкай весялосці. І раптам ён адводзіць вочы ад падручнікаў, выходзіць з-за стала, уключае школьны прыёмнік, намацвае на шкале джаз, пачынае кружыцца, танцаваць сам з сабою. Кружыцца і ледзь не плача ад роспачы, суму і адзіноты... Гэтым юнаком быў я.

Так ішлі дні за днямі. Зноў нахапілася каторая ўжо субота. Сшыткаў, памятаю, назбіралася тады цэлая гара, і я не разгінаўся над сталом, правяраў іх. І раптам падняў галаву, прыслухаўся — на ганку школы пад нечымі нагамі зарыпеў снег, заляскала клямка.

— Васіль Фёдаравіч, адчыніце!

Па голасу пазнаў Казіка і Тадэвуша, вясковых хлопцаў, пайшоў у калідор і адкінуў зашчапку — яны ўваліліся да мяне вясёлыя, пры гальштуках, з шапкамі набакір:

— Хадзем з намі? У Заполле. На танцы.

— Куды? — пытаю.— У такую далеч?

Смяюцца:

— А што нам, маладым.

«К чортавай матары няхай ідуць сшыткі, хопіць марнець тут»,— сказаў я сам сабе, апрануўся, і мы пайшлі.

Вёска Заполле адпавядала сваёй назве — была яна за замеценым завеяй полем, і ішлі па цаліку, загрузаючы ў снезе, мацалі ў цемені нагамі дарогу, дык так і не намацалі яе да самых хат. Пакуль дайшлі, скарчанеў я, калашыны маіх штаноў намоклі, потым іх схапіў мароз, і яны нібы бляшанымі сталі — калі дыбаў па вуліцы, ляскалі па голых лытках.

Мінулі з дзесятак хат, сталі, прыслухаліся, агледзеліся. Свяціліся ў хатах вокны, у вялікай будыніне — гэта быў клуб — глуха грымеў бубен, гупалі нагамі — танцавалі.

— Не шкодзіла б пагрэцца,— абазваўся Казік, пацепваючы плячыма. Мы яго зразумелі і звярнулі ў вул-

ку... Вёў Тадэвуш — была ў яго на прыкмеце адна хата, дзе прадавалася самагонка...

А потым мы былі ўжо ў клубе. На доўгіх лаўках паўз усе чатыры сцяны — у клубе ж весялей, чым дома,— сядзелі жанчыны ў жакетках. Маладыя так хвацка адбівалі пад гармонік нагамі, што аж гоцкалася пад нагамі падлога. Гарманіст, фарсісты падхлопец, сядзеў, закапыліўшы губу, на покуце і разводзіў мех на сваёй іграйцы. Ля яго сядзеў і па бразготках бубна біў балабешкаю і аж прысядаў дзядзька. Накурана — людзей не відно. Музыка перастаў іграць. Хлопцы, выціраючы хусцінкамі змакрэлыя ад полькі-гапонкі лбы, пайшлі ў парог курыць, а дзяўчаты пазбіраліся ў купкі, стаялі і хіхікалі-жартавалі. Хліпнуў зноў гармонік, забразгацеў бубен — зайгралі вальс. Хлопцы кінуліся разбіраць на танец дзяўчат. Захацелася пакружыцца і мне — даўно не танцаваў. Павёў вачыма па клубе — убачыў русявую дзяўчыну, што сядзела ля акна. Падышоў і працягнуў ёй руку.

Перад вачыма кружыліся сцены, вокны, жанчыны на лаўках, і ці то ад танца, ці то ад адхлынуўшага суму, які глушыў маю душу ў вёсцы, на мяне найшла невыказная радасць. Я забыў сябе, забыў усё на свеце. Кружыўся і кружыўся. Да ўпаду. Відаць, закруціў дзяўчыну, бо яна спатыкнулася і ледзь не ўпала. Падтрымаў яе:

— Прабачце, я не хацеў.

— Вы не вінаваты — падлога ўся ў шчэрбінах.

І засмяялася шчыра і добра шэрымі, вялікімі, нібы здзіўленымі, вачыма. І ў яе вачах, і ва ўсмешцы, і ў голасе было нешта прыгожае і добрае, і я атарапеў ад нечаканасці — ва мне нешта здарылася, і ўжо вакол сябе нічога не бачыў, не чуў гармоніка, углядаўся ў яе твар, гарачэў у душы і маўкліва сам сабе ўсміхаўся.

Гаварыў з ёю і хваляваўся — баяўся сказаць што-небудзь неўпапад. Была яна ў моднай сукенцы, на нагах — шпількі, і я асцярожна папытаў:

— Вы, відаць, настаўніца?

— Не,— адказвае.— Студэнтка. Прыехала з Вільнюса на нядзелю да бацькоў.— І ўсміхнулася: — Хіба я падобная на настаўніцу?

— Я сам настаўнік, дык думаў...

2 Зак. 935

— ...што ўсе настаўнікі,— дагаварыла за мяне і сказала: — А я вас ведаю.

— Адкуль? — здзівіўся я.

— Мая сястра ў вас вучыцца. Вас завуць Васілём Фёдаравічам?

— А вас?

— Тарэза. Непрыгожае імя, праўда?

— Наадварот... Прыгожае не толькі імя, але і...

— Гэта ўжо камплімент,— засмяялася яна.

Танцавалі мы разам увесь вечар, а калі скончыліся танцы, пайшлі, як даўно ўжо знаёмыя, вуліцай, і было нам весела, лёгка і добра.

Хлопцы звалі мяне, каб разам ісці, ды так і не дазваліся — забыў пра ўсё на свеце: пра дарогу дамоў, пра познюю ноч, пра мароз, стаяў з Тарэзай ля яе хаты, гаварыў і ніяк не мог нагаварыцца.

У хаце лыпнулі і засвяціліся жоўтым святлом вокны, ляснула блямка, і на ганак выйшаў у валёнках, у накінутай на плечы світцы яе бацька і абазваўся хрыплым, сонным голасам:

— Чаго стаіцё на марозе?.. Ідзіце ў хату, бо акалееце.

Ісці ў хату не хацелася — саромеўся,— але Тарэза пацягнула мяне за руку. На парозе нос у нос сутыкнуліся са спрытнай, хуткай жанчынай — ішла няйначай і яна зваць нас у хату,— і калі я ўзышоў на парог, адступілася, дала дарогу і ласкава загаманіла:

— Заходзьце, заходзьце, пан настаўнік.— І да Тарэзы: — Запрашай, донька.

Гэта была маці Тарэзы... Звалі, памятаю, яе Марыляй Віктараўнай. Хата была як хата, з абдымленай печчу, з лямпаю на падаконніку, набрынялым ад сырасці, што сцякала з замураваных ад марозу шыб, з качарэжнікам у парозе.

— Ці ж хоць вячэраў сёння, пан настаўнік? — папытала яе маці.

— Вячэраў, як жа без вячэры,— кажу.

— Ой, няпраўда. Ведаю, якая ў чужых людзей вячэра... От я зараз...

Замітусілася, забегала па хаце.

Потым сядзеў з Тарэзай за сталом, стараўся не глядзець на яе — бачыў, што саромеецца перада мною есці,— і самому было няёмка, і калі падняўся з-за стала,

падзякаваў за вячэру і хацеў было ісці дамоў, гаспадыня загарадзіла сабою дарогу да дзвярэй:

— Куды вы, пан, у такую ноч... Пераначуйце... Зараз развіднее...

Прасіла так шчыра і добра, што я ўважыў ёй.

А назаўтра, калі выходзіў з хаты, усё гаварыла:

— Прыходзьце да нас, пан наўчыцель... Тарэзе адной будзе сумна... Па ёй бачу... Воч з вас не спускае.

З таго дня я стаў не пазнаваць сябе, у маёй душы нешта перавярнулася, пагарачэла. І вёска здавалася ўжо не такой змрочнай, і школа ў вачах, настаўнікі. Суму ўжо не было — у грудзях была шчымлівая радасць. З самага панядзелка чакаў суботы — у гэты дзень бег да яе.

У той год вясна нахапілася неяк адразу: ударыла сонца, секанулі па зямлі парныя дажджы — захарашэла па палетках трава, выпырскнулася з почак лісце.

Я ішоў у Заполле. Недзе за гаем ападала сонца. На зямлю клалася прахалода, і ісці было добра і лёгка. Дарога апусцілася ў даліну, пайшла арэшнікам. Блізка была ўжо вёска. Далёка ўперадзе, у канцы дарогі, нехта матляўся, убачыў, на веласіпедзе, набліжаўся да мяне... Хутка пазнаў я сястру Тарэзы. Пад'ехала і як не скулілася з веласіпеда.

— Васіль Фёдаравіч, Тарэза прасіла, каб вы не ішлі да нас... Чакайце яе тут.

Не паспеў, здзіўлены і ўзрушаны пачутым, і слова вымавіць — яна ўжо круціла педалі назад, адны банцікі матляліся на плечыках.

Я сышоў з дарогі, прысеў на духмяную ласкавую траву...

Штосьці нядобрае, нуднае смактала мяне... Што з ёю? Перабіраў у галаве здагадкі, думаў і думаў, але на розум нічога ўсцешнага, зразумелага не прыходзіла. І раптам — уздрыгнуў — мяккія рукі засланілі мне вочы і ззаду зазвінеў яе смех.

— Тарэза! — узрадаваўся я.— Што здарылася?

Яна села побач са мною, смяялася і расказвала:

— Жаніх сватацца прыехаў. З Літвы. Прывёз, каб угаварыць мяне, цётку, матчыну сястру. Цэлы дзень сядзелі і ўсё ўпрашвалі: жаніх, маўляў, багаты, сын старшыні, сам аграном. І бацька на іх старане. А я і слухаць іх не захацела... Узяла ды і ўцякла да цябе...

2*

Я маўчаў — ні то рэўнасць, ні то крыўда здушыла мяне.

— Чаго ты такі? — зірнула мне ў вочы Тарэза.

У вёсцы раптам затрашчаў аднацыліндровік. Трэск стаў хутка набліжацца, і паўз нас па дарозе пранёсся матацыкл. На заднім сядзенні, убачыў я, гоцкалася і намагалася пературашчаць языком матор цётка — абсаромілася перад жаніхом і цяпер апраўдвалася перад ім.

Мы пайшлі ў вёску.

У той вечар мы доўга сядзелі за сталом. Даўно ўжо змерклася, было позна, і бацька, хапіўшы лішнюю чарку, вылез з-за стала і пахітаўся да ложка — заўтра, маўляў, на работу. Матка завельмі паддобрывалася да мяне, зіркала і зіркала мне ў вочы. Стаў здагадвацца, што ёй муляла нешта сказаць, але не адважвалася, падбірала зручны момант у размове. І калі ён не знайшоўся, стала расказваць, шукаць гэты момант:

— Учора было Гэліна вяселле... Чаго толькі не было на сталах... Падарункаў багата дарагіх прыносілі... Шчаслівая будзе — такога хлопца адхапіла сабе, інжынера.— І потым да мяне: — Хай бы і вы, пан, пажаніліся з Тарэзаю... Паважае вас вельмі яна...

Я атарапеў — не чакаў такога. Разгублена маўчаў: ніякавата і дзіўна было, што не я сватаюся, прашу ў маткі аддаць за мяне дачку, а сама матка сватае мяне да дачкі. Потым стаў думаць і супакоіўся — такая тут завядзёнка. Трэба было нешта гаварыць, і я прагугнявіў:

— Так адразу... Трэба падумаць...

А яна ўжо смялей падступалася:

— А што тут думаць... Чым хутчэй, тым гарачэй любіць адзін аднаго будзеце. Тарэза перавядзецца на завочнае, у школе рабіць разам будзеце... Мы вам хату паможам паставіць... Дзяцей даглядаць будзем.

Тарэза маўчала, не ўмешвалася ў размову — хацелася, відаць, каб маці і далей вяла такую размову.

— Добра,— сказаў я.— Дайце два дні на адказ...

У тую ноч я не спаў... Сам ведаеш, што можа адчуваць чалавек, якому дадзена два дні на тое, каб назаўсёды вызначыць свой лёс... Куды завядзе жыццё, якім яно будзе? Можа, і не перажываў бы так моцна тады, калі б не кахаў Тарэзу... Мучыла мяне адно — няўжо навек застануся ў вёсцы. Ажанюся, абзавядуся курамі, парасятамі, каровай... Бачыў я настаўнікаў, якія прыхо-

дзілі ў клас у замурзаных у гной ботах — перад урокам насілі сваёй карове ў хлеў ражку з запаркаю. Няўжо такі буду я?! Няўжо мара пра аспірантуру, якая не давала мне спакою, ніколі не спраўдзіцца? І горад, з якім звыкся за пяць гадоў свайго студэнцтва, будзе існаваць для мяне толькі ва ўспамінах, радасных і далёкіх... І не будзе ніякіх надзей на тое прыгожае і добрае, што клікала да сябе...

І Васіль змоўк — залязгацеў замок, нехта круціў у ім ключ з другога боку дзвярэй. Ён насцярожана прыслухаўся, падняўся з-за стала:

— Жонка! Зараз з ёю пагаворым пра прапіску.

У пярэдняй пачуліся крокі, зашамацеў плашч — распраналася,— і яна ўпэўнена ўвайшла ў гасцінную. Твар, дагэтуль спакойны і бесклапотны, напяўся — думала, відаць, што ў кватэры нікога няма,— зірнула на незнаёмага чалавека, на парожнія бутэлькі, талеркі, і губы яе задрыжалі:

— Ну і накурылі. Не маглі на кухню выйсці.

— Праветрыў бы да вечара. Ты ж казала, што сёння позна прыйдзеш,— абазваўся Васіль.

— Уцешыў мяне.— Яна пабегла ў спальню і хутка вярнулася да іх у халаце.— Да вечара ў кватэры канюшня была б... П'янку ён мне тут устроіў.

— Лора, пасаромелася б госця.

— Калі гэта ты сабутэльнікаў стаў называць гасцямі?!

І ўжо не хадзіла, а бегала па кватэры — ад злосці.

Яўген адчуў, як пагарачэў твар, сядзеў і не мог зразумець, за каго пёк сорам: за сябе ці Васіля, за яго жонку ці за тое, што зараз здарылася, і не вытрымаў, пайшоў да дзвярэй. Не заўважыў, як у пярэдняй яго ногі самі скінулі з сябе хатнія пантофлі, як рукі зашнуравалі на нагах чаравікі і пацягнуліся да вешалкі па плашч.

Апамятаўся на вуліцы, убачыў толькі цяпер Васіля. Маўчалі, бо гаварыць не прыходзілася — усё было зразумела без слоў. Не гаварылі, калі сядзелі і ў скверыку. І ў гэтым маўчанні надакучвалі адзін аднаму, адчувалі, што трэба хутчэй развітвацца, бо, калі даўжэй разам быць, будзе яшчэ больш няёмка, невыносна за маўчанне.

Разумелі, што кожнаму паасобку будзе лягчэй, і, быццам згаварыліся, разам падняліся з лаўкі, і Яўген падаў Васілю руку:

— Жыві.

Па тратуары ішлі насустрач людзі, жартавалі, смяяліся. Яўген углядаўся ў іх твары, дзівіўся, не разумеў, чаго яны смяюцца, пытаў аб гэтым у сябе, заблытваўся, і на душы яшчэ больш рабілася пагана, даваў ім дарогу — былі гэтыя людзі, здавалася, у нечым лепшыя, прыгажэйшыя за яго. Ішоў і, адвыклы ад сябе, былога гараджаніна, адчуваў перад імі сваю няроўнасць, няўцямна сам сабе думаў, што вярнуўся на забытую ім і цяпер не зразумелую зямлю.

Прыйшоў на аўтобусны прыпынак. Трэба было ехаць на вакзал — увечары адыходзіў на Брэст цягнік.

# Адна

Жыве старая Язэпіха ў канцы вуліцы, ля самага пагону. Селішча яе абгароджана жэрдкамі, хлевушок, ля якога стаіць парыжэлая ад сонца і дажджоў копка сена, скіданы на скорую руку з хваёвых вяршкоў. На дрывотні трохі альховых паленцаў, сякера са злізаным гадамі лязом. З яе тырчаць драўляныя калочкі — хістаецца, спадае з куцага тапарышча абух. Хата, як і хлевушок; малая, агрузлая ў зямлю — якраз на адну душу.

Улетку Язэпіха корпаецца на сотках, носіць зелле свінчаці, зімою стараецца з дрывамі.

Так і жыве з дня ў дзень. Калі ж прыходзіць нядзеля, апранаецца ў чыстае, бярэ ў правую руку белую хустачку і выходзіць з двара, бо за шэсць дзён насумуецца па людзях і хочацца пагаманіць з імі, душу адвесці.

Вось і зараз выйшла на сяло. На ёй андарак, вышыты фартух, сітцавы каптан з доўгімі рукавамі. Галава абвязаная белай хусткай. Клыпае пантофлямі па вулічным пяску, паглядае на людскія двары, каб каго прыкмеціць і падысці. Дзень пагодны. Не відно, каб хто і сядзеў дома, бо ўпусці яго — і сена не схопіш, і поле не дагледзіш. Убачыла Трахіма. Сядзеў ён, сагнуўшыся, на сваёй лаўцы і табачыў. Старому са старым, як і малому з малым, лёгка гаворыцца, і Язэпіха падышла да дзеда:

— Як здароўе, Трахімка?

— Шчэ кашляю. Прысядзь, Матруна.— Дзед разагнуў спіну, паклаў далонь на лаўку, блізка ля сябе — паказаў дзе сесці.

Язэпіха прысела, сашчапіла на каленях рукі. З іх вытыркалася хустачка.

— А дзе ж гэта, каб на свеце ціха было, твае сёння? На двары не відно.

— Сена пайшлі ў калгас зграбаць.— Кашлянуў: — А я от курэй і праўнукаў пасу.

Праўнукі, хлопчык і дзяўчынка, сядзелі ля ног дзеда, гулялі ў нешта сваё.

— Колькі, каб ціха, гадоў ты ўжо, Трахімка, на пенсіі?

— Шаснаццаць. Да другой дажыву мо! Абрыдла ўжо. Ад нудоты ўсё перадумаў... І як малады быў і як

дзяцеў гадаваў. От да цябе толькі што ўспамінаў твайго Язэпа. Ладны быў чалавек. На вячоркі, бывала, разам хадзілі. Да адной дзеўкі бегалі.

— Да мяне, каб ціха...— уздыхнула старая.

— А які танцор! Усе танцы ўмеў адбіць нагамі. От і адбіў цябе. Здаровы, каб добра яму спалася на тым свеце, быў чалавек. Рабацяшчы... А як гаспадарыў!

Язэпіха прыклала да вачэй хусцінку:

— Забралі ў вайну, каб на свеце ціха было... Не прыйшоў. А маіх хлопцаў не забыў? Івана і Пятра?

— Як жа... У бацьку былі ўдаліся... Бялявыя, высокія... Пятро ж лётчыкам быў...

— Быў, каб ціха было...— Язэпіха плакала. Суха, задушана... Выцірала вочы.— І Іван ваяваў... ваяваў... Загінулі сынкі, загінулі. Божа ж мой, божа, каб хоць дзевачку радзіла адразу за імі... Пры мне была б... Хату падмяла б... На вайну не ўзялі б яе... Няма шчасця з тымі мужчынамі... І мой бацька ў мікалаеўскую вайну галаву паклаў...

Трахіму шкада стала Матруны. Стаў яе ўлагоджваць:

— Чаго разрумзалася?.. Не ў адной цябе такое... Багата ў каго... На тое і вайна...

— Я ж не кажу, што ў адной.— Яна стала плакаць цішэй.— Хай бы бог хоць аднаго аставіў, каб ціха было... Ні дзяцей, ні ўнукаў. Не пажаніліся да вайны... Прапала, каб хоць адзін нявестку прывёў... Не паспелі... Каб сіла, што не вернуцца, дык хоць добра наглядзелася б знала, на іх.

— Плач не плач — іх не выплачаш.

— Дзе ж я выплачу.

Язэпіха сціхла, устала з лаўкі:

— То я пайду, Трахім.

— Ідзі і не гаруй — нагаравалася ўжо...

Яна памалу пасоўгала нагамі далей на вёску. На вуліцу з платоў пазвешвалі галлё сады. Як расы, было на ім вішань і сліў, свяціліся ў лісці яблыкі, чырвоныя грушы. Густа гулі пчолы, пазалеплівалі сабою ў вуллях лямкі. Язэпіха глядзела за платы і зайздросціла людзям — там, дзе мужчыны, там і садавіна і пчолы.

Падышла да селішча Савы Федарэнчыка. Федарэнчыкі ставілі новую хату. Сыну — жаніўся. Са смаловых, хораша абчэсаных бярвенняў, якія ляжалі ў сценах, вы-

ступала смала. На зрубе ўжо стаялі кроквы, а на шчытку адной была прыбіта ёлачка — знак таго, што цесляры ўжо зрабілі сваю работу і выпілі магарыч. Смачна пахла трэскамі, што ляжалі пад светлымі сценамі. Бацька з сынам прыганялі да вушакоў рамы. Былі яны абодва ў майках, зацярушаныя тырсаю. Анюта, жонка Савы, клала на бярэмя трэскі — збірала, няйначай, варыць мужчынам абед. Марыля, яе нявестка, сядзела на калодцы і трымала на руках сына.

— Бог у помач! — Язэпіха спынілася ў варотах.— Яшчэ даху няма, а ўжо рамы ставіце?

Анюта перастала збіраць трэскі:

— Няможна шыферу дастаць. Пазаўчора прывезлі былі ў раён, ды нам не перапала — разабралі. У канторы сказалі, каб пачакалі трохі...

— Дастанеце чым накрыць,— сказала Язэпіха.— Хату паставіце, улазіны зробіце і будзеце жыць, каб толькі ціха на свеце было...

— Жылы павырываем, пакуль яго ўселім. Усе грошы аддалі на зруб. Вялікія дзеці — вялікі клопат,— жалілася Анюта.

— Не вельмі прытварайся. Шчаслівая — Сцёпку свайго жаніла. Хораша жывеце. Унукаў нажыла, каб ціха было...

— Можа, яно і так.— Анюта ўзяла яшчэ трохі трэсак на бярэмя і пайшла паліць у печы.

— Прыходзьце, бабуля, па трэскі. Нам яны не трэба — шчэ леташнія дровы ляжаць,— высунуў з акна зруба галаву і крыкнуў Язэпісе Сцёпка.

— Прыйду, дзеткі, прыйду... І багата іх браць?

— Хоць цэлы воз.

Яна ўздыхнула і адышла ад Федарэнчыкавых варот. Завярнула ў вулку, бо трэба было яшчэ адведаць пляменніцу. Жыла яна ад Федарэнчыкаў недалёка — цераз пяць хат. Вулка была мурожная, зялёная, і соткі ў людзей добрыя. На агародах аж буяла бульба, шумелі лісцем кіяхі, стаялі, апусціўшы галовы, сланечнікі. Хата пляменніцы стаяла воддаль ад вулкі, і ісці да яе трэба было гародамі. На сярэдзіне разоры Язэпіха спынілася, нагнулася, пакорпала пальцам пад карчом бульбы — з зямлі вывалілася ружовая картопліна.

Падышла Язэпіха да хаты і ўбачыла пляменніцу. Соня сядзела на ганку і абірала лісічкі. Брала іх з ко-

шаля, абдувала, адразала карэньчыкі і кідала ў міску. Калі-нікалі ў яе рукі пападалі і сыраежкі.

— Урадзіла ў вас картопля.— Язэпіха ступіла на ганак.

— На свіным гнаі садзілі, цётка. Сядайце. Вунь там, на ўслончыку.

Старя села, абцягнула на сабе андарак.

— Пасля дажджу лісічкі з зямлі сталі вылазіць. Адскочыла ранкам у лес і трохі назбірала на смажанне. Вы не хадзілі? — спытала Соня.

— Куды мне... Вочы нічога не бачаць. І твой Міхайла ў калгас пайшоў?

— Пайшоў. Усе пайшлі ж.

— Прысылаюць пісьмы хлопцы?

— Каб яны пазахлопваліся, калі раджала. Душу вынялі. Гадавала, вачэй недасыпала, вучыла, і на табе — парадавалі матку. У большага, што на заводзе, не галава, а матыліца: абкруціла, абвяла баба. На дзесяць гадоў старэйшая. Узяў яе з двума дзецьмі. Зглуміла хлопцу жытку, каб яе пранцы з'елі. А другі, думаеце, разумнейшы? Вучыўся ў тэхнікуме і ні з таго ні з сяго паздрочыўся — кінуў. Піша: так, маўляў, і так, матка і бацька, вучоба мне не па нутру, буду матросам.

— Чаго табе, Соня, нудзіцца? Усё добра будзе. Хай бы тваё гора мне было, толькі каб хлопцы былі жывыя. Каб ціха было...

Трэба было ўжоісці дахаты, і Язэпіха выйшла з двара пляменніцы.

Павятрэла. Густа шамацеў кіяшнік на агародах, хісталіся галовы ў сланечнікаў. За вёскай падымалася, распухала хмара. Язэпіха пайшла спарней, бо трэба было зняць з плота, каб не намачыў дождж, посцілкі. Калі ішла каля Трахімавага двара, убачыла, што старога на лаўцы не было. Чутно было толькі, як ён кішкаў за хатай на курэй. Праўнукі ж, Валодзік і Верка, шчабяталі ля варот — новую гульню сабе прыдумалі.

Яна меншанькая:

— Я буду Язэпіха, а ты дзед.

Ён:

— Добра.

Дзяўчынка пахістала ў бакі, як старая, галавою:

— Сынкі мае загінулі, каб на свеце ціха было.

А Валодзік:

— Не гаруй, баба, каб ціха... на свеце...

Верачка яго перабіла:

— Гэта мне трэба казаць: «Каб на свеце ціха было».

Хлопчык надзьмуўся:

— Я забыў.

— Давай зноў.

Язэпіха пачула, што гаварылі дзеці, і нічога не сказала — хай гуляюць малыя. Вецер туга напіраў у грудзі, і ісці было па пяску цяжка, раз'язджаліся ногі, заблытваўся ў нагах андарак. А вось і яе хата з грушаю-дзічкаю пад акном. Яна ўвайшла ў свой двор.

# Даўнія сябры

Апрануты ў белае, у цёмных дымчатых акулярах, Пятро Харытонавіч ляжаў на траве і чуў скрозь дрымоту, як блізка, амаль ля самых ног, булькоча рэчка яго дзяцінства, цяпер далёкага і казачнага, як сон. Часам, быццам з нябыту, усплывалі дзіцячыя галасы і смех, і раптам трымкнула блізка вядро: нехта падышоў да рэчкі і бярэ ваду. Так усё блізка, усё знаёма было яму тут, што не верылася, як гэта ён змог пражыць поўных дваццаць год далёка ад роднай хаты, ад зялёных берагоў гэтай рэчкі, на якіх, думалася яму, назаўсёды засталіся сляды яго даўняга цудоўнага жыцця. Ён не прыязджаў да адзінокай маці нават у дні студэнцкіх канікул, калі вучыўся ў інстытуце,— даводзілася падрабляць на цаліне і на заводах. Потым ён па вушы закахаўся ў бяляўку-дзяўчыну з атэлье, у якім упершыню заказваў сабе прыстойны касцюм. Гэтая дзяўчына, невыказна тонкая і сімпатычная, потым стала яго жонкаю і ператварылася ў поўную і сварлівую жанчыну (ці мог ён тады падумаць!),— гэтая бландзінка сваім бесклапотным смехам надоўга задушыла ў ім мару пра родную хату.

А потым жыццё падхапіла і закружыла Пятра Харытонавіча: сямейныя клопаты, павышэнне на службе, аж да галоўнага інжынера праектнага інстытута, нарады ў міністэрстве, паездкі з жонкай да Чорнага мора. Усё не хапала часу адведаць старую маці, якой раз у месяц пасылаў поштай пятнаццаць рублёў.

Гэтым летам Пятру Харытонавічу нарэшце пашанцавала. Калі ехаў з курорта з Сочы, ён раптам успомніў пра родную вёску, пра тое, што даўно там не быў. Успомніў і стаў мучыць сябе, што ён паганы і няўдзячны сын, што кожны дзень пра яго думае, трывожыцца маці, а ён... Старая, хворая, яна знаходзіць у сабе сілы зрэдку прыязджаць да яго, а ён, здаровы мужчына, якога ўсе ў інстытуце лічаць душэўным чалавекам, ні разу не адведаў яе, не памог пасадзіць на сотках бульбу, накасіць карове сена. Сорам! І Пятро Харытонавіч ужо ў цягніку нечакана сказаў здзіўленай жонцы, што ён павінен сысці на бліжэйшым паўстанку, павінен зазірнуць на тры-чатыры дні да мацеры: вёска знаходзіцца зусім блізка! І ён на самай справе сышоў з цягніка, хоць і не пускала,

плакала жонка. Цягнік пайшоў, а Пятро Харытонавіч усё стаяў на пероне з лёгкім чамаданам у руках і радаваўся сваёй рашучасці, шчымліваму прадчуванню блізкай сустрэчы з маці.

І вось цяпер ён ляжыць на траве, як некалі ў дзяцінстве, у дымчатых акулярах, з моднай, акуратна падголенай цёмнай бародкай, таксама, як і жонка, патаўсцелы і пульхны. Яму хацелася распрануцца, але ён ведаў, што быць перад людзьмі ў плаўках тут не прынята, сорамна, і перадумаў. Між іншым, Пятру Харытонавічу і так было добра. Ім авалодала невытлумачальнае пачуццё спакою, і ён знаходзіўся ў нейкім шчаслівым забыцці. Ні на якіх першакласных курортах не даводзілася яму быць такім спакойным, як ён добра зрабіў — узяў і заехаў да маці!

Плёскат за кустамі, дагэтуль марудны і роўны, раптам памацнеў, згубіў звыклую манатоннасць — здаецца, нехта пераходзіў рэчку. Пятро Харытонавіч прыўзняўся на локцях і ўбачыў блізка рослага шыракаплечага чалавека гадоў сарака, з закасанымі штанамі, у саламяным капелюшы з шырокімі адвіслымі палямі. З-пад капелюша на Пятра Харытонавіча глядзелі шэрыя вочы, цень клаўся на твар мужчыны і хаваў у сабе іх выраз. Ён не адводзіў вачэй ад Пятра Харытонавіча і, асцярожна перастаўляючы ногі ў вадзе, каб не паслізнуцца на якім-небудзь карчы, ішоў да гэтага берага. На правым плячы ён трымаў доўгае вудзільна. Пятру Харытонавічу стала няёмка, што на яго глядзяць, і ён зноў лёг на спіну.

— Закурыць не знойдзецца?

Мужчына ўжо стаяў на беразе і ўсё ўглядваўся ў твар Пятра Харытонавіча. Той пашукаў у кішэнях штаноў і падаў рыбаку, які, мабыць, вяртаўся з няўдалай рыбалкі дамоў, пачак цыгарэт з фільтрам.

— Дзякую. Гэтыя я люблю,— сказаў рыбак. Ён чыркнуў запалкай, паднёс яе да твару, але прыкурваць не стаў і раптам усклікнуў, кінуў на зямлю вуду:

— Пецька, ты??

Пятру Харытонавічу падалося, што некалі сустракаўся з гэтым чалавекам у саламяным капелюшы, чуў яго голас. Ён хутка ўскочыў на ногі, з хваляваннем зняў акуляры і пасля кароткага маўчання няўпэўнена спытаў:

— Вы... не Язэп Клыча?

— Я. А хто ж яшчэ! Эх, Пятрусь, чорт лысы! —

І праз момант Язэп абхапіў Пятра Харытонавіча сваімі моцнымі пруткімі рукамі.

— Не цісні ж так моцна, Язэпка! — з слязьмі на вачах ад радаснай сустрэчы загаварыў Пятро Харытонавіч, а сам хацеў злаўчыцца, кінуць Клыча цераз нагу, бразнуць вобзем і наваліцца, як было ў дзяцінстве, на яго.

— А памятаеш, як мяне некалі дражнілі! — гучна рагатаў Язэп.— Капейка!

— Гусак!

— Капейка!

Пабароўкаўшыся, яны горача дыхалі, паваліліся на траву і на момант прыціхлі, здзіўленыя такой нечаканай сустрэчай. І было ім дзіўна і нават незразумела, як гэта яны маглі жыць столькі гадоў без сустрэч, маглі моцна забыць пра ўсё, што з'ядноўвала іх раней. У абаіх у памяці падняліся, здавалася, назаўсёды забытыя дні іх дзяцінства. Язэп ад хвалявання паляпваў Пятра Харытонавіча па плячы, прыгадваў, як яны ўдвух кралі буйныя, налітыя асеннім сонцам яблыкі ў старой Нупрэіхі, як летнімі начамі пасвілі на зарэчных паплавах калгасных коней і як потым ён праводзіў Пецьку Зуевіча ў Мінск вучыцца. Пецька ад'язджаў на падводзе да чыгуначнай станцыі, у чаравіках сваёй маці, з вышмуленымі абцасамі.

— Беражы іх! — усё паўтарала, наказвала яму маці, клыпаючы за падводай.— Яны не абы-якія... бацька на вяселле купіў іх мне...

У картовай сарочцы, зашпіленай на ўсе гузікі, Пятрусь сядзеў на возе і разгублена глядзеў на маці, трымаючы ў руках клуначак з ядою. Такім ён і запамятаўся Язэпу: разгубленым, бездапаможным, маленькім. І цяпер Язэпу радасна было бачыць свайго сябра здаровым, мажным, добра апранутым чалавекам у модных акулярах. Не разгубіўся Пятрусь у белым свеце, дамогся свайго, выбіўся ў людзі!

І Пятру Харытонавічу прыгадаўся дзень іх расстання. Прыгадаўся з усімі падрабязнасцямі, і ад іх стала неяк не па сабе. З ссунутай на патыліцу белай хусткай спяшаецца маці за падводай, моўчкі ідзе Язэп, стукаючы голымі пяткамі па выбітай цупкай сцежцы, бяжыць услед мітуслівы сабачка Тузік, а далей з усіх ног імчацца напярэймы падводзе хлапчукі з іх вуліцы.

Калі выехалі з вёскі, Пятрусь спыняецца і сумна махае рукою.

— Ну бывай, Пеця. Нікому там не паддавайся. А я ў армію пайду, на шафёра вывучуся. Калі станеш інжынерам, вазіць цябе буду!

Ён ледзь утрымаўся, каб не шпурнуць у канаву клунак з ядою, саскочыць з падводы і моцна, на ўсю вуліцу, крыкнуць маці і Язэпу: «Я нікуды не паеду. Я застануся з вамі!» Але прага вучыцца, сваімі вачыма пабачыць белы свет заглушылі боль расстання, якая закіпела ў ім. Калі падвода адкацілася далёка ад вёскі і за пагоркам патанулі каміны хат, ён упаў тварам у салому і заплакаў.

Усё гэта было! І сум па Язэпу, і горыч расстання з маці, і матчыны чаравікі на нагах, падораныя бацькам ёй на вяселле.

— Паслухай, Язэп,— сказаў Пятро Харытонавіч,— ты не настаўнік?

— Чаму ты так думаеш? — здзівіўся Язэп.

— Ну...— Пятро Харытонавіч зніякавеў, пачаў падшукваць словы, каб растлумачыць: — Гэты капялюш, рыбалка... Мне памятаецца, раней у нас лавілі рыбу толькі дзеці ды настаўнікі. У калгаснікаў на гэта проста не хапала часу, лета для іх — гарачая пара.

— Дык калі гэта было! З той пары прайшло багата часу. Тут цяпер такімі інтэлігентамі хоць грэблю гаці. У каго ні тыцні пальцам — кожны інтэлігент, кожны рыбак.— Язэп усміхнуўся.— Капелюшы ў іх ёсць, тэлевізары, спінінгі... Чым не інтэлігенты? Ведаеш, як тут цяпер рыбаляць? Усе амаль заводзяць матацыклы і пруцца ўгару па Убарці, аж да самых азёр. Кажуць, лінёў там, язёў — процьма. Мяшкамі бяры. А я, брат, на сваіх дваіх ніяк не дабяруся да азёр.

— Папрасіў бы каго-небудзь...

— Каго? Я, Пеця, у сваёй вёсцы, як і ты, чалавек староннi. Мне прасіць няёмка.— Язэп пасумнеў тварам.— Вось прыехаў сюды ў адпачынак. Праз паўмесяца трэба ехаць. Ні дня лішняга. У нас на рабоце парадкі строгія.

Пятру Харытонавічу ўвесь час думалася, што Язэп жыве на ранейшым месцы. Неяк не ўяўляў ён сабе спа-

койнага, непаваротлівага Язэпа за межамі іх роднай вёскі, не ўпісваўся сябар у яго ўяўленні ў іншыя вёскі і гарады. Ёсць людзі, якія створаны для аднаго дома, адных палёў. Такім быў і Язэп. Быццам разгадаўшы думкі Пятра Харытонавіча, Язэп спытаў:

— А дзе ты жывеш, Пеця?

Пятро Харытонавіч назваў горад.

— Ды ты што, жартуеш? — Язэп ад здзіўлення прыўзняўся, глянуў на сябра выпрабавальным поглядам шэрых вачэй.— Ай-яй-яй! Хто б мог падумаць?! Мы ж у адным горадзе жывём!

— Няўжо? — не паверыў Пятро Харытонавіч.

— На якой вуліцы?

— Каліноўскага.

— Ведаю. Гэта па Лагойскай шашы. А я на Пушкінскім праспекце, дзевяты дом. Відаць, ведаеш?

— Канешне!

— Вось дзіва, га? Жывём у адным горадзе. Цяпер будзем хадзіць у госці адзін да аднаго... Цяпер зажывём мы інакш...

— Зажывём! — усклікнуў Пятро Харытонавіч, заглядваючы ў вочы Язэпа...— А ці не ты казаў, што не пакінеш ніколі адных бацьку і маці? — засмяяўся ён.— Клятву даваў на выпускным вечары.

— Што клятва! — Язэп падняўся з зямлі, паварушыў цеснымі плячыма.— У чым мы толькі не кляліся, жаўтароцікі. Мы, Пеця, у тую пару былі сляпымі кацянятамі. Ну, калі на тое пайшло, я быў. Ты не. Ты быў разумны і не кляўся. Ты ведаў ужо тады, што хочаш.

— Ага, ведаў,— згадзіўся Пятро Харытонавіч.— І нечага ўжо дабіўся ў сваім жыцці,— не без гонару дадаў ён і таксама падняўся.

— Вось я бажыўся, біў, гнёў кулакамі сябе ў грудзі, што застануся ў калгасе, так? — працягваў Язэп.— Без брахні, ад душы кляўся! А потым армія, вялікі горад, новае жыццё. Сустрэлася дзяўчына, закахаўся ў яе.

— І ажаніўся?

— Як тут не здагадацца. Жонка ціхая, дома поўны парадак. Яна токарам на заводзе, а я шафёрам у аўтапарку. Катаю, браце, грамадзян па горадзе. Работа, сам ведаеш, не пыльная, але заработная. Задаволены. Чалавек, Пеця, як сланечнік: на святло яго заўсёды цягне. Адкуль яму сонейка пасвеціць, туды ён і галаву кло-

ніць, паварочвае.— Язэп зняў капялюш і кінуў яго на траву. Скрозь рэдкія бялявыя валасы бліснула на сонцы ўспацелая лысіна.— Пецяǃ Чаго мы тут стаім і гамонімǃ Давай пройдзем паўз бераг, пагуляем,— прапанаваў ён.— Такі прыгожы дзеньǃ

Хуткая на адкрытым месцы, рака збаўляла свой бег у маладым лесе, які падступаў да яе з двух бакоў. Па вадзе слаўся цень ад дрэў, вада тут была цёмнаю і здавалася глыбокаю, як у возеры. Некалі тут былі кусты, а цяпер сцяной стаяў лес. Чорныя алешыны стаялі на беразе, перавітыя хмелем. Асіны цягнуліся ў неба. І Пятру Харытонавічу, які прадзіраўся праз хмель, здавалася, быццам ён чуе, як растуць асіны, як прагна п'юць ваду кучкаватыя карэнні лазы — да таго хацелася лесу расці.

«Які вырас лес! — здзіўляўся Пятро Харытонавіч.— І калі ён вырас?»

Язэп крочыў паўз бераг, уламліваўся плячом у густы арэшнік і, сапучы ад задавальнення, ад папярхлівага паху разамлелага лесу, мяў пад сябе ажыннік. Пятро Харытонавіч ледзь паспяваў за ім, нязлосна, па-сяброўску лаяў яго ў душы: «Мядзведзьǃ Лезе напрасткі... Такому б толькі і жыць бы ў вёсцы. Бач, куды яго занесла — у горад!»

Дрэвы перад Язэпам расступіліся, прагалак агністым дыванам, асвечаным сонцам, лёг пад ногі. Ён спачатку зморшчыўся, потым прыгледзеўся да травы і здзівіўся: зямля была абсыпана буйнымі сакавітымі суніцамі.

— Пятро, глянь!

Пятро Харытонавіч аж самлеў, калі ўбачыў так багата ягад — сэрца зайшлося, як некалі ў дзяцінстве. Як хлапчук, ён упаў на калені, дрыжачымі рукамі пачаў збіраць суніцы і сыпаць іх у рот. Язэп поўзаў на жываце, вочы яго разбягаліся, і ён ад радасці стагнаў, расхінаючы перад сабою сунічнік:

— Смакоццеǃ Як мёд, ёлкі-палкіǃ

Ззаду Язэпа на прымятай траве выступалі чырвоныя, быццам свежая кроў, плямы.

— Не раздушвай іх, Капейкаǃ — Пятро Харытонавіч нядобра паглядзеў на Язэпа.

— Не шкадуй ягад. Іх тут процьмаǃ — смакуючы ў роце суніцы, прабурчаў Язэп. Потым яны сядзелі на беразе Убарці, звесіўшы босыя ногі ў мяккую пяшчотную ваду. Вакол было молада, зелена і светла. У гэтым мес-

цы цячэнне ракі было ціхае, спакойнае. На тым беразе густа стаяў рабіннік. Восенню, калі пачынала жаўцець лісце, рабіны ўвачавідкі ахоплівала чырвонае полымя: гэта спелі на іх ягады. Удвух з Язэпам яны бралі тады вёдры, сякеры і ішлі сюды тушыць гэты агонь. Ссякалі дрэўцы, выцягвалі іх на гала. Хутка вёдры іх напаўняліся спелай рабінай. Заставалася аднесці і здаць яе ў лаўку маўклівaму прыёмшчыку Антону. У яго вялікім двары паўз плот стаяла багата бочак. Антон ставіў іх вёдры на вагі, і хлапчукі, затаіўшы дыханне, не зводзілі вачэй з чорных гір.

— На мыла і на соль хопіць,— пасля доўгіх арыфметычных вылікаў казаў прыёмшчык і сыпаў ім у прыгаршні халодную звонкую медзь.— Грошы аддайце маткам, ясна?

Яны моўчкі ківалі Антону і, зацiснуўшы ў кулаках пацяплелыя капейкі, з усіх ног беглі ў лаўку, каб купіць там сабе цукерак — падушачак. Якімі салодкімі былі тыя пасляваенныя цукеркі! Не раўня цяперашнім, шакаладным.

— А тут мы рвалі з рабінніку ягады,— усхвалявана шапнуў Пятро Харытонавіч.— Памятаеш, Язэп?

— Яшчэ б не памятаць! — абазваўся той і пабоўтаў у вадзе нагамі.— На гэтым мы цэлыя капіталы мелі. У кіно па два разы на тыдзень хадзілі. На «Чапаева», на «Васілісу Прыгожую».

— На «Васілісу Прыгожую». Цудоўны быў час! Я, памятаю, закахаўся быў у гэтую Васілісу. Закахаўся, галадранец саплівы, у яе! — Пятро Харытонавіч сумна ўсміхнуўся, памаўчаў.— А цяпер, мабыць, ніхто не збірае арабін.

— Жыццё, Пятрусь, страшна рвецца наперад,— паддаўся настрою Пятра Харытонавіча і задумліва загаварыў Язэп.— Ці ты ганіся за ім, ці не — усё роўна не дагоніш. Вунь ужо Месяц чалавек абжывае. Магчыма, пабудуе на ім гарады і ракетадромы. І пачне ўзлятаць адтуль вышэй, да самых далёкіх зор! А мы з табою ўсё будзем душою цягнуцца да Убарці.

Пятро Харытонавіч маўчаў. На беразе роднай рэчкі, сярод маладых дрэў і травы, усё, чым ён асабліва даражыў — службай у інстытуце, складанейшымі праектамі, адказнымі камандзіроўкамі ў Маскву і за мяжу,— усё гэта неяк адразу памізарнела, згубіла сваю ранейшую

значнасць, зрабілася амаль непатрэбным. Галоўным было цяпер другое — маці, Язэп, рэчка.

«Я дамогся б куды большага,— раптам падумаў Пятро Харытонавіч,— мне б жылося і працавалася куды лягчэй, калі б быў інстытут у нашай вёсцы». Але тут жа ўсміхнуўся сам сабе ад сваёй дзівакаватай думкі. Недзе ў глыбіні душы Пятро Харытонавіч ведаў: калі ён адсюль паедзе, пачуцці, якія падняліся ў ім, зноў улягуцца, усё лішняе адсеецца само сабою і ён нарэшце знойдзе ісціну. Тую спакойную ісціну, якая надасць яму новыя сілы.

Памаўчалі. Жара наплывала на лес, здушліва пахла малачаем і валяр'янкай, над вадою дрыжала марыва. Відаць, парыла на дождж.

— Пакупацца б,— Пятро Харытонавіч зняў акуляры і блізарука прыжмурыўся на плынь ракі.

— А што, гэта можна! — азваўся Язэп.

Яны распрануліся, пастаялі трохі на беразе ў адных плаўках і, набраўшыся смеласці, разам бултыхнуліся ў ваду. Вада ўскалыхнулася, засвяцілася ўзнятымі пырскамі, хуткія кругі трапятліва пабеглі па ёй.

— Даганяй! — Язэп азірнуўся на Пятра Харытонавіча і паплыў да другога берага, размашыста выкідваючы наперад рукі. Магутная спіна Язэпа то ападала ў ваду, то ўсплывала над ёй, пабліскваючы на сонцы рудым загарам. Пятро Харытонавіч напружыў сілы і паплыў за ім. І не дагнаў Язэпа — схапіла адышка, і ён павярнуў назад.

— Чаму не плывеш? — крычаў Язэп.

— Плыві назад! — весела адказаў Пятро Харытонавіч. Яму не хацелася прызнавацца Язэпу ў сваёй слабасці.

Вылезлі яны на бераг, калі з-за верхавін дрэў выходзіла хмара. Качкі нізка пранесліся над вадою і селі за лазою, у куп'і. Недзе далёка буркатліва азваўся гром. І ўсё потым сціхла, замерла.

Пятро Харытонавіч, усхваляваны наступіўшым маўчаннем птушак і лесу, маўчаннем, у якім угадвалася нешта ўрачыстае і магутнае, кожнай клетачкай цела адчуваў набліжэнне ліўня і крыкнуў Язэпу:

— Бягом у вёску!

І яны пабеглі напрасткі праз лес у хату, у якой жыла маці Пятра Харытонавіча. Хата стаяла на ўскраі вёскі

сярод гарбатых старых вербалозін. Яны ўзляцелі на ганак, калі лівень ужо шыпеў блізка і няможна было разабраць, дзе лес, дзе паплавы — усё засланіла дажджавая імжа.

— Ну і дае! — усхвалявана выгукнуў Язэп.— Даўно я не бачыў такога дажджу. Божа мой, глянь, Пятрусь. Як лье!

Маланка варухнулася ў небе, да самай зямлі прашыла яго агністым рубцом — і грымнуў гром. Шыбы гармаснуліся ў вокнах, зазвінелі. Лівень лінуў з новай сілай, заклубіўся над вербамі, за варотамі неслася па каляінах цёмная вада.

— Якая моц! — вырвалася ў Пятра Харытонавіча.— Нам яе б, Язэп. Эх, што б мы натварылі!

Выйшла маці на ганак у цёплай, на плячах, хустцы. Папраўляючы сівыя пасмы валасоў, згорбіўшыся, яна доўга прыглядвалася да Язэпа, потым няўпэўнена спытала:

— Ці не Язэпка... сын Ігната?

— Ён самы,— усміхнуўся Язэп.— Добры дзень, цётка Лукер'я!

— Бач які! — здзівілася яна.— Зноў прыехаў, не забываеш бацькоў. Вось і Пеця мой дома. Чую, нехта стукае ў акно. Каго гэта, думаю, прынесла. Глянула ды абамлела: Пятро стаіць на двары.

Неба з краю ў край абхапіла парывістым белым колерам, ірвануў на ўсю моц пярун. Пятро Харытонавіч уздрыгнуў і адступіў у сенцы.

— Ды вы не стойце тут, праходзьце. Навальніцы цяпер страшныя. Нядаўна Антона забіла. Закопвалі ў зямлю, думалі, адыдзе, аж не адышоў. Царства яму нябеснае! — Маці перахрысцілася.— Быў добры чалавек, каб яму добра спалася на тым свеце. На вайне не забіла, а пайшоў, бач, на поплаў скінуць сена ў копы, і на табе — перуном ударыла... На чыстым, на роўным месцы... Хто б мог падумаць... Маланкай абпаліла, увесь чорны з твару ляжаў...

Пятру Харытонавічу зрабілася неяк не па сабе. Ён перасмыкнуўся, ціха сказаў:

— Язэп, пайшлі ў хату.

Хутка яны ўжо сядзелі за сталом і пілі віно. Маці бегала па хаце ад печы да стала, падавала ім на стол і ўсё паўтарала:

— Чую, стукаюць. Ну, думаю, нехта з суседзяў. Ляжу на печы, прыгрэлася, уставаць неахвота. Глядзь у акно: а гэта ён, Пеця мой!

— А не хочаце ў горад да Пятра пераехаць? — спытаў Язэп, жаласліва паглядаючы на сівыя валасы Дар'і, на яе худую, высушаную старасцю постаць.

— Дзесяць гадоў угаварваю, каб да мяне пераехала, але не хоча,— уздыхнуў Пятро Харытонавіч.

— І не ўгаварвай,— сказала яна.— Не паеду. Тут, дзе ўсе нашы ў зямлю ляглі, памру і я. А вы сабе жывіце, як вам лепей. Дзякаваць богу, хоць мяне не забываеце. То пісьмо атрымаю, то грошы. Усё мне, старой, весялей.

Пятро Харытонавіч наліў зноў у шклянкі.

— У тую зіму палучаем ад яе пасылку,— загаварыў ён, калі маці выйшла ў сенцы.— Якраз у мяне быў дзень нараджэння. Адчыняем вечка, гадаем: прыслала, відаць, маці малінавага варэння, сухіх грыбоў. Не, памыліліся... Прыслала мне касцюм. Купіла яго за грошы, якія пасылаў ёй. А ў мяне гэтых касцюмаў поўная шафа.

— Сумна ёй адной,— сказаў Язэп.— Ведаеш, што я прыдумаў. Купі ёй тэлевізар. Канцэрты будзе глядзець, мульцікі.

— Маці пра яго і слухаць не хоча.

Наступныя два дні прабеглі, як у сне. Пятро Харытонавіч ні хвіліны не разлучаўся з Язэпам, не мог і кроку ступіць без яго. Гэта былі дні цудоўнай душэўнай яснасці і ні з чым не параўнанага шчасця. Здаецца, упершыню ў жыцці ён быў па-сапраўднаму шчаслівы. Дружба! Якое гэта вялікае, вечна маладое, абнаўляючае душу пачуццё! Ні растанні, ні гады — нішто не ўладарна над ёю. Толькі адна смерць. Адна смерць, і нішто іншае.

Прыйшла пара развітвацца. Язэп заставаўся яшчэ на тыдзень, Пятро Харытонавіч ад'язджаў. Яны абмяняліся адрасамі і дамовіліся сустрэцца адразу, калі Язэп вернецца з адпачынку. Яны павінны абавязкова ўбачыцца ў першы ж дзень! На гэтым настойваў Пятро Харытонавіч, так хацеў і Язэп.

Калі Пятро Харытонавіч ішоў да аўтобуснага прыпынку, ім авалодала раптам нясцерпнае жаданне ўзяць і сказаць, што ён вяртаецца і паедзе ў горад толькі разам з Язэпам. Але ён убачыў аўтобус і супраць волі і жадання заспяшаўся да яго.

— Цяпер няхутка сюды вырвешся,— прамовіў Язэп.

— Прыедзе,— раптам упэўнена сказала маці.— Калі памру, хто ж будзе хаваць.

Яна сказала гэта спакойна, памяркоўным тонам, быццам размова ішла не пра жыццё і смерць, а пра нешта звычайнае. Пятро Харытонавіч пахаладзеў, уважліва, з патаемнай бояззю глянуў на сухі твар маці, на яе худыя рукі, якія ціха віселі паўз яе цела, і ў галаве прабегла страшная думка: «Праўда, нядоўга ёй засталося жыць!»

— Мама, я прыеду да цябе ўвосень,— здушаным голасам сказаў ён.— Як толькі ў нашым садзе выспеюць яблыкі. Абавязкова прыеду.

Ён пацалаваў маці ў халодны лоб і, глытаючы слёзы, не азіраючыся, пайшоў да аўтобуса. Ногі ў яго падгіналіся.

— Прыязджай, сынок! — пачуў ужо ў аўтобусе яе голас.

Усю дарогу ў вачах стаяў твар маці, і ён мучыўся ад свядомасці, што немагчыма ёй чым-небудзь дапамагчы.

За час адпачынку справы Пятра Харытонавіча былі запушчаны; назбіралася шмат папер, чарцяжоў, праектаў, якія чакалі яго згоды ці зацвярджэння. Гэта спачатку моцна сапсавала яму настрой, але ён быў чалавекам дзеяння і, не церпячы самага малога непарадку, з уласцівай яму сялянскай уедлівасцю ўзяўся за работу: патрабаваў пераробак дакументацыі, выклікаў на даклад падначаленых, дапытваў, ушчуваў, некага прасіў. Закруціла яго і панесла... А тут прыбавілася новая работа. Дырэктар інстытута паехаў у адпачынак, назначыў замест сябе Пятра Харытонавіча. Цяпер ён не ведаў ні сну, ні адпачынку, адбіўся ад дому, ад сям'і, часта забываў нават пра самае неабходнае: паесці гарачага, пагуляць у час абеду ў скверы, як гэта рабілі іншыя супрацоўнікі інстытута.

Усё радзей і радзей успамінаў Пятро Харытонавіч пра сваю маці.

Непаваротлівы і доўгі, як расцягнуты гармонік, «Ікарус» марудна поўз па вуліцы, спыняючыся каля

кожнага семафора,— быў час «пік». Людзей панапіхалася ў аўтобус багата, няможна было паварушыцца, прабіцца да дзвярэй, каб выйсці на прыпынку, і Пятро Харытонавіч дзе просьбаю, дзе сілаю, але ўсё ж вылузаўся з людской цеснаты да пярэдніх дзверцаў, стаў, ненарокам зірнуў у шафёрскую кабіну і ўвесь пагарачэў — за рулём сядзеў Язэп. Спачатку ў яго мільганула думка пакласці руку на Язэпава плячо, павітацца, але гэтага ён не зрабіў: было ад нечага сорамна і няёмка. Перасільваючы разгубленасць, што ахапіла яго, Пятро Харытонавіч выскачыў на першым прыпынку з аўтобуса і спыніўся, не ведаючы на першым часе, што з сабою рабіць. Не па-сяброўску выйшла — адразу, як прыехаў ад маці, не пазваніў Язэпу, каб сустрэцца. Кляўся ж яму... Сорам трохі адпусціў яго, калі ўспомніў, што і Язэп не зайшоў да яго ў інстытут. А прайшоў ужо другі месяц. І толькі цяпер пачало даходзіць да Пятра Харытонавіча, што ў гарадской мітусні, кожнадзённай рабоце, на якой выматваўся да знямогі, у сямейных клопатах не было калі падумаць не толькі пра Язэпа, але і пра сябе самога. І чым больш ён думаў пра даўняе дзіцячае сваё сяброўства з Язэпам, тым больш рабілася цяпер яно даражэйшым для яго, бо было яно нявыдуманым, цнатлівым, як першае каханне, і бескарыслівым, шчырым і горасным у тыя дзіцячыя нішчымныя гады. І калі думаў далей, да Пятра Харытонавіча прыходзіла думка: першае, амаль забытае пачуццё даўняга сяброўства так разгарэлася, усхвалявала іх, бо яно злілося са шчаслівым пачуццём радасці ад сустрэчы з роднай вёскай, дзе яны нарадзіліся, гадаваліся, адкуль пайшлі ў белы свет. І калі б яны сустрэліся тут, у горадзе, сустрэча гэтая, можа, не была б такая радасная для дваіх. Бо тут яны і не нагаварыліся б як след, спяшаліся б кожны да сваёй сям'і ці па сваёй справе — у горадзе заўсёды жывецца спешна. І на душу Пятра Харытонавіча находзіла боязь згубіць Язэпа, як згубіць любоў да роднай вёскі, да маці, да таго кутка, дзе нарадзіўся і вырас,— да рэчкі Убарці, на берагах якой густа стаяць старыя, з абымшэлымі рудымі карэннямі лазнякі, да туманаў, што ўлетку ліпнуць да яе вады і засцілаюць паплавы, да парных ліўняў і перуноў, ад якіх з трэскам раскалваецца, лопаецца напал неба.

Ён ішоў па вуліцы, глядзеў сабе пад ногі, а калі падняў галаву — у вітрыне магазіна яму кінуліся ў вочы буйныя сакавітыя яблыкі, налітыя яркім асеннім сонцам. Пятро Харытонавіч убачыў іх і ўспомніў маці. Як яна там? Ён не змог паехаць да яе ў верасні. А ўжо дзьмуў лістападаўскі вецер, апалі на тратуары з дрэў апошнія лісці, і ён не ведаў, ці пазбірала маці свае яблыкі ў садзе.

# Анюта

Вясна была з прымаразкамі, з халодным, празрыстым і звонкім, бы шкляным, паветрам па начах. Палеткі і лес стаміліся ад чакання цяпла. Раніцай лес абыякава сінеў удалечы, удзень трохі ачомваўся ад сну, і тады было відаць, як ходзяць у бакі, марудна расхістваюцца верхавіны дрэў, чуваць быў нават іх глухі пошум. І на палях, і на паплавах не пратыкалася з зямлі трава, вакол было сумна і гнятліва.

Медсястра Анюта Пяткевіч, дзяўчына з цёмнымі загадкавымі вачыма, таксама прытаілася і зацікла, быццам чакала нешта незвычайнае і патаемнае, што ўладарна ўварвецца ў яе жыццё і зменіць яго. Медпункт, дзе працавала Анюта пасля вучылішча, быў у маленькім дашчаным доміку на ўскраіне вёскі. Расчыненыя на ім насцеж аканіцы здалёку сінелі, як блакітныя канверты. Ганак з трыма прыступкамі быў маленькі, цесны. Анюта часта выходзіла на яго ў белым халаце і доўга глядзела з-пад далоні на лес з сумам і надзеяй — так глядзяць у неабдымнае туманнае мора, калі чакаюць белы параход і з ім вяртання некага на бераг.

Да Анюты рэдка прыходзілі прасіць дапамогі: у Зялёным Моху прывыклі не звяртаць увагі на лёгкія хваробы. А калі хто захварэў сур'ёзна, Анюта па тэлефоне выклікала з раёна «хуткую дапамогу» і адвозіла чалавека ў бальніцу. Але часцей за ўсё яна была адна, сумавала ад кожнадзённага адчування адзіноцтва. У такія дні або марыла на ганку, або чытала кнігі пра каханне. Да медыцыны яе зусім не цягнула. За год гэтая работа ёй так абрыдла, што калі б не Віктар Лабун, таемны яе каханы, Анюта даўно б кінула медыцыну. Кнігі ў яе былі самым моцным захапленнем... Калі чытала, дзіўна мянялася ў твары: blішчалі яе цёмныя вочы, у іх разрасталася парывістае святло... І ў доўгія дні марыла паступіць на філфак, каб студэнткай прачытаць усе кнігі на свеце, якія напісалі пісьменнікі... Бо тут, у вясковай бібліятэцы, цікавых кніг было мала і ўсе іх яна прачытала. З таго часу, як з палёў сагнала снег і паветра стала празрыстым, Анюта, не знаходзіла сабе месца і кінула чытаць: вось-вось з горада павінен быў прыехаць Віктар, яе сусед. Пяць гадоў ён вучыўся ў ін-

стытуце на агранома і вось, кажуць, узяў накіраванне ў свой калгас. Анюта ўсё паглядвала на шашу, што выходзіла з лесу. Па ёй час ад часу праскоквалі машыны, і сэрца яе балюча сціскалася, калі бачыла аўтобус, які спыняўся на павароце.

Прыехаў! Страх і радасць пранізвалі, здавалася, усё цела Анюты, і яна заплюшчвала вочы, баючыся ўбачыць Віктара. Аўтобус кранаўся. Анюта адкрывала вочы і ледзь не плакала ад роспачы, ад крыўды, што памылілася.

Затое першай у вёсцы заўважыла Анюта пачатак сапраўднай вясны. Дыхнула мяккім ветрам. Лес загаманіў пад праменнямі сонца, а ўвечары сабраліся хмары і хлынуў цёплы і шумлівы дождж.

Дождж... Вясенні дождж! Пабеглі, успульхірыліся ручаі. І ўсё раптам у адзін момант памаладзела, змянілася, ажыло... Раніцай няможна было пазнаць зямлю, якая парылася ад цяпла, і ўжо дзе-нідзе яе прашылі зялёныя ніткі травы. А потым, не вытрымаўшы поступу вясны, бярозы распусцілі лісце. Паветра напоўнілася хмельным духмяным водарам, і Анюта хадзіла ад яго як п'яная. І вось раніцай, калі ёй не спалася, яна пачула за акном першае кукаванне зязюлі.

— Ку-ку, ку-ку! — таямніча прабіваўся скрозь цішыню раніцы голас птушкі. У ім быў настойлівы заклік, жаданне жыць і радніцца вясне.

Анюта слухала птушку з нявытлумачаным хваляваннем у грудзях. Ёй захацелася апрануцца і пайсці на заклічны голас зязюлі. І яна апранулася і пайшла да зялёнай палоскі лесу, адкуль даносілася кукаванне то глухое, то сумнае, як далёкі плач, то шчаслівае і радаснае, як само жыццё. Пра што кукавала птушка, што яна гаварыла сваім голасам свету? Пра гэта не ведала, не думала Анюта, але нешта няўрымсліва клікала на гэты голас, як быццам ён клікаў толькі яе.

— Ку-ку, ку-ку, ку-ку! — плыла ёй насустрач песня вясны.

Зязюля сядзела на верхавіне бярозы. Скрозь густое лісце ледзь была відаць яе цёмна-шэрая спіна. Знізу пер'е ў птушкі было белае, з цёмнымі крапінкамі. Зязюля кукавала, растапырыўшы хвост, і ўздрыгвала ад напружання на тонкай галінцы. Яна прыляцела сюды, дамоў, з Афрыкі з цёплым ветрам. У першыя дні, па-

куль аблюбоўвала месца і прывыкала да яго, была маўклівай і засяроджанай. Толькі на трэці дзень яна ўспомніла пра сваю сяброўку, з якою ляцелі сюды з далёкай краіны, успомніла пра яе і заспявала, клічучы яе да сябе, з пяшчотным сумам.

Каб не спалохаць птушку, Анюта спынілася ў полі, каля бярозавага гаю. У ціхай забыўлівасці, у трапяткім імкненні ўведаць патаемнасць песні, яна доўга стаяла, слухала зязюлю. І раптам, калі птушка на момант замоўкла, зусім блізка ў світальнай цішы пачуўся глухі ўзбуджаны вокліч — быццам нехта рагатнуў. І над галавою Анюты пранёсся лёгкі пошапт крылляў — то прыляцела на песню другая зязюля. Птушкі... Птушкі жывуць інакш, чым людзі, яны шчаслівейшыя за іх...

Вось Віктар, калі прыязджаў на зімнія канікулы ў тым годзе, спачатку ў клуб на танцы вадзіў Анюту, а потым раптам перастаў запрашаць яе — пасябраваў раптам з даяркай Ленай. І цяпер, гавораць, піша ёй пісьмы. Каб спадабацца яму, Анюта яшчэ тры гады назад навучылася прыгожа апранацца, нават паступіла ў медыцынскае вучылішча: хацелася ёй не адставаць ад Віктара. Віктар, мабыць, і не ведае, што яна закончыла ўжо вучылішча. Як цяпер ён паглядзіць на яе, медсястру?

Зязюлі змоўклі. У гаі настоілася ціш. Над зямлёй узнімалася вялікае сонца. Сумна было Анюце стаяць тут адной, прыслухоўвацца да цішыні, глядзець на сонца. Сэрца сціснуў боль, памакрэлі вочы.

Яна адчула на шчоках слёзы, здзівілася ім і сказала чамусьці:

— Чаму я сюды прыйшла? Як дзіўна!

Яна і не заўважыла, як на скрыжаванні дарог спыніўся аўтобус і з яго выйшаў Віктар, высокі, у шэрым пінжаку, з белым, пад колер бярозавай кары, чамаданам у руцэ. Пра яго прыезд Анюта даведалася толькі ўвечары ад бацькі.

— Чуеш, дачка,— сказаў ён.— Віктар прыехаў. Аграномам будзе тут.

Анюта разгубілася. Нічога не гаворачы, яна падышла да акна. З іх хаты быў добра відзён двор Лабуноў, агароджаны нізкім штыкетнікам. Нікога на двары цяпер не было. Яна гатова была зваліцца ад слабасці, якая ахапіла яе. Кружылася галава, моцна білася ў грудзях сэрца. Так моцна, што ёй здавалася: пачуе бацька.

— Пойдзем сёння ў госці да Лабуноў. Звалі. Апраніся хораша,— сказаў бацька.

Анюта кіўнула галавою, але не пачала апранацца, а ўсё стаяла ля акна, цярэбячы ў руках кончык фіранкі. Твар яе быў перапалоханы. Бацька даўно ведаў пра цяжкае каханне дачкі, але ніколі не гаварыў пра гэта, рабіў выгляд, што нічога не ведае. Перажыванні Анюты мучылі яго, і сёння ён вырашыў, што настаў час дапамагчы ёй, бо сама яна ніколі не асмеліцца пагаварыць з Віктарам. У бацькі быў свой, хітра прадуманы план.

Іван (так звалі бацьку Анюты) ва ўсім любіў парадак. І ў тым, што яго дачка, ладная на выгляд, вось ужо шмат гадоў кахае без узаемнасці суседа, ён бачыў вялікі душэўны непарадак. Ён меркаваў, што жыць далей так нельга. «Нядобра так,— думаў сам сабе Іван.— Грэх мучыцца з-за кахання. Любяць цябе — і ты любі, а не — забывай... Нашто дарма мучыцца... Сэрца павінна быць разумным».

Пяць гадоў жыве адзін з дачкою пасля смерці жонкі. Жыве ціха, спакойна. У калгасе ён цесля. Часам падрабляе і на старане: робіць людзям рамы, насцілае падлогі ў новых дамах. І ўсё робіць грунтоўна, талкова. За гэта і паважаюць яго ўсе ў вёсцы. «Чалавек сур'ёзны,— казалі пра яго.— Не халтуршчык, не бракароб. Душа радуецца, калі глядзіш на яго работу. Майстар!»

Іван быў сур'ёзны чалавек. Ён рэдка ўсміхаўся, мала гаварыў, больш маўчаў, пакручваў сівыя свае вусы. А калі што скажа, то заўсёды па справе. Слова да слова ў яго кладзецца цесна. Пры ім і другія чамусьці стараліся гаварыць паталкавей і паменей. Адчувалася ў ім нейкая ўлада, яна міжволі падпарадкоўвала субяседнікаў. Нягледзячы на свае пяцьдзесят гадоў, з выгляду Іван быў моцны дзяцюк, плечы як прасценкі, на далонях жоўтыя цвёрдыя мазалі.

Збіраліся ў госці моўчкі, дачка — з сарамлівасцю і хваляваннем, з чаканнем нечага асаблівага для яе, бацька — з заклапочанасцю. Анюта апранула белую сукенку, пафарбавала губы, абула чорныя туфлі, бліскучыя, як антрацыт, і для смеласці пакруцілася перад люстэркам. Дыхаць ёй было цяжка, шчымела ў грудзях, пякло ў твар.

Яны прыйшлі да Лабуноў, калі сіні паўзмрок разліўся па зямлі. У чорным касцюме пры гальштуку Іван

выглядаў салідна і быў падобны на нейкага начальніка. Паважна павітаўся з гаспадыняй, суседкай Маланняй, паціснуў руку Віктару і, паляпаўшы яго па плячы, сеў на табурэт.

Маланння заўсёды радавалася, калі ў яе хату заходзіў Іван, паважала яго. Маланнін чалавек памёр адразу пасля вайны ад ран, і яна жыве адна. Анюта, калі ўбачыла Віктара, ледзь не самлела ад хвалявання. Белакуры яго чуб віўся хвалямі, блакітныя вочы з-пад броваў глядзелі пільна і ўважліва. Яна зусім разгубілася ад яго позірку і села на табурэт побач з бацькам.

— Анюта! — здзівіўся Віктар.— Добры дзень! Ты сёння як каралева!

Яна апусціла долу вочы, нічога не сказала, толькі яшчэ больш зачырванелася.

Бацька сказаў:

— Яна добра апранаецца. Модніца! У яе адных сукенак штук васемнаццаць. І туфель выхадных аж сем. А кофтачак і не злічыць... І ўсё дарагое. Добра жывём. Ёсць у што і адзецца і абуцца...

— Багатая некаму будзе нявестка! — загаварыла Маланння, з павагай паглядваючы на яго густыя вусы. Ёй быў даспадобы Іван. Маланння перад ім бегала сюдытуды, заглядвала ў вочы.

— Выдаваць замуж не спяшаюся,— адказаў ён.— Жаніхі цяпер пайшлі ненадзейныя. За абы-каго Анюта і не пойдзе. Яна ў мяне вучоная і сур'ёзная.

Анюта саромелася, але патроху смялела, падняла на Віктара свае цёмныя вочы, якія свяціліся ад шчасця і трывогі, і амаль шэптам спытала:

— Ты ў нас будзеш працаваць?

— Ага. Я, Анюта, па нашай зямлі засумаваў у горадзе. Там яе ў сне бачыў. У інтэрнаце лягу на ложак, заплюшчу вочы і бачу: поплаў, за ім лес, палеткі. Такі на сэрца нахлыне сум, хоць плач.— Віктар глянуў на яе і ўсміхнуўся.— Аднойчы ты прыснілася. Бяжыш па поплаве, мне махаеш рукою і нешта крычыш. А што — не пачуў у сне.

— Цікава,— прамовіла Анюта, адчуваючы ў грудзях прыліў вострага і радаснага пачуцця.

Гаспадыня наліла ў шклянкі гарэлкі і сказала, каб выпілі ўсе за Віктара, за яго вяртанне дамоў.

— Што ж, можна і выпіць,— Іван прынюхаўся да

лусты хлеба.— Людзі мы цвярозыя, розуму не прап'ём, як некаторыя.

Адным махам ён перакуліў у рот кілішак, кракатануў і закусіў гурком.

— З укропам саліла? — пацікавіўся Іван.— Пругкія...

Малання села каля Івана, задумліва падперла рукою падбародак, уздыхнула:

— Дзеці ў нас ужо дарослыя. Не заўважылі, як і выраслі. Хутка пажэнім і застанёмся адны. Не баішся, Іван, што застанешся зноў адзін? Можа, жаніцца збіраешся?

— Куды мне жаніцца? Стары ўжо. Ды і возьмеш чужога чалавека ў хату, гора не абярэшся... Стане яшчэ церабіць душу... Не, дажыву я свой век адзін..

— Канешне,— з сумам у голасе сказала Малання.

Іх словы не затрымліваліся ў галаве, слізгалі міма ўвагі Анюты. Яна не зводзіла вачэй з Віктара. Віктар гаварыў мала, сядзеў за сталом, разамлелы ад чаркі, дамашняга цяпла, і пазіраў на гасцей. Ён думаў пра нешта сваё.

Іван выпіў яшчэ адзін кілішак і вырашыў выведаць у Віктара пра яго жыццёвыя намеры.

— Ты чалавек цяпер відны. Аграном! Зямлю прымусіш даваць вялікія ўраджаі, на сходах будзеш выступаць. Ну, а з асабістым жыццём як? З навукай, браце, у абдымках па вуліцы не пройдзеш. Наглядзеў, можа, дзе сабе нявесту?

— Ёсць у мяне адна на прыкмеце,— прызнаўся Віктар і зірнуў на Анюту.— Мне яна падабаецца.

— З нашай вёскі?

— З нашай.

І зноў зірнуў на Аню. Тая сядзела ні жывая, ні мёртвая.

— Гэта добра. Нашто ў лес везці дровы... Так я кажу? У нас сваіх дзяўчат хапае, толькі выбірай. І граматныя ёсць: медыкі, настаўнікі... Вось і мая Анюта дыплом мае...— Трывога за дачку не давала яму спакою, і ён ціхім голасам гаварыў Віктару: — Граматныя людзі любяць акуратнасць, чысціню. А вазьмі ты, скажам, даярку... Які з яе толк? Інцялегент уцячэ ад яе.

Анюта ад сораму аж гарэла ў твары. Віктар слухаў старога і загадкава ўсміхаўся. Гэтая ўсмешка выводзіла з сябе Івана.

Гаспадыня адчула, што размова ідзе не ў той бок, куды трэба, і ласкава абазвалася:

— А ну іх, Іван. Яны цяпер жывуць сваім розумам... Нас не вельмі слухаюцца... Нам трэба, суседзе, пра сябе думаць. Як будзем, старыя, жыць далей?

Іван не паспеў адказаць — у хату ўвайшла Лена.

Віктар адразу перамяніўся, калі яе ўбачыў, выскачыў насустрач ёй з-за стала, узяў за руку і сказаў, звяртаючыся да маці:

— Прабач, мы трохі пагуляем.

І зірнуў на Івана:

— Не сумуйце без нас. Мы хутка вернемся.

Віктар з Ленай выбеглі за парог. У хаце стала ціха. У вачах Анюты пачалі нагортвацца слёзы. Іван падняўся з табурэта і пачаў развітвацца.

— Пачакалі б,— прасіла іх Маланння.— Яшчэ б выпілі...

— Нельга,— сказаў Іван.

— Заходзьце яшчэ, не забывайце.

— Зойдзем. Суседзі ж.

Балюча на душы стала Івану, быццам яго абсарамацілі перад усімі людзьмі. Ён ішоў па цёмнай вуліцы. Перад сваім дваром ён пачуў, што ззаду плача Аня. Іван бездапаможна паглядзеў у цемень.

— Татка, родненькі!.. Чаго мы да іх хадзілі?

— Не плач.... Усё пройдзе, забудзецца...

— Паеду я адсюль. Паеду!

— Куды?

— Не ведаю. Кіну ўсё і паеду.

— Ты, Анюта, напрасна так гаворыш...

Іван пацісну́ў плячыма і павярнуўся тварам да лесу, што цямнеў на ўзгорку. Над ім нізка вісела зеленаватая зорка, пасылаючы на зямлю мігуткае святло. І раптам адтуль, ад самай, здавалася, зоркі, данёсся да іх голас зязюлі. Анюта ўздрыгнула і стаілася. Па голасу яна пазнала, што гэта была не тая зязюля, што спявала раніцай, а другая, якая не знайшла сабе пару. Але птушка верыла ў сваю ўдачу. У яе кукаванні было столькі настойлівасці і імкнення да шчасця, што Анюта ў песні зязюлі адчула водгалас свайго болю і яшчэ не патухлай надзеі. Нешта блізіла яе з гэтай птушкай. Яна прыслухалася і нечакана для самой сябе ўсміхнулася ў цемень.

# Петрык

У пограбе было так багата мышэй, што яны бесперастанку шамацелі ў саломе, шкрабліся ў зямлі. І зусім зрабіліся свойскімі, ручнымі, запаўзалі Петрыку на калені, і дзіця часта гуляла з імі. Хлопчык зляпіў ім з гліны столік, кубачкі, з якіх частаваў мышэй крошкамі хлеба.

Ужо каля двух гадоў прасядзеў ён у пограбе з дзедам Нупрэем. Дзед рэдка калі размаўляў з ім. Не было яго ў пограбе па некалькі дзён — ганяў староста на работу,— а калі прыходзіў, глядзеў на Петрыка і цяжка ўздыхаў. Па начах усё вохкаў, а калі падымаўся па лесвіцы з пограба, здавалася, вось-вось упадзе — так дрыжалі ў яго ногі.

— Відаць, хутка я памру,— сказаў ён аднойчы ўнуку.— І як ты, Петрык, будзеш жыць без мяне?!

— А ты не памірай! Вось татка прыедзе з вайны, мамка прыйдзе,— сказала дзіця.

І потым доўга, здушана плакала.

Рэдка калі Петрык вылазіў з пограба на святло. Там, на сонцы, нічога не было, акрамя страху. На дзвюх самых вялікіх бярозах сярод вёскі ўвесь час віселі дзве вяроўкі з петлямі на канцы. На іх фашысты павесілі дзеда Пракопа, каб не расказваў дзецям казак пра разбойнікаў, задушылі настаўніцу Ніну Іванаўну. З тых бяроз даўно паляцелі, пакідалі свае гнёзды гракі. А вяроўкі ўсё віселі і віселі. Да ўсяго гэтага дзіця вельмі ж баялася салдат у зялёнай вопратцы. Калі ўбачыць іх, хаваецца за дзеда і плача. Баіцца з той пары, калі яны спалілі хату, забралі маці і павялі яе некуды далёкадалёка. І яна яшчэ ўсё не вярнулася, хоць і праходзіць другая зіма, і ўжо шэсць гадоў зраўнялася Петрыку. Даўно няма і бацькі.

— Ты зрабі шпакоўню,— папрасіў Петрык у дзеда.— Можа, прыляцяць шпакі і да нас.

— А дзе ж мы паставім яе?

— На яблыні.

— Яна ж уся абгарэла, аблупілася. Не захочуць жыць шпакі на такім дрэве, Петрык.

— Ты зрабі. Можа, прыляцяць яны... Можа, будуць жыць.

Амаль засохлая старая яблыня стаяла непадалёку ад пограба, і дзед, ацерабіўшы гарэлыя сукі, прыбіў на ёй шпакоўню.

Хутка раставаў снег, звінелі ручаі, цішэлі толькі ноччу, калі іх прыхоплівалі замаразкі. Але Петрык па-ранейшаму не вылазіў з пограба. На сонцы ў яго да слёз балелі вочы, кружылася галава, хвалямі хадзіла пад ім зямля. А яму вельмі хацелася пускаць па ручаях караблікі. Ён загадзя намайстраваў іх, хай бы яны плылі далёка-далёка ў той бок, дзе не вісяць на бярозах вяроўкі. Можа, хоць бы адзін прыплыў бы і туды, куды павялі маці, і яна абавязкова пазнала б яго караблік.

Ён змог пусціць толькі адзін і доўга ў сваёй вялікай ватоўцы бег за ім і раптам неяк адразу ўпаў у духатлівую цемень і згубіўся ў ёй. І ніяк не памятаў пасля, як знайшоў яго дзед і як прынёс назад у пограб.

— Зусім абвяў ты, Петрык! І мяне сілы пакідаюць,— схіліўся над унукам, калі ён ачуняў, і гаварыў дзед, гладзячы хлопчыка па галаве.— Няможна ўцякці нам у лес — ні хлеба, ні здароўя, ні абутку, ні вопраткі.— І раптам сціснуў, нібы аглушаны, дрыжлівымі рукамі галаву, пачаў праклінаць сябе за тое, што не падаўся з вёскі ў тыя дні, калі падходзіла вайна: не хапіла духу пакінуць дом, гаспадарку.— Божа мой, божа!

І больш Петрык не чуў, каб дзед успамінаў бога.

А вясеннія дні прыгажэлі ўсё больш і больш, на прагалінах ужо адтала зямля, чулася пахучае дыханне адпаранага сонцам перагною. Вось-вось павінны былі прылецець шпакі. Чакаючы іх, дзіця з трывогай глядзела на абсмаленую, заўсёды панылую яблыню. Ці захочуць шпакі жыць на такім дрэве?

Яму прыснілася, што ён сам стаў шпаком, хуткім і лоўкім. Ад моцнай радасці ўзляцеў ён пад самае сонца, і ніхто, нават самы люты вораг, не мог спыніць яго. І ніяк не балелі больш вочы ў яго ад сонца! Адтуль, з вышыні, ён адразу ўбачыў маці і бацьку сярод вялікага шырокага саду і ўвесь гэты сад — у кветках, у спелых, чырвоных яблыках. «Тут няма фашыстаў. Ляці, ляці хутчэй да нас! Мы так засумавалі па табе!» — пачуў ён голас маці. І ў яго, быццам стрэлы, запелі крылы, захлынула дыханне, замерла сонца — з такім імпэтам ён кінуўся да маці і бацькі. І вось ужо зусім блізка падляцеў да іх, убачыў нават іхнія вочы, радасна ўзнятыя

3 Зак. 935

рукі. «Зараз, зараз я,— сказаў ён.— Па дзядулю толькі злётаю. Ён такі слабенькі стаў».

І, калі прачнуўся, усё яшчэ адчуваў на сабе крылы, трымклівую радасць палёту і доўга не верыў сабе, што зноў ён у тым жа чорным пограбе і перад ім усё тыя ж мокрыя, слізкія сцены з тоўстых плашак, усё гэтак жа глядзяць на яго пахмура з-пад лесвіцы чорныя вочы — мышыныя норы.

— Нічога, Петрык! Вясна прыйшла! — ласкава сказаў яму дзед.— Мне б паставіць цябе на ногі... А там...

Перад світаннем, а то і ноччу, калі не было ветру, стары заўсёды вылазіў з пограба на двор і лажыўся на шэрую трухлявую салому. Усё прыслухоўваўся да нечага. Дзіця вырашыла: дзед прыдумаў, чым прыманіць шпакоў, каб яны засталіся жыць на абгарэлай яблыні, і таму выходзіць іх чакаць.

Раптам Петрык пачуў над пограбам цяжкія крокі, у пралазе прамільгнуў і спыніўся нечы цень. Ён падняў галаву і ўбачыў перад сабою бліскучыя хромавыя боты. Яны стаялі на святле, пакалыхваліся, і нехта раз-пораз ляпаў дубцом па халявах — забаўляўся.

Хлопчык пачуў нечы чужы хрыплы голас:

— Гнііеш у гэтай яме і ўнука гноіш... Паедзеш у Германію. Там будзеш накормлены і дагледжаны. З панамі жыцьмеш.

Гэта, здагадаўся ён, гаварыў стараста. І пасцёбваў дубцом па сваіх хромавых ботах.

— Пэўне, праўду ты кажаш, начальнік. Сіла ў мяне яшчэ ёсць. Хлеб у паноў дарма есці не буду. І ўнука пракармлю. Хлапчанё хоць акрыяе.

Петрык, калі ўбачыў, што дзед узяў з рук старасты паперу, ускочыў з саломы і, блытаючыся ў доўгай ватоўцы, як несваім голасам закрычаў:

— Не трэба, дзедку! Не трэба.

— Малое, неразумнае яшчэ дзіця. Што з яго возьмеш? — сказаў дзед Нупрэй і паспешліва распісаўся ў паперы.— Толькі ў запрошлы тыдзень мінула шэсць годзікаў.

— А ну, які ён з сябе, унук твой? Пакажы! Выцягні яго з пограба на божы свет.

Петрык сам вылез.

Ён стаяў тварам да старасты: жоўта-сіні, згроблены, змучаны доўгім цяжкім голадам, у лапціках на бо-

сую нагу, у падранай мокрай ватоўцы, якая даставала хлапчаняці да пят. Здавалася, нельга было б знайсці, сустрэць чалавека, у якога не здушылася б сэрца ледзяным холадам і пранізлівым болем, калі б ён убачыў Петрыка.

— Не хочаш у Германію? — узяў яго за падбародак староста.— Не хочаш?

— Не,— адказаў шэптам Петрык.— Не хачу.

— Апомніся, унучак! — дзед сіліўся ўцешыць, заспакоіць дзіця.— Дзіўны ты нейкі! Хіба табе ў пограбе добра? Мо памерці хочаш?

— Нікуды не паеду. Не едзь, дзедку і ты. Мамка прыйдзе і будзе шукаць нас. І татка.

Твар дзіцяці на момант асвяціла цёплая ўсмешка. Ледзь чутна ён зноў прашаптаў пра маці і бацьку і, знясілены, упаў на зямлю.

— Ну, мы паклапоцімся пра яго,— буркнуў староста і ціхаю хадою пайшоў ад пограба.

— Па харчы на дарогу калі можна прыйсці? — аклікнуў яго стары Нупрэй, падняў з зямлі ўнука і пачаў выціраць ад гразі яго твар.— Падсілкавацца трэба на дарогу. Доўгая ж дарога чакае.

— Прыходзь пазней.

— Ледзь-ледзь, Петрык, ты не сапсаваў мне ўсю абедню. І сябе загубіў бы, і мяне,— журыў ласкава дзед унука, калі староста адышоў.— Цяпер будзе ў нас яда. Будзе!

— Еш яе адзін. Я не пайду з табою.

— А ў лес пойдзеш?

— Пайду,— падняло дзіцяня вочы на старога.— Ты праўду кажаш? У лесе нам лепей будзе. Пойдзем у лес!

— Без харчоў — ні нагою. Памрэм там з голаду. За іх і распісаўся ў старасты, прыняў на душу грэх,— усхвалявана гаварыў Нупрэй, нібы апраўдваўся перад малым.— І адмовіцца нельга было ў адкрытую... Павесілі б нас... Не аставілі б на белым свеце. А цяпер усё будзе добра. Гром, які чулі з табою ноччу, не гром быў. Гэта нашыя ідуць... Ты пакуль маўчы, Петрык, нікому не кажы. Паляжы, адпачні, а потым паціху збірайся. Аборкі да лапцікаў прыладзь, саломкай свежай высцялі іх, каб мякчэй было ісці. Дзяружку згарні, возьмем з сабою. Больш няма ж чаго нам браць. А я зараз за харчамі схаджу. Хутка вярнуся...

Дзіця ледзь пераводзіла дыханне ад шчасця. Значыцца, не будуць яны больш у пограбе, а будуць жыць у вольным лесе. Можа, прывыкнуць да сонца вочы.

Ляніва шаптаўся са старой абпаленай яблыняй вецер. Выпінаўся, усходзіў за лесам месяц. Ён здаўся Петрыку вельмі родным і цёплым, як сонца. Хлапчаня часта высоўвалася з пограба паслухаць, ці ідзе дзед. Ён ужо ўсё зрабіў: і саломы свежай паклаў у лапцікі, і аборкі да іх прыладзіў, перашыў нават гаплік на штанах, каб яны не спадалі. А потым накрышыў у кубачкі хлеба мышам.

Дзядулі нешта доўга не было. Ужо падняўся высока месяц і сваім вялікім святлом засланіў усе зоркі. Ён ужо больш не здаваўся Петрыку цёплым, як сонца. Дзе дзед?

Згорбіўшыся ад холаду, хлапчаня доўга сядзела пад яблыняй, не адрывала вачэй ад дарогі, дзе жыў стараста. І вось ён пачуў раптам прыглушаную, насцярожаную гамонку, якая данеслася адтуль, ад дзвюх бяроз з вяроўкамі, потым нехта там закрычаў ад вялікага страху. І зноў стала ціха.

Не разбіраючы ні луж, ні канаў, дзіця кінулася з усіх ног да бяроз.

Яму стала нясцерпна горача ў роце, гарачымі здаваліся і паветра, і вада ў лужах, і зямля.

І вось ён убачыў двух чалавек на тых самых вяроўках, што заўсёды віселі на бярозах. Абое вельмі выцягнуліся, але да зямлі не даставалі. Абое ў ботах былі. А дзед насіў толькі лапці, цьмяна здагадалася дзіця. Значыцца, сярод іх няма дзеда. Ніхто ж не будзе перад смерцю абуваць яго ў боты. Баючыся, што яму толькі здаліся гэтыя боты, ён падбег бліжэй да бяроз і тут убачыў — віселі стараста і фашыст і ў старасты на грудзях была прышпілена папера, тая самая, на якой перад вечарам распісаўся дзед.

Нехта з мяшком за плячыма і з сякерай за поясам выйшаў з школы і пайшоў у лес. За ім падаліся яшчэ чатырох. Адзін — з ружжом. Яны хутка зніклі, і ў вёсцы зноў стала ціха, як у пограбе.

— Дзеду! — адчайна загаласіў Петрык.

— Не плач! Ён у школе, запасы старасты разбірае з дзядзькамі,— блізка абазвалася бабуля. Абапіраючыся на кульбаку, з клуначкам у руцэ, яна выйшла з цёмнай вуліцы, са школы выйшла яшчэ некалькі чалавек.

Сярод іх быў і дзед. Вялікім, высокім ён здаўся Петрыку, ніяк не горбіўся пад мехам.

— Забавіўся я, Петрык,— вінавата сказаў ён.— Прыйшоў, а старасту ўжо схапілі дзядзькі. Мяне суддзёю прызначылі. Судзілі ворагаў... Бяжы хутчэй у пограб, вазьмі дзяружку і даганяй мяне...

Два дні і дзве ночы ішлі людзі па лесе. Вялізныя елкі і хвоі трымалі пад сабою халаднаватую цемень, калодзежы паўзмрок. У гэтым паўзмроку зусім добра было Петрыку, не балелі вочы, няўтольна, соладка дыхалася.

— Вось мы і на волі, Петрык.

І дзіцяці здавалася, што дзеду вельмі хочацца зняць шапку і пакланіцца кожнаму дрэву, кожнаму кусціку, усім птушкам і хмурынкам.

— Цяпер мы аддыхаемся, Петрык. Ніхто, унучак, цяпер нас не загоніць у яму. Цяпер не будуць балець твае вочы ад сонца.

— Вось каб мамка з таткам хутчэй прыйшлі.

На гэтыя словы нічога не адказаў дзед Нупрэй дзіцяці. Сказаць, што яго маці ніколі не прыйдзе да яго, ён ніяк не мог, не хапала смеласці. Не ведаў ён, ці вернецца да сына і бацька.

Канца вайны яшчэ не было відаць.

# Вераснёўскай раніцай

Ён прачнуўся раптоўна, бы ад нейкага рэзкага штуршка. Сэрца білася няроўна, яго глухія ўдары цяжка аддаваліся ў грудзях. Разам з прабуджанай памяццю ажыла і звыклая трывога: «Як там? Ці ўсё добра? Ці не памыліўся я дзе-небудзь?»

Вось ужо васемнаццаць гадоў жыве ён у кожнадзённым напружанні, бы «вечны» студэнт, які здае, здае з дня ў дзень самы свой цяжкі экзамен. Такая ў яго работа. Ён ніколі не можа дазволіць сабе расслабіцца, цалкам адключыцца, ні пра што не думаць. Ён — журналіст. І тут ужо нікуды не ўцячэш ад сябе, ад усвядомленасці сваёй адказнасці за ўсё тое, што робіцца вакол, за тое, што кожнае яго слова было праўдай і толькі праўдай.

Тут, канешне, справа ў яго неспакойным характары, у нейкім празмер абвостраным самалюбстве. За апошнія гады ў рэдакцыі нямала з'явілася самаўпэўненых маладых людзей, якія глядзелі на яго звысоку, з крыўднай паблажлівасцю — маўляў, стары калісьці нешта і быў варты, ды даўно спісаўся: ні навізны вобразаў, ні вострыні адзнак. А якая ж гэта старасць — сорак гадоў? Проста прыйшла строгая, скупая на словы сталасць, і яму цяпер зрабілася прыкрай тая заліхвацкая лёгкасць у адзнаках, якая звычайна належыць маладым. Ён гэта цудоўна разумеў, і ўсё ж, сутыкаючыся кожны раз з такімі адносінамі, вельмі перажываў і губіў веру ў сябе.

А дома таксама не было як адпачыць сэрцу. Жонка, кожны раз заклапочаная, дзе б што дастаць — ад пальто джэрсі да замежнага мыйнага парашку,— лічыла, што яе муж працуе далёка не на поўную сілу, што рэдка з'яўляюцца ў газеце яго артыкулы і робіць ён гэта з таемнай думкай дапячы ёй, знізіць яе «матэрыяльныя запросы». Сын, хлапчук наогул разумны, пакуль таксама прыносіць больш клопатаў і трывог, чым радасці. Як ён там цяпер без бацькоўскага нагляду? Хопіць! Будзем спадзявацца, што нічога страшнага не здарыцца і наогул — свет не перавернецца. Урэшце рэшт мае ж ён хоць якое-небудзь права адпачыць па-чалавечы. Галоўнае, ні пра што не думаць, ні пра што! — зрабіцца спакойным, лёгкім, як немаўля. Уперадзе ж цэлы месяц,

ці ж гэта жарт, цэлых трыццаць дзён поўнай свабоды. І не трэба брацца за пяро, мучыцца ў пошуках слова. Не трэба ламаць галаву над заблытанай справай, ад якой даўно адмахнуліся юрысты, спрачацца з рэдактарам, адстойваць свой пункт гледжання або, сцяўшыся ад вытрымкі, выслухоўваць папрокі жонкі.

Адпачываць! Толькі адпачываць!

Вось ужо і сэрца пацішэла, б'ецца лёгка і нячутна. Таму што няма ніякіх прычын для трывогі. Усё-такі здорава, што яго занесла з Мінска сюды да гэтых соснаў, да гэтага возера, што цьмяна паблісквае ў тумане, да гэтай першароднай цішыні. Летам, гавораць, тут шмат дачнікаў. А цяпер дачы пустыя, бы вымершыя. Ніхто і нішто не парушае яго жаданай адзіноты. Як добра ляжаць вось так, быццам раствораны ў цьмяным святле світання, адчуваць, што ты належыш толькі самому сабе і гэтай заспакаяльнай цішыні. Ён працягнуў руку і намацаў на тумбачцы гадзіннік. Прыгледзеўся — шэсць гадзін. Праз чатыры гадзіны будзе бегаць па кабінетах сакратар рэдакцыі Алесь Іванавіч, бліскаючы на сонцы чысценькай лысінай, і ўскідваць да рэдакцыйнай задымленай столі маленькія пухлыя рукі; нехта — моцна крычаць у тэлефонную трубку; нехта — лаяцца з машыністкай; нехта — расказваць анекдот. І сонечныя промні з цяжкасцю будуць прабівацца праз шызыя воблакі тытунёвага дыму. І нехта сярод гэтага буднага рэдакцыйнага тлуму будзе ўпарта страчыць за старонкай старонку.

Потым адчыняцца дзверы рэдактарскага кабінета, і САМ — высокі прадстаўнічы мужчына з сівізною і сакаліным профілем — пойдзе ў свой кожнадзённы абход сваіх уладанняў — акт урачысты і шматзначны. У гэты момант галоўнае — злавіць настрой шэфа. А цікава, у якім ён там цяпер настроі?

Цікава? Не вельмі! Сёння яму зусім няма ніякіх спраў да нечых там настрояў! Так! Здаецца, ідзе дождж? Выдатна! Не кожны дзень выпадае чалавеку шчасце пахадзіць па лесе пад такім цудоўным дажджом, тым больш што ён не паспеў яшчэ нідзе пабыць. Апрануўся ён хутка, па-маладому хвалюючыся і спяшаючыся, быццам ішоў на спатканне. Ён расчыніў дзверы дома адпачынку і апынуўся сярод прахалоды, цішыні і шапацення. Дажджавых струменьчыкаў не было відаць, толькі з неба да зямлі было ўсё заткана вакол празрыстай дым-

чатай марляй. Нерухома стаялі ў сырым покрыве велічныя хвоі. Ранішняя свежасць прагнала дрымоту. Ён ішоў па бязмоўным пасёлку ўніз, туды, дзе паўз возера рос сасновы лес. І трошкі страшнавата было зрабіць першы крок з цвёрдай пясчанай дарожкі ў яго цёмную глыбіню. Пад нагамі ўздрыгвала і ўгіналася балотная глеба, перарэзаная ўздоўж і ўпоперак канавамі. У іх нерухома стаяла цёмная вада. Высока ўгору выносіліся цяжкія шапкі хвой, у зарасніках кустоў хаваліся густыя цені. І толькі ярка свяціліся ў лясным паўзмроку белыя ствалы бяроз. Ён чуў, што тутэйшыя месцы багатыя грыбамі, і таму цяпер з пільнай увагай глядзеў сабе пад ногі.

...Такімі ж шэрымі ранкамі любіў хадзіць па лесе яго бацька. І якое гэта было шчасце, калі яму, хлапчуку, здаралася ўпрасіць бацьку ўзяць яго з сабою. Яны крочылі па мокрым поплаве, мясілі гразь палявых дарог сярод жоўтага жыта, ступалі па гліністых сцежках, а калі заходзілі ў лес, слухалі, як лянiва шапацеў дождж у густым лісці, і бацька, звычайна заняты і маўклівы, як быццам мяняўся і дзяліўся з сынам вядомымі толькі яму аднаму патаемныміляснымі сакрэтамі. Гэтыя амаль забытыя адчуванні, што ляжалі доўгія гады недзе ў самым далёкім кутку яго памяці, цяпер раптам ажылі з сілаю і яснасцю першага ўражання.

Нарэшце! Сярод ярка-зялёнага, як быццам падсвечанага знутры моху вогненна чырванелі шапкі сыраежак, краснагаловікаў. Яго ахапіў сапраўдны азарт грыбніка. Ён пераскокваў з купіны на купіну, пралазіў праз кусты. У яго чаравіках хліпала вада, халодныя кроплі падалі з дрэў за каўнер, але ён нічога не заўважаў, радаваўся, як дзіця, кожнаму казляку. І раптам рэзкі боль у назе. Ён нагнуўся і ўбачыў на траве кавалак калючага ржавага дроту. Такі ён не раз бачыў на высачэзных дашчаных платах некаторых дач. Ёсць жа людзі! З дзяцінства ён памятае ворага хлапчукоў крывога Антона, суседа, які ўтыкаў у агароджу свайго саду вострае бітае шкло. Зараз гэта было недарэчна — і гэтыя неспакойныя думкі пра чалавечае зло, і гэты руды кавалак дроту. Ён адкінуў дрот далей, у цёмную глыбіню балота, і пастараўся забыць пра яго.

...Лес рабіўся гусцейшым, і ў прыціхлым шамаценні

дажджу, бязлюддзі было ўжо нешта пужлівае. І ён адчуў салодкі халадок даўно забытага дзіцячага страху.

Сярод прывялай травы ён убачыў ледзь прыкметную сцяжынку. Што ж, ён пойдзе туды, куды яна яго завядзе. Сцяжына абагнула таўстастволую елку, падобную на вялізную руку, якая сутаргава ўчапілася ў зямлю пяццю карэннямі-пальцамі, і ўзбегла на ўзгорак. Тут усё было другое: калматыя елкі засталіся ззаду, сярод балота, ногі ўпэўнена ўжо ступалі па цвёрдай пясчанай глебе, і такая была вакол яснасць, шырыня і прастор. Ля ног лёгкімі ружовымі хмаркамі слаўся дробны верас. Тут трэба быць пільным — у ім заўсёды хаваюцца баравікі.

...Ён пераскочыў глыбокую, з абсыпанымі краямі канаву. Паўз яе разбеглася чародка маладзенькіх лісічак. Часта траплялiся крохкія, быццам з фарфору, зялёныя сыраежкі, ліпкія рудыя маслякі. Празрысты пакет ад яго новай нейлонавай сарочкі, прыхоплены на ўсякі выпадак, быў ужо напоўнены. Падумалася — і нашто яму гэтыя грыбы? Між іншым, можна аддаць дзяўчатам на кухню, няхай засмажаць. Дый гэта не так важна! Проста яму зараз вельмі добра, так добра, як ужо не было даўно. Дождж прайшоў. Выглянула сонца, але сарамліва яшчэ хавалася за перасталай марляй туману. Тук-тук-тук — дзесьці застукаў вясёлы дрывасек-дзяцел.

— Прывітанне, сонца! Дзякуй табе, лес!

Прысадзісты, камлюкаваты баравік рос у самым цэнтры невялічкай круглай ямкі. Цёмна-каштанавая шапка яго была па-заліхвацку ссунута набок, тоўсты корань быў пераплецены тонкім, як павуціна, узорам. Ён залюбаваўся сваёй знаходкай і неяк між іншым падумаў: што гэта за дзіўныя такія ямы ды канавы, чаму іх тут так многа, хто накапаў іх і для чаго: мясцовыя жыхары, можа, бралі пясок для сваіх патрэб, а магчыма, тут капалі гліну... І ўжо ўладарная сіла азарту гатовая была задушыць, адмесці прэч гэтыя баязлівыя несфарміраваныя думкі...— і раптам, як бязлітасны ўдар, рэзкі зрух у памяці.

— Дурань! Які я дурань! — пачаў паўтараць ён, ахоплены сорамам.— Забыць! Такое забыць!

І не стала ціхай раніцы. Гулам напоўніўся ціхі хваёвы лес. Уздрыгнула ад цяжкага выбуху зямля. Запахла гарэлым, дымам зацягнула верас. Гэта ж франтавая зям-

ля! Дык вось куды ён прыехаў шукаць заспакаення і адпачынку ад сваіх будзённых мітуслівых клопатаў. А недзе, сярод вось такога ж ціхага лесу, ляжыць яго бацька, і нехта ходзіць над ім, легкадумна любуючыся жыццём і збіраючы грыбы. Ён паглядзеў вакол, і кожны стары акоп, кожная ямка ад выбуху стаялі перад яго вачыма, як горкі папрок, як жорсткі напамінак. І адчуў у грудзях зноў цяжкае, надрыўнае біццё сэрца, нямогла прыпаў плячом да магутнай хвоі.

Блізка пачуўся шолах. Ён азірнуўся. Перад ім, цікаўна паглядаючы на яго, стаяла бабулька, уся шэрая, з шэрым маршчыністым тварам.

— Апамятаўся,— сказала старая.— А я была падумала... Гэта твае,— яна кранула крывым маршчыністым пальцам пакет, што ляжаў каля яго ног.— Добрыя грыбкі! Дзе іх ты столькі назбіраў? — памаўчала, і ў яе сухім шапатлівым голасе пачулася нешта трывожнае.— Чаго так глядзіш, га?

— Чыё гэта ўсё? — ён паказаў на акопы.

— Як чыё? Нічыё...— Старая не разумела, што ён ад яе хацеў.

— Акопы...

— А-а... Знайшоў пра што ўспамінаць... Ужо столькі часу прайшло... Пачакай... Пачакай... Ды тут, здаецца, немцы стаялі. Нашыя вунь там, далей... Многа іх тут палягло...

— Каго?

— Усіх,— бабулька махнула рукою.— Сваіх мы збіралі, у брацкіх магілах хавалі. Ды і гэтых таксама закопвалі — трэба ж было некуды іх дзяваць. Глядзі, гэта ж у цябе баравік! Што значыць мець добрыя вочы.

Гэтая бабулька... Адкуль яна раптам узялася?

— А-а... грыбы! Бярыце, калі яны так спадабаліся...

— О-о! — узрадавалася старая.— Дзякуй! Вялікае дзякуй! А можа, я іх табе падсмажу?..

— Не. Мне нічога не трэба.

Схапіўшы пакет, бабулька схавалася ў лесе.

Дзіўная зморанасць авалодала ім. Ён лёг ніцма на вільготную зямлю, прыпаў гарачым ілбом да яе, дыхаў дарагімі з дзяцінства яе пахамі. Маўклівымі постацямі стаялі над ім хвоі, ні гуку, ні шолаху, і нават дзяцел перастаў стукаць. І сярод гэтай мёртвай цішыні вастрэй адчуваў у сэрцы ўзноўлены стары боль, тую прывыклую

трывожную напружанасць, што прыходзіць да чалавека разам са сталасцю і не пакідае ўжо яго да апошніх дзён. Няма адпачынку. Няма забыцця. І ніколі не зажывуць старыя раны.

Неба зусім аслабанілася ад хмар. Вераснёўскае сонца з апошняй шчодрасцю разлівалася вакол, запальвала маленькія ліхтарыкі ў кожнай кропельцы дажджу, напаўняла мяккім святлом далячынь, што віднелася між ствалоў хвой. І ўсё было гэтак жа бачна, адчувальна, рэальна, як і той аплыўшы, асыпаны, зарослы прагнай травой акоп, каля якога ён нядаўна ляжаў. Зямля дыхала глыбока і спакойна, уся аддавалася апошняму цяплу. Усё вакол было напоўнена нейкім асаблівым, таемным сэнсам, нейкай вышэйшай мудрасцю, зразумець якую ён натужна сіліўся і ўсё ніяк не мог... Што было ва ўсім гэтым — і ў суровых ваенных шрамах на целе зямлі, і ў прамаствольных хвоях, упартых у сваім імкненні ў вышыню, да святла, у гэтай зялёнай сонечнай цішыні? Абыякавасць? Усё! Зямля, што ляжала параненая перад ім, раскрылася ва ўсёй сваёй абнаўляючай душу прыгажосці і беспадзельнай шчодрасці і цяпер, як строгі, але добры настаўнік, умудроны сваім даўнінным вопытам быцця, давала яму ўрок. Ён перабіраў у памяці ўсе свае ўчынкі і думкі і, здзіўляючыся нікчэмнасці і дробязнасці іх, як самы справядлівы суддзя, выносіў сабе суровы прысуд. Нешта вялікае ўладарна ішло ў яго душу, ачышчала яе, быццам сама зямля аддавала яму частку сваёй сілы, сваёй мужнасці. І гэта была стрыманая, глыбока затоеная мужнасць. Мужнасць байца. І ён зразумеў, як самую звычайную ісціну, што мог бы памерці на гэтай святой і вечнай зямлі гэтак жа проста, як тыя салдаты, што палеглі некалі тут. І гэта было тое галоўнае, што змог ён адкрыць ціхай вераснёўскай раніцай у навакольным свеце і ў самім сабе.

# Сяргей, сын Антолі

1

Ён прыехаў аўтобусам у Мазыр і свае два вялізныя, як скрыні, чамаданы ледзь давалок да плошчы — там быў прыпынак таксі. Свабодных машын стаяла аж тры, і ён падышоў да той, што была на чарзе першай. Вадзіцель сядзеў за рулём і драмаў, звесіўшы галаву на грудзі, і Сяргей паставіў на зямлю чамаданы, пастукаў у ветравое шкло:

— Да Буды давязеш? Дваццаць кіламетраў.

Таксіст ачомаўся ад дрэму, адчыніў дзверку:

— Колькі даеш?

— Пяцьдзесят рублёў...

— Колькі? — не паверыў, што так многа хоча заплаціць яму пасажыр.

— Што, цяпер аддаць?

Таксіст выйшаў з машыны, глянуў на Сяргея, яго багатую вопратку, новенькія чамаданы, падумаў, што пасажыр не жартуе з цаною, і сказаў:

— Ды не, и так. Сядай.

Увапхнулі ўдвух у багажнік чамаданы, селі і паехалі.

Горад застаўся ззаду, машына ішла мякка, падрыгвала толькі на выбоінах, і пад яе колы раскручвалася навошчаная гудронам шаша, што праразала сабою глухі і глыбокі лес. За акном таксі прамільгвалі, адляталі назад роўныя хлёсткія бярэзнікі, і калі Сяргей глядзеў на іх, зажмурваўся — у вачах пярэсцілася, скакала іх бель; з-пад калёс вырываліся і ляцелі ў лес дразды, над бярозамі ўразвалку лcraталі, бы пакульгвалі на крыллі, удоды; з-за ветравога шкла ў кабіну цурчаў рахманы ветрык, ліўся па шыі, па твары, бегаў у валасах, і тамлівая цеплыня казытнула душу — ён зноў дома.

Таксіст пакручваў баранку, краем вока зіркаў на спакойны твар Сяргея і думаў: «Грашавіты, бач».

І не вытрымаў, асцярожна пацікавіўся:

— Вы напэўна, лётчык?

— Не, бульдазерыст,— Сяргей павярнуўся да таксіста.— А што, хіба на яго падобны?

— Летась аднаго лётчыка вёз па гэтай дарозе. Мне таксама заплаціў добра... От я і падумаў...

— І правільна падумаў,— засмяяўся Сяргей.— Я таксама лятун. Па беламу свету лятаю.

Таксіст кашлянуў і змоўк. Яму нешта не верылася, каб бульдазерыст так раскідваўся сваімі рублямі, якіх зарабляе не так багата. Ды і рублі гэтыя потныя. «Па беламу свету лятае. Можа, які жулік? Шчэ возьме ды і не заплоціць». І пашкадаваў, што не ўзяў грошы там, у горадзе. Сяргей закурыў і працягнуў цыгарэту таксісту. Той, калі прыкурваў, мяльком зірнуў на яго парэпаную, з пабітымі пазногцямі руку, яшчэ тлустую ад саляркі, і толькі цяпер паверыў, што пасажыр сказаў праўду.

І спытаў ужо вольна:

— Адкуль едзеш?

— З Якуціі.

— Ого! — выгукнуў таксіст.— Які чорт туды цябе занёс?

— Служыў і застаўся пасля арміі.

— І дзе там робіш?

— На прыіску. Благародны метал мыем. Золата.

— Ого! Жывое золата? Можа, з сабою вязеш?

— Гэ, гэ! — рагатнуў Сяргей.— Навошта яно мне... Мы дзяржаве — золата, дзяржава нам — грошы.

— У водпуск едзеш?

— Не, назусім. Да старой,— паважна адказаў Сяргей.— Астануся, ажанюся, дом пастаўлю. Хопіць цягацца. Крышка!

Сяргей з шыкам пад'ехаў на таксі пад мацерыну хату, расплаціўся з таксістам і выцягнуў з багажніка чамаданы.

— Сыночак мой родненькі, крывінка мая! — Маці выбегла з варот, абхапіла яго галаву рукамі, стала цалаваць, аж задыхацца, у губы, у вочы.— Прыехаў, дзякаваць богу!

І не адпускала ад сябе, далоні яе, шурпатыя, як таркі, гладзілі яго твар, і ў запалых матчыных вачах свяціліся слёзы.

— То хадзем, хадзем, Сяргейка, у хату.

Яна пабегла наперадзе, адчыніла варотцы, і Сяргей з чамаданамі праціснуўся ў двор. У хаце Сяргей распрануўся, памыўся з дарогі, прысеў за стол і стаў аглядаць хату. Адвык ад яе, і хата здалася трохі чужой: і столь ніжэйшая, рукою дастанеш, і вокны цямнейшыя, і печ

паменшала, быццам асела. Устаў з-за стала, падышоў да чамаданаў і стаў распакоўваць іх.

— Табе, мама, гасцінцаў прывёз.— Ён выняў і паклаў на лаву паліто з цёплым рудым каўняром: — Гэта табе зімою на людзі выходзіць.— З дна чамадана ўзяў і паставіў на падлогу валёнкі і чаравікі, дастаў пуховую хустку, разгарнуў яе і працягнуў у рукі мацеры.— У Якуцку на базары купіў. Сорак рублёў адаў, насі на здароўе.

Старая Антоля глядзела на падарункі і саромелася нечага перад сабою, не ведала, дзе рукі дзець, і прыгаварвала:

— Божачка, божачка, столькі грошай зглуміў. Мне і ў гэтым старым добра. І ватоўка ноская шчэ ёсць і боты лятошнія... Лепш на сябе пусціў бы іх.. Такія грошы аддаў.

Трымала ў руках хустку і не ведала, што з ёю рабіць — пакласці куды ці на галаву прымераць.

— Грошай, мама, у мяне навалам... І табе трохі дам.— Палез у кішэню пінжака, выняў пачак новых, шчэ непамятых дзесяцірублёвак і падаў іх мацеры.— Тут пяцьсот... Бяры, хай будзе... Дзірак, мабыць, багата ў гаспадарцы... І ўсе трэба пазатыкаць. Бяры, не працiўся...

Увечары адведаць госця прыйшоў Віктар, бібліятэкар. Некалі яны разам хадзілі ў школу, сядзелі на адной парце.

Старая Антоля выняла з печы чыгунок, у якім быў вытушаны ў бульбе, аж упрэлы, певень, напрагла яечні, нарэзала сала, прынесла з лёха міску агуркоў, Сяргей паставіў на стол дзве пляшкі спірту, і яны селі вячэраць. Чокнуліся, выпілі, яшчэ раз чокнуліся. Пачырванелі ад выпітага, і пачала завязвацца гаворка. Госць расказваў пра Поўнач, налягаў на бульбу і агуркі, бо даўно такой яды ў вочы не бачыў.

— Ты, мабыць, чуў, што ёсць мора Лапцевых... Шэсцьдзесят кіламетраў ад яго мая работа... На полюсе холаду... Там за год дзесяць месяцаў зімы... Паветра аж трашчыць, жалеза лопаецца ад марозу... Ты...— Сяргей зноў наліў у стограмоўкі, адным махам перакуліў сваю чарку ў рот, захрумстаў агурком. Хмель ударыў у галаву, і ён увайшоў у ахвоту гаварыць. Хацелася, аж душа свярбела, расказаць пра сябе, пахваліцца перад Віктa-

рам.— Ты от у школе выдатнікам быў, кніжкі любіў, Гогаля і Талстога чытаў, а я на двойкі вучыўся... І што з гэтага стала, горш за цябе жыву? Лепш! І выпіць ёсць за што, і грошы на кніжцы вядуцца... Інжынеры менш за мяне палучаюць, от... Бо не баюся чорнай работы. Лодара не ганяў і не ганяю... Раблю як вол... Хто на галаву, а я на рукі маю талант... У школе па фізкультуры і па працы мне пяцёркі ставілі... Адгаблюю раму — настаўнік не паправіць... У мяне так: калі рабіць, дык рабіць, калі гуляць, дык гуляць...

Маці, якая дагэтуль ціха сядзела за сталом і слухала хлопцаў, не вытрымала, падтакнула сыну:

— Што праўда, тое праўда... Бывала, як дома быў, і хлеў перакрые і вароты новыя паставіць... Гора з ім не знала... І з дрывамі, і з сенам была... Рабацяга быў. Толькі от навука не ішла яму ў галаву...

— І добра, што не ішла,— Сяргей расхрыснуў на сабе сарочку, каб вальней было грудзям.— Правільна зрабіў, што школу кінуў... Да дзевятага класа не дайшоў бы, каб не маці... Не давала спакою: «Вучыся, сынок, у людзі выйдзеш». Выйшаў і без навукі... Трыста кожны месяц выганяю... А ў цябе, Віктар, які аклад?

— Семдзесят рублёў...

— Во, во! — засмяяўся Сяргей: — І тэхнікум скончыў... Здуваеш пыл з кніжак...

— Мне гэтых грошай хапае,— абазваўся Віктар.— Свой гурок вядзецца, бульбіна, скварка... І работа па нутру...

Яны падняліся з-за стала і выйшлі на двор праветрыцца, пакурыць.

Сонца ўжо спадала з неба за лес, прахалода нагортвалася на зямлю. Асвежаны летнім вечарам, на двары зелянеў мурог, у гародзе — бульба, а далей, у нізіне,— поплаў...

— Вочы адвыклі ад зялёнага... Даўно не бачыў... У нас там шэры мох.— Сяргей памаўчаў і таўхануў Віктара пад бок.— А як тут з жаночым персаналам?

— Настаўніцу летась маладую прыслалі... Фаінай Пятроўнай завуць яе.. Дзяўчына во, закачаешся...

— А што сёння ў клубе?

— Танцы.

— Пойдзем?

— Я жанаты... Схадзі сам...

— Пайшлі спірт канчаць...

— Мне ўжо досыць...

— Пасядзі для кампаніі. Я сам буду піць.

Яны пакурылі і пайшлі ў хату.

2

Ён вынырнуў з цемені ў белую паласу святла, што цягнулася з расчыненых дзвярэй клуба аж за ганак, прыслепавата прыжмурыўся, прыглядаючыся да людзей. Чуў, быццам у сне, недзе блізка ля сябе гаворку і смех, але тых, хто гаварыў і смяяўся, не бачыў — быў п'яны. Узлез раскарачаны на ганак, ступіў да дзвярэй, зачапіўся за нечыя ногі, пахіснуўся і, каб не ўпасці, схапіўся рукою за вушак:

— Што тут робіце?

— Танцуем, не бачыце,— азваўся нечы голас.

— А хто вы такія, так скаць?

— Хлопцы, хто ж.

Ён прыгледзеўся, убачыў падхлопцаў, якія стаялі ў цяні па абодва бакі дзвярэй і хіхікалі.

— Шпэндрыкі вы зялёныя, а не хлопцы. Марш адсюль! — І павёў перад сабою рукою.

Падлеткі крыўдзіцца не сталі, пастараніліся, бо ўбачылі, што чалавек добра недзе набраўся, ледзь языком варочаў. Ды і настырыцца з ім не хацелася — чалавек быў здаравенны і высокі, як шула, калі зачэпіць рукою, дык з ганка змяце. Сталі прыглядацца, каб пазнаць, хто такі: густая чупрына, тугі мардаты твар, рыжая барада і вочы, рачкатыя, чорныя. Апрануты быў ва ўсё новае, моднае. На ім быў дарагі блакітны плашч, чорны касцюм, белая сарочка, пад каўняром чырвоны і кароткі, як язык, гальштук.

— Ведаеце мяне? — грымнуў сабе ў грудзі п'яны.

— Не.

— Антолінага Сяргея не ведаеце?

— Чулі.

— То-та яно-та. Курыце?

Ён палез у кішэні плашча, выняў цыгарэты і працягнуў іх хлопцам:

— Бярыце... Маскоўскія...

Яны закурылі.

— Лавачніца ў клубе?

— Клава? Вунь сядзіць ля акна ў белай кохце,— паказалі хлопцы ў дзверы клуба.

— Шчас... Вып'ем з вамі... Каньяку...

Сяргей уваліўся ў клуб.

У клубе грымелі танцы, стаяла духата, і дзяўчаты часта выскоквалі на вуліцу астыць, аддыхацца пасля полькі, а хлопцы — перакурыць.

Ён павёў вачыма ў той бок, дзе сядзела лавачніца, і ўразвалку падышоў, сеў ля яе:

— Прадай каньяку!

— Што? — не зразумела Клава.

— Выпіць прадай.

— Зараз ноч.

— Адчыні магазін. За бутэльку два чырвонцы плачу.

— Заўтра прыйдзеш. Ідзі выспіся.

— Я...

І не дагаварыў, змоўк: перад вачмі, як на пласцінцы, закружыліся столь, людзі, пад грудзі падкацілася нешта нуднае, і ён цяжка падняўся з табурэта і, спатыкаючыся, пайшоў да дзвярэй. З ганка яго пад рукі ўжо звялі хлопцы, Сяргей адмахнуўся ад іх, даплёўся да плота і абапёрся на яго грудзьмі — жэрдкі трэснулі, лопнулі на сярэдзіне, і ён шуснуў у бульбоўнік. Патужыўся быў падняцца, але не хапіла сілы. Ляжаў, а ў вушах стаяла, як з-пад зямлі ішла, музыка, чуўся глухі гупат — у клубе адбівалі польку. І адкуль толькі дачулася, што з ім пагана, маці, прыбегла адразу, задыханая і мітуслівая, нагнулася над сынам:

— Ці не ўдарыўся ты, Сяргейка?.. Чула маё сэрца, чула... Хто ж цябе так напаіў? Божачка, божачка... Устань, сынок, дадому пойдзем... Усё новенькае вымазаў, выкаляў на сабе.

Зразумела, што адна яго не падыме, не завядзе да хаты, пабегла прасіць у клуб людзей, каб памаглі. Блытаючыся нагамі ў сваёй доўгай спадніцы, трушком пабегла і гаманіла сама сабе:

— Гэта ж так напіцца...

### 3

На другі дзень галава ў Сяргея аж трашчала, быццам на яе хто зверху цяжкі камень паклаў. Ціснула ў скронях, сушыла ў роце, ныла ўсё цела, што аж пад-

няцца з ложка няможна было — як-ніяк бутэльку спірту за вечар выцадзіў. Маці падавала яму ў ложак кіслае малако, адпойвала гарачым чаем. Ён піў і ніяк не мог наталіць смагу. Спадручна было старой Антолі цяпер пагаманіць з сынам пра тое, пра што кожны раз думала, што не давала сэрцу спакою, і яна села на табурэт ля ложка, паглядзела на Сяргея:

— Годзе, сынок, па свету цягацца... Не давядзе цябе гэта да дабра. Што на чужыне той бачыш?? Бульбіны не з'ясі свежай, садавіны не бачыш...

— Затое грошы,— буркнуў Сяргей і павярнуўся тварам да сцяны.

— А які толк з тых грошай? — уздыхнула Антоля.— Усе распусціў, калі той раз прыязджаў. Паіў каго папала... Кожны чалавек табе таварыш, кожнага частуеш, а калі ў самога за душою капейкі няма, ніхто ў твой бок не гляне... На дармоўшчыну ахвочых багата. Не шануеш капейкі, хоць і цяжка яна табе дастаецца... Людзі як людзі жывуць, пажаніліся, дзяцей гадуюць, да свайго селішча цягнуцца, а ты...

— Ажанюся, мама, ажанюся,— пачаў усцешваць ён маці.— Вось толькі дзяўчыну знайду...

— Не адзін ужо раз гаварыў...

Яна пасядзела яшчэ, пачакала — мо сын што добрае скажа,— але нічога ад яго не пачула і пайшла да дзвярэй, бо на агародзе было багата работы.

Апоўдні Сяргею трохі стала лягчэй, ён падняўся з ложка, апаласнуў вадою твар, апрануўся і выйшаў на ганак. Пагода была ні сонечная, ні пахмурная, неба абцягнула смугою, і на ёй, як праз слюду, прасвечвалася, стаяла пляма сонца. Ён агледзеў двор. Ля паветкі грабліся ў трэсках куры, у карыце скакалі вераб'і, а ў старой бочцы, якая ляжала пад плотам, сядзеў, пільна глядзеў Сяргею ў вочы і віляў хвастом сабака — як свайму. Сяргей пашукаў вачыма будку, але яе не ўбачыў, пайшоў пад паветку, знайшоў дзве дошкі, нажоўку, цвікі і ўзяўся за работу.

**4**

У гэты вечар Сяргей не прапускаў ніводнага танца, запрашаў і запрашаў Фаіну Пятроўну ў круг, жартаваў з ёю, а калі сціхаў баян, праводзіў пад руку да лаўкі,

сам прысаджваўся побач, заглядваў у вочы і гаварыў:

— На колішні манер танцуюць... Полькі ды кадрылі... Пад баян... Не каб пад аркестр...

— У вас хіба лепшыя танцы? — усміхнулася Фаіна Пятроўна.

— Пад джаз... Шэйк, твіст поўным ходам...

— Тут любяць сваё.

— У атамны век...

— Некалі і вы круцілі полькі.

— Гэта ж некалі...

Баяніст зайграў марш, і ўсе рушылі да дзвярэй. Сяргей і Фаіна Пятроўна выйшлі з клуба і завярнулі ў вулку. У небе стаяў і падсвечваў похмаркі месяц, над поплавам вісеў, як марля, рэдкі туман, ноч была цёплая, парная, і дыхалася лёгка, вольна. Фаіна Пятроўна ішла, паглядвала на Сяргея, пыталася ў яго:

— І вы на аленях каталіся?

— Ха, аленіну нават кожны дзень еў.

— І паўночнае ззянне бачылі?

— Зімою над галавою вісіць.

— А якое яно?

— Калі скласці дзесяць вясёлак, будзе ззянне...

— А белыя мядзведзі вялікія?

— Большыя за карову...

— Зайздрошчу вам, Сяргей... Столькі ўсяго пабачыць...

— Паедзем са мною...

— Мяне ж сюды прыслалі ў школу...

— Тады я застануся тут... Ажанюся на вас, і — баста...

— Якая самаўпэўненасць! — Фаіна Пятроўна засмяялася ахвотна і шчыра.

Падышлі да хаты, у якой кватаравала настаўніца, селі пад акном на лаўку. Маўчалі, бо гаварыць не знаходзілі што, слухалі, як недзе на поплаве парыпваў драч. Так доўга сядзець ціха было няёмка адзін перад адным, нешта трэба было гаварыць, і першай абазвалася Фаіна Пятроўна:

— Драч дзяцей калыша... Калыскаю рыпіць...

— Гэта ён парцянкі дзярэ... Хоча пераабуцца...

Яна зноў засмяялася. Сяргей глянуў на мяккія пульхныя губы настаўніцы, круглыя каленкі, і нешта гарачае ірванулася з грудзей; увесь задрыжаў і не мог ужо стры-

мацца і абхапіў рукамі, загроб да сябе Фаіну Пятроўну.

— Нахал!

Ад аплявухі пагарачэла шчака, і покуль Сяргей уцяміў, што здарылася, апамятаўся, настаўніцы ля яго ўжо не было.

5

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вярнуўся з Мазыра ён аж на другім тыдні ўвечары. Маці даіла ля хлява карову, убачыла, што Сяргей на двары, падышла да сына і аж самлела ўся — белая сарочка была на ім расхрыстаная, парваная, пад вокам ляжаў вялізны сіняк.

— Божачка мой, хто ж цябе так?

— А-а, не пытай... У рэстаране хацеў правучыць аднаго... Набеглі яго дружкі.

— Каб іх гром пабіў на чыстай, на гладкай дарозе.

Павойкала, пабожкала, пакляла тых, што сына ўдарылі, працадзіла на ганку малако ў гладышкі і ўзяла ў рукі палку — трэба было загнаць у будку і прывязаць нанач сабаку. Падышла да бочкі, стукнула па ёй:

— Вылазь, ірад пракляты, каб цябе ваўкі ўклалі...

Сабака круціўся ў бочцы, ціха скуголіў.

— Вылазь, кажу! — старая Антоля мацней стукнула палкаю і — да Сяргея: — Будка прападае... Учора прывязала, дык усю ноч выў, спаць не даваў... У бочцы яму, бач добра... Напрасна толькі дошкі наглуміў...

Пакуль гаварыла, сабака выскачыў са свайго лежыва і шуснуў у агарод.

Яны пайшлі ў хату.

— Бачыў сваю знаёмую? — папытала маці.

— Замуж выйшла.

Пачаў хадзіць туды-сюды па хаце, хацеў нешта сказаць мацеры, ды не асмельваўся — баяўся пакрыўдзіць яе. І рашыўся, сказаў:

— Паеду я, мама.

Сэрца ў старой Антолі затахкала:

— Куды?

— Назад, у Якуцію.

— Зноў?

— Зараблю грошай і прыеду назусім... Даю слова...

— Як гэты раз.

— Што я тут буду без капейкі рабіць...

— Трактарысты і ў кожным калгасе добра зарабляюць...

— Якія там заработкі ў іх... смехата...

Сяргей падышоў да мацеры, глянуў ёй у вочы:

— Дасі мне на дарогу грошай... Свае патраціў... Толькі, богам прашу, не плач.

— На каго ты мяне пакідаеш? — Маці падняла рукамі фартух да вачэй і выйшла з хаты — яе душылі слёзы.

## 6

— Да грошай вялікіх прывык... Хіба ж яны на карысць яму — не трымаюцца ў кішэні. Дома рубель даражэйшы, надзейны, бо тут шануюць зробленае. Распусціўся... Без прыгляду... Без сваіх людзей... Ніхто не накрычыць, не падвучыць там, як жыць трэба.— Антоля ступала па вулічным пяску, выцірала ражком хусткі слёзы, скардзілася Віктару — яны толькі што правялі Сяргея на аўтобус і от зараз ішлі дамоў.

— Праўду кажаце, цётка...— Віктар дайшоў да сваёй хаты і спыніўся.— Свая зямля мае над чалавекам дысцыпліну... Перад нашымі людзьмі сорамна быць горшым, чым яны.

Яна адчыніла варотцы і ўвайшла ў свой двор. Пачала хадзіць ад хаты да хлява, не магла супакоіцца, села на цялешык, што ляжаў на дрывотні, уголас заплакала, і ніхто не бачыў яе слёз, і ніхто не мог памагчы мацерынаму гору.

# На сваім селішчы

## 1

У Забор'е Мікодым Шкробат дабраўся на змярку і ледзь знайшоў мацерына селішча. Там, дзе стаяла хата, тырчаў абсмалены комін, ляжаў абгарэлы плот і буяла ў пояс лебяда. На ўзгорку, трохі ў бок ад папялішча, пабліскваў агонь, і ён падаўся туды. Падышоў, перавёў дыханне і стаў: убачыў зямлянку. Спярша Мікодым падумаў, што гэта капец — некалі бацька тут закопваў на зіму бульбу,— потым прыгледзеўся, заўважыў акенца на адну шыбіну, дым, які цадзіўся з-пад зямлі, і ўсё зразумеў: тут жыла маці. Ён доўга не асмельваўся заходзіць у зямлянку, стаяў перад дзвярыма, чуў, як моцна тахкае ў грудзях сэрца, потым асцярожна ўзяўся за дзвярную ручку, пацягнуў на сябе, прыгнуўся, каб не стукнуцца галавою аб нізкі вушак, і пераступіў парог.

На збітым з аполкаў стале дыміла і мігала капцілка, асвятляючы покуць. У зямлянцы стаяў змрок, і вочы доўга не маглі да яго прывыкнуць.

— Хто гэта? — На палку, які толькі цяпер у цемені разгледзеў Мікодым, заварушыліся, закашляла маці.

— Я, мама...— азваўся ён, паставіў у парозе чамадан і прайшоў далей, бліжэй да святла.

— Няпраўда, што ты...— Маці злезла з палка, угледзелася ў Мікодыма і кінулася яму на шыю, заплакала: — Сыночак мой! Думала ўжо, што не ўбачу. Вачэй не зводзіла з дарогі, усё цябе выглядала... Ох, Мікодымка мой, Мікодымка!.. Слёзы па табе ўсе выплакала... Не ўпалі дарэмна яны на зямельку... Прыехаў, дзякуй богу...

Маці разам плакала і смяялася, і Мікодым адчуў, як нешта гарачае паднялося з грудзей, моцна сціснула горла: стаяў, прытуліўшы яе да грудзей, і мацаваўся, каб не заплакаць самому.

Старая Мар'я адхінулася ад сына, пачала выціраць фартухом вочы:

— Не стой, сынок, прысядзь... Шчаўя зялёненькага налью табе... Больш нічога такога няма...

Мікодым прысеў да стала, маці паставіла перад ім міску, ён пачаў сёрбаць з драўлянай лыжкі і аглядаць мацерына жытло: жалезная печка ў кутку, сцены і столь

з хваёвых неабчэсаных жэрдак, з якіх тырчаў мох, земляная падлога. Позірк яго спыніўся на покуце — там, за ручнікамі, цьмяна паблісквалі абразы.

— Не забыў, Мікодымка, як ты хацеў іх пазрываць і ў печ пакідаць?

Ён усміхнуўся:

— І дзе ты іх у вайну хавала?

— З сабою насіла.— Старая Шкробаціха сядзела па другі бок стала, не спускала вачэй з сына і ўсё ніяк не магла на яго наглядзецца.— Малілася перад імі ўсю вайну, прасіла бога, каб ты жывы і здаровы вярнуўся. І, бач, пачуў мяне гасподзь...

Мікодым павячэраў, адсунуў ад сябе парожнюю міску, спытаў:

— А дзе сама хавалася?

— Не пытай, сынок,— яна цяжка ўздыхнула, памаўчала.— Прыйшлі немчуракі, пачалі хаты паліць... Людзі давай у лес бегці, а яны па іх з кулямётаў... Багата пабілі і жанок і дзяцей... Тыя, што ўцяклі, жылі ў лесе... І я з людзьмі... І там не было спакою — аблава за аблавою... Як на ваўкоў палявалі... Голад і холад мучыў, кару елі... Павылазілі з лесу, калі нашы прыйшлі... Пачалі, як краты, зямлянкі капаць... І от жывём у іх. Хочацца людзям і хаты ставіць, ды няма на чым дзерава з лесу прывезці... Ні коней, ні валоў не засталося. Нядаўна калгас сабралі... Цяпер мо коней з раёна дадуць...

Старая прыбрала са стала, пайшла да палка, доўга падбівала рукамі сяннік, каб мякчэй было сыну спаць. Калі Мікодым распрануўся і лёг, дзьмухнула на кволы агеньчык капцілкі і доўга яшчэ тупала па земляной падлозе.

## 2

Назаўтра ўбачыць Мікодыма прыйшоў дзед Пятрусь. Паздароўкаўся, стаў пытаць, як ваявалася, ці моцна немцы пад Берлінам трымаліся, потым пацікавіўся, колькі ордэнаў і медалёў прывёз. Не абмінуў Мікодыму расказаць, што сам ваяваў з немцамі ў тую вайну, добра арудаваў у атаках штыком, і нарэшце прызнаўся, што пад Аўгустовам трапіў у палон.

— Я немцаў, можна сказаць, не баяўся...— Дзед павёў далонню па сівой і пруткай, як купіна сіўцу, бара-

дзе.— Раскажу пра адзін выпадак, які быў у мяне з немцамі ў гэтую вайну... Прыехалі яны раз на машынах зімою ў нашае сяло, паразыходзіліся нанач па хатах. І да мяне два прысунуліся. Маладыя такія, здаровыя бамбізы... Ляжу на печы, чую, як яны гергечуць у хаце: «Русіш ніхт верстэген Крыед фюгрэн...» Гэта па-нашаму значыць, што мы не ўмеем ваяваць. Не ўляжаў я на печы, калі пачуў такое. Злез, узяў у кавешніку чапялу, падышоў да аднаго, касавокага, ды і кажу яму па-нямецку: «Брэшаш, умеем біцца!.. Хочаш, пакажу... Бяры вінтоўку і выбі штыком з маіх рук чапялу... Пахвехтуемся...» Схапіў ён сваю ручніцу і кінуўся, як звер, на мяне... Злаўчыўся я, ляснуў чапялою па штыку — вінтоўка вылецела з рук немца і бразнулася на падлогу. Ён зразу атарапеў, вытарашчыў ад дзіва вочы, потым падышоў, паляпаў мяне па плячы: «Гут, салдат!» Паставіў я чапялу назад у кавешнік і зноў палез на печ грэцца.

Дзед Пятрусь змоўк, згорбіўся, абапёрся грудзьмі на грушавы кіёк, які трымаў у руках. Па яго вачах было відаць, што стары прыйшоў нешта прасіць, але ніяк не можа асмеліцца. Сядзеў, пазіркваў з-пад калматых, як вусні, броваў на Шкробата, зразумеў, што той не здагадваецца, чаго ён прыйшоў, і пачаў гаварыць напрамкі:

— Па справе прыйшоў да цябе, Мікодым...

— Па якой?

— От што...— Дзед падняўся з услона, разагнуў спіну, закрактаў: — Брыгадзірам я ў калгасе. Паставілі, бо не было каго паставіць... Мужчын не было, вайна ішла... А які, скажы, з мяне брыгадзір?!. Трэба бегаць, людзям загадваць на работу, а я ледзьве ногі цягаю. Восемдзесят ужо... Пісаць нарады не ўмею... Вочы не бачаць, што на полі цвіце — свірэпка ці грэчка... Якая, браце, карысць калгасу ад такога начальніка, як я?..

— Чым я магу вам дапамагчы? — не разумеў Мікодым, куды хіліць гамонку дзед, і перабіў яго.

— Ёсць чым... Хай бы ты, браце, схадзіў да нашага старшыні, папрасіўся быць брыгадзірам... Замест мяне... Цябе паставяць — граматны, малады... Схадзі, выруч маю старую душу...

Мікодым не думаў і не гадаў, што дзед такое скажа, і аж разгубіўся, пачырванеў:

— Як жа так, дзед... Хіба не ведаеш, што брыгадзі-

раў на агульным сходзе выбіраюць! Усім калгасам... Ісці і прасіцца?! Не-е... Самазванцам назавуць...

— Да вайны ты старшынёю быў,— стаяў на сваім стары,— калгас падняў... Цябе і без сходу выберуць у брыгадзіры.

— Не, дзеду, зусім не тое ты ў мяне просіш,— абарваў размову Мікодым.

— Не паспагадаў старому.— Дзед пакрыўдзіўся, махнуў рукою і паклыпаў да дзвярэй. На парозе спыніўся, глянуў на Мікодыма.— Буду сам прасіць, каб ты брыгадзірам стаў.

3

Старшыня калгаса Пятро Цэдрык сядзеў у канторы і чакаў каваля Гарасіма. Даўно ўжо паслаў хлопца ў кузню, каб пазваў яго, і от, бач, не прыйшоў ні адзін, ні другі. «Пашлі дурнога, а за ім другога»,— падумаў Цэдрык сам сабе, насунуў на галаву шапку і хацеў быў ужо ісці дамоў снедаць, як расчыніліся дзверы і цераз парог перакінуў спачатку дзеравяшку, потым ступіў здаровую нагою ў кантору Гарасім. Загрукацеў па падлозе пратэзам, падышоў да лаўкі і сеў. Быў ён увесь чорны ад сажы, адны вочы з-пад шапкі блішчалі бялкамі.

— Чаго зваў, Карпавіч? — спытаў каваль у старшыні і паклаў ля сябе палку.

— Сам добра ведаеш.— Цэдрык пачаў уваходзіць у злосць і гаварыць дрыжачым голасам: — Не куецца ў цябе, а плешчацца. Два вазы на кармакухні стаяць, ніяк шыны на абады не наб'еш. Гэта першы параграф. Капаніц няма, плугі не скляпаў... Гэта другі параграф... Гультая ганяеш, таварыш Гарасім... Трэці параграф!

— Якога гультая?! — Каваль стукнуў палкай сабе па дзеравяшцы.— Паскачы на адной назе, як верабей, ля кавадла... Скажы шчэ дзякуй, што і так хаджу на работу.

Старшыня загаварыў грамчэй:

— Ходзіш?!. Учора, ва-первых, кузню нават не адамкнуў.

— Учора мне з ложка ўстаць няможна было. Асколкі рэзалі ў паясніцы! — Гарасім злосна бліснуў на Цэдрыка бялкамі вачэй.— І не я, а ты прагуляў учора дзень... Яечняю закусваў у Хвядоры, песні роў да вечара.

Цэдрык аж падскочыў за сталом:

— Не тваё сабачае дзела!

— Не сабачае, а калгаснае дзела!

— Маўчаць, ва-ўтарых! Соткі адрэжу!

— Хутчэй цябе ад калгаса адрэжуць, чым мяне ад сотак,— сказаў Гарасім і пакульгаў да дзвярэй.

«От дай рады такім людзям,— разважаў сабе Цэдрык, ідучы дахаты,— што скажаш, у галаву не бяруць, на рогі лезуць. За вайну ад рук адбіліся, падзічэлі, управу на іх не знойдзеш. Не каб калгаснае да душы было. Так і хочуць усё рабіць на злосць старшыні. Трэба добра ўзяцца за іх, націснуць, каб дзесятаму заказалі, як не слухацца калгаснага галавы». Яго думкі вярнуліся да Гарасіма, і Цэдрык аж закалаціўся ўвесь. Убачыў, што ў Хвядоры быў!.. Нідзе ад вачэй не схаваешся... За хлеў нават не сходзіш — высачаць...

На вуліцы яго спыніў дзед Пятрусь:

— Цябе шукаю, Карпавіч.

Старшыня насцярожыўся:

— Што здарылася?

— Мікодым прыехаў.

— Шкробат? — Цэдрык трохі павесялеў.— Загадай, каб заўтра ішоў на работу ў кузню. Гарасім яе на замку трымае.

— Я не пра тое,— зняў шапку і пацёр лысіну дзед.

— А пра што?

— Ты некалі казаў, што аслабоніш мяне ад брыгадзіра, калі з вайны мужчыны папрыязджаюць. І от, бачыш, вяртаюцца. Мікодым чалавек на маё месца падхадзяшчы.

— Пойдзе, ва-первых, у кузню... А ты, ва-ўтарых, тупай па-маленьку ад двара да двара...— Старшыня заклапочана паглядзеў на дзеда: — Заўтра Прымак з раёна прыедзе. Каб ўсе людзі былі на полі. Як адна душа.

Сказаў і пайшоў далей.

Недзе недалёка ад вуліцы гаварылі. Цэдрык стаў, прыслухаўся, павярнуў галаву ў бок Аўдзеішынага двара і ўсё зразумеў: баба сабрала суседак паараць соткі, пакідаць бульбу.

Цэдрык ускочыў у двор, ступіў на загон, наперад жанок:

— Выпрагайцеся!

Жанкі пасталі, сталі выціраць хусткамі твары.

— Чаму ж гэта?

— Ва-первых, заўтра прыедзе Прымак з раёна і падумае, што я вас сілаю прымушаю ў плуг лезці пры савецкай уладзе.

— Гэта ж вайна вінаватая... Немцы...

— На вайну, ва-ўтарых, не звальвайце...

— Учора ж на сабе ў калгасе аралі... Ты ж сам, Карпавіч, па дварах хадзіў і прасіў арцельную бульбу пакідаць.

— Гэта ж калгасную... Тут прасціцельна. План... За зрыў плана па галоўцы не пагладзяць.

— А лапатамі капаць можна?

— Лапатамі — другое дзела... Тут ніхто не прыкапаецца...

Жанкі абступілі Цэдрыка, цяжка дыхалі яму ў твар, сталі гаварыць, што вясна канчаецца, што лапатамі хутка з соткамі не ўправішся і, калі не ўкінеш у пару бульбіну ў баразну, зубамі будзеш ад голаду ляскаць. Хораша прасілі, ласкава, а ён яшчэ горш раскрычаўся:

— Мітынг устроілі! Занясіце плуг на калгасны двор!

Жанкі пачалі разыходзіцца.

Цэдрык выйшаў на вуліцу і звярнуў на сцежку, якая вяла паўз засеянае калгаснае поле да самай яго хаты.

Ішоў і зноў стаў — на загоне граблася, рабіла калгасу шкоду нечая чорная чубатая кура. Цэдрык пашукаў вачыма на зямлі вакол сябе чым папусціць у куру, убачыў камень, схапіў яго, размахнуўся і сам не чакаў ад сябе трапнасці — чубатка кіркнула, заскакала на месцы, залапатала крыллямі і ўпала ў разоры. Ён падышоў, узяў яе за хвост і панёс дамоў. Мар'я, яго жонка, у гэты час на двары секла ў карыце свінням зелле. Цэдрык падышоў да яе, паказаў куру:

— Чыя гэта? Калгасны авёс грабла.

Мар'я глянула на куру і выпусціла з рук сякач:

— Нашая! Уладзіў, гад... Ужо два яечкі знесла. У нядзелю купіла, дзяржала пад рэшатам, каб да селішча прывыкла, выпусціла пахадзіць, і вось на табе — забіў. Дзе ж твае вочы былі, каб яны табе павылазілі!

— Я ж не ведаў, ва-первых, што нашая.

Цэдрык стаяў разгублены перад жонкаю і апраўдваўся.

— Не ведаў ён! — Мар'я закалацілася ад злосці, вырвала з яго рук куру і тыцнула ёю Цэдрыку ў твар.— На, побач чыя, каб ты дарогі перад сабой не бачыў.

Старшыня ўтуліў галаву ў плечы і пайшоў у хату.

4

Мікодым прачнуўся яшчэ на досвітку, бо трэба было накляпаць касу, каб паваліць быльняк і палын, якія заглушылі ўсё селішча. Ён выйшаў на двор, сеў на калодку і стаў цюкаць па палатне касы. Каса была тупая, уся ў шчарбінках, і ён прайшоўся малатком па ёй два разы, каб давесці да ладу.

— Дзядзька, вас нейкі начальнік заве ў кантору... З раёна,— пачуў ён дзіцячы голас і падняў вочы.

Перад ім стаяў, аддыхваючыся ад хуткай хады, хлопчык з калматаю галавою. На ім была кашуля, пашытая з нямецкай плашч-палаткі, і палатняныя, задрыпаныя ў калошынах штаны. Ногі былі чорныя, парэпаныя ад гразі, і, калі не прыгледзішся да іх, можа здацца, што хлопчык абуты ў чорныя чаравікі.

— На легкавіку прыехаў,— сказаў хлопчык, каб Мікодым паверыў, што прыехаў не абы-які, а вялікі начальнік, і пабег, замільгаўшы парэпанымі пяткамі.

Мікодым паклаў касу і пайшоў.

Раніца была ясная, ядраная. З-за лесу вывалілася сонца, блішчала на траве раса. Ад яе быў сівы, быццам задымлены, мурог, які расплыўся па даўно няходжанай сцежцы, змакрэлы, цёмны зверху пясок на вуліцы. На пяску не было каляін ад калёс, слядоў коней, кароў, і вуліца здавалася Мікодыму старым пясчаным рэчышчам. Ціха. Не сакаталі куры, не прасіліся на пашу авечкі і свінні. Адно ганяліся адзін за адным па бур'яне і трашчалі вераб'і.

Калі Мікодым прыйшоў у кантору, старшыня райвыканкома Прымак распякаў Цэдрыка:

— Людзі ў зямлянках жывуць, сяўба зрываецца... Што ў цябе за калгас, пытаюся?

Цэдрык выцягнуў да раённага начальніка чырвоны, як бурак, твар і боязна, амаль шэптам, вымавіў:

— «Чырвоная Зорка», таварыш Прымак. Хіба не ведаеце?

Прымак грымнуў басам:

— Жарцікі строіш?

— Вы ж пытаеце, як калгас называецца.— Цэдрык пасунуўся на край лаўкі і ўвесь сцяўся.

— Ідзі збірай людзей на работу.

Старшыня калгаса кінуўся ў дзверы, бо рады быў, што скончылася начальніцкая прабіранка.

Прымак пасадзіў да стала Мікодыма, уздыхнуў — яшчэ ніяк не мог адысці ад гарачай размовы з Цэдрыкам.

— Як даведаўся, што я прыеду, схаваўся... Не мог знайсці Цэдрыка... Думаў, пакручуся тут па калгасе і назад паеду. Толькі от зараз брыгадзір недзе злавіў яго і прывёў у кантору... Ох і чалавек!

— Чаму ж калгас яму даверылі? — папытаўся Мікодым Шкробат.

— Не было людзей... Калі прагналі з раёна немцаў, у Забор'і два дзяды і ён засталіся. От і выбралі Цэдрыка...— Прымак памаўчаў.— Усю работу заваліў. Горшы калгас у раёне. Да вайны тут жыта, як чарот, расло. Помніш, Мікодым?

— Як жа не помніць, быў старшынёю.

— Выбярэм зноў цябе.— Прымак глянуў Шкробату ў вочы: — Дачуўся я, што ты адваяваўся, і от прыехаў сватаць на калгас. Даеш згоду?

— Ці давераць яшчэ людзі? — памаўчаўшы, азваўся Мікодым.

Прымак усміхнуўся:

— Я гаварыў з калгаснікамі. Прыходзілі сёння да мяне і самі прасілі, каб ты быў старшынёю. Ужо сход назначылі на нядзелю...

Шкробат уздыхнуў:

— Будзем брацца за работу...

## 5

Быльнік шкрабацеў па палатне, як дрот, і Мікодым ступаў з касою па двары і валіў яго ў рады. На папялішчы стаў касіць вышэй, збіваць толькі вяршкі зелля, бо баяўся выбіць аб цэглу, якая густа абрасла палыном, касу. Абкасіў комін і стаў — убачыў сярод абгарэлай, аж чырвонай тынкоўкі клямку ад спаленай хаты. Узяў у рукі, доўга мацаў, круціў у пальцах, адкорпваючы ад

яе ржу. Прыгадалася, што некалі ў мароз яе зацягвала белым інеем, студзіла пальцы, калі выходзіў на двор, каб пакатацца на каньках; аднаго разу ў сцюжу ён дакнуўся да клямкі ротам — губы аж прыкіпелі да жалеза, не адарваць было іх.

Помніць клямка пальцы гасцей, што прыходзілі ў хату на радзіны, вяселлі і хаўтуры, помніць пальцы дзеда, прадзеда, братоў і пляменнікаў.

Па яе бразгаце ён азіраўся на дзверы — бацька ці не бацька зайшоў у хату?

Знаёмы бразгат клямкі...

Мікодыму памроілася, што і зараз чуе яго...

Шкробат панёс яе ў зямлянку, каб там дзе пакласці — яна будзе звінець на дзвярах у новай хаце.

# Карова

Поплаў за соткамі заліло шызым густым туманам, і парыпванне драча, што хаваўся недзе ў карчах, было ледзь чуваць. Была ноч, калі Панас вярнуўся дамоў. У замурзаным камбінезоне, у мокрых ботах — увесь вечар ліў дождж,— зайшоў у хату, пакінуў пасля сябе брудныя сляды, сеў, прыхінуўся плячом да падаконніка, уставіўся вачыма ў цемень, быццам хацеў даведацца, пра што там на поплаве крычыць драч.

— Ты, бацька, нейкі сярдзіты сёння! — заўважыла Дар'я, спадцішка пільна глянуўшы на свайго чалавека.— Так у ботах і пайшоў на чыстую падлогу... А мне ўсё мыць, паласкаць... Хіба ў мяне рукі казённыя?

— Ды ідзі ты к чортавай матары! — Панас падняўся, павярнуўся спіною да акна.

Вочы ў яго былі чырвоныя, патрэсканыя рукі не знаходзілі сабе спакою, увесь час мітусіліся, і Дар'я зразумела, што ён прыйшоў позна і пад хмяльком не проста так — нехта, мабыць, яго моцна пакрыўдзіў, ён і выпіў. А так Панас піў рэдка, хіба толькі па вялікіх святах прыкладзецца да шклянкі. Дар'я ганарылася сваім цвярозым чалавекам, хваліла яго перад жанкамі, і тыя ёй зайздросцілі.

Пуклалобы, з густой — пальцы не ўваб'еш — чупрынай, Панас быў нашмат вышэйшы за Дар'ю, маленькую, шуструю і, здавалася, высахлую да касцей на сонцы ў кожнадзённай рабоце то дома на сотках, то на калгасным полі, куды яна хадзіла, нягледзячы на свае немалыя гады. Прысадзісты крутаплечы Панас і цяпер быў у вёсцы за першага сілача, любога хлопца для ўцехі мог зламаць, падабраць пад сябе. Трымайся, калі трапіш яму ў рукі. Наломіць рэбры так, што назаўсёды адпадзе ахвота мерацца з ім сілаю.

І вось Панаса пакрыўдзілі.

— На каго лаешся? — Дар'я гневалася, выцірала анучаю гразь на падлозе, якую прынёс на нагах Панас.— Скідай чобаты. Чакаю яго, чакаю, а ён не спяшаецца. Трактар зноў, мабыць, зламаўся?

Дар'я падышла да свайго чалавека, сарвала з яго ног боты, аднесла іх на веранду, вымыла і паставіла сушыць. Маленькая, спрытная, круцілася вакол панылага

Панаса, запаліла газавую пліту, разагрэла на ёй астылы боршч, згатавала познюю вячэру.

— Вось што, маці,— азваўся нарэшце Панас, цяжка сядаючы за стол.— Зорку трэба збыць з рук. Не трэба яна нам, лішні клопат...

— Шкада яе,— зажмурылася Дар'я.— Можа, пачакаць трэба, бацька? Кароўка спраўная, не старая яшчэ.

— Прадамо,— настойваў Панас.— Здароўя ў цябе няма даглядаць яе. У нас, маці, дзеці не плачуць без малака. За грошы малака сабе заўсёды ў калгасе купім. Колькі нам, старым людзям, трэба яго... Гладышачку... Пакажы рукі!

Дар'я засаромелася, схавала свае рукі пад фартух:

— Хіба не бачыў? Выдумае ж... Яны ў мяне даўно ўжо зажылі, не рэпаюцца і не пухнуць. Даіць імі яшчэ можна.

— Дзяцей мы ў людзі вывелі? Вывелі. Цяпер і самім адпачыць пара.

Дар'я з Панасам ужо гадоў пяць жылі адны, без дзяцей, у вялікім моцным, як звон, доме з блакітнай верандай. Дом стаяў трохі воддаль ад вёскі, каля самага поплаву. Старэйшы сын Міця як ажаніўся, дык больш і не з'яўляўся тут, жыў недзе на Урале. Дачка Насця выйшла замуж за брыгадзіра з суседняга калгаса, абсыпалася дзяцьмі, абзавялася вялікай гаспадаркай і рэдка прыходзіла ў госці да старых; дзень і ноч корпалася, квахтала, як кура каля сваіх дзяцей-куранят, у сваёй хаце. Малодшы сын Коля, якога Панас любіў больш за іншых, за разумную галаву, вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце на інжынера.

Карова старым на самай справе мала была патрэбна, толькі адны клопаты з ёю. Усё часцей яны вялі доўгія размовы пра тое, ці не завесці яе на кірмаш, а сёння Панас канчаткова вырашыў збыць з селішча карову. І Дар'я таксама адчула гэта. Адчула і спалохалася, на душы зрабілася трывожна, быццам нешта грэшнае, нядобрае надумалі яны супраць каровы, якая шмат гадоў маўкліва, аддана карміла, паіла іх, цешыла сэрца сваім доўгім здаровым рыканнем іх пусты, ціхі двор.

І на другі дзень, у пятніцу, Панас і Дар'я ўсё прыкідвалі, павесці Зорку ці пачакаць яшчэ адну зіму, але падышла субота, той самы апошні тэрмін перад вялікім нядзельным кірмашом, і яны моўчкі згадзіліся адвесці.

Зорка вярнулася з пашы на змярку і радасна зарыкала каля варот, каб упусцілі яе ў двор. Дар'я занепакоілася, заварушылася, схапіла вядро з чыстай марляй і выбегла ёй насустрач, нязвыкла доўга ўглядвалася ў Зорку, заўважыла сама сабе, што карова прыйшла з пашы вясёлая і напашаная — аж распірала ёй круглыя, як бочкі, бакі. Зорка была ўся рабая — на чорнай масці белыя латкі,— з белай лапінкай на лбе. Прысадзістая, круглая, з вялікім чыстым вымем, яна глянула на гаспадыню цёмнымі, быццам усё разумеючымі вачыма, хутка ўвайшла ў двор, спынілася ля цэбра з зеллем, што стаяў пад плотам, абмахваючыся хвастом ад заедзі. Дар'я прысела і пачала яе даіць.

Выйшаў на двор Панас, пакашляў, паглядзеў на Зорку і падаўся на агарод, шастаючы там у гарбузніку.

Дар'я падаіла, пагладзіла Зорку і пайшла на веранду працэджваць малако. У гэты вечар яна некалькі разоў хадзіла ў хлеў, падкладвала карове ў цэбар канюшыну, сыпала пасечаныя буракі. Карова ў іх была шостага пакалення, рахманая, добрай малочнай пароды. Яе маці і прамаці, як кропля вады, былі такімі ж, як і Зорка, прысадзістымі, рабымі, з белымі зорачкамі на лбе. Дар'я ўсіх іх называла адным імем, і ёй часта здавалася, быццам карова ў іх увесь час адна, ні старасці на яе няма, ні смерці. Дар'я ўсхапілася з ложка на досвітку, да першых пеўняў. Па звычцы падаіла карову, падкінула ў цэбар зелля і раптам замерла, успомніўшы пра кірмаш, і сэрца ў яе моцна закалацілася ў грудзях. Прыслухалася да спакойных і глыбокіх каровіных уздыхаў. «Вось дурная! — пачала думаць яна.— Стаіць і нічога не ведае. Бач, жывёле бог розуму не даў. Калі б быў у яе чалавечы розум і сэрца, адчула б, відаць, загаласіла б на ўсю вёску. Ды яшчэ як зараўла б!»

Карова паглядзела на яе спакойна, лізнула руку. Дар'я адвярнулася, кончыкам хусткі выцерла вочы.

Яны павялі Зорку на кірмаш, у мястэчка, якое было ў дзевяці кіламетрах ад іх вёскі. Вялі праўз рэчку, спачатку па сцежцы, якая віляла на поплаве, потым па пожні. Дар'я з накінутай на плечы хусткай-канаплянкай вяла Зорку на вяроўцы. Панас, бухаючы ботамі па мокрай зямлі, ішоў ззаду з дубцом у руцэ і падганяў карову. Абое маўчалі. Ім не было пра што гаварыць.

Раніца была зябкая, пахмурная. Сыры вецер палас-

4 Зак. 935

каў, прыгінаючы долу, кусты, у цёмным небе перамешваліся, набухалі, варочаліся хмары. «Апоўдні, мабыць, пойдзе дождж. Хаця б управіцца прадаць яе,— думаў Панас, паглядваючы на неба.— Бо ліне лівень і разгоніць увесь кірмаш... Клопату тады з ёю не абярэшся...»

Калі мінулі поле, уперадзе паказаўся бярозавы гаёк: скрозь шэры паўзмрок паступова выступалі, ярчэлі белыя, частыя, як частакол, ствалы дрэў. І Дар'я прыгадала, як у вайну хавалася з дзяцьмі і каровай у гэтым гаі ад нямчурак. А потым, як было ганенне, усю зіму хавалася з дзецьмі ў лесе. Калі не было сілы несці на сабе, уцякаючы ад карнікаў, Міцю і Насцю, саджала на Зорку, і тая маўкліва несла іх на сваёй спіне. І хоць бы раз рыкнула ў лесе. Быццам ведала, што будзе і ёй і гаспадыні загуба, калі нарвуцца немцы, пачуючы рыканне. Карміла Дар'я Зорку верасам, які выграбала з-пад снегу, веццем, і, дзякаваць богу, выцягнула карова на вясну, перазімавала. І не дала дзецям спухнуць з голаду — давала два карцы малака ўдзень. Не, не хадзіла б цяпер яна па зямлі, памерла б з голаду з дзяцьмі, калі б не было каровы. Ведала тады яна гэта сама, берагла Зорку лепш, чым сябе, і ад немцаў і ад паліцаяў хавала яе. Калі прыйшлі нашы, арала на Зорцы, прамацеры цяперашняй каровы, заглушанае пустазеллем калгаснае поле. Гэта было майскім днём, у паветры стаяла духата, Зорка ішла цяжка, плуг віляў за ёю, вывальваючы на босыя ногі Дар'і камякі ворыва. Апоўдні, калі жанкі зусім стаміліся, выбіліся з сіл і селі пажаваць праснакоў, перакусіць, Зорка раптам звалілася на зямлю, пачала соўгаць нагамі, шараваць па ворыве, намагаючыся падняцца,— і не хапіла сіл, падняла з зямлі толькі галаву, вінавата, нема паглядзела на Дар'ю: дай, маўляў, перадыхнуць. Сэрца Дар'і аж захлынулася ад роспачы, і яна загаласіла, кінулася выпрагаць Зорку з ярма, гладзіла яе па худых, як драбіна, рэбрах, запалым баку, слізкім ад поту. У той дзень Дар'я ўжо не арала кароваю, пасціла яе ў бярозавым гаі і маўкліва плакала, прыпаўшы тварам да зямлі,— ледзь дзяцей не пакінула галодных, без кубачка малака.

Дар'я яскрава ўявіла сабе ўсё перажытае ў той дзень і ўздрыгнула. Крадком азірнулася на Зорку, тузанула вяроўку і пайшла хутчэй, стараючыся аслабаніцца ад даўніх успамінаў. Але яны не выходзілі з галавы, тры-

вожылі душу, прымушалі думаць пра тое, што некалі было. Зноў усплыла ў памяці тая, далёкая Зорка. Да восені яна паправілася, пагладзела і ўжо цвёрда хадзіла па зямлі, не вадзіла яе, як раней, у бакі ад ветру. Дзякуючы ёй Дар'я выпаіла малаком, пагадавала дзяцей. А зімою, напярэдадні Новага года, калі на зямлю лёг глыбокі снег, абяцаючы багаты ўраджай, Зорка ацялілася: прывяла спрытную цяліцу на тонкіх, але моцных нагах. Колькі радасці было ў іх хаце, як дзеці любілі і гладзілі цялятка! Вочы ў іх так і свяціліся, калі ранічкай яны прачыналіся і бачылі, як цялічка бегае, задраўшы кароткі хвосцік, па хаце, забаўляецца сама з сабою. Увесь дзень дзеці не адыходзілі ад цяляці, давалі яму пассаць, пасмактаць свае пальцы і весела смяяліся, калі яно падбрыквала нагамі і бегала, настаўляючы на іх маленькія, як гузакі, рожкі, каб таўхануць каго пад зад. Цяжка жылося ў тую першую пасляваенную зіму, не да смеху было, але цялятка прыносіла шмат радасных хвілін, і дзеці на момант забывалі пра голад, не так часта прасілі ў Дар'і есці.

Панас прыехаў дамоў з Германіі, калі цяліца вырасла, стала кароваю. Гаспадар не пазнаў у ёй новую, маладую Зорку, сказаў са здзіўленнем: «Дар'я, а Зорка наша аж пamаладзела, як дзяўчына перад сватамі!» — «Праўду кажаш, Панаска!» — ад шчасця плакала Дар'я, прыпадаючы да шырокіх мужчынскіх грудзей, на якіх пазвоньвалі медалі.

За бярозавым гаем было вялікае поле, узаранае на папар. Тут некалі расла канюшына, і на ёй нахапалася аўсюгу вясною іх трэцяя Зорка. Якраз сонечны дожджык зацярусіўся апоўдні, вясёлка выгнулася рознакаляровым абручом над лесам — стала празрыста, радасна навокал. Зорка адбілася ад статка, забегла на канюшыну. З прагнасцю нахапалася яго там ды і легла на месцы і не паднялася больш на ногі. «Нагаравалася п тады, не дай божа нікому такога!» — падумала Дар'я, і стала ёй цяжка ісці па гэтым полі, хацелася, каб хутчэй яно засталося ззаду.

— Бацька! — азірнулася яна на Панаса.— Чаго ты ідзеш як нежывы... Падгані яе дубцом, падгані... А то ледзь ногі пераастаўляе...

Панас ачомаўся ад сваіх думак, моцна аперазаў Зорку па спіне дубцом.

Дар'я ўзлавалася:

— Не бі яе моцна так... Дарваўся! Яшчэ яна не чужая, каб біць... Цябе б так агрэць!.. Ласкава пацвялі дубцом ззаду, і яна ўсё зразумее, а то — біць.

Неахвотна, ляніва над зямлёю ўставаў шэры дзень. Імжыстая павалока на небакраі, ледзь азораная святлом, пераходзіла ў чорныя хмары. У іх стомлена варочала, нязлосна і ляніва пагрымвала.

«Дождж сыпане сёння, добра прыпусціць! — думаў Панас.— Хутчэй прадаць бы яе ды назад управіцца да дажджу. А то начаваць давядзецца ў мястэчку, калі дождж застане».

Думкі ж Дар'і былі далёка ад кірмашу, ад дажджу, што збіраўся ў небе, быццам бы яна і не вяла карову на кірмаш па полі, на якім не схаваешся нідзе ад ліўня, а ішла проста так без пэўнай і яснай мэты.

«А куды ж мы чацвёртую Зорку справодзілі? — успомнілася Дар'і.— Даўно было, з памяці выпала. Ды хіба ўсё ўспомніш. А! — узрадавалася яна.— Мы яе з бацькам на базу здалі. І чаму я пра гэта забыла? Галава, відаць, старая, дзіравая. Тады мы Насцю замуж аддавалі, справілі пасаг ёй за карову... З голымі рукамі да чужых людзей не выправілі, не асарамацілі перад імі. Крыўдзіцца сорамна: шафа была, гара падушак, паліто, багата хустак і сукенак. Нават тры паставы кужэльнага палатна. Па цяперашнім часе гэта, канешне, не пасаг, сорам адзін, а тады, калі жылося не багата...»

Панас зірнуў перад сабою з-пад шырокай, як лапата, далоні. Уперадзе паказалася вадакачка. Значыцца, хутка яны датупаюць да мястэчка, кіламетраў тры яшчэ ісці засталося. «Не прагадаць бы ў цане,— мільганула ў яго галаве.— Маці можа спусціць цану, задарма аддаць карову... За ёю трэба сачыць».

А Дар'я ўжо думала пра пятую Зорку, прыгадвала, і якая была ў яе натура, звычкі, і колькі разоў ацельвалася, запускалася і была пярэдайкай, і якія ў каровы цяляты былі. Усё ёй, Дар'і, цікава і патрэбна цяпер успомніць. Тую Зорку яна прадала аднаму цыгану-кавалю, які асеў жыць у калгасе і рашыў завесці такую ж гаспадарку, як ва ўсіх калгаснікаў. Тады багата хто з цыганоў асядаў на зямлі, не каціўся на калёсах больш у свет белы. Цыган заплаціў за кароўку добра, грошай не пашкадаваў: спадабалася, відаць, яму... З цыганоў за

нішто грошай не выб'еш — самі так і стараюцца абхітрыць зямельнага чалавека. Усе грошы, выручаныя за карову, пайшлі на Колю: у той год ён паступіў у тэхнікум. Гэта ён ужо пасля арміі ў інстытут трапіў, а спачатку вучыўся ў тэхнікуме. Прыадзелі, прыабулі хлопца — толькі вучыся. «А Міцька хай вельмі не крыўдзіцца,— падумала раптам Дар'я.— Ён старэйшы за ўсіх, і тады, у галадоўку, не было за што яго ў горад адпраўляць, вучыць. Чатыры класы і пяты калідор прайшоў — і гэта добра. Пісаць і чытаць умее, і добра. Занесла яго на Урал, і маўчыць, пісьма не прышле». Дар'я тузанула вяроўку, якой была залыгана за рогі карова,— Зорка незадаволена матнула галавою, пайшла за гаспадыняй спарней. Дар'я азірнулася, спынілася раптам, правяла рукою па белай лапінцы-лысінцы, пагладзіла карову між рог і зноў пайшла паперадзе. Апошняя Зорка пакорліва пераменьвала за ёю ногі, дыхала параю ў спіну гаспадыні.

Кірмаш на ўскраіне мястэчка ўяўляў сабою даволі шырокую плошчу, выбітую, вытаўчаную да чорнага капытамі жывёл і вытаптаную нагамі людзей. Паўз плот, у некалькі радоў, стаялі высокія пацямнелыя слупы, закапаныя ў зямлю. За іх прывязвалікароў, авечак, свіней. Шум, гам, віск, мычанне — усё перамяшалася тут. Дар'я знайшла цішэйшае месца, прывязала карову.

Зорка стаяла, натапырыўшы вушы — ніколі не бачыла столькі людзей,— памахвала хвастом і затоена прыслухоўвалася да шуму. Шкура на яе спіне ледзь-ледзь падрыгвала, у цёмных, з белымі, як з фарфору, бялкамі, вачах стаяў сум і пакорнасць свайму лёсу. Панас сеў побач на лаўку, глыбей нацягнуў на вочы новую шэрую шапку і заклапочана паглядваў з-пад брыля на натоўп, шукаючы таго, хто хутка будзе новым гаспадаром Зоркі. Падышоў мужчына гадоў сарака ў скуранцы, ладны, здаровы, з чырвоным, як бурак, тварам. Абвёў вачыма Зорку, пацікавіўся:

— Колькі просіце?

Дар'я не чакала гэтага пытання, уздрыгнула і зніякавела, ад неспадзявання павярнулася да Панаса:

— Бацька, чуеш? За колькі прадаём яе?

У яе было такое дзіўнае адчуванне, быццам прыйшла яна сюды проста так, ад цікаўнасці: ціхенька паглядзець на людзей, на тое, што на іх апранута, паслу-

хаць, пра што яны гамоняць між сабою, і пайсці. Пытанне застала яе як бы знянацку. У неспакоі яна пагладзіла Зорку, прыпала шчакою да яе мяккай цёплай шыі.

— Восемсот,— пачула Дар'я голас Панаса.— Калі бярэш, можна будзе трошкі і збавіць цану.

— Восемсот! — здзівіўся мужчына.— Ды я за такую цану матацыкл з каляскай куплю!

— Купляй, хто табе не дае! — пакрыўдзілася Дар'я.— Хіба мы сілком хочам табе яе прадаць? Матацыкл! Ты паспрабуй выгадаваць яе, выкарміць, потым гавары. Багата вас ахвотнікаў на дарэмнае.

— Восемсот,— падтакнуў цвёрда Панас,— цана недарагая.

Мужчына пахітаў галавою, быццам бы пасарамаціў іх, паўшчуваў іх за такую цану, паскрыпеў сваёй скуранкай, завярнуўся і пайшоў.

— Ты не вельмі крычы на купцоў, ласкавейшай будзь,— параіў жонцы Панас.— Купцы цяпер хітрыя, занудлівыя пайшлі. Іх толькі ласкавым словам і возьмеш.

— Ого! — узлавалася Дар'я.— Буду я перад імі падаць на калені. Хваробу! Не дачакаюцца... Тлуміць сабе галаву не дам...

Чым яна даўжэй стаяла на кірмашы, тым мацней у яе душы запаўзала трывога, незразумелая ёй самой непрыязь да купцоў, але яна ніяк не магла толкам расталумачыць свой стан і думала, што прычынай яе пагане настрою быў вінаваты Панас: ён моцна ўдарыў Зорку, калі вялі яе сюды, а тут паддобрываецца да кожнага ды яшчэ і вучыць, як набіваць цану. Не маленькая яна, сама ведае, што рабіць. Падыходзілі яшчэ нейкія мужчыны і жанчыны, мацалі вачыма Зорку, пра нешта пыталі ў Дар'і, а яна маўчала, і адказваў за яе Панас. Адказваў разумна, талкова і ласкава.

І раптам аднекуль узяўся кругленькі, як мячык, жывы дзядок у шэрым капелюшы, суконных штанах, з тоўстай палкаю ў руцэ. Не кажучы ні слова, ён падскочыў да Зоркі, па-гаспадарску паляпаў рукою па яе пысе. Прамармытаўшы нешта сабе пад нос, дзядок адскочыў убок, агледзеў Зорку з галавы да капыт сваімі хуткімі вочкамі, потым зноў падбег, прысеў, памацаў вымя і цыцкі, падскочыў і нечакана дзвюма рукамі ўхапіўся за рогі.

Дар'я самлела, са спужаным тварам сачыла за пакупніком.

— А карова... ялаўка! — тоненькім гнюсавым голасам прапішчаў дзядок, ледзь не віснучы ў Зоркі на рагах.

Карова раптам матнула галавою, дзядок адляцеў убок і ледзь утрымаўся на нагах, і тут жа над кірмашом павіс яе жалобны надрыўны голас. Гэтае рыканне нажом паласнула па сэрцы Дар'і. Яна азірнулася вакол сябе, задрыжала ўсім целам, быццам ачомвалася ад цяжкага дзіўнага зацьмення, што найшло на яе і ўсе гэтыя дні вярэдзіла душу, не давала спакою,— азірнулася і кінулася на дзядка з кулакамі:

— Не мацай яе! Я табе пакажу — ялаўка! Ты сам ялавы даўно, стары пень!

— Ды што... што гэта такое?.. Хуліганства!.. За што ты на мяне? — Дзядок пачаў адступаць ад Дар'і, і яму ніяк не прыходзіла ў галаву, чым ён правінаваціўся перад старою, угнявіў яе.

— Ідзі, кажу, адсюль! — крычала Дар'я.

— Маці, не крычы,— гаварыў Панас.— Так карову не прадасі, калі на кожнага купца будзеш з кулакамі кідацца... Няхай сабе мацае, карова ж не дзяўчына. Не трэба так!

— Вось я табе прадам, бачыў! — Дар'я ўсхадзілася не на жарт, згарнула і паказала дзядку дулю і засмяялася.— Не дачакаешся, не прадам! — Яна зірнула на Панаса, збітага з панталыку, строга загадала: — Бяры дубец!.. Хопіць таргавацца... Павядзём яе дамоў.

Дар'я падышла да каровы, абхапіла яе за шыю, трохі пастаяла так і павяла Зорку да варот... Панас, высокі, непаваротлівы, ціха пайшоў за ёю, адчуваючы за спіною, на сваёй патыліцы, насмешлівыя погляды людзей, і не падымаў вачэй. Яму было сорамна за жонку.

А Дар'я вяла Зорку і сама здзіўлялася, як гэта яна, старая дурніца, паддалася на ўгаворы Панаса і дадумалася прывесці сюды карову. Клопаты па карове ўхарошвалі яе жыццё. Дар'я ўявіла сабе, што яна б рабіла ранкамі без Зоркі, і ёй стала страшна. На працягу свайго цяжкага і доўгага жыцця яна прывыкла прачынацца яшчэ на досвітку, тупаць ля Зоркі, а потым, калі пакажацца з-за лесу сонца, выганяць яе ў статак, які марудна ідзе за вёску, і задумліва глядзець на яго з-пад далоні, пакуль ён не прападзе з вачэй. Гэта было яе паў-

сядзённым клопатам, без якога яна не ўяўляла свайго жыцця, існавання на зямлі, самой сябе. З гэтага пачынаўся яе кожны дзень — вясною, летам, восенню... А зімою, калі карова стаяла ў хляве, да яе находзіла іншая радасць: вадзіць карову да калодзежа, гаманіць з жанкамі, глядзець на белы іскрысты снег.

«Я ад цябе, саколка, яшчэ дачакаюся цялічкі,— святлела ў твары Дар'я, гаварыла ў думках з Зоркаю.— Насці тваю дачку аддам, хай гадуе сабе. Кароўка ў яе ўжо старая.— Дар'я ўздыхнула.— Кароткі ў каровы век...»

На паўдарозе, непадалёку ад бярозавага гаю, іх застаў дождж... Буйны, спорны, ён парывіста, хвалямі прашумеў над зямлёю, да ніточкі вымачыў Дар'ю з Панасам, Зорку і хутка ўгаманіўся, пайшоў далей, за палі. А над полем, над чорнай свежай раллёй, узляцеў жаваранак, пацягнуў на ніткі ў неба сваю песню, заклікаючы да раднасага жыцця.

# Апошні дзень

Прачнуўся стары Ахрэм, калі ў вокнах толькі-толькі пачынала сінець на раніцу, апусціў з ложка на падлогу ногі і моцна закашляў. Кашаль доўга рваў, раздзіраў грудзі, і стары ўпоцемку намацаў рукою кавеньку, што вісела на біле ложка, усадзіў у валёнкі ногі і, папіхаючы сябе, пашэргаў па падлозе, пайшоў да парога. Калі адчыніў дзверы і выйшаў на ганак, даў поўную волю кашлю.

— Бу-хі, бу-хі, бу-хі! — біў сухі кашаль, аж траслося ўсё цела і трымцела ў руцэ кавенька. Ногі падгіналіся ад нямогласці, і ён, сышоўшы з ганка, выбраў на прызбе сухое ад расы месца, сеў, паставіў між каленяў сваю папірачку і паклаў на яе накрыж свае белыя, як апараныя рукі. І так доўга і нерухома сядзеў, цяжка дыхаў, чуў, як скрыпела ў грудзях і па ўсяму целу разыходзілася млявасць. Млявасць ён носіць ужо ў сабе другі год, але, калі трохі расходзіцца з раніцы, патупае па двары, сілы набіралася на дзень, каб нешта зрабіць у селішчы — курэй выкішкаць з агародчыка, карову выгнаць на пашу, выбіць касою і прынесці ў хлеў травы цяляці. Толькі вось цяперака, у гэтыя дні, пачалі старога зусім падводзіць ногі. Нямелі, калі трохі паходзіць, рабіліся як не свае, і было ў іх хіба толькі сілы, каб выйсці на двор і пасядзець на прызбе, пагрэцца на сонцы. Цела яго ўжо не грэла само сябе, і цяпер стары не скідаў з сябе кажух ні зімою, ні летам, накрываўся ім нават нанач, калі клаўся спаць. І не вельмі перажываў, мучыўся ад думак, што цяпер нягожы,— ішоў яму дзевяносты год,— а ў гэтых гадах так і павінна з ім быць. Папраўдзе, ён і сам не ведае, колькі гадоў жыве на гэтым свеце, бо запісвалі яго, калі нарадзіўся, у царкве і запісы гэтыя прапалі недзе. Потым, калі вырас, пра гэта ён, цёмны чалавек, нідзе і не дапытваўся. Жыў, як усе людзі ў вёсцы: араў, сеяў, касіў, сек лес. І так з году ў год, і ўсё жыццё. З вёскі выехаў і пабачыў белага свету толькі тады, калі забралі на мікалаеўскую вайну. І свет той быў не белы, а чорны: туліўся, мёрз у акопах, пладзіў вошай. Потым прыбіўся дамоў, узяў Серафіму. І гадаваў дзяцей, рабіў у леспрамгасе аж да новай вайны. У вайну яму далі на фронце не аўтамат, а сякеру —

трапіў у сапёры. Наводзіў на пераправах масты. І накрыла яго бомбай на Вісле. Са шпіталя яго пусцілі памерці дамоў — чуў, што пра гэта між сабою ваенныя лекары гаварылі. Быў ён скура ды косці, а ў галаве ўсё звінела і лопалася нешта. На дзіва сабе і людзям неўзабаве ён падняўся, стаў на ногі, зноў пайшоў рабіць у леспрамгас. Рабіў як вол. І раптам адабралі ў яго інвалідную пенсію. Яшчэ здзіўляліся: такі асілак — і першая група. Як так! І дажыў ён да другой пенсіі, рабочай. З той пары не адлучаўся ад свайго двара: даглядаў карову, забаўляў унукаў: зімою — аднаго, даччынога, а ўлетку — дзесяцерых, усіх адразу. Сыны з нявесткамі прыязджаюць да яго з горада на лета, грыбы збіраюць, варэнне з ягад вараць. Хацелі даўно бацьку забраць у горад, але ён не паехаў. І добра зрабіў. Хай пахаваюць дома, на сваіх могілках, на якіх ляжаць дзед, бацька і маці, Серафіма яго, а не сярод гарадскога тлуму і лязгацення.

Уднела. Над далёкай і вышчарбленай, як піла, сонлоскай лесу набрыняла і сачылася чырвонае неба, сонца яшчэ не выпнулася з-за небасхілу, але яго прысутнасць ужо адчувалася на зямлі — на сліўніку, аблітым за ноч расою, ляжаў чырвоны колер водбліску. І ўсё жывое давала аб сабе знаць: трашчалі, сварыліся ў садзе вераб'і, рыкалі каровы, на поплаве кракатаў дзяркач. Багата на сваім вяку ён сустракаў такіх раніц, і ўсе яны былі амаль аднолькавыя ўлетку, з расою, з раскацістымі галасамі, са свежым подыхам прахалоды ў твар.

Адчыніліся дзверы, і з хаты выйшла з даёнкай у руцэ Вольга, дачка. Паварушыла целам — было зябка,— зірнула на бацьку.

— Чаго так рана раскатурхаліся?

Ён падняў вочы:

— Не спіцца. Кашаль дзярэ.

— Звару ліпавага настою.

— Ці паможа?

— Памагаў жа.

— У грудзях гняце. Аж душыць.

— А вы пахадзіце трохі. Палягчэе, адпусціць.

— Ногі ж не носяць.

— Да Андрэя дойдзеце як-небудзь. Недалёка тут.

Стары навастрыў вочы:

— А чаго ісці да яго?

— Адведаць. І дзяцей паглядзець. Яму ж няма на каго іх пакінуць... У радзілку збіраецца Андрэй сёння паехаць. У мястэчка.

— Хіба Лену завёз туды?

— Учора. Не ведаеце?

— Ніхто не казаў.

Унук Андрэй жыў цераз пяць хат, і стары абапёрся на кавеньку, марудна падняўся з прызбы, трохі пастаяў нагінкам, каб пацупчэла ў нагах, і падаўся на вуліцу.

Паднялося сонца, шырокае і чырвонае, падсвяціла туман, які выгінаўся над поплавам, тонкай павуцінай аплёў алешнік. У хатах малінавымі водблiскамі заблішчалі шыбы.

Выганялі на пашу кароў, яны збіраліся на вуліцы ў чаргу, ляніва ішлі паўз платы, менцячы вялымі, выдаенымі вымямі.

Ахрэма пазнала і падышла да яго карова, спынілася і падставіла пад рукі гаспадара голаў — хацела, каб пагладзіў, паскроб кіпцямі між рог, у ямачцы.

— Харошая мая, харошая! — вадзіў па гладкай шыі рукою і прыгаворваў ён.— Па малако ідзеш, рахманая мая.

Карова ад асалоды прыжмурвала свае рачкатыя чорныя вочы, прыціснула вушы і так доўга стаяла б, слухала б рукі гаспадара, калі б ён яе лашчыў і не прагнаў ад сябе кавенькаю.

— Добрага ранку, дзеду! — гукнуў раптам ззаду моцны мужчынскі голас. Ахрэм азірнуўся — са сваіх варот выйшаў Сцяпан, сусед, у гумовых ботах з закасанымі халявамі, з накідкай на плячы, з раменнаю пугаю ў руцэ.

— А-а, пастух! — азваўся Ахрэм.— Дзе будзеш сёння чаргу пасціць?

— На Барсучніку.

— Там жа ўчора каровы хадзілі. Вытаўклі той груд. Голая зямля, як бубен. Гані лепш на Высокі палетак. Там будзе сёння камбайн хадзіць. От і напасеш кароў на свежай пожні.

— Дзякуй, дзеду, што сказалі.

Сцяпан шлёгнуў, сцебануў пугаю па мокрым пяску і пайшоў подбегам даганяць кароў. За ім патрухаў, дробна перабіраючы лапамі, руды сабачка з куцым растрапаным хвастом.

Марудна перастаўляючы кавеньку па пяску, пайшоў, пакалываўся паўз платы, спакойна, ціха глядзеў на хаты, заглядваў у двары, каб каго ўбачыць і пагаварыць. Нейкая незразумелая нуда найшла на душу, салодкая і тамлівая,— даўно не выходзіў з хаты і не бачыў людзей,— і хацелася яму адвесці з кім душу або памаўчаць з добрым чалавекам. Ішоў паўз Ганнін плот. Праз частаколіны ў вачах зарабацілася, заскакала сонца, і было яму добра, дзіўна, што па твары мігцелі, пярэсціліся сонечныя зайчыкі, ласкавыя і ціхія.

А вось і сама Ганна. Выгнала з двара карову на пашу, села на лаўку ля сваіх варот і сядзіць. Старасць таксама сагнула ёй плечы, і яна не падымае вачэй ад каленяў, на якіх ляжаць яе цёмныя сухія рукі з пакрыўленымі пальцамі.

— Як здароўе, дзеўка? — ні то паздароўкаўся, ні то спытаў ён і сеў побач на лаўку.

— Кеўляю патроху. А тваё?

— Ногі ледзь цягаю. На той свет пара.

— Цяпер толькі і жыць. Ціха, мірна, улежна і ўежна.

— Усё жыццё прагаравалі. А цяпер, калі толькі і жыць, збірайся... Крыўда бярэ.

Ганна зірнула на Ахрэма:

— А не баішся смерці?

Ён калупнуў кавенькаю пясок ля ног.

— Чаго баяцца. Пражыў сваё. Пара ўжо саступіць каму месца на зямлі.

— Яно і праўда,— згадзілася Ганна. Памаўчала, уздыхнула.— Цябе, Ахрэмка, хоць будзе каму пахаваць... А хто мае косці заграбе? Адна вякую. З самае вайны.

— Рана ты, дзеўка, пра смерць загаварыла. Дажыві да маіх гадоў, тады будзеш казаць. Я ж табе дзядзькам даводжуся.

— Старасць усіхураўнівае.

— Знайшлася мне старая. Калі я жаніўся, ты яшчэ ў лялькі гуляла на прызбе.

— Сёмы ж дзесятак ідзе.

— У твае гады я яшчэ на чужых жанок паглядаў.

— Нешта не бачна было.

— Хацела яшчэ бачыць. Гэтага не хапала.

Унукава хата была новая. Васкова-жоўтыя сцены здалёк свяціліся сярод шэрых будынін урачыстым сонечным колерам — яшчэ не выпетрыліся на дажджах і

ветры, не выцвілі на сонцы. Двор роўна і хораша абдымаў нафарбаваны ў зялёнае штыкет, з-за якога сплывала на вуліцу густое галлё сліўнікоў, унізанае вялікімі і чырвонымі, як велікодныя яйкі, слівамі.

Варотцы былі незачыненыя, і Ахрэм перанёс цераз завалу кіёк, сам ступіў у двор. Першымі яго ўбачылі праўнукі, хлопчык і дзяўчынка, пабеглі насустрач:

— Дзед ідзе! Дзед ідзе!

Падбеглі і прытуліліся да яго, прылашчыліся, і стары спыніўся, пачаў гладзіць дзяцей, вадзіць рукою па мяккіх валасах, якія чапляліся за шурпатую, як тарка, яго далонь.

— А дзе маці? — папытаў у іх, быццам не ведаў.

— У мястэчка паехала,— адгукнулася меншанькая.— На кірмаш. Зайчыка нам купіць і прывязе. Так бацька казаў.

Большы хлопчык, Віталька, засмяяўся:

— Гі-гі-гі! Не зайчыка, а хлопчыка.

— Хлопчыкаў жа не прадаюць на кірмашы.

— Маме прададуць.

— А бацьку памагаеце?

— Памагаем. Гусей пасвім. І куранятам проса сыплем.

— Вось якія вы малайцы! — пахваліў іх дзед і пайшоў у хату.

З печы адганяла на хату дым. Старыя рубанцы сіпелі, не хацелі гарэць, полымя то выхоплівалася з-пад іх, абдымала дровы, то зноў мізарнела, вузілася і вяла памільгвала, учапіўшыся за чорныя канцы трэсак. І Андрэй зноў піхаў пад рубанцы газеты, дзьмухаў у печ.

Дзед пераступіў парог:

— Бог у помач, унуча! За гаспадыню арудуеш?

— Хай яна спрахне, гэтая бабская работа! І ў печы не гарыць, і свінні хлеў разносяць, просяць есці. А я яшчэ ім і картоплі ў печ не ставіў... І ў мястэчка трэба ехаць. Аўтобус не чакацьме ж...

— Каторы дзень там Лена?

— Трэці.

— Доўга нешта раджае. Колісь, бывала, хутка рабілі гэта. У разоры... З поля прыносілі... А цяпер бач, тры дні трэба.

— Сёння, можа, і родзіць. Паеду.

— А я прыйшоў дзяцей паглядзець.

— Трэба было вам дома ляжаць. Хадзіць жа цяжка.

— Мяне Вольга падменіць. Прыйдзе, казала, хутка.

— Хіба так,— згадзіўся Андрэй. Паставіў у печ вялікі, свінны, чыгун, зірнуў на старога.— То ідзіце ў сад. Там вальней вам будзе.

Стары знайшоў вачыма пад яблыняй услон, апусціўся на яго, прыгрэўся на сонцы і задрамаў ад слабасці, прыхінуўшыся спіною да камля яблыні. І хутка прахапіўся, не адразу прыйшоў у сябе, доўга расціраў твар сухімі далонямі.

У голлі яблынь, сярод цёмнай лістоты, віселі жоўтыя яблыкі. І нават на вочы адчувалася іх наліўная важкасць і ранішняя прахалода.

Прыбег у сад Віталька з парожнім вядром:

— Цётка Вольга прыйшла. Казала, каб вы дадому ішлі.

І пачаў збіраць і кідаць у вядро яблыкі, і яны бухалі ў дно, як у вялікі бубен.

Дамоў ён пакандыбаў не вуліцай, а агародамі. Па сцежцы, што ляжала ў разоры, пайшоў у канец сотак, падняўся на круты ўзгорак, зарослы асінамі і бярозамі, абгароджаны частаколам.

Зялёная няходжаная сцежка — яе зацягнула, як застылы ручай раскай, лісцямі падарожніку — збегла з могілак на поплаў, што ляжаў ля самых Ахрэмавых сотак. Трава на ім была пакошана, ляжала роўнымі радамі, спалавелая на сонцы. Ён нагнуўся, узяў у жменю прывяленай травы, паднёс да твару, але паху не пачуў. Паварушыў кавенькаю рады. Спаднізу трава была яшчэ сырая, і ён падумаў, што трэба будзе ўзяць граблі і падварушыць яе, каб хутчэй сохла. І соладка старому стала і трывожна — ён знайшоў сабе занятак, які з раніцы чакаў яго і цяпер пачынаў клапаціць душу. Ведаў, што, калі падварушыць, пераверне сена, на сэрцы стане прасцей і лягчэй. Яму стала сумна, і — дзіўна — гэты сум нібы засмоктваў душу, не хацеў яе адпускаць. І рабілася боязна і трывожна, і яго нешта гняло, і гэта, ведаў ён, хутка пройдзе і прыйдзе ў душу зноў.

Пайшоў памалу разорай у двор, доўга тупаў пад паветкаю, шукаючы граблі, але іх не знайшоў — зяць, мабыць, узяў раніцай на пакос у калгас. Раптам позірк

яго упаў на штабель сухіх роўных дошак, што ляжаў пад плотам. І ён раптам заціх, стаў сярод двара, паклаў на кавеньку дзве далоні, прыткнуўся да яе грудзьмі. І ў старога заняло дыханне. Пачаў мучыцца і ад страху, і ад тамлівага прадчування лёгкасці, якая, ведаў ён, павінна хутка да яго прыйсці замест бясконцай трывогі апошніх дзён.

А на двара ўжо вечарэла. Асвечанае заходзячым сонцам неба з жоўтага на захадзе пераходзіла ў зеніце ў зялёнае.

Ногі ад стомы ўжо ледзь трымалі Ахрэма. Ён ступіў колькі крокаў і апусціўся на ганак. Сядзеў Ахрэм так нядоўга, падняўся, адчыніў дзверы ў сенцы, зайшоў у хату і падаўся ў бакоўку — там, за дашчанай перагародкай, быў яго ложак. Не распранаўся, прылёг, паклаў галаву на падушку, і яго агарнула чуйная вялая дрымота. Потым Ахрэму зрабілася холадна, ён накінуў на сябе кажух і, трохі ўгрэўшыся, ненадоўга заціх.

Падняў толькі галаву, калі ў хаце пачуў крокі:

— Вольга, ты?

— Я, тата!

— Ці радзіла Лена?

— Радзіла хлопчыка.

— А як назвалі яго?

— Так, як вас.

— То і няхай жыве замест мяне!

Гэта былі апошнія яго словы.

# Увосень

## 1

Ціха і шэра ў хаце. Адно акно завешана посцілкай — маці, мабыць, пастаралася, каб сонца не біла ў вочы Віцькі,— каля другога сядзіць на табурэце бацька.

Сядзіць ён бокам, і Віцьку відаць, як у яго на спіне, пад цесна напятай, нацягнутай кашуляй, варушацца лапаткі. Перад бацькам на стале стаяць патроны. Пыжы з пакулля і парожнія гільзы ляжаць уперамешку ў чырвоным мяшэчку і, калі бацька засаджвае ў яго руку, мякка падзынкваюць.

Віцька пачынае глядзець у другое акно. Яно зусім цёмнае. «І нашто маці яго завесіла? Сонца ж усё роўна няма! — думае ён і адразу ж палохаецца: — А раптам дождж на вуліцы?!»

Але тут у самым верхнім кутку посцілкі бліснула маленькая іскрынка. Потым яшчэ адна. Потым яшчэ і яшчэ... Усё ніжэй і ніжэй. І вось ужо амаль палова посцілкі гарыць, быццам праткнутая з таго боку мноствам вострых і бліскучых іголачак.

Сонца ўзышло!

Віцькава хата стаіць на самым узлобку, на беразе рэчкі. Другія хаты хаваюцца за ёю на схіле ўзгорка, і зімою іх замятае глыбокім снегам, а вось хату Віцькі з усіх бакоў абдзьмухвае вецер. Затое і відаць яе здалёк. І з вокан усё бачна: і далёкі лес, і рака. Ды і сонца ў хату раней, чым да другіх, заглядвае. У даліне туман яшчэ ранішні стыне, за хатамі хаваюцца доўгія сінія цені, а ў Віцькавым двары светла. Дзень. Хоць і гаварыла неяк маці, што спачатку смяяліся з бацькі ў вёсцы, калі ён намерыўся хату на гары ставіць, але Віця гэтага не памятае — тады ён зусім маленькі быў. Цяпер не смяюцца.

Віцька апускае голыя ногі з ложка, нячутна падкрадваецца да бацькі і раптам моцна абдымае яго ззаду, павісае на шыі і прыціскаецца да гарачай спіны:

— Тата! — радасна крычыць Віцька.

Бацька лёгка аслабаняе сынавы рукі, саджае яго сабе на калені і смяецца. І пахне ад яго тытунём, порахам і чыстай сарочкай.

— Ідзі мыйся... Ідзі...— ласкава гаворыць бацька і спіхвае Віцьку з каленяў. Спрытна выбягае Віцька за высокі парог у сенцы. Склаўшы лодачкай далоні, падбівае, тыцкае знізу ў тупы цвік рукамыйніка, плёскае ў твар халоднай вадою, пакуль не пачынае пякчы ад холаду ў пальцы. Уздрыгвае Віцька, і вада пляскоча з рук прама на босыя ногі, пячэ ў іх — падскоквае ён каля ўмывальніка.

А якой светлай пасля сенцаў, цёплай здаецца хата!

Бацька яму паставіў на падлозе гумовыя боты. Віцька хутка насоўвае іх на ногі, разгортвае і нацягвае на сябе кашулю. І, не паспеўшы з каўняра высунуць галаву, чуе, як па спіне пабегла халоднае паветра — маці прыйшла з магазіна.

Маці ў Віцькі маладая. Да апошняга часу яна ходзіць з бацькам у клуб не толькі ў кіно, але і на танцы. А часам і яго з сабою бяруць.

Віцька заўсёды цікуе, каб да гарманіста прыладзіцца, а калі на сцэне заводзяць радыёлу, дык да радыёлы. Глядзіць ён, як, паклаўшы вуха на мех, перабірае ў пальцах рабенькія гузічкі Валодзя-паштальён або як плыве па пласцінцы, пакалыхваецца белая ручка гуказдымальніка і з-пад яе, быццам па вадзе, плывуць, расходзяцца ў бакі тонкія густыя хвалі. І не можа Віцька зразумець тады, чаго так радасна і добра яму. Маці танцуе і з дзяўчатамі і з хлопцамі, а бацька больш стаіць з мужчынамі каля дзвярэй. Кураць у адчыненыя дзверы, глядзяць на тых, хто ў крузе скача, і гавораць пра свае справы: пра пакос, пра рыбу і яшчэ пра нешта сур'ёзнае і мужчынскае. Шчаслівага і соннага, прыводзяць Віцьку дамоў, і адразу засынае ён, як толькі ўпадзе на ложак.

— А я дзеда Халімона стрэла,— гаворыць з парога маці, і ў яе вачах свецяцца смяшынкі.— Ішоў са стрэльбай. Не інакш як на рабчыкаў ішоў.

Сэрца ў Віцькі моцна затахкала.

Калгасны вартаўнік, дзед Халімон, высокі, худы і падслепаваты. Ёсць у хаце ў яго вялізная кніга ў скураным пераплёце, але дзед ужо не можа яе чытаць нават у акулярах, якія яму прывезла з горада Грышкава маці, прадаўшчыца. Аднак страляе стары без промаху. Трывожна глядзіць Віцька на бацьку, але той спакойна садзіцца да стала снедаць. Есць бацька спакойна і раз-

машыста. Вялікімі кавалкамі адкусвае хлеб ад лусты, дзьмухае на гарачыя бульбіны, сёрбае лыжкаю кіслае малако з міскі. Віцька спяшаецца за ім есці, але абпякае рот, прыкусвае язык. Бацька гэтага быццам не заўважае, блытае валасы на галаве Віцькі і падымаецца з-за стала.

У Віцькі нават горла зацінаецца ад радасці: нарэшце!

2

Празрыстае і свежае ранішняе асенняе паветра. І чуваць у ім далёка, як суха трашчыць на рацэ лодачны матор, як падзынквае званок на шыі блудлівай каровы, як недзе ў канцы вёскі звонка лопаюцца сухія бярозавыя палены ад удараў сякеры.

Шырока і ходка ідзе бацька. Шамаціць пад яго ботамі пабялелае ад замаразку лісце, і Віцька мерыцца траплядь у чорныя пячаткі бацькавых слядоў.

Сцежка бяжыць паўз стаптанае каровамі поле, на якім густа і хараша цвіў улетку жоўтым цветам лубін. Яго даўно ўжо скасілі, і толькі дзе-нідзе ляжаць на зямлі вылузаныя палавінкі стручкоў, падобныя на маленькія лодачкі. Іх краі абраслі тонкімі нітачкамі інею і празрыста гараць на сонцы.

З другога боку сцежку засланяюць зарасці альшэўніку і крушынніку. Яны празрыстыя і пустыя. Толькі дзе-нідзе цьмяна паблісквае скрозь павуцінне голага галля рака, і нельга разабраць, далёка яна ці блізка.

Віцька ведае, што яна далёка, а ўсё-такі яму часам здаецца, што сініца, якая сарвалася з голай галіны, вось-вось чыркне грудзьмі, быццам ластаўка, па мёртвай асенняй вадзе і па ёй пойдуць у бакі дробныя кругі. Але сініца садзіцца на другую галінку, і рака тут жа здаецца далёкай.

Бацька зварочвае са сцежкі, прытрымліваючы рукою стрэльбу, пералазіць цераз жардзяны плот, які абкружваў соткі лесніка, і крочыць наўскасяк па полі. За полем выгаралы лес, парослы нізенькім беразнячком і доўгаю травою-баравіцаю. Па выжарыне ходзяць каровы. Дыхаюць яны параю на змерзлую траву, і тады пад іх пысамі яна вільгатнее і цямнее. Каровы падымаюць куцыя галовы, глядзяць на Віцьку добрымі, вільготнымі да

бляску вачыма, пачынаюць лянiва, з уздыхам рыкаць яму ўслед. Сумна iм, вiдаць, тут, у сiратлiвым лесе, ды i паша не едкая.

Другая справа ўлетку!

Улетку часам Вiцька праз сон чуе, як ступае, праплывае паўз хату статак да ракi. На вулiцы чуваць бляшанае падзынкванне, але Вiцька не можа расплюшчыць вачэй: рана яшчэ i вельмi хочацца спаць!

А каровы выплываюць з вулкi на выган, расходзяцца, i ў ранiшнiм паветры чуваць iх хрумстанне — дапалi да травы, якую падняла з зямлi, натапырыла за ноч раса. I за каровамi цягнуцца па дымнай траве звiлiстыя цёмныя сляды.

Хутка выжарына канчаецца, i вось ужо верхавiны хвой таямнiча сходзяцца над галавою.

Нiзкае сонца наўскос асвятляе ранiшнi лес. Ценi ад сасновых ствалоў такiя доўгiя, што iм не хапае месца на прыгорку. Ламаючыся на схiле, пераходзяць яны канаву, цягнуцца i злiваюцца разам недзе ўдалечынi. I сцежка тут не такая, як на пажарышчы: шырокая, i перацiскаюць яе то тут, то там, быццам вузлаватыя старэчыя пальцы, голыя, аблузаныя коламi карэннi. На сцежцы ляжаць чорныя, гарбатыя, падобныя на горы, ценi. А бацька ўсё iдзе i iдзе. I чым далей яны адыходзяць ад вёскi, тым глушэй робiцца лес.

## 3

Сцежка паступова спускаецца з узгорка, звужваецца, i адступаюць высачэзныя хвоi. Яны адыходзяць некуды ўбок, а замест iх да сцежкi выбягаюць i тоўпяцца вакол яе бярозы. Але яны зусiм не такiя, як на пажарышчы: чорныя i нiзкiя, а хлёсткiя, з напятымi i роўнымi ствалами.

Затое як светла ў бярэзнiку!

Чыстым паркалём бялее, свецiцца на ствалах кара. I цiха ў бярэзнiку. Застыла i не хiснецца доўгае галлё. Дзе-нiдзе сярод яго вiдаць жоўтыя кружочкi лiсцяў, быццам сонечныя праменнi заблыталiся там ды так i засталiся вiсець.

Ведае Вiцька, што раней за ўсiх у лесе сустракаюць восень бярозы. Толькi раннiя замаразкi прыхопяць у нi-

зінах, пасярэбраць траву, а на бярозах ужо, глядзіш, развешаны жоўтыя ліхтарыкі. Іх запальвае восень.

Даўно звяла чырвонае полымя асін, абклявалі на рабінніку і крушынніку прывялыя ягады птушкі, а на бярозах трымаецца, вісіць лісце.

Бацька зварочвае са сцежкі, і боты яго мякка патанаюць у глыбокім імху.

«Значыцца, скора...» — здагадваецца Віцька, і толькі адно непакоіць яго: няўжо дзед раней за іх па гэтых месцах прайшоў?

— Давай закурым,— раптам гаворыць жартам бацька і садзіцца на паваленае тулава асіны.

Віцька ціснецца бліжэй да бацькі, а бацька здымае з пляча стрэльбу, ставіць яе між каленяў і закурвае. Зусім як дома расплываецца ў зацішку сіні дымок. Віцька адварочваецца — пяршыць у горле, душыць ад цыгарэтнага дыму, але кашлянуць ён не асмельваецца: боязна чамусьці.

Доўга сядзяць яны моўчкі, адпачываюць. Працяглым кашлем плыве па лесе далёкі стрэл. Бацька паварочвае галаву на гук, прыслухоўваецца.

— Вось куды яго занесла! — гаворыць бацька і, хітра ўсміхаючыся, глядзіць на Віцьку.— А я ўжо падумаў, ці не пераб'е нам дзед паляванне. А ты як?

— І я падумаў,— радасна прызнаецца Віцька.

— А тут і думаць не трэба было,— зусім ужо смяецца бацька.— Дзед другім бокам пайшоў. Хіба ты не бачыў?

— Не, не бачыў,— вінавата чырванее Віцька.

— Гэта не бяда,— гаворыць ужо сур'ёзна бацька, тушыць акурак і падымаецца з дрэва.— Давай мы з табою паўз балота пойдзем.

Ідуць яны цяпер вельмі асцярожна. Стрэльбу бацька трымае ў руцэ. І Віцьку нічога ўжо не відаць, акрамя спіны бацькі. Разраслася яна быццам, засланіла сабою і бярозы, і неба, і ўсё навокал. І няма больш нікога і нічога ў прыціхлым лесе.

Бацька спыняецца, пільна ўглядаецца ў верхавіны хвой і махае Віцьку рукою.

— Ці-і-і... ці-і-і... ці-і-і,— чуецца раптам знаёмы перасвіст з ледзь улоўным мармытаннем у канцы: рабчык заспяваў.

— Вунь, глядзі,— гаворыць ён ціха і паказвае ўгару.

І Віцька бачыць на высокай галіне рабчыка. Сядзіць ён нерухома, выцягнуўшы шыю, і прыслухоўваецца да свісту ў адказ. Але ціха вакол, чакае Віцька стрэлу, а бацька, відаць, і не збіраецца страляць.

«Вельмі далёка,— здагадваецца Віцька,— падкрасціся б...»

А бацька адыходзіць зусім у другі бок, туды, дзе гусцейшы хвойнік, сядае на мяккую, як крэсла, купіну і дастае манок з тоўстага глушцовага пяра, выкалупвае з яго смецце завостраным тонкім дубчыкам.

Віцька глядзіць, як нетаропка вычышчае бацька манок, і пачынае думаць, што цяпер ужо пэўна прападзе ўсё паляванне. Не стане ж рабчык чакаць, пакуль ён наладзіць сваю свістульку. А бацьку хоць бы што! Прадзімае ён пацiху манок, змочвае яго слінаю, каб гук чысцейшы быў, і толькі тады пачынае падманваць!

«Ці-і-і... ці-і-і... ці — і-і»,— адразу адклікаецца рабчык, і відаць Віцьку, як зрываецца ён з бярозы і сядае недзе зусім блізка. Толькі чуе ён шлапаценне крылаў ды заўважае, як пахістваецца голле на блізкай хвойцы. Бацька падымае стрэльбу — і Віцька ўвесь сціскаецца, зажмурвае вочы.

Рэзка і радасна лопаецца на ўвесь лес стрэл, і бачыць Віцька, як, ламаючы крылы, падае на ягаднік забітая птушка.

Бацька падымае рабчыка, і Віцьку нават не верыцца, што гэта тая самая птушка, якая толькі што святочна пасвіствала на хвоі.

На бацькавых пальцах размазана кроў, на іх наліплі тоненькія пярынкі. Глядзіць на іх Віцька і вочы адвесці не можа. Страшна робіцца яму, быццам гэта зусім не бацька, а нехта чужы, жорсткі і невядомы стаіць перад ім.

— Ну вось, адзін ёсць,— спакойна гаворыць бацька і запіхвае рабчыка ў брызентавую торбу, што вісіць у яго на плячы.— Давай яшчэ трохі паходзім.

Рабчыкаў у лесе шмат. То тут, то там чуваць іх свіст, і Віцька ўжо не сціскаецца ў чаканні стрэлу. Азарт паляўнічага авалодвае ім. Напрасткі кідаецца ён праз кусты, ледзь толькі ўбачыць, куды падае рабчык, і хочацца толькі яму, каб часцей грымелі стрэлы. І няма ўжо ў Віцькавай душы ніякай боязі, а сэрца тахкае ў яго часта і моцна.

Да Віцькавых рук таксама прыліплі мокрыя ад крыві пер'і, але цяпер ён нават не заўважае іх. Не бачыць ён і бацьку, не бачыць і таго, што няма ўжо вакол хвой, а толькі нізкія кусты маліннiку ды высокая трава абкружае яго.

Бацька паклаў рабчыкаў на пень. Віцька глядзіць на іх. Галовы вяла звісаюць долу, між крылаў бачна тонкая пасінелая скура. І зноў страшна робіцца Віцьку.

Бацька звязвае птушак разам і падае яму.

— Нясі,— гаворыць.— Маці парадуеш... Паляўнічы!..

Але самога Віцьку не радуе ўдача. Ідзе ён за бацькам сумны і прыціхлы. Стаміўся ён, спатыкаецца, і шкода яму самога сябе, шкода забітых рабчыкаў і хочацца хутчэй выйсці з лесу. Цяжка яму чамусьці на сэрцы і гаварыць ні з кім не хочацца.

Яны моўчкі доўга ідуць, пакуль не паказваецца з лесу вёска, а на ўзгорку — іхняя хата.

Маці стаіць на ганку. Яшчэ здалёк яна хоча ўбачыць, што нясуць паляўнічыя, і, убачыўшы, смяецца.

— Ну, з удачай вас,— пачынае яна.— Сыночак мой, Віцька, гэта ты столькі ўпаляваў лясных курак?

І цягнецца яна рукамі да Віці. Але той моўчкі кладзе на лаву забітых птушак і выскоквае на двор.

## 4

Да самага вечара прападае Віцька ў вёсцы. Дамоў яму ісці не хочацца. Глядзіць, як каля кузні нацягваюць на вобад шыну. Кола шыпіць і дыміцца, а каваль малатком лоўка падбівае на ім гарачы вобад. Каля магазіна з машыны згружаюць нейкія скрынкі, Віцька круціцца і тут. Потым разам з дзецьмі ён бяжыць да рэчкі кідаць па вадзе плоскія каменьчыкі і зусім забывае пра паляванне.

Вяртаецца дамоў ужо позна. На хуткую руку вячэрае і кладзецца спаць. Засынае Віцька адразу ж і спіць моцным сном, але ж ноччу ад нечага прачынаецца.

Ляжыць на спіне, учапіўшыся рукамі ў коўдру. Шырока расплюшчыўшы вочы, глядзіць Віцька ў цемень і бачыць, як трапечацца на брусніченіку пачарнелая птушка. Адно крыло ў яе падвернута, а другім яна моцна б'е па зямлі, і разлятаецца вакол выврванае пер'е.

Саскоквае Віцька на падлогу, перабягае на другі ло-

жак і вобмацкам лезе пад коўдру да маці, прыціскаецца да яе, дрыжлівы і маленькі, і наўзрыд плача.

Плача доўга і горача, а маці гладзіць яго цёплай і мяккай рукою. Моцна прыціскае да сябе, цалуе і сонным голасам пяшчотна прыгаворвае:

— Ягадка ты мая маленькая... ягадка дурненькая...

Віцька выплакаўся, аслабеў ад слёз, апошні раз сутаргава ўсхліпвае і засынае зноў.

# Жанiх

1

«Здароў, дружа Андрэй!

Піша табе з вёскі Пятро — былы студэнт-баламут, ложак якога ў інтэрнаце стаяў упрытык з тваім.

Адпачываю я ў бацькі, лаўлю на возеры рыбу, п'ю сырадой раніцай, сплю ў садзе. Любата! Паветра смачнае, салодкае, як мёд. І цішыня, аж у вушах звініць. Хутка пачнецца сенакос. Ты некалі, здаецца, пісаў мне, што вельмі хочаш памахаць на досвітку касою, палавіць рыбы, паляжаць у садзе пад чыстымі зорамі і бліскучым месяцам. Бяры водпуск і прыязджай — усё гэта будзе. Запрашаю тваю светласць у госці не толькі я, але і бацька і сястра Ніна. Яны добра памятаюць цябе. Бацька новую касу насадзіў на касавільна спецыяльна для цябе... Вісіць накляпаная пад страхою, чакае цябе. Прыязджай. Чакаем і мы.

Пятро Рабуха.

P. S. Вуды, спінінг не бяры з сабою. Усё гэта ў нас ёсць».

2

На паўстанку сказалі, каб увесь час, калі будзе ісці, Андрэй трымаўся берага возера. Тады і трапіць у Дубкі. Больш за тры сотні кіламетраў было нядаўна да гэтай вёскі, а цяпер не засталося і трох. І сцежка гладкая, роўная, і раніца ядраная.

Жыта, трава і возера — усё было ўрачыста задумлівым на зямлі ў чаканні сонца. Плылі над возерам космы шызага туману, прыціскаліся да чароту, да кустоў лазы, лашчыліся да іх. Ля чароту то асцярожна, ледзь чутно, то раптам хлёстка, з празрыстым звонам узбучвалася вада: рыба, гуляючы, вынырвала з возера. І калі ён падумаў, што хутка будзе сядзець з вудай на беразе гэтага возера, прыемны халадок падкаціўся пад грудзі.

— Э-э-эй! — нечакана для самога сябе крыкнуў ён і, здзіўлены, запаволіў крок, прыслухаўся: голас яго, прасторны і зычны, пакаціўся па вадзе, рэхам адгукнуўся ў густых чаратах. Сонца паднялося вышэй. Хутка нагрэ-

тая зямля задыхала вільготным цяплом, убіраючы ў сябе прахалоду ранішняй расы; замітусіліся каля дарогі пчолы, пільна пачалі абшукваць кветкі. Лянiва дыхнуў ветрык — загойдаліся, зашуршалі яшчэ кароткія каласы жыта.

— Чаго ржаў, як жарабец? — пачуў ён раптам блізка ля сябе стары хрыпаты голас.

На ўзмежку ён убачыў дзеда, які нагінаў і мацаў каласы. Валасы і барада ў яго аж пажоўклі ад старасці.

— Добрай раніцы! — прывітаўся са старым Андрэй.— Доўга яшчэ ісці да Дубкоў?

— Не. Дарога на адну закурку. Да каго ты?

— Да Івана Рабухі.

— Ёсць такі. Сусед мой.

Дзед выйшаў на дарогу, патэпаў у бок паўстанка.

— Добрай дарогі, дзядуля!

— Да сустрэчы, бабуля!

«Бач які! Бяззубы, а пальца ў рот не кладзі!» — засмяяўся Андрэй, прыспешваючы крок.

А вось і вёска. Дубкі паказаліся нечакана, як толькі Андрэй узышоў на ўзгорак. Недзе ў кузні гулка бухаў молат, на дварах залівіста сакаталі куры і глуха брахаў сабака.

3

«Ну і здаровы! Насмалі яму рукі — бугая за хвост утрымае. Не чалавек — камень. І ў сто гадоў зносу яму не будзе!» — гаварылі ў вёсцы пра Івана Рабуху.

Андрэй убачыў яго ля хлява. Гаспадар стаяў нагінкам, шкроб пальцамі пад чэравам гладкага пузатага кныра і спяваў:

Убярыся, бабка,
У белае белле.
Я сёння павяду
Цябе на вяселле.

Кныр, заплюшчыўшы вочы, нерухома стаяў, павільваў куцым хвосцікам-вужачкай і ад асалоды парохкваў.

— Харошы, харошы! — пагладзіў яго па гладкім карку.— Весялун мой!

Таўшчэзны, ледзь не ўпоравень з галавою, як у вепрука, карак Івана быў чырвоны і тугі — хоць цвікі на

ім выпроствай, як на накавальні. Сам плячысты, прысадзісты. Ногі — толькі гліну такімі мясіць.

— Здароўце!

— Ану, Халасцяк, ідзі адсюль, госць жаданы прыехаў!

І, пяшчотна ляпнуўшы далонню па жываце кныра, гаспадар ступіў насустрач, аблапіў Андрэя і так тармаснуў яго, быццам наўмысна хацеў праверыць, ці надзейна трымаюцца ў госця вантробы:

— Чаму тэлеграму не адбіў? Так і так, маўляў, еду. Мы б на «Волзе» падскочылі на станцыю, сустрэлі б.

— Не хацеў вас турбаваць,— азваўся Андрэй.

— Яшчэ што выдумаў! Мы ж не фоны-бароны нейкія.— Павярнуў галаву ў бок хаты.— Палашка, злётай, саколка, у бярэзнік, крыкні там Ніне, каб ішла дамоў! Чуеш, саколка!

— Чую,— пачуўся за дзвярыма ціхі старэчы голас.

— Калі скажаш Ніне,— падышоў ён да акна і пастукаў пальцамі ў раму,— адразу бяжы да Пятра на возера! Скажы яму: так і так, зматвай вуды, таварыш твой прыехаў, з якім вучыўся ў вузе. Ды хай там па дарозе ў лаўку загляне, прыхопіць для затраўкі пару белагаловак... Грошы ў шуфлядзе ляжаць. Дзействуй! — І ціха шапнуў Андрэю: — Госціць яна ў мяне з самай вайны. Адна, як былінка ў полі. І сыны і чалавек яе на вайне загінулі... Прыгрэў матку, зняў гора з чалавека. Збавіў ад адзіноты.— І сказаў мацней: — А я — да пчолак. Здыму з рамачкі мядку ды ў пограб нырну. Мясца трэба дастаць на закусь, каўбаскі свойскай, самаробнай... І гурочкаў свежых трэба палажыць у міску. Яна, мая гаспадыня, махнула ў райцэнтр. І засела, карга старая, там на цэлы тыдзень. Анігадкі — Палашка ўсё ў двары робіць.— Зноў пастукаў у акно: — Палагея, калі вернешся, палазь па гнёздах, яйкі пазбірай на яечню. Дзейст-вуй, саколка! — Павярнуўся да Андрэя: — А ты, госцік дарагі, на траўку-мураўку кладзіся. Пакуль тое ды сёе, адпачывай з дарогі. Любата пакачацца ў садзе на траўцы. Жарэбчыкам гэткім, ге-ге!

Клопаты дзядзькі Івана пачаставаць як след чалавека, які не даводзіцца яму ніякім родзічам, тое, што ён прыняў у сваю сям'ю, прыгрэў адзінокую жанчыну, якой вайна скалечыла жыццё, і тое, што ў яго агародзе кожны кусцік, кожнае дрэва і каліва мела добры догляд,— усё

гэта выклікала ў Андрэя самую светлую павагу да Івана. Прасторнай, чуйнай душы чалавек!

У садзе пачуліся нечыя крокі. Яна, Ніна! У белай сукенцы, перацiснутай блакітнай стужкай, з букетам чырвоных руж у руках. Пазнала Андрэя і бяжыць насустрач. А, здаецца ж, даўно прайшоў той дзень, калі прыязджала з бацькам у інтэрнат адведаць перад апошнімі экзаменамі Пятра.

— Вось мы і зноў сустрэліся,— сказала яна, калі падышла да Андрэя. Голас у яе быў звонкі і пяшчотны.— З прыездам!

— Нечаканы госць!

— Чаму ж, усе мы чакалі,— усміхнулася яна, падняла тонкія падмаляваныя бровы. І падала Андрэю цупкую, моцную руку і зноў усміхнулася сваімі зайздросна белымі зубамі.— Пятра ўжо бачылі?

— Не паспеў. Недзе на возеры ён.

— Пайшлі шукаць яго...

Калі яны ступалі мяжою поруч, ішлі на поплаў, Андрэй — высокі, плячысты, дачка — кругленькая, спрытная целам, стары Іван, абапёршыся на плот рукамі, моўчкі глядзеў ім услед, варушыў губамі і не вытрымаў, падумаў уголас:

— Эхма! Як на падбор! Спараваць бы іх!

4

На свежым сене, пад яблыняй,— і ўсё ж не спалася Андрэю. І не Пятро, што, раскінуўшы рукі, хроп з прысвістам побач, не драчы, якія нястрымна рыпелі на поплаве, не давалі заснуць Андрэю: развітаўся з Нінай перад самай раніцай і шчымлівае пачуццё да яе стаяла ў грудзях, хвалявала, не давала спакою. Яшчэ чуў Нінін голас, цяпло яе дрыжлівых губ, прэсных і шапатлівых: «Будзем гуляць да самай раніцы, Андрэй. Мне так добра з табою!» Змерзла, намачыла ногі ў расе, а дамоў ісці не хацела, моцна трымала яго за руку там, ля возера, над якім нізка віселі месяц і зоры і клубамі каціўся ў чароты туман.

На двары застугнелі крокі, рыпнулі вароты.

— Палагея, уставай, саколка... Пара ў печы паліць! Дроў толькі менш кладзі ў печ... Цяпер жа лета... Трэсачкамі можна снеданне зварыць.

Гаспадар ужо прачнуўся і даваў з двара каманды. Пакішкаў, паганяў курэй, што лезлі ў гародчык, і сеў, чуваць было, кляпаць касу: па палатне дробна застукаў малаток і з-пад яго па ўсёй вёсцы пакаціўся металёвы погалас. Хутка малаток змоўк.

— Палагея, карова просіць, каб падаіла яе! Хутчэй, саколка, разгортвай крыллі. Сёння ж сенакос!

Потым узышоў на ганак, спыніўся, са смакам панюхаў паветра, глянуў на неба — не, дажджу не будзе — і задаволена ступіў за парог. У сенцах патаптаўся, нешта думаючы, салодка пачухаў паясніцу, задушыў муху, што трымцела і тонка вішчэла ў павуціне, адчыніў дзверы ў хату. Падышоў да ложка, на якім спала Ніна, разбудзіў яе і пачаў хваліць ёй Андрэя: і статны хлопец, і здароўем бог не пакрыўдзіў... Да таго ж інжынер, а не які-небудзь там няўмека, што ўмее толькі падняць і кінуць.

— Ты, дзеўка, вілку больш яму не падсоўвай, калі яечня будзе на стале. Ведай, граматныя людзі ядуць яечню чайнай лыжкай... І ласкавай будзь з ім, ласкавай... І не слухай у такім дзеле сэрца. Яно бывае дурнейшым за пуп. Бачу, вачэй не можа ён адарваць ад цябе... Так і зырыць, так і зырыць! Дай божа! Час дзявочы твой даўно мінуў... Пара, пара быць табе бабай... Закруці яму мазгі... Добра закруці!

— Зрабіў мне граблі? — спытала яна.

— Без цябе ўправімся... Пабяжыш у мястэчка па матку. Яна, маці, і зварыць лепш можа, і мядуху няма акрамя яе каму зрабіць для госця.

— Хай ідзе Палашка.

— Яна ўчора пяту пракалола. Выспішся і давай — у дарогу. Замуж табе трэба. Пара, кажу, быць табе бабай! — паўтарыў ён і пайшоў будзіць сына.

Асцярожна, каб не збудзіць госця, падышоў да капы канюшыны, у якой спалі хлопцы, торкнуў Пятра ў бок.

— Уставай!

— Чэрці ў балоце яшчэ вочы не прадралі, а ты ўжо будзіш! — прабурчаў спрасонку Пятро, нацягваючы на сябе коўдру.

— Каса лепей ходзіць у расу. Ведай, махай толькі, а яна — жвык, жвык! — Убачыў, што ў сене заварушыўся і Андрэй, сказаў яму шэптам: — А ты, госцік дарагі, спі, спачывай на здароўе!

— Я выспаўся! — схлусіў Андрэй.— Колькі можна спаць!

— За гасцямі клопат не ганяецца. Даць храпака на досвітку — любата! Калі будзе Ніна ісці ў мястэчка па матку, яна і збудзіць цябе,— сказаў гаспадар, а сам сабе падумаў, што добра было б, калі б госць узяў у рукі касу — як-ніяк, а добрая будзе помач.

— І я пайду касіць,— падняў з падушкі галаву Андрэй.— Даўно не браў у рукі касу...

— Яно, канешне, можна для здароўя,— усміхнуўся Рабуха.— Замест фіззарадкі... Усё-такі не ўхаластую памахаеш рукамі.

Смачная, сакавітая — хоць бяры ды сам еш — дзяцеліна, густа перамешаная дробнымі кветкамі, буяла сярод лазовых кустоў. На ёй блішчалі на сонцы іскры шызай расы...

Парыпвалі ў руках касільны, жвікалі косы, здымалі цесную, як аўчына, траву і сцягвалі яе ў тоўстыя валкі.

— Давай, сакалы, давай! Пры халадку, пры расе добра косіцца... Мне б вашы гады... Палажыў бы касою і гэтую лазу, эхма! — падахвочваў хлопцаў гаспадар.

Ён заняў, калі пачыналі касіць, пракос за Андрэем — захацеў пабачыць, ці хутка і чыста гарадскі зразае траву,— і цяпер разгоніста і шпарка махаў касою. Каса старога Івана пажвіквала ля самых пятак госця, падганяла яго. Андрэй мацней націскаў на касільна, хутчэй пераменьваў ногі. Хутка ён умакрэў, скінуў сарочку, а на твары гаспадара хоць бы выступіла кропелька поту. Ён гэтак жа наступаў на пяткі госцю, роўна і спакойна дыхаў яму ў патыліцу... У роце Андрэя перасохла, спяклося, нылі рукі, але ён не хацеў паказваць старому сваю слабасць, натужваўся, ірваў жывот, але не спыняўся, шлёгаў і шлёгаў касою. «Крэкча, а не глядзіць пад кусты, каб у халадок упасці,— паглядваў спадцішка гаспадар на Андрэя.— Добры конь! І сіла і розум ёсць. Эхма, захамутала б Ніна... Кось, кось і — у аглоблі!»

Ён спыніўся, утыркнуў касавільна ў зямлю, перахапіў рукою палатно касы і пачаў яе спрытна мянташыць... Потым пацягнуў па палатне туды-сюды бруском.

— Пра квасок не забывайце, дзеці мае, пра квасок! Астудзіце жываты бярозавікам! — І пасмейваўся: — Эх-

ма, прытаміліся, бачу, вы з непрывычкі... Стома доўга ў касцях не трымаецца. Перадыхнуў — і няма яе.— Паглядзеў ласкава на Андрэя.— Табе, госцік дарагі, эхма, зяцёк, хопіць касою махаць... Ідзі дамоў адпачываць. І перадай Палашцы, каб гусака злавіла і зарэзала на вячэру... І Халасцяка накарміла. Скажы, хай менш мукі заму дае. А то ўчора насыпала поўнае карыта. Не забудзь жа! А мы з Пятром яшчэ тут пацешымся работаю.

Доўга прасіць Андрэя не трэба было — добра з непрывычкі намахаўся касою, аж на жываце балела скура і нылі ўсе косці. А на руках схапіліся, набрынялі вадзяныя мулякі...

На Палагеі была старая, паношаная — латка на латцы — кофта, картовая спадніца, на нагах — парваныя галёшы. Твар — чорны, маршчыністы, як патрэсканая ў сухмень зямля, а пальцы, калі яна бралася за ражку, каб занесці ў хлеў, не гнуліся на яе руках, былі нейкія выкручаныя, вывіхнутыя. З-пад ссунутай на лоб хусткі абыякава глядзелі на свет цяжкія глыбокія вочы, схаваныя ў падлоббі. Палагея маўкліва соўгала галёшамі па двары, і калі Андрэй пазіраў на старую, на яе худое цела, сагнутае ў крук — хадзіла ўвесь час нагінкам,— незразумелая трывога халадзіла, смактала душу. Ён адчуваў нейкую вінаватасць перад гэтай старой жанчынай, змардаванай жыццём і няшчаснай, што дажывае свой век сярод чужых людзей.

— Ніна хутка прыйдзе? — спытаў Андрэй.

— Не ведаю,— коратка адказала яна і пайшла ў хату.

Вярнулася на двор з вядром вады, наліла ў рукамыйнік, што вісеў на плоце, падняла на госця вочы і нясмела абазвалася:

— Можа, памыецеся?

— Не. Пайду на возера. Там пакупаюся... Тут жа блізка.

Яна нічога не сказала, паставіла вядро і кінулася да варот — з пашы ішлі каровы.

Загнала іх у хлеў, зняла з плота даёнку, уздыхнула:

— Ад цямна да цямна няма перадыху. І каровы, і свінні, і соткі — усё трэба парабіць, дагледзець. А тут яшчэ ўсярэдзіне баліць.

— Схадзілі б да ўрача,— параіў Андрэй.

— У мястэчка? Няма калі. Клопату багата...

— Гаспадыня падмяніла б...

— Антося? — старая падняла на Андрэя вочы, здзівілася.— Хто ж за яе на кірмашы будзе сядзець?

— А дачка?

— Маладая яшчэ, хай пагуляе... Наробіцца ў свой век, калі замуж выйдзе...

Вада ў возеры была ласкавая, як парное малако. Андрэй доўга плаваў, ныраў, крактаў ад асалоды і, пасвяжэлы, радасны, выйшаў на бераг. Паўз возера, на шырокім роўным поплаве, стаялі капякі спалавелага на сонцы, нядаўна згрэбленага сена, ад якога дыхала, патыхала густым водарам. Далёка, над самым лесам, стагавалі сена. Стагоў было багата, і стаялі яны густа і цесна, як хаты ў вёсцы.

На поплаве трашчалі конікі і, калі Андрэй ступіў на траву, зернем сыпануліся з-пад ног, бы хто рассяваў іх.

— Добрага дня, сынок! — раптам пачуў ён ззаду сябе голас.

Андрэй азірнуўся — да берага ішоў з вудаю і бляшанкаю ў руцэ той дзед, з якім ён бачыўся, калі ішоў з паўстанка ў Дубкі.

— Куды спяшаешся? Сена, чуеш, мёдам пахне. Хоць заварку з яго рабі. Чай! Пасядзі, падыхай сенам.— Ён сеў на траву, спусціў з берага ногі, пачаў размотваць, перабіраць у руках лёску.— Пабудзь! І мне весялей будзе.

Андрэй выняў з кішэні «Арбіту»:

— Курыце?

— Дзякую, сынок! Твае пшанічныя мне не падходзяць. Трава! Ад іх толькі кашаль душыць, у горле дзярэ. Лепей сваіх, памірскіх, засмалю.— І весела зірнуў на Андрэя.— Як госціцца?

— Добра!

— Дзіва што! — выгукнуў стары.— Іван гасцей сустракаць умее. І пачаставаць у яго ёсць чым. Гаспадар! Тры каровы, пяць кабаноў, поўны двор курэй і гусей. Кожны год возіць яблыкі аж у Мурманск. А дачка? Прыгажуня! Выспела, як наліўны яблык. Не адзін хлопец сватаўся да яе — не пайшла. Хоча за гарадскога, за ву-

чонага замуж выйсці. Бяры яе ў жонкі, не прагадаеш. Тупну на тваім вяселлі. Ажэнішся, га?

— Ажанюся! — неспадзявана для самога сказаў Андрэй.

І паверыў у свае словы — хопіць цягацца па інтэрнатах, пара абзаводзіцца сваёй сям'ёю.

Андрэй развітаўся з дзедам, выйшаў на дарогу. Пасля купання ісці было бадзёра і лёгка, ногі самі, здаецца, неслі яго ў вёску — з мястэчка павінна прыйсці Ніна.

Калі Андрэй зайшоў у двор, у сенцах адчыніліся дзверы і на ганак выйшла загарэлая паўнатварая жанчына, пайшла яму насустрач.

— Антося Вікенцеўна! Маці Пятра і Ніны! — падала яна Андрэю мяккую, як пампушка, руку і ўсміхнулася роўнымі белымі зубамі.— Добра, што прыехалі да нас! Адпачнеце, набярэцеся здароўя. І нам весялей будзе... Асабліва Ніне. Яна даўно чакала вас. Пятру спакою не давала — напішы ды напішы.— Гаспадыня ўзяла Андрэя пад руку і павяла яго ў хату.— У горадзе цяпер гарачыня, смурод. Падэшвы ліпнуць да тратуараў. А тут, у нас, як на дачы,— лес, возера. Купайся, загарай. Рыба ёсць. Хутка і грыбы пойдуць расці...

Прыйшоў з двара Пятро. Напырхаўся пад умывальнікам, уваліўся ў хату голы па пояс і пачаў расціраць далонямі свае шырокія і пухлыя, як у жанчыны, грудзі. Апрануў сарочку, прычасаўся і сеў за стол:

— Нясіце абед! Кішкі марш іграюць. Прыліплі ўжо да спіны.

Антося дастала з шуфляды белую настольніцу, разгарнула, заслала на стол, пацягнула па ёй рукою, каб распраміць складкі.

— Палагея, людзі есці хочуць! — зірнула на старую.— Паглядзі ў печ!

Іван дастаў грабянец, тупаў па хаце, расчэсваў, раскладваў на галаве рэдкія мокрыя валасы.

— Трэба чарвяка замарыць,— абазваўся і ён.— Не ляжалі ж на баку — на цэлы стог палажылі травы... І ўся едкая, з гарошкам... Эх, стажкоў бы пяць такой... Тады смела можна б было зімаваць...

Палагея выняла віламі з печы шырокі і глыбокі чыгун, паставіла яго на ўслон і скінула накрыўку. Гусак

добра ўпарыўся, упрэў у маладой бульбе — на хату павалiў такi духмяны ад яго пах, што ў Андрэя аж засмактала, заказытала пад грудзьмi.

Гаспадыня паставiла на стол шклянкi, паклала лыжкi i вiдэльцы, запрасiла ўсiх да стала...

Андрэя як госця пасадзiлi на покуцi, блiжэй да Нiны. Ён падсунуўся, прыцiснуўся бокам да яе — па целе пабегла гарачае хваляванне, i Андрэй не мог суняць яго, знайшоў сваёй рукою пад сталом яе руку, i пальцы iх пераплялiся...

А за сталом гаварылi пра адно i тое ж.

— Заўтра трэба будзе ў Запружжа з косамi схадзiць... Камбайнам жыта там будуць жаць. Пасля яго пожня добрая застанецца. З палявою травою... Асаблiва ў далiнах, дзе жыта вымакла. Трава добрая будзе! Эхма! Можна на карову накасiць,— гаварыў гаспадар, пазiраючы то на Пятра, то на Андрэя.— Цаны няма такой траве!.. Дзяцелiна!..

— Прадаў бы ты свае каровы! — не ўцярпеў Пятро.— Толькi жылы кожнае лета рвеш, нарабляеш сена аж на тры пары рог. Хапiла б i адной у гаспадарцы. Дзяцей жа малых няма.

— Бач, якi разумны! — натапырыўся на яго бацька.— А ты хiба не дзiця? Кожны раз, калi прыязджаеш з горада, смятану i масла бярэш... Малому дзiцяцi i карца малака хапiла б, а ты цэлы гладыш за дзень выжлуктваеш... Эхма! Ды i нам капейка жывая на кiрмашы iдзе... А ён — прадай...— пахiтаў галавою.— Сядзеў, бач яго, i надумаўся, што сказаць. А кватэру кааператыўную за што табе купiлi? За малачко, за мяса, што прадалi.— Потым зiрнуў на Андрэя.— Ды i Нiна хутка замуж выйдзе... Дзеткi пойдуць... Унукi... Яны таксама малака папросяць...

Стары змоўк, абвёў вачыма стол, убачыў парожнiя шклянкi i ўскочыў з табурэта.

— Пра галоўнае забыўся! Затлумiў мне галаву з каровамi,— зiркнуў на сына, пабег за парог i хутка вярнуўся з поўным графiнам у руцэ. Паставiў яго на стол.— Праз вугаль прапушчаная, на лiмонах настоеная... Не раўня лавачнай,— пачаў хвалiць гарэлку.

Ён працягнуў руку да графiна, каб кожнаму налiць у шклянку, але сустрэўся позiркам з жонкай i сеў.

— Iван, хiба забыў? — сказала яму Антося.

5 Зак. 935

— Што?

— Пра каньяк, кажу, забыў?

— А-а,— здагадаўся гаспадар і выскачыў зноў з-за стала.— Вось галава! Мазгі ўжо адсохлі. Загаварыўся і забыў. Тры скрынкі купіў па старой яшчэ цане.— Подбегам пайшоў у другую палову хаты і вярнуўся да стала, трымаючы ў руках бутэльку «Пліскі».— Хаваю на шчаслівы дзень.— Зірнуў на госця і паставіў перад ім прысадзістую бутэльку.— На вяселле Ніны хаваю.

— На вяселле яшчэ купім! — усміхнулася Антося, узяла талерку, паклала на яе бульбы, палажыла галёнку гусака і паставіла перад Андрэем.— Жаніх, дзякаваць богу, ёсць... Зробім цяпер заручыны, па-нашаму — запоіны... А вяселле пасля...

Андрэю стала няёмка ад гэтых слоў, і ён густа пачырванеў, не ведаючы, дзе схаваць вочы.

Гэта заўважыла Антося:

— Бач, засаромеўся наш зяцёк. Няма чаго чырванець — трэба ж будзе калі-небудзь сям'ёю абзаводзіцца...

У размову ўмяшаўся Пятро:

— Перамяніце пласцінку! Прысталі да чалавека — заручыны, запоіны... Хай спярша запішуцца ў сельсавеце... А зараз дайце спакойна паабедаць. Не церпіцца вам, быццам самі жэніцеся.

— А што мы паганае сказалі? — падняла на яго вочы маці.— Кажам толькі, што яны падходзяць адзін аднаму. Маладыя, прыгожыя.

— Шчэ кура ў гняздзе, а вы ўжо патэльняй бразгаеце.

Змоўклі. Выпілі. Кроў ударыла Івану ў галаву, і ён, налягаючы на бульбу, на маласольныя гуркі, зноў пачаў гаварыць:

— Гаспадарку вясці — не штанамі трасці...— Хрумсь-хрумсь! — Тое лета чатыры кормнікі закалоў, прадаў... На кніжцы грошы ёсць... І легкавік купіў... Жалезнага каня... Прыданае Ніне. Стаіць у пуні новенькі, блішчасты, як цацка...— Хрумсь-хрумсь...

Падала, не ўцярпела, голас Антося:

— Пятро! Ты б пасля абеду звазіў бы госця на машыне на Далёкія азёры... Пакатаецеся, рыбкі наловіце...

— Гэта можна,— азваўся ён, выціраючы ручніком тлустыя губы.— Рыбы там багата.

## 5

Раніцай Андрэя збудзілі галасы. Гаварылі на двары.

— Добрай раніцы, суседзе! — павітаўся жаночы голас.— Ведаеш, Іванка, чаго я да цябе прыйшла?

— Няйначай, нешта прасіць.

— Хай бы мая свінка пагуляла з тваім кнырам... Парасяткі былі б...

— Вядзі. Ахвотна тваё свінчо аформіць.

— А колькі ты просіш?

— Сем рублёў.

— Пяцёркі, можа, хапіла б.

— За такія грошы мой Халасцяк і не гляне на тваю нявестку.

— Нічыпар з Замошша бярэ ж пяцёрку.

— У яго ж кныр, як пацук. Дахадзяга. А мой чыстай пароды. Слон! Эхма!

— То, можа, скінуў бы цану...

— І яшчэ просіш... Ты хоць спытала, колькі Халасцяк мне абыходзіцца?.. Тры ражкі за дзень улопвае. І муку яму дай пад лыч, бо без яе есці не хоча...

— Дзе ж я тых грошай вазьму. Пенсія ў мяне малая. І помачы няма ад каго чакаць... Спусціў бы, Іванка, які рубель, га? Павяла б у Замошша свінку, але далёка... Хіба яе, старая, завяду — рукі павырывае.

— Не, саколка. За меншую цану сватаць свайго кныра да тваёй свінкі не буду... Нават не прасі... Спусці табе цану — другі захоча.

— Думала, па-суседску...

— Тут думаць не трэба... У мяне ўсе людзі роўныя...

Галасы змоўклі. Пачуліся крокі, рыпнулі вароты — жанчына пайшла з двара.

«Анекдот! Сапраўдны анекдот!»

Андрэй закаціўся ад смеху, смяяўся доўга і здушана, стрымліваючы сябе, каб не збудзіць Пятра, што хроп пад бокам. Калі смех перастаў браць, ён доўга і нерухома ляжаў у канюшыне. І раптам бы хто таўхануў у грудзі — падняўся, сеў, пачаў перабіраць словы гаспадара. «За сем рублёў, саколка, высватаю». І ўсяго Андрэя ахапіў такі пякучы сорам, што аж пачырванеў, пагарачэў твар — быццам не гаспадар, а ён сам таргаваўся за два рублі з суседкай, што прыходзіла ў двор прасіць, каб

пусціў да свінні кныра. Пачала ліпнуць, хадзіць у галаве думка: «За колькі ж купіш, высватаеш мяне?..» Па сэрцы пайшоў халадок, бы скразняком праняло. І Андрэй не мог ужо заснуць, нерухома сядзеў і ўжо думаў пра тое, як схлусіць гаспадарам, каб можна было сесці на цягнік і паехаць адсюль дамоў, у горад.

# Верка і Валодзя

— Бац! — на парту ўпала цесна згорнутая паперка, Верка прыкрыла яе рукою, насцярожана азірнулася. Усё спакойна, Ганна Антонаўна пытала дамашняе заданне ў Пеці Беразняка, які маўкліва стаяў ля дошкі.

«Верка, чаму ў цябе кірпаты нос?» Подпісу не было, але Верка ведала, хто напісаў запіску. Яна зацiснула запіску ў кулаку і ціха, шчасліва засмяялася.

— Што там? Га? — спытала ў яе суседка па парце Ніна Клімуць.

Верка пацiснула плячыма: а так, маўляў, глупства,— а сама крадком зірнула на Валодзю. Ён сядзеў наперадзе, цераз парту ад Веркі, і яна бачыла толькі яго спіну, напятую ад напружання, цёмны вожык валасоў, пачырванелую шыю і вушы.

— Мятліцкі! Ты чаму псуеш парту? Ты... ты! Я гэта табе гавару, Мятліцкі! Ідзі дапамажы Беразняку, а то ён зусім заблытаўся ў перпендыкулярах.

Валодзя доўга выходзіў з-за парты, потым стаяў каля дошкі і маўчаў, баючыся паглядзець на клас, сустрэцца вачыма з Веркай. Якія ўжо тут перпендыкуляры? Ці да гэтага яму цяпер?

І ў гэтую хвіліну да яго раптам данёсся ледзь чутны шэпт:

— Калі прамая, перасякаючыся з плоскасцю, перпендыкулярная да якіх-небудзь дзвюх...

Пасмялеўшы, ён павярнуў галаву — з-за разгорнутай кніжкі на яго глядзелі і смяяліся вочы.

— Што гэта значыць, Мятліцкі? Чым ты займаешся ў класе?

— Я?.. Нічым... Я зараз, Ганна Антонаўна! — Валодзя выхапіў у сцішэлага Беразняка анучку, выцер з дошкі яго каракулі і голасна пачаў даказваць тэарэму.

— Спакойней, Мятліцкі, спакойней! За табою ніхто не гоніцца.

Верка зноў засмяялася. Такі ўжо напаў на яе смяшлівы настрой.

— Верка? — Ніна тармусіць яе.— Ты што? Што такое здарылася?

— Здарылася,— прызналася Верка.— Нешта цікавае здарылася.

А праўда, што здарылася? Нічога. Хіба вось толькі дзень сёння такі: зіма яшчэ і ўжо вясна, і сонца — зусім незвычайнае сонца, і нават Ганна Антонаўна і тая сёння выглядае святочнай і прыгожай у сваёй новай кофтачцы. І наогул усё вельмі неяк добра атрымліваецца: на што ўжо з хіміяй заўсёды яна не ладзіла, і то сёння адказваць ёй было так лёгка і радасна, што хімічка здзівілася і паставіла пяцёрку. І яшчэ — як гэта яна забыла? — учора мама давязала шапачку, тую самую, пра якую яна марыла даўно. А для любой дзяўчынкі мець такую шапачку — вялікае шчасце.

— Глядзі! — Верка выцягнула з-пад парты абнову.— Як?

— Ой! — Нінка нават падскочыла ад здзіўлення.— Я прымераю.

І яна нацягнула шапачку на сябе.

— Аддай!

— Пачакай, Мятліцкі,— спыніла Валодзю настаўніца.— Бачыш, мы з табою перашкаджаем Веры і Ніне.

Па класе прабег смех. Верка зачырванелася і схавала твар за разгорнутай кніжкай.

Ганна Антонаўна ўзяла ручку, нахілілася над журналам:

— Давай дзённік, Валодзя. Добра адказаў. Толькі што з табою робіцца, хлопец, га?

Валодзя маўчыць, глядзіць на наскі сваіх чаравікаў.

Тут празвінеў званок, Валодзя кінуў дзённік на парту і выскачыў з класа.

У канцы калідора, ля акна, сабраліся амаль усе хлопцы класа. Вырашаюць нейкія свае справы. І Валодзя з імі. Ён адчувае, што Верка сочыць за ім, і пагэтаму вельмі ўзбуджаны і актыўны. Вось ён чамусьці пхнуў аднаго хлопца, той яго, і пайшла вясёлая катавасія. Валодзя вырваўся нарэшце з круга, імкліва панёсся па доўгім калідоры прама на яе, Верку. За ім удагонку ўсе астатнія. І тут... З класа расчыніліся дзверы, і на калідор выйшла завуч школы. У Веркі замерла сэрца.

— Забылі, дзе знаходзіцеся?! — у цішыні прагучаў яе голас.— Дарослыя людзі, а паводзіце сябе горш, чым маленькія. Вось вы, вы, Мятліцкі! Ад вас я проста не чакала. Сур'ёзны малады чалавек...

Верка з цікавасцю глядзела, як Марыя Фёдараўна спавядала Валодзю, а той, апусціўшы галаву, маўкліва

стаяў, глядзеў сабе пад ногі... Дзіўна, але званок з апошняга ўрока заўсёды нейкі асаблівы — грымлівы і вясёлы.

— Верка, ты куды? Пачакай! — хоча дагнаць яе Ніна.

— Няма калі!

Валодзі нідзе не відаць. Але Верка ведала пэўна — ён чакае. Не, спяшацца ні ў якім разе нельга, трэба памятаць пра свой гонар,— таму Верка, стрымліваючы таропкія міжволі свае рукі, доўга-доўга апранае паліто.

Каля школьных варот жаўтароцікі-пяцікласнікі пракоўзалі доўгую ледзяную сцежку.

— Р-раз! — Верка птушкай пранеслася па ёй, толькі ззаду крыллямі зашастала незашпіленае паліто. Р-раз — і яна наляцела на Валодзю.— Ой!

Гэта вельмі добра, што можна спужацца і не трэба хаваць гэтага: нічога асаблівага, проста нечаканасць.

— Зашпіліся... Прастудзішся,— чамусьці хрыпліва сказаў ён.

— Не-а! — Верка бестурботна матнула галавою і раптам: — А ў мяне новая шапачка! Ну як, ідзе мне?

— Нічога...— і пачырванеў увесь і, каб схаваць сарамлівасць, грубавата прыкрыкнуў: — Зашпільвайся, каму гавораць!

Ён стаяў з папкай і пазіраў, як яна зашпільвае кожны гузік. Потым яны ішлі па вуліцы, Верка крадком глядзела на Валодзю. Дзіва! Шэсць гадоў правучыцца разам і раптам адкрыць перад сабою тысячу рэчаў, якіх раней не заўважалі. Бровы ў яго тонкія, выгнутыя, як у тых каралёў, што на карцінах, вочы шэрыя, светлыя, а вейкі цёмныя — прыгожа! Рот толькі трохі велікаваты і нос дзіўны — шырокі нейкі, незразумелы, але наогул таксама вельмі прыгожы нос. Ёй раптам страшэнна захацелася дакрануцца рукою да яго броваў, губ.

Валодзя, адчуўшы яе позірк, разгублена ўсміхнуўся. Здаецца, трэба было нешта абавязкова гаварыць, і ён сказаў:

— Бацька Мішу купіў веласіпед з маторам.

— Праўда? — вельмі здзівілася Верка.

— Будзе ездзіць летам на рыбалку.

Тэма была вычарпана, і яны зноў пайшлі моўчкі.

Вечар быў вельмі прыгожы, ніколі, здаецца, не было такога вечара. Паветра сіняе-сіняе, празрыстае, а вуліца белая і свеціцца ўся, і дрэвы стаяць, быццам намаляваныя чорнай тушшу на белым ватмане. І так усё вакол

змянілася, быццам тут пабыў цудатворца са сваёй цудоўнай палачкай. Верка сказала пра гэта Валодзю. Ён засмяяўся. Адразу стала лёгка і добра, і ўжо можна было гаварыць проста так, пра ўсялякія дробязі, накшталт нога японскага фільма або заўтрашняй кантрольнай па фізіцы. Верка пахвалілася, што бацька прынёс ёй апошні зборнік «Навуковай фантастыкі». Валодзя глыбакадумна заявіў, што цяпер пісьменнікі вельмі захапляюцца навукова-тэхнічнымі праблемамі і наогул чалавецтва многа згубіла, паверыўшы ва ўсемагутнасць навукі і тэхнікі. Калі так пойдзе і далей і нават людзей пачнуць праграміраваць, як машыны, і для ўсяго на свеце знойдуць навуковыя тлумачэнні, то тады...

— Што тады? — спытала Верка.

— Проста жыць стане нецікава.

З гэтым Верка ніяк не магла пагадзіцца. Хіба гэта можна, каб раптам стала нецікава жыць. Асабіста ёй жыццё ўяўляецца страшэнна займальным. Верка прызналася, што да гэтага часу вельмі любіць чытаць казкі і наогул любіць усялякія цікавыя гісторыі. Часта ёй здаецца нават, што з ёю павінна здарыцца нешта самае незвычайнае. Потым яна ўспомніла, што расказвала ёй мама пра сваё дзяцінства. Ёй было дзесяць гадоў, калі пачалася вайна, і мама верыла тады ў розныя цуды. Яна хацела зрабіцца невідзімкай, каб прабрацца ў Берлін і забіць Гітлера. Яна думала, што тады вайны не будзе і скончыцца людское гора.

— Дзівачка, праўда? — Верцы прыемна было адчуваць сваю перавагу над маленькай наіўнай мамай.

— Ніякая не дзівачка,— строга сказаў Валодзя.

Потым уважліва і сур'ёзна паглядзеў на Верку:

— Дай чэснае камсамольскае, што нікому не скажаш?

— Нікому, Валодзя... Самае чэснае...

— У мяне, разумееш, такая гісторыя прыдумваецца пра аднаго чалавека... Ён гэтае... ну... многае можа, такое, што не могуць усе другія...

— Ты сам прыдумаў? Так?

— Ну, сам. Ты слухай толькі і не смейся, а то я не буду...

— Расказвай, расказвай...

— У таго чалавека была нейкая... велізарная сіла. Што ён захоча — тое і здарыцца. Толькі для сябе ён ні-

чога не хацеў. Ён толькі для людзей — ну... такі ён добры быў... І сэрца ў яго, як лакатар,— зразу адчуваў, дзе бяда. І ён заўсёды ішоў на дапамогу.

— А як?

Паўз іх, свецячы вокнамі, прагрымеў трамвай. Валодзя павярнуўся да Веркі, таемна заблішчалі яго шырока адкрытыя вочы:

— Вось уяві, зараз бы на рэйках дзіця... паслізнулася — і...

Верка спужана крыкнула.

— Ды ты не бойся... Той чалавек — ён толькі б падумаў, з усіх сіл падумаў — і трамвай — рраз — і ў паветра, пераскочыў дзіцянё і паехаў сабе далей, як ні ў чым не бывала.

Верка засмяялася, бо ўвачавідкі ўявіла ўсю карціну — і як спужаўся вадзіцель, і што засталося ад здзіўлення і страху з пасажырамі, і які твар быў бы ад здзіўлення ў гэты момант у паставога міліцыянера.

Валодзя пакрыўдзіўся:

— Ты смяешся...

Верка адразу зрабілася сур'ёзнай і сказала ціха:

— Не, Валодзя... Я не таму... Ты расказвай, расказвай...

Валодзя ўздыхнуў:

— Цяжка яму. Ніхто не верыць... Ні адна душа. Таму што век тэхнічны. Людзі проста не могуць сабе ўявіць, што магчыма такое без усялякіх там праваднікоў і магнітных палёў... Усім усё трэба растлумачыць, вось у чым загвоздка. Каб усё стала проста і зразумела, як у буквары: чаму, як, адкуль... Каб усё па палічках.

— Ну і няхай! — згадзілася Верка.— Няхай сабе растлумачваюць, калі ім так ужо патрэбна. Падумаеш! А я... а мне здаецца, Валодзя,— яна правяла рукавічкай па яго рукаве.— Тут усё залежыць ад чалавека.

— Ад чалавека? — Валодзя задумаўся.— Пачакай! Ты што хочаш гэтым сказаць? Які чалавек? Так? У што ён верыць? Так?

— Так... Ну, а далей? Што з ім стане потым, з гэтым чалавекам?

— Загіне. Памрэ, канешне,— сумна сказаў Валодзя.— А што яму застаецца рабіць.

І Валодзя намаляваў сумную карціну.

— Злы ты, Валодзька! І самы сапраўдны песіміст.

— Песіміст? Таксама скажа! Проста элементарная логіка. Усе свае цуды ён творыць сэрцам, не інакш. А так ніякога сэрца не хопіць. Урачы скажуць: сардэчная недастатковасць. Як у майго бацькі. І тут ужо нічым не паможаш. Ён усім дапамагаў. А яму ніхто. І нават гэтая самая тэхніка. Хіба толькі перасадзіць чужое сэрца.

— Чужое сэрца? — Верка задумалася.— Чужое сэрца...

— Не,— заявіў ён рашуча.— І злы чалавек на такое не згодзіцца... Таму што бяруць жывое сэрца... У жывога чалавека... І гэта ж усё роўна, што забіць...

— Валодзя, я ведаю, хто яго выратуе.

— Ну?

— Дзяўчына. Яна так пакахае яго, што проста з радасцю аддасць яму сваё сэрца.

— Але ж гэта ўсё роўна...

— Не,— сказала Верка.— Зусім не ўсё роўна. Гэта зусім другое...— Ціха дадала: — Калі любіш...

— Праўда?

Верка падняла на яго вочы і сказала вельмі пераканаўча:

— Так! Няхай нават сама памрэ... Усё роўна — прыйдзе і аддасць.

— Ты што? Прыдумала таксама — памрэ! — Валодзя нават спужаўся.— Ёй ніяк не трэба паміраць. Да лямпачкі тады яму гэтае жыццё!..

— Ну добра, добра!.. Няхай тады здарыцца цуд. Яны ўдваіх будуць жыць, і ў іх будзе адно сэрца на дваіх.

— Ты геній, Верка!

— Хіба не! — Яна стукнула яго папкай і адскочыла да дрэва, уздрыгнуўшы, дрэва тоненька зазвінела і запарушыла Верку інеем.

Валодзя хацеў кінуцца за ёй, піхнуць зазнайку, але гэта было немагчыма. Таму што з ёй, той незнаёмай снежнай прыгажуняй, што стаіць зараз у трох кроках ад яго, нельга было абысціся так, як са звычайнай дзяўчынкай,— ні піхнуць, ні пацягнуць за касу... Усё-такі гэта была Верка, а не хто-небудзь іншы. Толькі яна адна... адзіная на ўсім белым свеце.

Валодзя сарваўся раптам з месца і з разбегу ўскочыў у групу хлапчукоў, што ганялі клюшкамі банку з-пад кансерваў. Ён вазіўся з дзецьмі, а Верка ўсё стаяла там жа, пад дрэвам, і глядзела, глядзела... Ёй было радасна

і ганарліва: вось ён які харошы, яе Валодзька, і ў маленькай душы Веркі падымалася, расло незнаёмае пачуццё, падобнае на шкадаванне і вельмі сумную пяшчоту.

Ён вярнуўся да яе ўзбуджаны, з чырвонымі шчокамі. Верка збіла з яго снег, паправіла шалік, і яны зноў пайшлі невядома куды, таму што дом Веркі застаўся збоку, а ім было ўсё роўна куды ісці.

Сцямнела. У мяккім святле ліхтароў твары прахожых, і маладых і старых, здаваліся прыгожымі, добрымі і задумлівымі. Нехта, спяшаючыся, піхнуў Верку, яна паслізнулася і схапілася за Валодзю. Ён падтрымаў яе. І ўсё б, канешне, абышлося, толькі Валодзя не адразу адпусціў рукі. Верка паглядзела яму ў твар: у ім з'явілася раптам нешта новае, трывожнае, рысы абазначаліся цвярдзей і суровей, як быццам скрозь звыклую хлапчуковую знешнасць паказаўся зусім незнаёмы чалавек. Сэрца Веркі падскочыла і правалілася кудысьці ў бязважкасць. Яна вырвалася і пабегла. Валодзя дагнаў яе, і цяпер яны ішлі поруч, баючыся дакрануцца адно да аднаго, баючыся загаварыць. І калі доўгая дарога прывяла іх да Верчынага дома, Валодзя нарэшце асмеліўся.

— Вера,— сказаў ён.— Вера...

— Не. Не трэба...— і так трывожна паглядзела, што Валодзю раптам стала чамусьці страшна.

Але Верка ўсміхнулася і паўтарыла ласкава:

— Не трэба нічога гаварыць, Валодзька. Так лепш,— і лёгенька дакранулася замёрзлымі пальцамі да яго шчакі.— І наогул, я ўжо дома. Так! Ідзі... Ідзі! Цябе заўтра спытаюць па літаратуры... Я бачыла: Вера Ігнатаўна паставіла кропку. Табе трэба добра адказаць... І кантрольная,— яна ўздыхнула.— Ох, гэтая ўжо кантрольная... Што я яшчэ хацела сказаць?.. Не, нічога... Ты ідзі, ідзі... Ну, які ты, быццам маленькі... Ну чаго ўсміхаешся? Ідзі ж!.. Да пабачэння! Да заўтра!

Жанчына выключыла прас, падышла да акна. Унізе, падсвечаная ліхтарамі, ляжала цемень. Жанчына ўздыхнула. Мужчына адклаў газету:

— Ты што, маці?

— Веры няма доўга...

— Ну і што? Не маленькая...

У тым і справа, што не маленькая...

Стукнулі дзверы.

— Прыйшла. Нарэшце! — з палёгкай уздыхнула жанчына.

— А я зноў атрымала пяцёрку па хіміі! — даляцеў з калідора Верчын голас, і такая ў ім была радасць, такая ўрачыстасць, як быццам пяцёрка па хіміі немаведама якое шчасце.

# Аборка на чамадане

1

Распараны ад духаты, Млынскі сышоў з аўтобуса, агледзеўся і ступіў на цупкую віхлястую сцяжынку. Па баках яе ляніва калываліся ад ветру спалавелыя жыты, бы пульхіры; усплывалі ўгару, захліпваючыся песнямі, жаўранкі; каласы шлакатліва тыцкаліся ў рукі, лашчыліся даўно знаёмаю ласкаю роднай зямлі. Стрэхі хат падняліся з жытоў нечакана, як толькі ён узышоў на пагорак... Нешта торгнулася ў душы, ахапіла ўсяго яго здзіўленай нечаканасцю і гарачым хваляваннем: Млынскі ўбачыў матчыну хату. Пайшоў памалей, шукаючы вачыма ў ёй нечага новага і незнаёмага. Але не знайшоў: хата стаяла такая, як і калісь, пачарнелая ад дажджоў, абцягнутая хісткім штыкетам, стуленая, з адным акном на вуліцу. Ён прагна ўглядаўся ў гэтае акенца на чатыры шыбіны і ўсхвалявана адчуваў, што сустрэча з мацерай, аб якой думаў усю дарогу і нецярпліва чакаў, зараз ужо зусім блізкая і хуткая.

Падыходзіў Млынскі да хаты з такой асцярожнасцю і заміраннем, што прыйшлося спыніцца, каб пераадолець імгненную нерашучасць; стаяў, пераводзіў дыханне, прыслухоўваючыся да сябе, ніяк не саўладаючы з хваляваннем, якое ўзнялося ў ім.

2

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтыя дні ён жыў у нейкай урачыстай радасці, якая была прыглушана горадам, доўгім расстаннем з вёскай, і таму цяпер бы новай, невядомай, бо радасць гэтая паднялася з забыцця, успомнілася і адчулася, як калісь, падзіцячаму лёгка і шчыра. І не мог Млынскі насыціцца ёю: кожную раніцу — толькі чырванню набрыняе ўсход,— абкручваў ногі да пяшчоты мяккімі анучамі, абуваўся ў рыжыя лапці, будзіў суседа-настаўніка і, паклаўшы на плячо рыбацкую сетку, ішоў з ім цераз духмяныя паплавы на возера. Іісці было лёгка, бы не сваімі нагамі, і адчуваў ён сябе нейкім другім, непадобным на сябе

і ў гэтым урачыстым настроі, у гэтай вопратцы і лёгкасці.

Потым весела трапяталася перад вачыма полымя, і ён, дрыготкі, мокры і шчаслівы, натыкаў на ражон скрылёк сала, саджаў яго ў агонь, пражыў і, падстаўляючы пад кроплі тлушчу скібку хлеба, нёс да нясцерпу смачную скварку ў рот і прыемна апякаў ёю губы... А ў гэты час закіпаў у полымі абдымлены чыгунок з юшкай...

Прыходзіў дадому Млынскі прыемна стомлены, клаўся спаць у шаматлівае духмянае — аж кружылася галава — сена і ніяк не мог заснуць: перад вачыма стаяла возера, а на ім, бы расстаўленыя зялёныя сподкі, ляжала лісце лілій, у вушах чуўся блёўкат вады, а ў сетцы лапаталі краснапёркі, трапяталіся карасі, кідаліся шчупакі...

І засынаў — прыемна тануў кудысьці ў цемру.

Прачынаўся на досвітку, дыхаў туманам і зноў не пазнаваў сам сябе ў лагоднасці і ціхай радасці.

## 3

Млынскі расплюшчыў вочы і зажмурыўся — праз шчыліну даху ў твар моцна біла сонца. Дах, бы рэшата, свяціўся наскрозь — быў увесь у шчылінах. Праз іх у хлеў папратыкаліся тонкія жоўтыя праменні-саломінкі, у якіх таўкліся, мітусіліся парушынкі. У хлеў праз вароты залятали ластаўкі, са шчэбетам насіліся ў вільчыку страхі, растапырыўшы раздвоеныя, вострыя, бы нажніцы, хвасты.

На двары нехта з мужчын гаварыў з мацерай:

— Бог у помач, Настуля!

— Казаў бог, каб ты памог... Што гэта ў цябе ў запазусе, Хведарка?

— Яблыкі. Гаўрыла, дзякаваць яму, мне нарваў. Можа, табе даць, га?.. На... пасмакуй.

— Зубоў няма, Хведарка.

— От як... І ў мяне павыпадалі... Куды ж іх дзець?..

— Аддай чым-небудзь дзецям.

— І то праўда.

Гаварылі яны адно да аднаго спагадліва, да наіўнасці шчыра і проста, і Млынскі, слухаючы гэтую адвыклую для сябе гамонку, уяўляў, бы бачыў, выразы іхніх пацямнелых, аплеценых маршчынамі твараў, кіўкі рук, якімі яны памагалі сабе ў размове.

— Можа, пайшла б сёння, Настуля, лён палоць?

— Які ж, Хведарка, з мяне работнік цяпер... От ледзьве ногі цягаю... Маладзейшым загадай...

— Дзе ты іх бачыла?.. У горад пазаязджалі твае маладзейшыя...

— Пайду, калі ўжо так просіш... Хто ж пойдзе?..

Гамонка сціхла. Ляснула фортка — крокі брыгадзіра застугнелі на вуліцы.

«Хто гэта прыходзіў? — ляжаў у застаронку і думаў Млынскі.— Няўжо той самы Ахрэм, што і калісь рабіў брыгадзірам?..» Яму прыйшло на памяць, як некалі яны, малыя, пацвельваліся з Ахрэма, калі ён хадзіў па дварах і даваў нарады. Чамусьці Ахрэма не любілі сабакі. Ён ведаў гэта і заўсёды, каб адагнацца ад іх, насіў з сабою кіёк... І калі, бывала, на дварах якаталі, захлёбваліся ад брэху сабакі, усе ў хатах ведалі, што па вуліцы ідзе Ахрэм. Меў брыгадзір дзіўную звычку: усё, што трэба было яму, насіў не ў кішэні, а ў запазусе... Чаго толькі не было ў яго адтапыранай запазусе: тытунь, яблыкі, алоўкі, ведамасці... Было і такое, што ён, прыняўшы ў калгаснікаў работу, губляў свае запісы... Тады цэлы вечар чуваць было, як на яго двары клялі на чым свет стаіць людзі Ахрэма.

4

У гэты вечар у хаце яму было непрывыкла маркотліва ад цішыні і спакою, гудзення сонных мух у кутках, слепаватага водсвету полымя з печы, які мітусіўся на сцяне, хістаў згорблены цень мацеры. Паклаўшы пад галаву рукі, Млынскі ляжаў на ложку і вёў з ёю нетаропкую гамонку. Маці сядзела насупраць печышча на доўгай, праз усю сцяну, лаве, лупіла на вячэру картоплю. Сарамлівая ад сваёй адзіноты і нявыказанай дабраты да сына, яна ўздыхала, гаварыла пацяжна, часта збівалася са слоў, баючыся сказаць што-небудзь неўпапад:

— ...Дзе тут управішся... І ў калгас трэба хадзіць і свае соткі зеллем пазаганяла... Хоць на часткі разрывайся... А тут яшчэ, як на тое гора, у спіне ломіць — разагнуцца няможна. Нясоладка мне, старой, хворай, жыць адной.

Млынскі ўслухоўваўся ў сэнс яе тужлівага голасу, якім маці адводзіла перад ім душу і скардзілася на сваю

жытку, і гэтая мацерына туга перадавалася яму. І не так перадавалася, як прыгадвалася, усплывала ў душы, бо была гэтая туга даўно вядомая яму, адчутая і перажытая ў маленстве тут, у мацерынай хаце. І Млынскі забываў сябе цяперашняга, вяртаўся ў памяці ў сваё дзяцінства. Тады ён ніяк не мог выспацца: ноччу пасвіў, каб зарабіць мацеры працаднёў, калгасныя коні, удзень хадзіў у лес, гнуўся да самага вечара ў ягадніку, збіраючы ў кашэль чарніцы, за якія можна было ў лаўцы купіць кулідку хлеба; увечары кляпаў за загінуўшага ў партызанах бацьку касу, хадзіў пры расе на ўзмежжы, каб выбіць і высушыць хоць вязанку сена карове на зіму. І не мог пацягнуць касу — не хапала мужчынскай сілы.

Вастрэй памяталася радасць. З ёю тады лягчэй перажываліся дзіцячыя нягоды, забывалася сіроцкая нядоля. А можа, памяталася таму, што ён, малы, толькі вучыўся тады радавацца шчыра і ўзнёсла прыгожаму і добраму; можа, ад самой нядолі была гэтая радасць, бо радасці было тады вельмі мала і яе вельмі хацелася. Ён радаваўся зялёным слядам на сізай, дымнай ад расы траве, ляскату перуна, ад якога лопалася хмара, цененькаму шамаценню дажджу на лісцях гарбузніку, шырокай і глыбокай павалоцы туману на поплаве, у якой тапіліся, пырсаючы, коні; радаваўся злоўленай птушцы, картовай сарочцы, пашытай мацерай да свята, першай маладой бульбіне ў місцы, скібцы хлеба з першага ўмалоту.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Памру я хутка, сынок. І ў хаце няма з кім пагаварыць — адзін кот жыве... Як, бывала, захвараю, дык няма каму ў ложак вады падаць...

Маці сядзела ля Андрэя з трапкачом у руках, якім пенядаўна прыстаўляла да агню чыгунок з картопляю, перабірала пальцамі на ім матузы. Млынскі слухаў яе і ніяк не мог здагадацца, што яна хоча сказаць.

— Кідай, сынок, той горад ды пераязджай сюды... Хоць бы ў горадзе ў цябе кватэра была, а то жывеш недагледжаны па чужых людзях... А тут я табе варыла б есці, абмывала б сподняе... Акурат і месца ў нашай школе аслабанілася... Жаніўся б тут на ўрачысе, і дзетак

тваіх перад смерцю пакалыхала б... Ды і мне, як ні кажы, помач была б...

Пачуўшы такое, ён падняў з падушкі галаву, разгубіўся:

— Усе едуць у горад, а я... з горада. Я лепш, мама, буду кожны месяц па дзесятцы прысылаць...

— Сам з капейкі жывеш... Хоць бы табе самому хапала...— уздыхнула яна і перастала гаварыць.

Тупала ўжо ля печы і падварушвала ёмкаю жар, падграбала яго пад чыгунок, каб хутчэй зварылася вячэра.

5

«Салют, Герман!

Выцягваю руку з акна сялянскай хаты і праз палі і лясы, праз усе адлегласці, што раздзяляюць нас, чокаюся з табою, чорт лазаты, шкалікам самагонкі — заўтра твой дзень нараджэння.

У сваёй новай кватэры ты нафарбуеш, ведаю, у сіні, зялёны, чырвоны колер лямпачкі, і будзе стаяць над святочным сталом тваім таемнае, густое, як віно, святло, будуць лянiва круціцца катушкі магнітафона і сядзець ля цябе дзяўчаты і душу тваю, дзед, будзе распіраць радасць ад музыкі, святла, дзявочай блізкасці і ад таго, што ты жывеш на свеце.

Як я тут адпачываю? О, мой дзед, я ледзь не звар'яцеў ад шчасця, калі прыехаў дамоў. Упаў быў тварам у траву, і трава блізка ля вачэй здалася мне непралазнымі глухімі джунглямі, а казуркі, што бегалі па яе сцяблінах,— трапічнымі жывёлінамі. Потым пачуўся, як той жарэбчык, на сваёй зямлі, і ў маіх вачах зямля мянялася месцам з глыбокім небам і на ім хісталася бліскучае зыркае сонца.

І як ні дзіўна, калі я наталіўся радасцю, тут, у вёсцы, на мяне навалілася маркота. Ведама, без работы, без маіх захапленняў. Не, не дабуду я тут да канца водпуску... Хутка прыеду — ужо адпачыў.

Твой Андрэй....

P. S. Прабач, што пішу алоўкам... Сапсавалася ручка.

— От я табе іх накіслю... З маладою картопляю будзеш есці,— гаварыла маці Андрэю добрым, ласкавым голасам, бы маламу дзіцяці, стаяла на сярэдзіне хаты з поўным прыполам гуркоў і шукала вачыма, у што іх высыпаць.

Росныя, з адлежнымі бачкамі, гуркі пахлі агародам, сырою зямлёю і былі ўжо ладнаватыя.

— Я заўтра, мама, паеду.

— Куды?.. Шчэ ж водпуск твой не кончыўся?..

Вочы яе трывожна зірнулі на сына, і не ўтрымала ў руках прыпол — гуркі пасыпаліся, загрукацелі аб падлогу, і жаўтляк, руды і парэпаны, падкаціўся пад самыя ногі Андрэя.

— Да таварыша трэба заехаць.

— Таварыш, сынок, табе стаў даражэйшым за мацеру.

Раніцай маці выбірала яго ў дарогу. Пакавала ў чамадане: у адзін бок перакладала, каб у дарозе на іх не пацякло варэнне са слоікаў, чыстыя сарочкі, у другі лажыла сала, загорнутае ў газеты. Потым збегала ў сенцы, вярнулася адтуль з аборкаю і перавязала ёю чамадан пасярэдзіне — каб у дарозе не расчыніўся. А калі Андрэй памыўся, паставіла на стол гладышку малака, поўную талерку цёплых блінцоў і ўсё яго ўпрошвала:

— Еш, сынок... У дарозе мацней будзе...

Андрэй сядзеў за сталом і еў, а яна крадком усё пазірала на сына і пазірала — хацелася наглядзецца надоўга, каб стаяў у вачах, бы жыў з ёю, да таго часу, пакуль зноў не прыедзе. Андрэй апрануўся, надзеў шамацлівы плашч-балонню і з чамаданам у руцэ ступіў на парог. У яе грудзях нешта апяклося і заныла, і, калі ўжо выйшлі з хаты, яна ледзь паспявала на вуліцы за сынам і нешта шаптала сама сабе — малілася.

Ён занёс у аўтобус чамадан, заняў там сабе месца і вярнуўся, каб развітацца з мацерай.

— Бывай, мама!

Твар яе сцiснуўся, яна кінулася да сына, абхапіла яго за шыю рукамі і, цяжка дыхаючы, стала цалаваць у твар, у лоб, у вочы, у губы — і прыгаварваць:

— На каго ж ты мяне пакідаеш?!.

— Не плач. Не на той свет выпраўляеш,— адарваў ён ад сябе мацерыныя рукі і ўскочыў у аўтобус.

Калі аўтобус крануўся, Андрэй глянуў у акно: нехта з жанок вёў маці пад руку дамоў, а яна ішла і хісталася ў бакі — свету не бачыла цераз слёзы.

## 7

Ляскаталі колы цягніка...

Ён сядзеў у купэ і глядзеў у акно. У акне вагона, як на экране, марудна разварочвалася прамытая дажджом зямля з тлуста-зялёнымі хвойнікамі, з белым разлівам грэчкі на палях, з дробнымі вёсачкамі ўдалечыні; беглі, гналіся адзін за адным у хвост цягніка слупы, і абвіслыя правады на іх то ападалі ўніз, то ўзляталі ўгару.

І застыла ў нерухомасці зямля, і спыніліся за акном слупы — быў першы паўстанак.

Завалтузіліся, зашархалі нагамі ў праходзе вагона, нехта ў тамбуры ўжо лаяўся з кандуктаркай — напіраў, відаць, на яе з чамаданам,— і Млынскі блізка ля сябе пачуў кароткія, маленькія крокі і не азірнуўся на іх тонкі стук, толькі тады глянуў у бок увахода, калі пачуў мяккі жаночы голас:

— Месца свабоднае?

— Ага.

Яна села насупраць, падтуліўшы пад сябе стройныя, аблітыя блакітным капронам ногі, выняла з сумкі часопіс мод, паклала яго на калені і стала марудна перагортваць старонкі. І калі нахіляла над часопісам галаву, чорныя, распушчаныя на плечы валасы абсыпалі пасмамі ёй твар, і звыклым рухам рукі яна загладжвала іх за спіну. І хоць бы раз глянула на яго. Наблудзіўся раптам ён позіркам на свой чамадан, які стаяў ля яго ног, і адчуў, як пагарачэлі шчокі і ўсяго яго ахапілі сарамлівая ніякаватасць і неспакой: ён убачыў абору. Крадком глянуў на дзяўчыну і трохі паспакайнеў: яна не глядзела на чамадан. І калі яна зноў нахілілася над часопісам, выняў з кішэні складанчык і, чыркнуўшы ім па аборцы, вышмаргнуў яе з-пад чамадана і выкінуў у адчыненае акно. І сеў, разважлівы і цяпер спакойны.

Зноў не спускаў вачэй са сваёй спадарожніцы, чакаў, калі яна дагартае часопіс,— хацеў з ёю гаварыць.

# Святлана

1

Два гады Святланы не было дома. Мінулыя канікулы яна правяла на Паўночным Урале ў геафізічнай экспедыцыі. Канешне, калі б вельмі ўжо хацелася, дык заўсёды можна было вырвацца дамоў хоць на тыдзень.

Цягнік пачаў ісці цішэй. За вокнамі вагона цягнуўся нейкі панылы шэры плот. Потым з-за яго выплылі будынкі. Паўз рэйкі ішла жанчына ў палінялай, выцвілай на сонцы хустцы, вялікіх ботах і шырокім камбінезоне.

Цягнік спатыкнуўся, стаў. Святлана працягнула рукі да чамадана, які ляжаў на верхняй паліцы. І тут ёй на дапамогу кінуліся лётчык і патрэпаны ў заўсёдных камандзіроўках забеспячэнец з нейкага буйнога завода. Калі шчыра гаварыць, яны абрыдлі ёй за двое сутак дарогі. Хутка яна сыдзе з цягніка і забудзе аб іх існаванні. Яна паблажліва слухала іх кампліменты, гарачыя просьбы чыркнуць некалькі слоў, добрыя пажаданні.

А па пероне ўжо бегла мама. За ёю, стараючыся не згубіць саліднасці, спяшаўся бацька.

Прывакзальная плошча мела форму амаль правільнага прамавугольніка. На чыста вымытым асфальце дзенідзе яшчэ паблісквалі лужынкі. Паўз акуратна падстрыжаныя дэкаратыўныя кусты стаялі, як раскаракі, абапіраліся на свае зялёныя львіныя лапы рознакаляровыя лаўкі. А ў кутках прамавугольніка, быццам надмагільныя помнікі, урачыста высіліся на цяжкіх бетонных пастаментах такія ж бетонныя ўрны. Аўтамашыны — ад велічнага «Ікаруса» да маленькага «Запарожца» — стаялі ў чаканні пасажыраў, як коні на прывязі. Та-ак, родная правінцыя... Бацька падвёў Святлану да старэнькай «Волгі», якая перажыла на сваім вяку шмат начальнікаў і цяпер, старанна падгрыміраваная пасля чарговага капрамонту, чакала гаспадара, госця.

— Вось... Цяпер у нас свая машына,— з гонарам сказаў бацька і, заўважыўшы на твары дачкі іранічную ўсмешку, растлумачыў: — Рэдакцыйная. Колькі гадоў дабіваліся! Удачна атрымалася: трэст прадаваў за бясцэнак, гарком дапамог выбіць грошы... Адрамантавалі —

машына хоць куды. Стоп! А дзе ж Віця дзеўся? Ах ты, сын парасячы!

Ад ларка ў кірунку да іх ішоў спакваля хлапчук у выцвілых на сонцы джынсах і каўбойцы.

— Бадзяешся недзе... Кідаеш машыну...— знарок падняў голас бацька.

Хлапец здзіўлена глянуў на яго, перавёў позірк на Святлану, насупіўся і грубавата абазваўся:

— Цыгарэты купляў. Што? Хіба нельга?

Бацька раптам зніякавеў:

— Чаму ж, можна... Паехалі, Віцька, паехалі...

Машына ўздрыгнула, прабурчала і, чхнуўшы, рушыла з месца.

— Ты, Віцька, гэта... хутка не гані,— дакрануўся бацька да пляча вадзіцеля.— Не спяшайся на той свет — там пірагоў няма, а чалавеку трэба горад паглядзець.

Віцька цераз плячо ваўчком зірнуў на Святлану: таксама мне работка — вазіць рэдактарскіх дачок — і пераключыў хуткасць.

— Глядзі, дачка... Глядзі, што ў нас тут за два гады панаварочана... Мы таксама не стаім на месцы... О! Бачыш, карпусы — новая бальніца...— І ён пачаў пералічваць колькасць ложкаў, прозвішчы тутэйшых медыцынскіх знакамітасцей.

Потым паспрабаваў паказаць ёй новы універмаг, але Святлана не заўважыла яго сярод другіх будынкаў, якія прамільгвалі за акном машыны. Але ён хутка зноў ажывіўся, павесялеў:

— «Славянка»! Наш гонар. Такога рэстарана няма нідзе на Палессі. З другіх гарадоў спецыяльна прыязджаюць. Паглядзела б ты, як ён аздоблены, аформлены! О! Мы з табою сходзім наведаем яго. Добра?

Маці глядзела на Святлану затуманенымі вачыма і падтаквала бацьку. А таго аж распірала ад гордасці. Можна было падумаць, што ён сам усё гэта пабудаваў — і бальніцу, і рэстаран, і шырокафарматны кінатэатр, і кафэ «Экзотыка».

— Віця, Віця! Завярні на хвілінку ў рэдакцыю. Трэба, разумееш, сказаць Шробату. І наогул паглядзець.

Рэдакцыя, аказваецца, са старога двухпавярховага дома перасялілася ў новы пяціпавярховы будынак. Каля тоўстых, пафарбаваных пад дуб дзвярэй блішчала шклом

і золатам шыльда: «Рэдакцыя газеты «Савецкае Палессе», орган...» Святлана не паспела дачытаць.

— Чаго вы тут будзеце сядзець у машыне? — сказаў бацька знарок абыякавым голасам.— Раптам затрымаюся.

Ох, тата! Дыпламат ты саманадзейны! Захацеў пахваліцца перад сваімі супрацоўнікамі сталічнай дачкой? Ну-ну!

Яна ішла ўслед за бацькам па доўгім пустым калідоры рэдакцыі, адчуваючы на сабе цікаўныя позіркі, улоўліваючы шолахі і шэпты.

Рэдактарскі кабінет выглядаў вельмі салідна — дывановая дарожка, паліраваны пісьмовы стол, мяккія крэслы, стол вялікага памеру і шмат свабоднай плошчы — хоць танцуй. Ну, бацька, ты, аказваецца, яшчэ і бюракрат?

Заклапочана насупіўшы бровы, бацька ўзяўся перакладваць паперкі з месца на месца, робячы выгляд, што ён нешта шукае, вельмі патрэбнае ў гэтую хвіліну. І тут у кабінет пачалі заходзіць людзі, у кожнага знайшлася неадкладная справа да рэдактара. Усе яны былі вельмі занятыя і заклапочаныя, кожны стараўся не глядзець на дзяўчыну, і бацька, таксама заняты і засяроджаны, абмяркоўваў з імі нейкія страшэнна важныя рэчы, даючы катэгарычныя распараджэнні, а потым, раптам не вытрымаўшы сваёй ролі, расплываўся ў шчаслівай усмешцы і гаварыў, ківаючы на Святлану:

— Дачка мая! Будучы геафізік. Там, брат, такая кібернетыка. Так! Трымае курс на навуковую работу.

Яна міла саромелася, калі бацька расхвальваў яе талент, паціскала чужыя далоні — мяккія, гарачыя. Ёй хацелася паслаць чортведама куды гэтых добразычлівых праставатых мужчын і жанчын з іх ветлівымі ўсмешкамі, з-за якіх відаць былі зайздрасць і цікаўнасць.

І зноў старэнькая «Волга» даволі бойка тармусілася па гладкім асфальце. За вокнамі прамільгвалі маладыя таполі, вітрыны магазінаў, новыя дамы. Каля аднаго з іх машына затармазіла. Усміхаючыся, бацька шырока адчыніў дзверцы:

— Прашу, мілэдзі!

Ага! Бацькі хацелі зрабіць ёй сюрпрыз. Новая кватэра, вось чым яны задумалі здзівіць яе. І знарок не пісалі... Святлана пляснула ў далоні. Нічога не папішаш —

даводзіцца быць артысткай, каб не пакрыўдзіць старых. І сапраўды, бацька быў вельмі шчаслівы — ён моцна смяяўся, стукаў яе па плячы, а мама ўсміхалася разгублена і трохі сумна. Сама Святлана таксама была задаволена. Ёй, канешне, да лямпачкі ўвесь гэты абывацельскі камфорт, тут справа зусім у другім. Гавораць, мясціны, дзе праходзіла дзяцінства, і тысячы звязаных з ім дробязей наводзяць на непатрэбныя ўспаміны, на сентыментальны роздум. А Святлана спаліла масты да дзяцінства, і таму ўсякі напамінак аб мінулым быў непатрэбен ёй. Аднак, пераступіўшы парог новай кватэры, яна апынулася зноў у звыклым, знаёмым з дзяцінства свеце, які раз і назаўсёды стварылі яе бацькі: кожная рэч на тым жа месцы і нават сцены пафарбаваны ў салатавы колер, які любіла маці. А пахі, ледзь улоўныя пахі роднага дома?.. Стары абедзенны стол па-ранейшаму засланы крэмавай палатнянай настольніцай, і тыя ж кнігі на пацямнелым ад часу стэлажы, тыя ж рэпрадукцыі на сценах — «Майская ноч», «У лесе». Ох і кансерватары ж вы, мілыя продкі!

## 2

Вечарам у іх сабраліся госці — татавы газетчыкі і маміны настаўнікі, людзі ўсе салідныя і сумныя; былі, праўда, два-тры маладыя, але яны нічым не адрозніваліся ад старэйшых: ні розумам, ні прыгажосцю — нейкі маладзенькі журналіст з просценькім тварыкам Іванкідурня і дзяўчына, уся кругленькая — кругленькія вочкі, кругленькая мордачка, кругленькія ўзмахі рук. Яна разглядала Святлану, нібы малюнак у «Журнале мод», і яе кругленькі тварык аж гарэў ад цікаўнасці.

Час цягнуўся вельмі доўга. Госці апаражнілі толькі першую партыю бутэлек. У падпіўшых мястэчковых інтэлігентаў ёсць такая рыса — яны чамусьці раптам пачынаюць лічыць сябе самымі разумнымі людзьмі на зямлі, і нават той, хто на цвярозую галаву ніколі б не спакусіўся на філасофскія праблемы, пры чарцы-другой абавязкова пускаецца ў шыракадумныя меркаванні; прытым кожны лічыць, што ісціна толькі яго, і не пераносіць ніякіх агаворак. Спрэчку пачаў бацька. Грозна свецячы сваёй бліщчастай лысінай, ён абараняў чалавечую дабрату.

Яго апанент, бледнатвары чалавек з вузкай і прамой шчылінай рота, даказваў, даводзіў яму, што дабрата ні да чаго добрага не давядзе. Маленькая жанчына з класічнай знешнасцю настаўніцы рашуча ўмяшалася ў спрэчку, заявіўшы, што галоўнае — мець ідэалы. Яна так горача даказвала гэта, што нават паружавеў і пакрыўся кропелькамі поту яе носік.

— Хто гэта? — спытала Святлана свайго суседа, шырокага мужчыну, які не прымаў удзелу ў спрэчцы.

— Заслужаная настаўніца,— сказаў ён, не перастаючы варочаць ротам, жаваць.

Заслужаная настаўніца амаль плакала, гаворачы пра бязвер'е, пра адсутнасць мары ў «некаторай часткі моладзі». Святлане пачало здавацца, што нехта водзіць нажом па шкле, нават зубы ў яе занылі.

І чаму пускаюць слёзы? Чаго нудзяцца? Ішлі б яны далей са сваімі выдуманымі ідэаламі! Дзякуй богу, цяпер не дзевятнаццаты век. Дзіўна, раптам за сталом усталявалася нейкая нядобрая цішыня, усе паглядзелі на Святлану, быццам яна зрабіла няведама якую бестактоўнасць. Няўжо яна не стрымалася і сказала гэта ўслых? Мама, якая толькі што з задавальненнем смяялася, раптам пазмрачнела.

— Нічога... Нічога...— сказаў бацька.— Гэта ў іх цяпер мода такая, як максі-сукенкі гэтыя... У нас таксама была свая мода.

— Нам не было калі моднічаць,— сказаў бледнатвары чалавек.— Мы ў іх гады ваявалі.

— Вып'ем за мару,— раптам устаў з-за стала «Іванка-дурань», яго галубіныя вочкі свяціліся, русявы чубок прыліп да лба.

Настаўніца чокнулася з ім і павярнулася да Святланы.

О, гэтыя пранізлівыя настаўніцкія вочы, якімі глядзіць вам у душу мудрая старасць! І такое ў іх непадзеленае шкадаванне, што Святлана ледзь стрымалася, каб не крыкнуць ёй у твар: «Хто вас просіць?» або яшчэ штонебудзь больш рэзкае. І настаўніца зразумела гэта, адвяла вочы і загаварыла з бацькам пра нейкага Байбака, які затрымлівае рамонт школы.

Святлана адчула, што яе ахоплівае злосць на ўсіх гэтых людзей і на бацькоў, якім яны, гэтыя людзі, былі бліжэй, чым іх родная дачка. Яна адчувала сябе чалаве-

кам, які трапіў на другую, чужую планету і задыхваецца ў здушлівай незнаёмай атмасферы.

А тым часам маці вярнулася з кухні, несучы ў вялікай талерцы піражкі. Усе пачалі хваліць кулінарныя здольнасці гаспадыні. Пераканаўшыся, што цікаўнасць гасцей перакінулася з яе на маміны піражкі і міжнароднае становішча, Святлана выслізнула на балкон.

Ух! Нарэшце можна ўздыхнуць на поўныя грудзі. Нічога сабе, прыемна пачынаецца яе адпачынак у родных пенатах. З гэтым трэба нешта рабіць. Не можа ж яна, у рэшце рэшт, дазваляць усім і кожнаму лезці да яе ў душу.

Унізе, у гуле машын, руху людзей, жыла вячэрняя вуліца — звінела струнамі гітары, смехам дзяўчат, глухімі водгаласамі далёкіх размоў. У скверыку насупраць, на лаўцы, свяцілася белая сукенка. Дзяўчына чакала — гэта было кожнаму відаць. Ёсць жа такія дурныя — можа вось так чакаць хоць усю ноч, хоць усё жыццё. І што чакаць? Нейкага шчасця? І яна некалі была такою ж...

## 3

Ён быў вельмі прыгожы, яе Алік. А калі выходзіў на лёд — чорная постаць, моцная і гнуткая,— усе дзяўчынкі соладка ўздыхалі. А як яны зайздросцілі ёй, яе бясспрэчнаму праву быць з ім побач! Калі ж яна абрыдла яму, Святлана ледзь не звар'яцела, не наклала на сябе рукі. Збаўленне прыйшло нечакана. Быў у Аліка сябар — Мішка Барэцкі — непрыгожы, але вельмі разумны. Яна і раней любіла слухаць яго вострыя анекдоты, парадоксы, не падобныя на ўсё тое, што было ў кнігах і лекцыях. Здавалася, ён ведае ўсё і гэтыя веды напоўнілі сумам яго вочы.

Не, ён не спачуваў ёй, не праклінаў, трасучы ў паветры рукамі, здрадлівага Аліка і не спрабаваў нават замяніць яго ў апусцелым дзявочым сэрцы. Пад халодным восеньскім дажджом, у нейкім голым абарваным скверы, ён гаварыў ёй пра жыццё, пра каханне, агаляючы жорсткую сутнасць быцця. Яна слухала яго так, як ніколі ў дзяцінстве не слухала добрай мамінай казкі, і яго бязлітасныя словы мякка клаліся, як асеннія лісты на халодную зямлю, на яе змучаную душу, соладка цешылі зняслаўленае самалюбства.

— Калі чалавек слабы, ён не можа жыць без рэлігіі, без веры ў нешта, што стаіць па-за ім і абавязкова над ім. Слабы чалавек заўсёды раб, і самы нікчэмны з рабоў — раб духоўны. А што такое каханне? Адна з рэлігій, і, магчыма, горшая з іх. Яна скідвае чалавека ў прорву... Яна жорсткая, яна прагне, ненажэрна прагне чалавечых ахвяр. Прастрэлены Пушкін, мёртвы Маякоўскі і яшчэ шмат і шмат вядомых і невядомых ахвяр. І не выпадковы яе сімвал — мёртвыя закаханыя Рамэо і Джульета. Ці вырвецца чалавек калі-небудзь з ланцугоў гэтага страшэннага рабства? Вырвецца. І гэты час не так ужо і далёкі. Той, у каго гарачая бунтарная кроў, ужо прадчувае вызваленне, імкнецца насустрач яму, ірвучы сямейныя ланцугі. Вызваленне ідзе... яго нясуць разумныя магутныя машыны, расшчэплены атам — будучая перамога чалавека над прыродай і самім сабою. Але калі... калі гэта будзе, бо моцныя, як смерць, забабоны і, чым хутчэйшая іх пагібель, тым мацней яны ўпіваюцца ў слабыя душы. Але цудоўны лёс моцных, якія першыя выйшлі на дарогу свабоды.

Ён быў велічны і грозны ў сваёй знішчальнай злосці, у сваёй ганарлівай непрыгожасці, гэты юны прарок са старажытнымі вачыма. І ёй не страшна, не сорамна было задаць яму тое пытанне...

— Дзіцянё,— сказаў ён.— Я ж гавару зусім пра другое. Так, трэба знішчыць, спаліць, растаптаць усё тое ідэальнае, што напляпі людзі вакол здаровага чалавечага інстынкту, такога ж, як голад і смага. Не зразумей мае словы як заклік да знішчэння плоці. Жанчына прыгожая і здаровая, ты заўсёды свабодная ў сваім выбары, і было б бяздумна абмяжоўваць сябе. Гэтак жа бяздумна, як прагнучы наталіць смагу адмаўляўся б ад шклянкі з вадою, а галодны ад яды. Ідзі насустрач прыродзе — і ты, вызваленая ад мук кахання, будзеш заўсёды мець адну толькі радасць. Вось тады ты смела можаш грэбаваць такімі прыгажунамі, як твой Алік.— Ён нагнуўся зусім блізка да яе гарачага твару.— Ты яшчэ ўбачыш, ён прыпаўзе да цябе.

І ён прыпоўз. Праўда, здарылася гэта не адразу і не раптам. Не адразу памерла ранейшая наіўная Светка і нарадзілася новая, моцная, ганарлівая. І бывала, ні з таго ні з гэтага тужліва пачынала сціскацца яе дурное сэр-

ца, душнай гарачай хваляй наплываў сорам... Але яна ўмела саўладаць з сабою.

Хто ведае, што дапамагло ёй у тым паядынку — зняважаная ганарлівасць, прага помсты ці збуджанае самалюбства? Толькі знаёмыя хлопцы цяпер са здзіўленнем пазіралі на яе, не пазнаючы ў спакойнай, упэўненай у сабе каралеве ранейшую нягеглую, але вельмі цудоўную аднакурсніцу. Святлана прадумала свой стыль вопраткі, які пасаваў да яе твару з жорсткай крывавай паласой губ, з цёмнымі ўпадзінамі пад бровамі, з-пад якіх суха і холадна блішчалі яе бязлітасныя вочы. Пакінуўшы ранейшых сяброў і сяброўак, яна ўвайшла, дзякуючы Мішку, як роўная, у вузкае, недаступнае для звычайнай шэрасці кола выбраных.

На кватэры аспіранткі, з якой у Мішкі была даўняя сувязь, збіраліся «арыстакраты духу», людзі з іранічным напрамкам думак. Кожны размяшчаўся, дзе хацеў,— на тахце, на туалетным століку або на падлозе — і займаўся таксама чым хацеў: піў віно, цалаваўся, чытаў вершы, слухаў пропаведзі Барэцкага або прапаведаваў сам. Разумныя, адчайна смелыя прамовы дзейнічалі на Святлану, як віно,— кружылася галава, тамліва захлыналася сэрца, быццам бы яе, Святлану, узнесла на нейкую недасягальную вышыню.

Пра што гэта яна? Ага, пра Аліка. Аднойчы, вярнуўшыся ў інтэрнат, Святлана ўвайшла ў свой пакой, павярнула ўключальнік... Алік сядзеў каля стала, жмурачыся ад святла, якое ўдарыла яму ў вочы, і маўчаў... Потым нешта мямліў наконт сваёй занятасці: хутка, маўляў, спаборніцтвы па фігурным катанні, а тут яшчэ залікі... Святлана нічога не чула і не бачыла. Яна паклікала сабе на дапамогу ўсю сваю ганарлівасць, усю сілу волі і вытрымку. Як тут было горача яе беднаму зацюканаму сэрцу! Калі б на свеце быў бог, дык толькі адзін ён мог ведаць, што каштавала ёй гэтая перамога. Алік нічога не зразумеў, ён глядзеў на яе разгублена і жаласліва, не маючы сілы сказаць пра галоўнае, дзеля чаго прыйшоў да яе,— так замарозіла сэрца, скавала яго волю гэтая неміласэрная прыгажуня. І калі недзе ўнутры саспела і ўжо было гатова сарвацца з яе губ адно з тых даўніх слоў, яна глянула на яго з такой абыякавасцю, што слова так і замерла, не сарвалася з губ. Магчыма, вы думаеце, што, выправадзіўшы Аліка, Святлана ўпала на падушку

і наўзрыд заплакала? Не! Яна кружылася па пакоі з гарачым тварам і бліскучымі вачыма, спявала і смяялася. О, якім салодкім было адчуванне зробленай помсты! «Дзякуй табе, Мішка, за тваю жорсткую навуку! Цяпер я ўжо ведаю, як мне жыць, каб усе ў мяне былі вось тут»,— і яна што ёсць сілы сціснула кулак, аж забалелі пальцы.

Каб праверыць сябе і канчаткова пераканацца ў правільнасці выбранай дарогі, Святлана вырашыла правесці яшчэ адзін эксперымент. Роля падвопытнай істоты выпала Міцьку Мятляеву. Прыехаў ён аднекуль з-пад Волагды, быў белагаловы, кірпаты і, размаўляючы, смешна окаў. Святлана, канешне, яго не лічыла за мужчыну. Але Міцька быў у яе закаханы яшчэ з першага курса. Убачыўшы яе, ён губляўся, увесь заліваўся чырванню, а ў час лекцый заўсёды сядаў так, каб можна было крадком глядзець на Святлану. Спачатку яна пакеплівала з яго, потым, захапіўшыся Алікам, наогул забыла пра яго існаванне. І вось яны апынуліся ў адной экспедыцыі. Тут вызначылася, што Міцька па-ранейшаму яе кахае. Святлане прыйшла ў галаву дурная думка... «А што?!!» — аднойчы вырашыла яна і, падпарадкоўваючыся сіле жаночай дапытлівасці, паклікала хлопца да сябе.

Ноч была цудоўная! На цьмяным небе былі бачны вострыя сілуэты елак. Сярод суровай цішыні пела сваю вечную песню рака, цяжка варочалася ў сваёй каменнай пасцелі. І былі гарачыя, нечакана моцныя Міцькавы рукі і глыбокія, як стогны, словы, поўныя болю, удзячнасці, шчасця. Святлана адчула, што яна тоне ў глыбокай салодкай прорве, і ёй стала страшна. Што ж гэта? Значыцца, усё спачатку — зноў трывогі, вечнае чаканне? Зноў рабства? І дзеля чаго? Дзеля гэтага нягеглага Міцькі, якога наогул ні адна дзяўчына не прымае ўсур'ёз? Хопіць — пагулялі! Добрага патрошку...

З раніцы Міцька ўжо дзяжурыў на сцежцы, па якой Святлана хадзіла да ракі ўмывацца. Ледзь убачыўшы яе здалёк, падбег да яе, радасна заўсміхаўся сваім рыжым тварам. Але Света прайшла міма, нават не глянуўшы на яго. Здзіўлены, ён застаўся стаяць, не знаходзячы сілы, каб яе аклікнуць.

Колькі разоў ён спрабаваў потым падысці да яе! Спачатку Святлана шчыра смяялася з яго няздольнасці зра-

зумець, што між імі адбываецца. Але хутка ёй усё гэта абрыдла, і яна з бязлітаснай праматой сказала, што яму няма на што спадзявацца, бо ніякіх пачуццяў, акрамя гідлівасці, ён у яе не выклікае. Тут Святлана амаль гаварыла праўду: чым настойлівей Міцька дамагаўся ў яе ўзаемнасці, тым хутчэй у яе нарастала абыякавасць да яго. І ўсё-такі ёй трэба было паводзіць сябе асцярожней з ім. Але хто мог ведаць, што Міцька акажацца такім круглым ідыётам?

У тую раніцу Валера Холін, самы заядлы з групы рыбалоў, устаў рана. Ён паспеў ужо змерзнуць ад ранішняй прахалоды, а рыба ўсё не бралася на кручок. І раптам блізка нешта моцна ўсплёснула. Валера потым расказваў, што спачатку ён абамлеў ад нечаканасці, потым нейкая нябачная сіла штурхнула яго ў ваду... ...Калі Міцьку адкачалі, ён сказаў, што яму стала дрэнна ў духатлівай палатцы, ён выйшаў да ракі асвяжыцца і вось... закружылася галава... Больш ён нічога не памятае. Усіх здзівіла, што такі здаравяка аказаўся такім пахілым. Адна толькі Святлана ведала праўду. Недзе ў яе душы, глыбока-глыбока, варухнулася спачуванне да хлопца, у якога моцныя рукі і слабая галава, тоненькай іголкай кальнула сумленне. Потым яна ўсё гэта забыла, заспакоілася. Мішка праўду гаворыць — такія самі сябе ахвяруюць. Але яна тут пры чым? Як быццам яна не гаспадыня сабе. Дзякуй сказаў бы за пяшчоту, якую яму паднесла ў падарунак, а ён, бач, уявіў, убіў сабе ў галаву чортведама што. Знайшоў выйсце, эгаіст няшчасны! Каб ёй дапячы, прымусіць пamучыцца. Дудкі! Не на тую трапіў... І Святлана зноў адчула сябе пераможцай! Яшчэ б! Побач са смерцю прайшла, а слабасці не паддалася. Цяпер яна канчаткова паверыла ў свой жорсткі бескампрамісны выбар.

## 4

Святлана прачнулася пад раніцу. Яе, мабыць, разбудзілі вераб'і, якія моцна крычалі, валтузіліся пад акном. Ці, можа, гэтыя незразумелыя гукі — шых... шых, шых. Што гэта? А, дворнік! Падмятае тратуар. А магчыма, ёй перашкодзілі спаць гэтыя дзіўныя глухія галасы. Нехта на вуліцы гаворыць? Не, бліжэй... Зусім блізка... У суседнім пакоі шэптам, які быў асабліва чуцен у ціхі перад-

ранішні час, размаўлялі бацька і маці. Цікава, пра што яны гавораць?

Маці цяжка ўздыхнула:

— Не ведаю, Пеця... У тым і бяда, што не магу ніяк зразумець.

Бацька загудзеў, пачаў яе супакойваць:

— Ну вось — сама не ведаеш, а мучыш сябе. Гэта не так усё сур'ёзна, як табе здаецца... Павер.

Так-так... Пра яе размова. Што ж ад яе хоча маці? Няўжо яна не разумее, што ў дачкі сваё жыццё, свая дарога, што яна, Святлана, ужо вырасла з пялёнак?

А маці ўсё шэпча трывожна, што з дзяўчынай усякае можа здарыцца ўдалечыні ад дома — і пакрыўдзіць хто, і падмане... Але гэта не страшна, усё можна выправіць... Яна ж маці, жанчына... яна ўсё зразумее — і заспакоіць, і ўцешыць. Святлана ўсміхнулася: патрэбны ёй нечыя ўцехі?

— Што ж рабіць, Пеця? Яна быццам мёртвая, наша Светачка. Такі ад яе холад... У мяне рукі апускаюцца. Нічога не магу. Нічога не разумею...— Маці зноў цяжка ўздыхае і надоўга замаўкае.

За расчыненым акном нараджаецца вялікая спакойная раніца. У чыстым гарэнні яшчэ нябачнага сонца, у крынічнай празрыстасці паветра, у ціхім голлі дрэў, на якіх не ўздрыгне, не заварушыцца ніводзін лісцік,— ва ўсім нейкая таемнасць. Нават неразумныя мітуслівыя вераб'і, збуджаныя дворнікам, прыціхлі, і сам ён пайшоў некуды са сваім доўгім венікам. І раптам — крык:

— Пеця! Што ж ты маўчыш? Пеця!..

Трэба даць ім зразумець, што яна не спіць, і тады яны замоўкнуць, а мама зноў схавае сваю трывогу за разгубленай і сумнай усмешкай. Яна ж, Святлана, пастараецца не заўважаць гэтай трывогі; кожны раз пазбягаючы насцярожаных вачэй маці, будзе рабіць выгляд, што нічога не адбылося трывожнага і не адбываецца. Не, гэтая дарога не яе. Хай так робяць слабыя баязлівыя душы. Ісці — дык ісці да канца. Яна змагла перайсці праз многае. Трэба прайсці і праз гэта! Ды і што такога нова-га могуць яны адкрыць для яе, якую Амерыку?

— У кожнага пакалення, Маша, свае хваробы, свае цяжкасці росту,— гаварыў бацька.— Нам было прасцей — мы з дзяцінства ведалі беднасць. Ім цяжэй знайсці сябе. Нічога страшнага ў гэтым няма... Усё пройдзе,

Маша, усё стане на сваё месца. Тут і напускнога шмат — гэткую маску нацягнуць на сябе, каб велічнейшы быў выгляд,— і гонару. Маўляў, мы таксама нешта вартыя. Ты пачакай раней смерці паміраць, прыглядзіся да дачкі! Яна ж у нас разумніца. Скажаш, што не так? І разумная і прыгожая. Пашанцавала нам на дачку, га?

Нешта завельмі ж яе расхвальвае! Можна падумаць, што стараецца пераканаць самога сябе. Ну вось, мама, здаецца, трапілася на яго вудачку, шэпча заспакоена:

— Добра з табою, Пеця! Ты заўсёды ўмееш пераканаць.

— Пры чым тут «умееш»? Я праўду кажу. Убачыў Светку, дык адразу па сэрцы ўдарыла: дык гэта ж ты, вылітая ты! Але ты, Маша, усё-такі прыгажэйшая была. Гэта праўда.

— Знайшоў прыгажуню.

— Ты лепш маўчы! Тут ты не суддзя... У жаночай прыгажосці мы, мужчыны, лепш разбіраемся. Тут ёсць такая загваздка, якую вам не зразумець. Калі хочаш ведаць, ты і цяпер у мяне малайчына. Асабліва калі апранаеш тую, з іскаркамі, сукенку ды чуць-чуць падмаладзішся...

Маці засмяялася сарамліва і молада. Святлана ўбачыла перад сабою яе пасвятлелы твар, бліскучыя мокрыя вочы. Ёй стала няёмка, быццам даткнулася да нечага забароненага. Але ўжо нічога нельга выправіць і самае лепшае — ціхенька ляжаць, пасмейваючыся над наіўнасцю старых. Што ж, усё добра! Яны, здаецца, забылі пра яе. Бацька зусім расчуліўся:

— Дваццаць чатыры гады! Божа мой! Чуеш, Маша? У нас сярэбранае вяселле ўжо на носе. А памятаеш, як мы сустрэліся? Сукенка на табе была белая, з васількамі, басаножкі таксама белыя.

Кветачкі-васілёчкі! Трэба ж! Не, зусім няможна ўявіць маму маладзенькай. А бачыла ж на картачцы — сама худзенькая, а плечы прамыя, шырокія — падкладныя, над ілбом валік і вочы вялікія, перапалоханыя нейкія. Відаць, заўсёды яна была такая — усяго баялася. Ага, сама прызнаецца:

— Ой, я тады так і абамлела! Вяду ўрок — забягае завуч: «Марыя Васільеўна, вас там карэспандэнт пытае!» Іду, а ў самой ногі падгінаюцца. Ну нашто я яму, думаю? Што яму ад мяне трэба?

— А прыйшла — не падступіцца: «Што такое? Што вам трэба?»

— Гэта я ад сарамлівасці. А карэспандэнт прыгожы сабою, нічога не скажаш, пачырванеў, заікаецца, а яшчэ франтавік. А як жа! Заўважыла: на кіцелі сляды ад пагонаў...— Потым ціха, па-змоўніцку: — А яшчэ заўважыла, што ў яго чаравікі кашы просяць.

Бацька шчыра здзівіўся:

— Убачыла-такі! А я іх хаваў, хаваў жа пад табурэт. І нават забыў, чаго да цябе прыйшоў...

Маці, ледзь стрымліваючы смех, загаварыла мужчынскім голасам, падрабляючыся пад бацьку:

— «Марыя Васільеўна! Наша газета рыхтуе падборку выступленняў маладых спецыялістаў. Вы першы год працуеце ў школе. Ці не можаце вы сказаць, чаму вы выбралі прафесію настаўніцы?»

Бацька засмяяўся:

— Падобна! — і тут жа ўключыўся ў гульню: — «А я не выбірала. Я проста не думала ні пра што другое».

— А чаму? Што я тады сказала? Ага. Не памятаеш!

— Памятаю, не бойся. Ты сказала прыкладна так — самымі лепшымі людзьмі, якіх ты сустракала, былі твае настаўнікі.

— «А самі вы любіце дзяцей?» .

— «Вельмі, калі яны добра сябе паводзяць!»

І ўдваіх засмяяліся — звонка, лёгка, бестурботна. Святлана паспрабавала іранізаваць над іх старэчай сентыментальнасцю, але гэты раз чамусьці нічога не выйшла. У іх жартоўных успамінах было нешта такое, смяяцца над чым было б пагана. Што гэта магло быць, яна яшчэ не разумела, але яно трывожыла яе, насцярожвала, быццам нейкая пагроза.

— Тшш,— занепакоілася маці.— Разбудзім Светку!

— Нічога! — з легкадумнай абыякавасцю адказаў бацька.— У маладых пад раніцу самы моцны сон!

Але ўсё-такі прыціхлі. Вось ён, самы час — заварочацца ў ложку, кашлянуць, быццам бы толькі што прачнулася. Але цела было, як чужое, і ўся ўжо як быццам не належала сабе...

— Якая я была шчаслівая, Пеця. Быццам не сама іду — невядомая сіла носіць мяне над зямлёй. Тлумачу дзецям новы матэрыял, а сама сябе не чую: усё вакол музыкай звініць!

— Праўда? — голас бацькі нават задрыжаў ад хвалявання.— Праўда, Маша? Табе так добра было са мною?

— Угу!..

— Што гэта з намі, Маша? Раптам пачалі прыгадваць былое? Праз Светку, ці што? Падобная яна... падобная на цябе...

Маці нічога не адказала, уздыхнула.

— Маша...— і ў голасе бацькі ўстрывожанасць і пяшчота.— Справа мінулая, Маша... Можа, хоць цяпер ты растлумачыш мне.

— Што мне растлумачыць табе, Пеця?

— Не ведаю, ці памятаеш ты...

— Што?

— Чаго ты плакала?.. Памятаеш, калі мы ў першы раз... Ты страшэнна плакала, быццам усяму канец. Я нічога не мог ад цябе дабіцца і доўга думаў... Што? Не памятаеш ужо?

— Памятаю...

— Ну?..

Зусім незразумелая настойлівасць. Няўжо так важна ведаць, чаму плакала жонка дваццаць чатыры гады таму назад?

— Скажы, Маша...

— Трэба ж... Ён нічога не зразумеў. Бесталковы ўсё-такі народ мужчыны...

І зноў маўчанне, доўгае, трывожачае маўчанне... Што яна скажа? Што яна можа сказаць? І так усё вельмі зразумела: проста хвілінны капрыз, капрыз дзяўчыны, якая становіцца жанчынай. Яны ў свой час прыдавалі гэтаму вельмі вялікае значэнне.

Нарэшце маці загаварыла. Яе голас ледзь чуцен:

— Так, Пеця.... Я была шчаслівая. Вельмі шчаслівая... І не думала ні пра што, не бачыла нічога вакол, як у чадзе, як у сне. Быццам падняло мяне на вялікую вышыню. І раптам падумала: так не бывае! Так не можа быць. Ёсць жа ў шчасця свая мяжа. А далей што? За гэтай мяжою? Гора? Мучэнне? Быццам апынулася я над прорваю — яшчэ крок, адзін толькі крок — і ўсё знікне, і нічога не будзе — ні цябе, ні тваіх рук, ні тваіх губ... Нічога! Я памятаю. О, я вельмі ясна памятаю ўвесь жах таго адкрыцця, жах перад жыццём, перад будучым. А растлу-

мачыць тады табе не магла. Не ўмела... Ты пакрыўдзіўся, я гэта таксама памятаю.

Бацька загаварыў:

— Ды не... Якія крыўды... Проста я таксама баяўся згубіць цябе.

— І яшчэ зразумела я тады, Пеця, што нічога, нічога не даецца чалавеку дарэмна. Чым больш у яго шчасця сёння, тым цяжэйшая заўтрашняя адплата... Я думаю пра дачку, Пеця... Пра нашу дачку...

— Зноў ты, Маша! Супакойся... Нельга ж так мучыць сябе...

— Не магу я быць спакойнай... З той самай хвіліны, як прыйшла да мяне тая чорная здагадка, я чакаю... чакаю, калі прыйдзе мой час — расплачвацца за шчасце... І так часам стане страшна...

— Зноў ты за сваё... Ужо слёзы...

Маці адказала ціха, дрыготкім голасам:

— Я не за сябе... За цябе... За Святланку... За яе баюся...

— Усё будзе добра, Маша. Павер мне. Усё ўладкуецца... Не трэба плакаць.... Не трэба надрываць сэрца... А наконт расплаты я табе адно скажу — заплочана! На дзесяткі, сотні шчасцяў хопіць і на Святланку таксама. Ты ўспомні... успомні свае трывогі, клопаты... А цяжкасці быту? Быццам бы дробязі... Не! А хіба я цябе не мучыў — то няўвагай, то грубасцю? Сапсуюць настрой гэтыя архараўцы на рабоце — прыйдзеш дамоў і кідаешся. На каго? На жонку, канешне...

— Божа мой! Якія гэта дробязі, Пеця! Ці варта ўспамінаць?..

— Хай будзе так. Дробязі. Зразумела. А Святланка? Гэта што?

— Што Святланка?

— Таксама забыла? Таксама не варта ўспамінаць? А мне да канца маіх дзён не забыць... Як ты падманула мяне...

Не, яна не павінна была падслухоўваць... А чаму? Бо яна ж дачка?

Бацька працягваў:

— Мяне, канешне, падмануць няцяжка было. Але як ты ўхітрылася вакол пальца абвесці ўрачоў? Як асмелілася?

Не, тут нешта другое... зусім другое... Пры чым тут урачы? І чаму асмелілася? На што асмелілася?

— Ты хоць думала, на што ішла? Тое, што ты і дзіця засталіся жывымі, рэдкі выпадак у медыцыне... Яна яшчэ ўсміхаецца. Цяпер ты можаш усміхацца, калі ў цябе такая дачка. А тады... І як ты змагла?

— Змагла! Табе ж так хацелася дзіцяці.

— Але я табе тое ніколі не гаварыў.

— Ну і што? Я і так ведала.

— Упартая ты, Машка.

— Але я засталася жыць. І Святланка. І пераможцаў не судзяць.

Дык вось яно што! Гэтай падрабязнасці са сваёй біяграфіі Святлана не ведала. На хвіліну ёй стала страшна, быццам яна адчула, што жыццё яе павісла на валаску. Колькі ж гадоў тады было мацеры?.. Што ж гэта значыць? Яе жыццё, вось гэтае цела... галава, мазгі...— усё, усё, што ёсць яна, Святлана, і ўсё, што па-за ёй — увесь свет, неба, зямля,— усё гэта існуе ў ёй і для яе ўсяго толькі таму, што дваццаць з лішнім гадоў назад маладзенькая дзяўчына, яе равесніца, закаханая і бясстрашная, таксама зрабіла свой бескампрамісны і жорсткі выбар.

Маці гаворыць мякка, ласкава:

— І якая з жанчын не ахвяруе сабою для дзіцяці? Адна менш, другая больш — якая розніца? Ды і тады я не думала, што магу памерці, і ніякага страху ва мне не было. Ты расказваў, калі салдаты кідаюцца пад кулі... Яны ж не думаюць пра смерць... І ў боязі ёсць свая мяжа — тут быццам цераз сябе пяройдзеш. А потым — потым ужо зусім добра было! Вось яна, мая перамога! Хай хоць маленькая, але перамога! Адваявала ў смерці я сваю Святланку,— голас у мацеры зноў уздрыгнуў,— таму яна і Святланка для мяне, Светлячок! А якая я была ганарлівая, нос задрала! Уся бальніца вакол мяне на пальчыках хадзіла, як тут было не заганарыцца! Дурная была, канешне... Вярнулася дамоў — і так мне сорамна стала з-за гэтага свайго дурнога гонару! Зразумела я, што самую страшную боязь, страх, мучэнні дасталіся не мне.

— А каму ж?

— Глянула я, Пеця, на свайго мужа, а ў яго ўсе скроні сівыя... Зразумела я, каму давялося хапіць гора... Ужо

6*

маўчы... маўчы... Я ж ведаю цяпер, як гэта мучыцца, перажываць за другога. Лягчэй самому сабе прыняць любыя мучэнні...

«Прыняць мучэнні», «мучыцца за другога» — маці гаворыць так проста і пераканана, быццам у гэтым сэнс усяго жыцця, быццам без мучэнняў немагчыма быць шчаслівым. Як яны гавораць: трэба плаціць? А калі яна, Святлана, не хоча плаціць?І не хоча мучыцца. Ні за каго — ні за сябе, ні за другога! Яна хоча толькі адно — быць свабоднай! Толькі свабоднай! Адзінае, дзеля чаго варта жыць, гэта свабода, поўная, бязмежная свабода! І хай яны замоўкнуць, яна не жадае, не хоча і не будзе слухаць іх!

Святлана заціснула абедзвума далонямі вушы, але, калі хутка рукі абмяклі, аслабелі,— яна зноў чула галасы бацькі і маці.

— Ты можаш быць спакойнай, Маша,— мы нічога не ўзялі за ўсё сваё жыццё задарма. Мы працавалі ўсё жыццё, жылі проста і сумленна, і нам не сорамна глядзець у вочы — ні людзям, ні дачцэ.

— І ўсё-такі мы даўжнікі, Пеця... Але хутка... Хутка мы разлічымся за ўсё...

— Пра што ты, Маша?

— Жыццё прайшло, Пеця. Ужо не за гарамі і наша разлука...

Голас маці ціхі, але цвёрды. Пераступіць цераз сябе, цераз увесь свой боль,— магчыма, недзе тут хаваецца тая самая — вышэйшая — мудрасць?

— Так, дарагі, апошняя наша разлука — і яе не мінуць... І ніякай надзеі на сустрэчу. Хто з нас пойдзе першы? Вось што страшна, Пеця... Пачакай, дай усё сказаць. Так лягчэй... Цяжка гэта — пайсці, але яшчэ цяжэй заставацца. І потым аднаму, зусім аднаму чакаць свой час. Пачакай! Пусці!

Так, бацька абняў яе, цалуе. Яна задыхнулася, замоўкла, і тады загаварыў ён. Святлана не пазнала яго голасу, такая неўтаймаваная ў ім была сіла, такая маладая пераканананасць, што ён не мог, ніяк не мог быць тым недалёкім прастаком, якім яна прывыкла заўсёды яго бачыць, успрымаць.

— Не, Маша! Гэтага ніколі не будзе. Ніколі — і ўсё... І не спрачайся са мною. Ніякіх разлук! Таму што мы разам. І я кахаю цябе.

Над дахамі дамоў усплыло сонца. Нарадзіўся новы дзень.

Вось-вось зазвоніць будзільнік, пакліча да новых клопатаў і турбот. Але пакуль што маці ляжыць, прыціхлая і засяроджаная. Маўчыць і бацька, аберагаючы кароткія хвіліны яе спакою. Раптам яна ўздрыгнула:

— Пеця! Ты чуеш? Што гэта? Што здарылася?

Не, нічога не здарылася. Проста побач, у другім пакоі, сціснуўшыся на старэнькай канапе, плача іх дачка, іх сучасная ганарлівая Светка.

# Цыганка

Чалавек задумліва крочыў па начной вуліцы горада. І не заўважыў, як апынуўся на ўскраіне, у полі. Цемра, бязлюддзе і цішыня тут гнялі і палохалі яго. Ён азірнуўся. Агні горада ледзь праступалі ў тумане, іх не было відаць, стаялі ў змроку белыя плямы, і чалавек не раздумваючы пайшоў туды, дзе плямы былі больш светлыя.

Доўга ён мясіў нагамі гразь у крывым і цёмным завулку, пакуль нарэшце не адчуў пад нагамі асфальт. Тратуар быў мокры, і ногі часам ступалі па лужынах — пасля непралазнай гразі ісці стала лягчэй. І колькі чалавек ішоў, тратуар, доўгі і вузкі, усё выплываў і выплываў з туману, заціснуты з двух бакоў шматпавярховымі дамамі: чорныя вокны паміж паверхаў падслепавата і слязліва моршчыліся, а верхнія паверхі зусім патанулі ў тумане.

Усё вакол спала глыбокім мёртвым сном: і дрэвы, зябка падціснуўшы, як рукі, чорныя голыя галіны, і вузкія слупы, і апусцелыя згорбленыя ларкі, адзінока прыткнутыя, як бяздомныя бадзягі, да шэрых сцен дамоў.

Далей вуліца пашырэла. Сталі трапляцца на вочы высокія і тоўстыя каменныя сцены з круглымі ліхтарамі наверсе. Але толькі ліхтары, быццам вялікія матылі, што трапілі ў цянёты туману, не свяцілі, злёгку бялеліся, і здавалася, ім было наканавана назаўсёды тлесці і паступова патухнуць у густым шэрым змроку.

А чалавек усё ішоў і думаў: «Так больш не павінна прадаўжацца». Але ад гэтай думкі ён яшчэ мацней адчуў адзіноту, але ж яшчэ раз самому сабе сказаў уголас: «Так больш не павінна быць».

Калі прайшоў чалавек, з-за вугла дома на тратуар выйшаў вялікі чорны сабака. Ён страсянуўся, і ад яго густой поўсці ў бакі адляцелі буйныя пырскі. Падцяўшы хвост і апусціўшы галаву, сабака пацягнуўся за чалавекам. І доўга ішлі яны па доўгім тратуары соннага горада, і кожны думаў сваю цяжкую, горкую думку.

Сабака, напрыклад, не мог ніяк забыць сваё мінулае жыццё. Некалі ён жыў на ўскраіне горада ў цёплай утульнай будцы, быў заўсёды накормлены і задаволены сваім жыццём. Але аднойчы, гэта было вясною, у двор старой і скасабочанай хаціны заехаў грузавік. Гаспада-

ры хутка пакідалі ў кузаў свае пажыткі і паехалі, нават не глянуўшы ў спешцы на сабачую будку. Потым са страшэнным грымаценнем і лязгам падпаўзла вялізная машына, белым вострым языком у адзін момант злізала старую хаціну і сабачую будку. Калі машына ад'ехала, сабака вярнуўся на разваліны, доўга сядзеў, чакаючы гаспадара: сумаваў, плакаў, выў. Нарэшце ён зразумеў, што застаўся адзінокі, і пайшоў куды глядзяць вочы. Дзеці, а часам і дарослыя, убачыўшы яго на вуліцы, крычалі, кідалі каменнямі. Аднойчы нават са стрэльбы стралялі. Аднак нядоўгія сабачыя крыўды хутка забываліся. І яго зноў нястрымна цягнула да людзей.

Вось і цяпер ён убачыў чалавека, і душа ажыла, сагрэлася. Захацелася дагнаць чалавека, пайсці з ім побач: упершыню ён сустракае ў такую глыбокую і непагодлівую ноч згорбленага чалавека, што ідзе ў туманную далячынь.

Ён злёгку ўздрыгнуў ад нечаканага дотыку да нагі нечага мяккага і жывога. Сабака на ўсякі выпадак адбег убок. Чалавек спыніўся і, трохі падумаўшы, паклікаў яго, прысеўшы на кукішкі:

— Ну, хадзі сюды... Як цябе... Жучка! Можа, Барс? — Ён клікаў ціхім ласкавым голасам, лёгенька паляпваючы рукою па каленях.

Сабака асцярожна пайшоў да яго, павільваючы хвастом. Падышоў бліжэй; падціснуў хвост, прыгнуў галаву, сеў на лапы і амаль на жываце падпоўз да яго, паспеў лізнуць руку.

— О! Ты ўжо ліжашся? Які чорны. Ну, як цябе дражняць! — Ён гладзіў яго па галаве, і сабака глядзеў на чалавека разумнымі і разважлівымі вачыма.

— Ну ідзі гуляй, Цыганка, ідзі бегай,— сказаў ён, звярнуў у завулак і пайшоў не азіраючыся сваёй дарогай.

Чалавек ледзь адчыніў дзверы, як у калідор, вынырнуўшы ззаду, першым уварваўся сабака. Ён зразумеў: сабака ўвесь час ішоў за ім.

— Бач, які ты шустры! — трохі павесялеў чалавек, коратка ўсміхнуўся аднымі куточкамі губ, упусціў яго ў кватэру.

Сабака мітусліва пачаў бегаць па пакоі, абнюхваючы ўсе куткі, падышоў да яго і лёг каля ног.

— Ты зусім ручны! — нагнуўся ён і пашкуматаў яго

за загрывак. Але, убачыўшы брудныя сляды на падлозе, незадаволена паківаў галавою.— Так не трэба рабіць, галубок. Выціраць пасля цябе няма тут каму.

Сабака прыціх, вінавата апусціў галаву, быццам зразумеў чалавека. А чалавек трохі падумаў і сказаў:

— Так і быць, бегай. Прыбяру.

У кватэры быў акуратна засланы ложак, на вокнах белыя фіранкі, у куце — шырокая кніжная шафа, а на канапе, на падлозе і ва ўсіх кутках параскіданыя часопісы, газеты, чарцяжы і старыя, пацямнелыя ўжо канверты з пісьмамі. Ля акна, на нізкім століку,— радыёла, побач ляжалі пласцінкі.

— Ты, мабыць, галодны? — сказаў чалавек.— Чым жа цябе пачаставаць? Ці знойдзецца што: жыву без гаспадыні. Аднак паглядзім. А ведаеш, гаспадыня ў мяне была! Была...

Ён расчыніў насцеж дзверцы кухоннага століка.

— О, дык ты шчаслівы! — Ён выняў засохлыя кавалкі хлеба, долькі каўбасы.— Праўда, ежа не першай свежасці...

Сабака, амаль не жуючы, праглынуў усё, што кінуў яму чалавек, і пачаў аблізвацца.

Чалавек сеў за пісьмовы стол, узяў у рукі фотакартку, на якой была жанчына, маладая і прыгожая, з лёгкай і шчаслівай усмешкай; доўга нерухома глядзеў на здымак, але твар яго так і застаўся спакойны і строгі. Наглядзеўшыся, ён не паставіў фотакартку на месца, а высунуў шуфляду ў стале і паклаў яе сярод другіх папер. З кішэні пінжака ён выцягнуў другую фотакартку, на ёй таксама была жанчына, проставалосая і задумёная, і не такая прыгожая, як тая, што на першай картцы. У чалавека паступова сышла з твару зацятасць, і добрая ўсмешка кранула яго губы. Ён глыбока ўздыхнуў і зноў прыгадаў: «Усё, так больш не павінна быць».

— Не, не, так не павінна...— сказаў ён услых.

Чалавек азірнуўся і ўбачыў сабаку, які гэтак жа ціха ляжаў ля парога. Ён, здавалася, разумеў яго гора і гэтую хвілінную радасць, сочачы разумнымі вачыма за яго кожным рухам.

Ён стомлена падняўся, падышоў і адчыніў дзверы:

— Ідзі, родны, ідзі гуляй... Ідзі бегай...

Сабака не ўставаў. Ён так жалобна глядзеў на яго пакорлівымі вачыма, што чалавек убачыў у іх і бязмеж-

ны сум, і вялікае гора, і мальбу. Ён цяжка закрыў павекі, і калі расплюшчыў іх, з аднаго вока, мокрага і бліскучага, выкацілася буйная слязіна.

— Ну, што мне з табою рабіць? — сказаў чалавек і адвярнуўся. Задумаўся.— Так і быць, пераначуй у калідоры: там цёпла. А заўтра я табе будку змайструю. Так і быць, заставайся, жыві,— выйшаў за дзверы, паказаў у кут.— Спі пакуль тут.

Чалавек спаў трывожна. Яму ўвесь час снілася дажджлівая цёмная ноч, нейкая жанчына, за якою ён бег і ніяк не мог дагнаць; снілася шматлюдная і шумная будоўля і вялікі чорны сабака, які чамусьці бегаў па краі высокага даху і сярдзіта брахаў на людзей.

На другі дзень сабака зноў прыбег дадому. Дзверы былі зачынены, у вокнах не гарэла святло. Ён прыціснуўся да сцяны, хаваючыся ад дажджу.

Апоўначы, калі дождж трохі сціх, сабака ўбачыў чалавека і кінуўся яму насустрач. А ў пакоі, асмялелы і радасны, бегаў вакол гаспадара, пакорліва лажыўся ля ног, і ён доўга гладзіў мокрую густую поўсць на худой шыі. Чалавек быў вясёлы, усміхаўся, жартаваў і бясконца размаўляў з сабакам. Прама з рук даў яму вялікі кавалак свежага хлеба і цукерак. На гэты раз у кватэры быў непарадак, на падлозе ляжалі старыя чаравікі, боты, кавалкі паперы, стаяла два чамаданы і звязаныя шпагатам стосы кніг; з вокнаў і ложка былі зняты фіранкі, з дзвярэй — занавескі.

Гаспадар узлез на табурэт, зняў са сцяны карціну. Потым падышоў да прайгравальніка і паставіў на яго пласцінку.

Песня лілася вясёлая, голас спявачкі быў прыемны.

— А цяпер я буду слухаць,— сказаў чалавек і паставіў новую пласцінку.— Праўда, многія моршчацца ад такой музыкі, а я, разумееш, люблю.... Цяпер ты ціха сядзі і не перашкаджай мне. Гэтую музыку трэба слухаць сэрцам.

— Вось што, Цыганка,— сказаў ён пасля,— пойдзем спаць,— лёгенька падштурхнуў сабаку да дзвярэй кухні.— Тут ты сёння будзеш спаць, як барыня.

Ён прынёс старую дзіравую коўдру, згарнуў яе ў дзве столкі і паслаў каля печы. Сабака адразу лёг. Ад печы грэла цяплом, сабака хутка заснуў, і яму ўсю ноч сніліся шчаслівыя сны.

Раніцай яго разбудзіў гаспадар:

— Ну, Цыганка, мне пара. Падымайся.

Выпускаючы сабаку з дзвярэй, хацеў сказаць: «Ідзі гуляй, ідзі бегай», аднак так не сказаў.

На двары ўжо была зіма.

Залубянелая, закасцянелая на марозе зямля і зацягнутыя льдом лужыны пасівелі ад дробнага, як крупы, снегу.

Ён сказаў:

— Ідзі, Цыганка, ідзі, сіротка...— чалавек яшчэ нешта хацеў сказаць, але замест гэтага пагладзіў сабаку, з горыччу пазіраючы ў яго светла-зялёныя вочы.

Ні на крок не адстаючы, сабака праводзіў яго да самага трамвайнага прыпынку. Калі ішоў побач з ім па горадзе, вушы трымаў тарчком, галаву нёс высока і ганарліва і як быццам сваім радасным і задаволеным выглядам гаварыў усім сустрэчным: «Глядзіце, я не які-небудзь блудлівы, у мяне ёсць гаспадар».

Тры ночы запар сабака чакаў чалавека. Але ён не прыходзіў.

На чацвёрты дзень, прыбегшы, сабака аж захлынуўся ад шчасця: у вокнах гарэла святло. Ён кінуўся да дзвярэй, потым да акна, падскочыў і шкрабнуў па шкле лапай; зноў кінуўся да дзвярэй і радасна заенчыў:

Дзверы адчыніліся. Сабака хутка, дробна завіляў хвастом, усунуў пысу ў праём дзвярэй, гатовы адразу кінуцца ў ногі гаспадару. Але раптам не пачуў знаёмага паху і не паспеў разгледзець перад сабою новага чалавека, як вялікі бот прыўзняўся, і сабака зляцеў у снег з прыступак ганка ад моцнага ўдару. Дзверы зачыніліся.

Доўга сабака бег і выў. А куды бег — сам не ведаў. Апамятаўся ён ужо на родных развалінах старой хаціны. Праўда, калі ён агледзеўся, дык ужо не пазнаў таго месца, дзе шчасліва пражыў свае маладыя гады. Тут ужо ўсё было па-новаму: чарнелі вялікія ўзгоркі зямлі, чырванела цэгла і каля высокай новай сцяны дрыжала, соўгалася вялізная машына з доўгім хобатам. Вакол было многа святла і шуму. На пляцоўцы завіхаліся людзі — бегалі, пакрыквалі, перагаворваліся. І раптам страшная машына паехала прама на сабаку, злосна лязгаючы і стукаючы коламі. Сабаку адразу прыгадаўся гул і бразгат той машыны, якая некалі вялікім вострым языком злі-

зала разам са старой хацінай яго будку; ён кінуўся да штабеляў і залез некуды ўніз, пад дошкі.

Месца, дзе ляжалі заштабеляваная цэгла і дошкі, здавалася закінутым і апусцелым; ні аднаго чалавечага следу вакол не было відаць. Але пад вечар ад штабеляў пацягнуліся сабачыя сляды. На другі дзень у снезе ўжо прарэзалася вузенькая сцяжынка. Хутка на гэтую сцяжынку ступіла чалавечая нага. Потым сабачую сцежку змялі, стапталі, і да штабеляў вырасла шырокая людская дарога. Але гэтая сцежка абрывалася кроках у трох ад штабеля, далей, да адтуліны, заставаліся некранутымі сабачыя сляды.

Сабака доўга не здаваўся. Ён дзіка шчэрыў зубы, сярдзіта рычаў, вочы яго напіваліся лютай злосцю, і ў іх былі відаць нейкі боль і адчай. Ніхто з рабочых не асмельваўся падысці да яго. Яны прыходзілі да сабакі па аднаму, часам разам, разгортвалі газеты, развязвалі торбы і кідалі здалёку яму хлеб. Але ён па-ранейшаму заставаўся злосны і люты, а хлеб, аднак, еў, калі іх не было блізка.

Аднойчы да штабеляў падышоў Пятро Кузьміч Варывончык. Рабочыя ўважліва саступілі яму дарогу.

— Што вы тут цікавае знайшлі? — спытаў Варывончык і пайшоў наперад.

— Нельга туды, Кузьміч,— весела сказалі яму.— Там люты сабака... Парве.

З-пад штабеля пачулася гырчанне.

— Сабака? — спытаў Пятро Кузьміч здзіўленым голасам.

— Гэта не сабака — ваўчыца! Тыдзень кормім — і ведаць нас не хоча.

— У яе шчаняты, Кузьміч.

— Цікава, цікава,— сказаў Варывончык і ступіў наперад, на сабачыя сляды, якія пацямнелі ўжо і па якіх ніхто не адважваўся хадзіць.

З адтуліны высунулася чорная сабачая пыса і пагрозліва загырчала.

— Пятро Кузьміч! Парве! — крыкнулі яму.

Варывончык пастаяў, паглядзеў на сабаку і раптам пайшоў прама на яго. Усе разгубіліся і заціхлі. А потым

убачылі, як Пятро Кузьміч пяшчотна гладзіў сабаку, а ён ласкава глядзеў на яго.

— Цыганка, сіротка ты мая! — шаптаў Варывончык.

Падышлі і астатнія рабочыя і затапталі нарэшце ўсю сабачую сцежку каля адтуліны. Сабака, марудна паварочваючы галаву, уважліва аглядаў усіх.

Пяцёра шустрых шчанят з-пад дошак высоўвалі галовы і са здзіўленнем жмурылі свае вузенькія вочкі; у іх нядаўна паявіўся зрок, і чалавека яны бачылі ўпершыню. Які ён, гэты чалавек?

# Залатая казка

Вокны, вокны, вокны...

Усё навокал праменіцца, мільгае, пераліваецца мноствам рознакаляровых агнёў. У паўзмрочнай шэрані надыходзячай ночы іх вясёлкавыя пераліvы напоўнены своеасаблівай прыгажосцю і чаканнем, якое трывожыць душу. Калі б не было іх агнёў, у познія гадзіны адзіноты, Акулічу было б цяжэй працівіцца няпрошаным мотарным думкам пра старасць, пра згубленыя гады, якія не вернеш. Але яны запальваліся кожны вечар, гэтыя добрыя агні. Зялёныя, блакітныя, ружовыя, яны ўсе, здаецца, аднолькава выпраменьвалі не толькі святло, але і цеплыню — жывую цеплыню чалавечай еднасці. І тады Міхась Аляксеевіч асабліва тонка адчуваў сваю прыналежнасць да акаляючага яго свету — свету клопатаў, радасці, учынкаў.

Акуліч мог доўга сачыць за іх вясёлай гульнёй, у той час як яго думкі працягвалі сваю незаўважную работу. І здаралася, што ў гэтыя хвіліны ён нечакана знаходзіў простыя і адзіна правільныя адказы на пытанні, над якімі безнадзейна біўся ў лабараторыі цэха.

Яго дзень, дзень інжынера, быў цалкам заняты напружаным, пульсуючым жыццём вялізнага заводскага арганізма. У Акуліча выпрацавалася цвёрдая звычка: пераступіўшы парог цэха, знаходзіць той душэўны стан, які, мабыць, адчувае камандзір перад рашаючай атакай ці спартсмен, які выходзіць на старт,— поўная мабілізацыя сіл, спорнасць дзеянняў, жорсткая самадысцыпліна і нішто другое, што б адцягвала ўвагу, аслабляла волю. Гэткай жа сабранасці і самааддачы ён патрабаваў і ад людзей, якія працавалі побач з ім. Яго пабойваліся, паважалі, хоць і лічылі чалавекам сухаватым, бясстрасным, як электронна-вылічальная машына, але ж і столькі непагрэшна справядлівым. Моладзь з нечыяй лёгкай рукі празвала яго Сухаром. На самай справе ён быў чалавекам чуллівым, нават сентыментальным, але заўсёды вельмі сароміўся ў сабе гэтай рысы і таму старанна хаваў свае слабасці за надзейнай бранёю сухой дзелавітасці.

На шафе пачуўся шоргат. Вось і Верабейчыку не спіцца, нешта, відаць, трывожыць яго маленькую няхітрую душу.

Міхась Аляксеевіч усміхнуўся ў цемень. Нягеглая, канешне, птушка верабей, а бач, прывык да яе. Пяты год, не жарт, жыве Верабейчык разам з Акулічам. Падняў яго, хворага, позняй восенню. Верабейчык прывык, зусім гасвоіўся. Цяпер ён часта лётае за акно на клумбы і газоны, наладжвае птушыныя кірмашы на білах балкона, але ўсякі раз вяртаецца нанач дамоў, да чалавека, які яго прыгрэў. З Акулічам Верабейчык сышоўся вельмі хутка, без боязі мог сесці яму на плячо, на галаву, назолай скакаць пад самым носам, перашкаджаючы есці або чытаць. А вось Ленку, дачку Міхася Аляксеевіча, пабойваўся. Відаць, таму, што яна была вельмі шумлівая і гаваркая, а можа, проста раўнаваў да свайго апекуна.

Прыволле настала, калі Ленка паехала вучыцца ў Маскву. Прыходзячы з работы, Акуліч заўсёды прыносіў Верабейчыку які-небудзь ласунак, размаўляў з ім, дзяліўся сваімі клопатамі, чытаў рэдкія і кароткія пісьмы Ленкі, а часам... вось гэтыя хвіліны Верабейчык любіў больш за ўсё. Міхась Аляксеевіч сядаў да старэнькага піяніна, Верабейчык уладкоўваўся дзе-небудзь паблізу. Не кожная музыка падабалася вераб'ю. Асаблівым поспехам у яго карысталіся «Восеньская песня» Чайкоўскага і накцюрны Шапэна. Між іншым, іх часцей за ўсё і іграў Міхась Аляксеевіч.

Калі Акуліч сядаў да піяніна, яго хударлявы твар мякчэў, маладзеў і ён рабіўся падобны на юнака ў салдацкім шынялі і пяшчотным тварам, які глядзеў на яго з фотакарткі на сцяне. Калі б у гэтую хвіліну ў кватэру зазірнуў хто-небудзь з яго цэха, дык не паверыў бы сваім вачам: так не быў падобны чалавек каля піяніна на іх артадаксальнага Сухара.

Адзін за адным тухнуць агні: стомленыя дамы закрываюць вочы. Усё менш і менш вокан-маякоў застаецца свяціць уначы. Але ўсё ж яны свецяцца ўпарта, быццам імкнуцца перамагчы цемрадзь. Чаму ж не спіцца людзям? Што прымушае іх быць бадзёрымі сярод ночы? Шчасце сустрэчы? Трывога? Або апантанасць працай, ад якой згубіўся лік часу? Вось хаця б тут — насупраць. Гэтае акно на чацвёртым паверсе. Часам яно так і не схопліваецца агнямі, але калі запальваецца, дык свеціць

па-асабліваму, быццам там, у цішы чужой кватэры, узыходзіць маленькі месяц. І зараз таксама скрозь празрыстыя фіранкі стурменяцца зялёныя халаднаватыя праменні. Вось у бледным іх святле мільгнула ледзь заўважная цень. І раптам — гэта было дзівам — у асветленым акне выплыла стройная жаночая постаць. Яе плаўныя мяккія лініі злёгку ўздрыгвалі, здавалася, жанчына лунае высока над цёмным калодзежам двара.

Яна стаяла не рухалася ў асветленым праёме акна, злёгку схіліўшы галаву, быццам да нечага прыслухоўвалася, уся паглыбленая ў сябе, у нейкае таемнае чаканне.

Міхась Аляксеевіч ціха ўвайшоў у пакой, з заміраючым сэрцам дакрануўся да клавішаў — і прачнуліся гукі. Яны падалі ў густую цішыню ночы вялікімі звонкімі празрыстымі кроплямі, і ў іх трапятліва і горача спявала высокая чыстая радасць, і пяшчотна ёй уторыў глыбокі прасветлены смутак. Ён іграў, а жанчына стаяла каля расчыненага вакна, аблітая ласкавым пяючым дажджом...

Раніцай Акуліч прачнуўся з лёгкім адчуваннем шчасця, якое невядома адкуль звалілася на яго. На першым часе ён нават не мог зразумець, што творыцца з ім, але тут прыгадалася яму ўчарашняе, і зноў салодка захлынулася сэрца.

Змена, якая адбылася ў Акулічу, была адразу заўважана пільнымі вачмі яго памочнікаў. Бачачы, як часам строгі твар іх начальніка мякчэе, прымае ласкавы выраз, яны здзіўлена пераглядаліся і паціскалі плячыма: што гэта з нашым Сухаром? Ці не закахаўся стары? Ды і ён сам здзівіўся з сябе — трэба ж было такому здарыцца ў яго гады! Раптам адчуць у грудзях трымклівы халадок, які нагадвае першае баязлівае каханне, калі не трэба нічога іншага, толькі б бачыць здалёк, толькі б ведаць, што ён існуе, недзе побач з табою, гэты яшчэ невядомы, але ўжо дарагі чалавек. Няўжо праўду кажуць, што ў старасці чалавек робіцца нечым падобны на дзіця?

Міхась Аляксеевіч думаў пра тую вячэрнюю жанчыну як пра нешта недасягальнае, быццам яна жыла на іншай планеце. Ці хацеў ён убачыць яе ўдзень? Не... Пазнаёміцца бліжэй? Не і не! Яна была казкай. Яго апошняй казкай.

— Усё гэта, душа мая, сапраўдная лухта,— прызнаваўся Міхась Аляксеевіч Верабейчыку.— Але, птушка,

мне стала цікава жыць. Вы, вераб'і, разумееце ў гэтым хоць што-небудзь? Га? Табе, дурань, весела. Лётаеш недзе цэлымі днямі — ні клопатаў табе, ні суму... Потым возьмеш і раптам уцячэш назусім, кінеш мяне.

Верабейчык смешна скакаў па стале, як шэранькі тэнісны мячык, і спачувальна чырыкаў: маўляў, ты што, стары? Не кіну цябе! Можаш на мяне спадзявацца!

— Добра! А ведаеш, давай сыграем... Што б нам такое сыграць? Шапэна? Ты як — не супраць?

Верабейчык не быў супраць.

Унізе пастунова сціхала сумятлівае жыццё двара, і з лёгкасцю вячэрняга сутоння гарманіравалі, пасавалі задумлівыя шапэнаўскія гукі. І хай гэта быў самападман, але ў такія хвіліны яму верылася, што недзе блізка стаіць яна і слухае яго ўсхваляваную споведзь.

Сёння Міхась Аляксеевіч позна затрымаўся на рабоце — разладзіўся вельмі важны агрэгат, і пакуль знайшлі прычыну, абдумалі, як яго выправіць, было каля дванаццаці. Калі ён падыходзіў к дому, убачыў яе акно, якое свяцілася ярка і святочна, і адразу зразумеў, што ў тым святле, заўсёды таемным і прыціхлым, нешта рэзка змянілася. І калі ля адчыненага акна ён убачыў высокую мужчынскую постаць, дык зусім не здзівіўся.

Верабейчык узрадаваўся, калі ўбачыў гаспадара, лез у самы яго твар, выпрошваў гасцінца.

— Вось і ўсё,— сказаў Міхась Аляксеевіч.— Спектакль закончаны. Пара апусціць заслону,— усміхнуўся сумна.— Давай мы з табою, птушка, цвяроза паглядзім на рэчы і не будзем падманваць сябе. Усё гэта, брат, ад адзіноты... Так... Паганы яна таварыш. Але ці разумееш ты, божая птушка, што з ёй трэба неяк жыць, бо ад адзіноты нікуды не ўцячэш... Што б такое выканаць для іх — гэткае пяшчотнае, любоўнае? Што? Думаеш, не трэба? Правільна, птушка! Ім і так добра. А мне, прызнацца, вельмі ж не хочацца, каб ён... ну той... падслухаў мае думкі. Давай лепш прагледзім апошнія газеты і паспрабуем заснуць, як яно і трэба ў нашым пажылым узросце...

Хутка прайшло лета. У жніўні зашапацелі дажджы. Ленка заехала да бацькі праездам на некалькі дзён: яна

вярталася з камсамольскай будоўлі, на якой усім фа-культэтам працавалі на канікулах, і цяпер спяшалася да пачатку заняткаў. Яна загарэла, пагрубела, зрабілася зусім самастойнай. Ён мог быць упаўне спакойным за дачку — дзяўчына ўпэўнена ходзіць па зямлі і заўсёды ведае, што робіць.

Ішоў час... Але Міхась Аляксеевіч не адчуваў у сабе безнадзейнай мёртвай пустаты — засталося добрае сумнае пачуццё ўдзячнасці да той незнаёмай жанчыны, што раптам нечакана і дзіўна ўсхвалявала ў яго душы самыя запаветныя, самыя дарагія глыбіні. Яго зноў цягнула да музыкі, і ён іграў зноў усё тое, што некалі прысвячалася ёй, і знаходзіў у гэтым нейкае гораснае задавальненне. Ён ведаў пэўна, што цяпер жанчына не чуе яго. І не толькі таму, што закончылася яе адзіноцтва, але і проста з-за таго, што ў такую мокрадзь і холад не будзеш расчыняць насцеж вокны.

Неяк Міхась Аляксеевіч, адчуваючы з раніцы знямогласць, прыйшоў дамоў раней, прылёг, паспрабаваў чытаць і хутка заснуў. Прачнуўся ён сярод ночы. Было, мабыць, каля трох гадзін. Па-ранейшаму за акном сіпеў дождж. Дамы стаялі глуха — нідзе ні агеньчыка. І толькі адно-адзінае акно ледзь цяплілася святлом. Тое акно. Міхась Аляксеевіч перапалохаўся — там бяда! З кім? З ёю? Не, вось яна! Як у тую красавіцкую ноч, ён бачыць яе ўсю: жанчына адсунула фіранку, углядваецца ў цемень. Яе пастава была напоўнена такой пякельнай трывогай, што здавалася, цішыню разарве яе адчайны крык: «Дзе ён? Што з ім?» Міхась Аляксеевіч запаліў лямпу: хай жанчына адчуе, што яна не адна ў начным пустэльным свеце.

Той прыйшоў амаль у чатыры гадзіны. Акуліч бачыў, як у памутнелым святле лямпачкі, што гарэла ў пад'ездзе, мільгнула постаць і схавалася ў дзвярах. Ну вось... Ці трэба было хвалявацца — сэрца так закалацілася, што хоць бяры валідол. А тут звычайная жыццёвая гісторыя. З кім не бывае!

Банальнасць начнога здарэння выклікала ў ім прыкрасць, быццам жанчына ў нечым падманула яго надзеі. У тыя вясновыя дні яна разбудзіла ў ім юнацкую веру ў каханне, як у дзіва, як у самы дарагі падарунак. Ён быў перакананы, што гэтую жанчыну нельга кахаць інакш, як толькі пяшчотна, святочна, удзячна. Не, усё гэта лухта,

вынік яго адзінокіх фантазій. У жыцці куды прасцей, грубей. Ды і хіба яго асабістае сямейнае жыццё не было гэтаму доказам?

З Нінай ён пазнаёміўся адразу пасля дэмабілізацыі. Смуглявая бойкая дзяўчына з тонкімі моцнымі пальцамі піяністкі вельмі падабалася яму. Спакойна і паблажліва яна слухала яго разгубленыя прызнанні і гэтак жа спакойна і паблажліва, быццам зрабіла вялікую міласць, згадзілася стаць яго жонкай.

Каханне прыйшло, але цуду не было і не было ўзлёту, быццам хто звязаў яму крыллі. Першая кволая цеплыня хутка астыла: дробязная неўладкаванасць быту, сутычкі і, нарэшце, ціхая звычка. І так, мабыць, ва ўсіх людзей. Варыянты магчымы, але сутнасць адна. І тут тое ж самае — маламетражны быт, маламетражныя пачуцці.

Не! Не і не! Калі ўсё так нікчэмна і будзённа, дык для чаго тады ўсе тыя чароўныя мелодыі, што так цудоўныя ў сваёй звонкай чысціні і гармоніі, для чаго цудадзейнасць празрыстых паэтычных сугуччаў, уся прыгажосць свету! Няпраўда? Прыдуманая чалавецтвам для самаўцехі залатая казка? Не! Калі я сляпы і не бачу сонца, дык хіба гэта павінна азначаць, што яго няма. Я ж адчуваю цёплы дотык яго праменняў. Інакш адкуль ва мне гэта незадаволенае хваляванне юнацтва, гэтая прадбачлівасць непазбежнага? Аднойчы я паспяшаўся, памыліўся, выбраў не тую дарогу. Так! Так... так! У кожнага чалавека... так, у кожнага ёсць сваё акно... Прыйдзе час — і яно засвеціцца...

Не, ён, здаецца, з'ехаў з глузду. Дзеля чаго пытаецца, расхваляваўся, узгарэўся сярод ночы? Усе нармальныя людзі спяць. Гэтыя двое таксама, канешне, даўно ўспакоіліся. І каб канчаткова пераканацца ў гэтым, ён падышоў да акна.

Але квадрат іх акна па-ранейшаму свяціўся, і па-ранейшаму за ім жыў неспакой. Акуліч бачыў жанчыну. Так, гэта яна — згорбілася, сціснулася. Плача? Які ён грубы, гэты даўгашыі бэйбус! Махае рукамі, крычыць нешта, відаць, рэзкае, абразлівае... Жанчына ўздрыгнула, падняла руку... К д'яблу! Што б ён там ні прыдумваў, але той вечар — быў ён, і была тая ўзнёслая пад светам жаночая душа, і была музыка, і было стамляючае чаканне, такое блізкае, сугучнае яго надзеям, яго чаканню! А гэты... Піжон! Малакасос! Ці разумее ён гэта? Ці

можа ён цаніць? Ды хіба ён варты хоць адной яе слязінкі?

Не ўсведамляючы, нашто ён гэта робіць, Міхась Аляксеевіч пачаў таропка апранацца. Апамятаўся ён ужо на вуліцы, каля іх пад'езда. Насмешліва гаварыў здаровы сэнс: куды ён лезе? У чужую сям'ю, у чужыя спрэчкі?

На лесвіцы пачуліся таропкія крокі. Міхась Аляксеевіч ірвануўся насустрач ім. Высокі русавалосы хлопец, сутыкнуўшыся з ім твар у твар, ад спуду адхіліўся.

— Шчанюк! І ты... ты змог?!

Ён стаяў з голай галавой на сцюдзёным дажджы, гаварыў і гаварыў... Божа! Як ён гаварыў пра гэтую цудоўную жанчыну. Усё, што набагацілася, набалела ў яго душы, раптам прарвалася словамі. Хлопец глядзеў на яго дзіўна і зачаравана і гэтак жа зачаравана, быццам пад гіпнозам, падняўся ўслед на чацвёрты паверх. Тут, ля прыадчыненых дзвярэй, ён трохі паспакайнеў і паспрабаваў апраўдацца:

— Я што? Я нічога... Яна сама...

— Ідзі! — сказаў Міхась Аляксеевіч. Той моўчкі яго паслухаў. І тут, сам не ведаючы чаму, ступіў за ім цераз парог.

У маленькім пакойчыку, які быў асветлены слабым зеленаватым святлом настольнай лямпы, прыціснуўшыся лбом да халоднага шкла, у жывым, рэальным вобліку стаяла тая жанчына. Ён бачыў толькі валасы, што рассыпаліся па яе плячах, каляровы халацік — чырвоныя кубікі на блакітным полі — і руку на пераплёце рамы. Хлопец падышоў да жанчыны, азірнуўся на Акуліча, быццам шукаючы падтрымкі, памаўчаў, патаптаўся на месцы і нарэшце прамовіў:

— Мам... Мама! Ну, хопіць табе! Прабач мне, ці што...

Міхасю Аляксеевічу раптам здалося, што нехта стукнуў яму ў грудзі — адразу стала цяжка дыхаць. Ён абапёрся аб сцяну.

Жанчына маўчала, толькі ніжэй нахіліла галаву, а хлопец усё угаворваў:

— Ды што я, маленькі? Армію адслужыў. Сам працую. А ты ўсё... Ну, затрымаўся з хлопцамі. Харошыя хлопцы, не якія-небудзь там піжоны...

Сабраўшыся з сіламі, Міхась Аляксеевіч нячутна ад-

ступіў да дзвярэй і, не адчуваючы пад сабою ног, збег па прыступках уніз.

— Які ж я дурань! Які дурань! — без канца паўтараў ён.

Яму захацелася закрычаць, ударыць з усёй сілы па клавішах, каб уздрыгнула ціхая, як стаячая вада, перадранішняя ціш. Ён моцна засмяяўся ў пустым цёмным пакоі. Верабейчык устрапянуўся, заварушыўся, незадаволены, што яго разбудзілі.

— Эй, ты, соня! — сказаў Акуліч.— Калі б ты ведаў, якога перапалоху я там нарабіў! Яны зараз паміраюцца, і хлопец спытае ў яе: а што гэта за тып тут распінаўся за цябе сярод ночы? А яна нічагусенькі і не ведае. Во, брат, якая я таямнічая асоба! А можа, і не ўспомняць. Ты глядзі, акно ўсё яшчэ свеціцца.

Перапоўнены аўтобус, надрыўна крэкчучы, цяжка падымаўся ўгару. Міхасю Аляксеевічу трэба было выходзіць на наступным прыпынку, і ён пачаў прабірацца да выхада.

— Прабачце. Дазвольце, калі ласка! — гаварыў ён, праціскаючыся сярод людзей.— Прабачце...— і замёр: уперадзе, бокам да яго, стаяла жанчына. На ёй было цёмна-блакітнае паліто, белы пульхны шалік, які ніяк не хацеў трымацца на светлых валасах. Міхась Аляксеевіч бачыў мяккі авал шчакі, вейкі, маршчынкі каля вока. Жанчына занепакоілася і таксама пачала праціскацца да выхада. Рукі яе былі заняты маленькім чамаданчыкам, з якім звычайна робяць абходы ўчастковыя ўрачы, і сумкай з прадуктамі. Яна затапталася каля выхада, ніяк не магла размінуцца з людзьмі. Міхась Аляксеевіч падхапіў яе сумку, дапамог сысці.

— Дзякую...— жанчына павярнулася да яго і... зачырванелася ўся, раптам разгубілася і змоўкла. Міхась Аляксеевіч прагна ўглядаўся ў яе твар, які прыцягваў да сябе ўвагу стомленай прыгажосцю, быў асветлены ціхім святлом добрых шэрых вачэй,— самы прыгожы на зямлі жаночы твар. Пачырванелы ад сарамлівасці, ён раптам здзіўляюча памаладзеў, і Акуліч шчасліва сам сабе заўважыў, што менавіта такою — і ніякай другой — яна і ўяўлялася яму. Усё ў ёй было простым, натуральным, цнатлівым. Яна не пабаялася прызнацца, што ведае яго,

не стала здзіўляцца — маўляў, хто вы такі і што вам трэба? Усё гэта напаўняла Акуліча радасным прадчуваннем. Ён ішоў з ёю побач і баяўся вымавіць хоць слова, каб не разбурыць кволае дзіва духоўнай блізкасці, якое толькі-толькі нараджалася. Каля пад'езда яны спыніліся. Міхась Аляксеевіч асцярожна пацісnуў яе халодныя пальцы. Губы жанчыны ўздрыгнулі, яна мякка аслабаніла руку, моўчкі кіўнула яму і схавалася за дзвярыма.

Цяпер на заводзе ўжо нікога не здзіўлялі ні юнацкая прыпаднятасць, ні малады голас Міхася Аляксеевіча, ні мройная ўсмешка, якая асвятляла яго твар без усякай, здавалася, прычыны. Жанчыны цэха пачалі раптам гаварыць між сабою, што іх начальнік не такі ўжо стары, як здаецца на першы погляд, і не пазбаўлены мужчынскай прывабнасці.

Акуліч прагульваўся каля пад'езда, хаваючы твар ад цяжкіх і вялікіх, як лапці, лахманоў снегу. Чакае ён даўно, але яе ўсё няма. Надвор'е паганае, нейкае кіслае, шмат прастудных хвароб — не хутка аббяжыш усіх хворых. Яна з'явілася раптоўна, з хісткай плыні снегу, убачыла яго і, каб схаваць ніякаватасць, паспешліва пачала папраўляць на галаве шалік. На яе валасах блішчалі сняжынкі.

— Марыя Мікалаеўна,— сказаў Акуліч зусім афіцыйна.— Заўтра ў мяне сямейная ўрачыстасць, імяніны. Разумееце, роўна пяць гадоў назад я падняў на асфальце знямоглага вераб'я. Цяпер гэта мой верны таварыш і, можна сказаць, сем'янін. Дазвольце ад яго імя...

Верабейчык ніяк не змог зразумець, да чаго гаспадар распачаў такую грандыёзную падрыхтоўку. Міхась Аляксеевіч рабіў гераічныя намаганні, каб надаць свайму халасцяцкаму жытлу па магчымасці прывабны выгляд: абнавіў фіранкі, недзе раздабыў ружы, ліквідаваў гадавыя залежы папер, што ляжалі на пісьмовым стале. Гэта не падабалася Верабейчыку, але Акуліч не звяртаў на яго ніякай увагі і быццам бы забыў пра яго існаванне. Міхась Аляксеевіч пачаў рыхтаваць на стале. Рабіў ён гэта

доўга і старанна, па некалькі разоў расстаўляў прыборы. Яму трэба было нечым заняць сябе, каб скараціць марудныя хвіліны чакання і заглушыць міжвольную боязь — а што ён павінен рабіць, як паводзіць сябе побач са сваім незвычайным госцем, як незнарок не згубіць яе даверлівасць?

Яна ступіла ў кватэру асцярожна, як у ваду, гэтак жа асцярожна прайшлася па ёй, мімаходзь датыкаючыся да кожнай рэчы: паправіла настольніцу, пераставіла кветкі; каля дзвярэй балкона прыпынілася, кінула погляд на сваё акно і, азірнуўшыся на Міхася Аляксеевіча, усміхнулася з сумнай іроніяй; падышла да піяніна, ласкава правяла рукою па вечку; насупіўшы бровы, доўга ўглядалася ў юнацкі твар салдата з пажоўклай карткі.

Міхась Аляксеевіч стаяў і ўсхвалявана пазіраў, як яна знаёміцца з новым, чужым для яе жыццём — яго жыццём. Яму хацелася, каб яна як мага хутчэй асвойталася тут і адчула сябе лёгка і свабодна.

Яна раптам спынілася, прыціснула пальцы да скроняў і, супакоіўшыся, спытала вельмі сур'ёзна:

— А... дзе ж імяніннік?

Ага, праўда, куды зноў падзеўся Верабейчык? Відаць, зазлаваўся шэры шэльма на няпрошаны прыход госці і стаіўся недзе ў ціхім кутку. Але яна ж можа падумаць, што ён схлусіў...

— О! Не хвалюйцеся, ён на самай справе жыве са мною. Толькі вельмі ж сарамлівы...

Яны пілі духмянае віно і вялі нетаропкую нязначную размову, бо галоўнае было зусім не ў словах.

— Так... інжынер... Ужо даўно... Падымаў завод пасля вайны з першай цагліны... Цяпер свае цяжкасці. З абсталяваннем бяда.

— Так-так! Цяпер без тэхнікі як без рук.

— І яшчэ праблема — кадры. Людзі, разумееце, ёсць, але патрабаванні да іх... Патрэбны веды — грунтоўныя, без похапку... І ў адносінах дысцыпліны таксама... Сумна? Ды не — не сказаў бы... Вось часам іграю... У маладосці марыў стаць музыкантам... Цяпер, канешне, смешна.

— Ну што вы! Мне? Не было калі задумвацца — работа, сын. Адной, без бацькі, ведаеце як!.. О!.. Даўно ўжо — у яго вялікія дзеці... Ды вось неяк так — не зжыліся... Сын? Працуе пакуль, хоча паступіць у інстытут.

Не ведаю — ці хопіць настойлівасці. Вельмі хочацца, каб чалавекам быў, а не пустадомкам.

— Разумею, цяжкі народ — моладзь. Некалі і да іх прыйдзе пачуццё адказнасці.

— А ў вас дачка? На кліматолага вучыцца?.. Скажыце, куды іх цягне! Што? Ды не, які ўжо там сакрэт?.. Разміняла ўжо пяты дзесятак. А чаго вы ўсміхаецеся. Не-не! Я больш не буду! Дзякую! Лепш ведаеце што? Пайграйце! Ну хоць вось гэта...

Ён іграў. Яна сядзела побач і, звёўшы тонкія бровы, сачыла за хуткім рухам яго рабочых рук і незагоеннай драпінай каля сярэдняга пальца. Верабейчык, пачуўшы знаёмыя гукі, вылецеў з таемнага свайго сховішча, усрыхнуў на настольную лямпу і пачаў з цікаўнасцю разглядваць незнаёмага яму чалавека.

Міхась Аляксеевіч раптоўна перастаў іграць. Яго рукі так і засталіся ляжаць на клавішах. Вялікія і стомленыя, яны былі нерухомыя, але ў іх яшчэ жыла музыка. Марыя Мікалаеўна раптам адчула ў сабе такі прыступ пяшчоты, што не змагла стрымаць яе, нізка нахілілася і прыціснулася да іх тварам.

— Божа мой! Божа мой! — сказала яна здзіўлена.— Адкуль гэта? Быццам мне шаснаццаць гадоў... І ўсё ўпершыню...

Верабейчык пасмялеў, зляцеў на стол і ўзяўся гаспадарнічаць, як і патрэбна было імянінніку.

# Нінка Перагуд

1

Пасля абеду, калі спадала спёка і строгі наказ мацеры — завесці і прывязаць на выгане да колка цяля — быў выкананы, хлопчык ішоў да Перагудаў. Перад іх хатай прыгладжваў далонню каўнер картовай сарочкі і зломкам грабянца прыхарошваў свой чубок.

Ён сядаў на чысты, вышараваны дзеркачом парог нізкага ганка і чакаў. Іншы раз сядзець даводзілася доўга, але часцей з сенцаў выходзіла Поля, старэйшая сястра.

— Прыйшоў? — пытала яна з хітрыкамі ў вачах і, ведаючы наперад, што хлопчык нічога ёй не скажа, толькі ад сарамлівасці схіліць на плячо галаву, абнадзейвала: — Трохі пасядзі, яна хутка выйдзе.

І сапраўды, хутка выбягала з хаты на ганак сама Нінка. Зірнуўшы на госця доўгім, нібы лянівым поглядам, яна сядала побач з ім на парог.

Хлопчык ніколі не глядзеў на яе адкрыта, ніколі і не падглядваў і ўсё ж бачыў яе ўсю: і дзве цёмныя касіцы з выцвілымі лентамі, і сукенку, туга напятую на падобраныя пад сябе калені, і босыя ногі, роўненька пастаўленыя адна да адной. Самі сабою бачыліся яе вялікія вочы, якія бянтэжылі яго тым, што маглі доўга глядзець не мігаючы.

Яму добра было маўчаць каля Нінкі, гэта былі самыя шчаслівыя яго хвіліны. Дзеля гэтых хвілін ён кідаў усе свае забавы з хлапчукамі і прыходзіў з далёкай сваёй вуліцы на гэтую, на якой жыла Нінка.

Перад самым захадам сонца Нінка, намаўчаўшыся з ім, уставала з месца і казала:

— А цяпер ідзі. Хутка прыгоняць з пашы кароў, і мне трэба загнаць у хлеў Чарнуху.

Хлопчык пакідаў яе — ціха, моўчкі выходзіў ён са двара на вуліцу, так і не сказаўшы Нінцы ні аднаго слова, але цвёрда быў упэўнены, што заўтра прыйдзе сюды зноў.

Восенню яны пайшлі ў першы клас. Хлопчык прыкмеціў, за якой партай будзе сядзець Нінка, і выбраў сабе такое месца ў класе, з якога можна будзе заўсёды глядзець на яе.

Ці то спісваючы з дошкі словы і лічбы, ці то чытаю-

чы буквар, ён заўсёды пазіркваў на сваю Нінку, а калі настаўніца тлумачыла ўрок, тут хлопчык не зводзіў ад дзяўчынкі вачэй — глядзеў доўга, прагна і ўпарта. Падабалася, як слухала Нінка ўрок: падперла далонькай пухлы тварык, ціха сядзіць, не варухнецца, нават не дыша; вочы яе глядзяць на настаўніцу не мігаючы. І здаюцца яны вельмі маркотлівымі, гораснымі. У такія хвіліны хлопчык асабліва востра ўсведамляў, што бацька ў Нінкі загінуў на вайне, а маці нядаўна памерла. І ў такія хвіліны ён гаварыў сам сабе, што абавязкова будзе абараняць яе ад усіх забіяк, нават ад Пеці Каршуна. І на перапынку, калі Каршун сыпаў налева і направа падзатыльнікі, калі дзяўчынкі пачыналі пішчаць, а хлапчукі змаўкалі ў кутках, хлопчык станавіўся каля Нінкі і не адыходзіў ад яе ні на крок. Ён добра ведаў, што Каршун мацнейшы за яго, ведаў, што, калі справа дойдзе да бойкі, гэты забіяка пераможа — ведаў гэта і Пеця, калі хлопчык спыняўся каля Нінкі, дык забываў, што ён слабейшы за Каршуна, сустракаў яго позірк не адварочваючыся, і той не крануў іх ні разу.

На абед маці засоўвала яму ў палатняную торбачку бульбяную аладку ці кавалак хлеба. Дарога вяла ў школу паўз агароды, хлопчык зварочваў на грады і ў затаптаных высахлых нітках агурэчніку знаходзіў яшчэ крывабокі заморак агурок або чырвоны памідор — для Нінкі. Цяпер трэба было злаўчыцца і пакласці гасцінец у Нінчыну сумку так, каб яна не заўважыла. Чакаць даводзілася доўга, на ўроку іншы раз і не пакладзеш, затое на перапынку такі выпадак надараўся пэўна. Вось Нінка пасля званка пачынала даставаць кніжку або сшытак з сумкі і... Яна марудна паварочвалася да хлопчыка, глядзела на яго, і вочы яе доўга і мякка свяціліся. Незаўважна для настаўніцы адкусвала агурок, і адна шчака ў яе трошкі прыпухала. І сэрца ад радасці замірала ў хлопчыка.

У тую зіму ў іх вёску прыехаў новы настаўнік — малады хлопец. Вясною ён жаніўся, узяў Нінчыну сястру Полю і звёз з сабою абедзвюх сясцёр у суседнюю вёску, Буйнічы. Тужліва стала яму без Нінкі. Некалькі разоў пасля яе ад'езду ён прыходзіў на вуліцу, дзе стаяла з забітымі вокнамі хата Перагудаў. Потым яе купіў новы гаспадар. Недалёка ад ганка ён паставіў будку і прывя-

заў да яе злоснага сабаку, і хлопчык зусім перастаў хадзіць на тую вуліцу.

Нінка ўспаміналася яму ўсё радзей і радзей...

А потым зусім забылася.

## 2

«Пешшу ісці ці чакаць машыну?»

Ззаду застаўся пакаты ўзгорак, дарога спусцілася ў даліну, потым зноў палезла на палетак, і ён убачыў спачатку крыж, потым памалу пачала перад вачмі выплываць з-за жыта царква. Але гэта будуць толькі яшчэ Буйнічы. За імі — шырокі хвойнік. З-за хвойніку адразу раптам вынырне Запясочнае, у якім дажываюць свой век яго бацька і маці. Да іх усё радзей і радзей даводзіцца з гадамі яму вырывацца з горада.

Максім прыкінуў у думках усе пятнаццаць кіламетраў знаёмай з дзіцячых гадоў пясчанай дарогі, падумаў, што чамадан нарве, адцягне яму рукі, але пайшоў. Ён яшчэ толькі выходзіў з гэтай вёскі, у якую прывёз яго аўтобус. Затравелая сцежка спачатку вяла яго паўз бульбу, што цвіла бэзавым колерам, потым пахіснулася да абымшэлага плота, за якім чэзнуў пакінуты вішняк.

З-за рэдкіх калкоў агароджы выйшла дзяўчынка і пайшла наперадзе Максіма гэтай жа самай сцежкай, што і ён. Ёй было гадоў шэсць, і ў руцэ дзяўчынкі пагойдвалася блакітнае вядзерца, напоўненае спелымі вішнямі.

Штосьці няўлоўнае ў яе паходцы прымусіла Максіма прытрымаць дыханне і сцішыць крокі, але дзяўчынка ўжо пачула ззаду сябе чалавека і асцярожна, марудна, нібы нехаця азірнулася.

Максім апусціў на зямлю чамадан — то была Нінка Перагуд. Дзве кроплі вады.

Не збаўляючы крок, не спяшаючыся, дзяўчынка зірнула на Максіма і пайшла сабе дамоў. Ногі яе танулі ў глыбокай траве. Цёмныя касіцы роўна ляжалі на плячах. Белы гарошак на кароткай, да каленяў, сукенцы, якая пералівалася і пакалыхвалася, вось-вось, здаецца, асыпецца на зямлю.

«Дачка. Ужо дачка,— толькі і паспеў падумаць Максім.— Але чаму «ўжо»? У мяне таксама сын. Вось колькі прайшло гадоў». «Чаму ў яе маркотны, як і ў самой Нінкі, позірк? — думаў ён.— Некалі я думаў, што ў Нінкі

такі позірк ад сіроцтва, а аказваецца... Пачакай... Ці жывая ў гэтай дзяўчынкі маці? Як клічуць гэтую дзяўчынку? Чаму я не спяшаюся да яе, чаму не паклічу, не спыню і не спытаюся, чыя яна? Чаму гэта раптам усё ва мне адубянела?»

Нечакана Максім з вялікім здзіўленнем зразумеў, што за ўсе гэтыя гады ён не змяніўся. Аказваецца, ён і цяпер такі ж сарамлівы, як і ў тыя далёкія-далёкія свае гады. Калі б сеў ён зараз, як тады ў дзяцінстве, на парог ганка ўжо вось з гэтай новай дзяўчынкай, і паўторыцца тое ж, што было ў іх з Нінкай трыццаць гадоў назад. Ён зноў будзе, мабыць, гэтак жа маўчаць, ціха сядзець, па-ранейшаму будзе глядзець прама перад сабою і бачыць між тым вялікія вочы гэтай дзяўчынкі, яе касіцы і гэтую яе сукенку ў гарошак, якую дзяўчынка нацягне, канешне, на калені так, як некалі нацягвала Нінка.

«Ніякі я не Максім Пархімовіч, а той жа хлопчык са сваёй ціхай вуліцы... І як жа мы памыляемся, сур'ёзна думаючы, што нас зменьвае ўзрост! Мяняецца з гадамі колер твару, мяняюцца паходка і голас, а ў душы, у самай глыбокай яе сутнасці, мы застаёмся ўсё тымі ж хлапчукамі».

Пра ўсё гэта думаў ён, а сам усё ішоў і ішоў далей па сцежцы. Калі падняўся на ўзгорак і азірнуўся, нечакана зразумеў, што не можа ён далей ісці, не пабачыўшы сваёй Нінкі. Яна, маці гэтай дзяўчынкі, недзе жыве блізка тут, у Буйнічах. «Не, не трэба. Нельга»,— загадаў ён сам сабе. Няспынны час змяніў іх знешне, нешта беззваротна згубіў... Не, не гэтага баяўся Максім. Ён проста хацеў, каб у ім засталося назаўсёды тое светлае цнатлівае кволае пачуццё да Нінкі, якое не выветрылася за столькі гадоў з яго сэрца, жыло як далёкі святочны ўспамін. І Максім баяўся згубіць яго. Хай жыве і ніколі не выходзіць з яго сэрца самая дарагая і светлая памяць, памяць дзяцінства.

А вёска ўжо далёка засталася ззаду. Звычайная вёска. Такіх на Палессі раскідана багата.

# Пахатуха

Хадзіў ён па вёсцы ў доўгім і чорным плашчы, у шэрых валёнках і шапцы-аблавушцы, з якой тырчала брудная вата. Я даўно заўважыў: прырода моцна і надоўга стварыла гэтага дзеда. Яму ўжо за сто, але ружовыя шчокі і нос, жывыя іскрынкі ў маленькіх рудых вачах пераконвалі, што Архіпу, відаць, не будзе зносу. Толькі паходка трохі выдавала яго. Пасоўваўся Архіп маленькімі асцярожненькімі крокамі, быццам баяўся спатыкнуцца і рассыпацца.

— Не жывіце бежкі. Учарашні дзень не дагоніш, а ад заўтрашняга нідзе не дзецца. Усяму прыйдзе свая чарга,— як прыказку паўтараў кожны раз стары сваім хрыплым голасам і быў да ўсяго, што яго не цікавіла, глухі, абыякавы.

— Ранейшыя людзі не ведалі гэтага, але жылі не горш за нас,— гнуў ён сваё, калі яго спрабавалі ў чым-небудзь пераканаць.

Я нарадзіўся і вырас у гэтай вёсцы. І як толькі пачаў памятаць сябе на гэтым белым свеце, бачыць і разумець усё вакол, адразу перада мною вырас, нібы аднекуль выплыў, моцна і надоўга запамятаўся сівабароды асілак з вялізнымі, як доўбні, кулакамі і вузкім ротам, таемна схаваным у густой валасні вусоў і барады.

Здзівіла мяне і тое, што за мінулую чвэрць веку, пакуль я рос і сталеў, дзед Архіп зусім не змяніўся: не маладзеў і не старэў, цела яго быццам пераключылася на нейкі асаблівы беражлівы рэжым работы, які не прызнаваў часу.

Часам я заводзіў з дзедам размову, кожны раз спадзеючыся пачуць ад яго, стогадовага чалавека, што-небудзь незвычайна дзіўнае і цікавае — такое, што ніхто ніколі, акрамя мяне, не мог ведаць і чуць. Але заставаўся расчараваны — стары амаль заўсёды гаварыў што-небудзь усім вядомае і надакучлівае, што прыніжала яго ў маіх вачах. Архіпа ж гэта ніколькі не хвалявала, ён проста ні пра што, відаць, не здагадваўся і па-ранейшаму на ўсе мае пытанні адказваў завучанымі словамі.

— Эх, гора ды бяда — з кім не была? — паслухаўшы якую-небудзь гісторыю, уздыхне стары і змоўкне.

Пры сустрэчы крыкнеш яму на вуха:

— Добрага здароўя, дзядуля!

Ён кіўне галавою:

— Ды я яшчэ, дзякаваць богу, здароўе маю. Хаця цяпер не пад гару жыву, а з гары.

Неяк летам я пачаставаў Архіпа свежай юхай, наліў шклянку віна. Павесялелі яго старэчыя вочы, заблішчалі.

— Ты, гляджу, сіваваты, а бацька твой, Сяргей, чарнявы. Цясляр ён добры. Таксама пачаставаў мяне,— хрыпавата гудзеў Архіп, і мяне здзіўляла, што пра падзеі сарака-ці трыццацігадовай даўнасці ён гаворыць, як пра цяперашнія. У яго памяці многае пераблыталася, але не згубілася. Я не памятаю свайго бацькі, які загінуў яшчэ ў пачатку вайны, а гэты стары памятае і гаворыць пра яго, быццам бы толькі што сустрэў на вуліцы.

Аднойчы Архіп расказаў, як выстругваў ён з асіны драўляныя пратэзы франтавікам-палякам, якія вярнуліся з руска-японскай вайны, калі не толькі мяне, але і мацеры маёй не было яшчэ на белым свеце. Усё гэта здзіўляла мяне.

І ўсё ж на старога я глядзеў з лёгкім асуджэннем, бо ведаў — пачні распытваць Архіпа пра свайго бацьку або пра далёкую вайну на сопках Маньчжурыі, дык нічога талковага і цікавага ён не раскажа.

Кожны раз, прыязджаючы адпачыць у родную вёску, я не абыходжуся без сустрэчы з дзедам. Ён сам знаходзіць мяне, хоць я яму не вельмі і патрэбен. Яму б толькі прычыну мець: любіць Архіп бываць на сустрэчах, вяселлях і хаўтурах. Цягаецца з хаты ў хату. Таму і адпаведную мянушку не прапусцілі ў вёсцы яму прыклеіць — Паха́туха. На гулянне ён прыходзіць звычайна без усякага запрашэння. З выглядам жаданага, званага госця сядае за стол і азірае людзей такім паглядам, быццам гаворыць: «Ну вось цяпер можна і пачынаць». А раніцай чуеш жаночую размову на вуліцы.

— Як вяселле адгулялі? — спытае адна.

— Добра. Было што выпіць і закусіць,— адкажа другая і ў доказ таго, што вяселле прайшло добра ды ладна, з гонарам дадасць: — Дзед Архіп нават наведаў, чарку за шчасце маладых кульнуў.

Мяне заўсёды бянтэжыў гэты паважны тон, ён здаваўся мне фальшывым, прытворным. Я не верыў, напрыклад, што наведванні дзеда Архіпа робяць некаму гонар.

...У дзень цяперашняга майго прыезду маці паставіла

ўвечары на стол бутэльку віна, падала з печы вячэру. На застолле сабраліся маці, я і Міця Гаркуша, мой сябар дзяцінства, калгасны механік. Толькі селі, не паспелі перакінуцца і словам, а дзед Архіп тут як тут. Зняў шапку, пакланіўся ў парозе, самавіта падышоў да стала, сеў, як гаспадар, побач з маці і абвёў нас вясёлым позіркам: ну цяпер, маўляў, можна пачынаць.

— Прабачце мне, трохі спазніўся,— толькі і сказаў ён, беручыся за лыжку.

— Нічога, нічога, дзядуля. У самы раз прыйшлі,— супакойваю старога. Раптам наперабой загаварылі мы і самі, нават не ведаючы чаму, паверылі, што сапраўды чакалі Архіпа і вось цяпер вельмі задаволены, што ён нарэшце прыйшоў.

Еў Архіп ахвотна і многа. Маці падсоўвала да яго ўсё лепшае, што было на стале.

— Вы пернікаў пакаштуйце, Архіп Пятровіч. Мяккія вельмі, і жаваць не трэба.

— Зубоў у мяне яшчэ багата, і не затупіліся.

Жаваў Архіп з такім выглядам, быццам выконваў самую сур'ёзную і галоўную ў свеце работу. Калі наеўся, пачаў глядзець па баках і толькі цяпер, здаецца, заўважыў мяне і Міцю. Доўга глядзеў на майго сябра, потым спытаў:

— А куды ж валасы твае падзеліся?

— Мне і гэтых хапае,— буркнуў Міця і беражліва пагладзіў свой рэдзенькі русявы чубок, які прасвечваўся наскрозь. Ён насупліваецца, калі яму, маладому, яшчэ халастому, напамінаюць пра залысіны.

Сустрэўшы халаднаваты позірк Міці, дзед Архіп павярнуў размову на сваю любімую тэму:

— Учора да Маланні па гразоце на той канец вёскі хадзіў. Але ногі прамоклі. І ў самы час паспеў, калі сядаліся за стол. Акурат як цяпер да вас,— паганарыўся стары. І мяне ўсяго раптам ахапіла незразумелая жуда: перада мной сядзеў сведка ўсіх пахавальных падзей у вёсцы, усе мерцвякі-вяскоўцы прайшлі перад вачыма гэтага старажытнага чалавека.

І менавіта гэтым вопытам Архіп быў ганарлівы, багаты і жудасны. Між іншым, яго ўжо даўно нічога не здзіўляла. Нават пра смерць ён думаў і гаварыў, як, напрыклад, пра асенні дождж: прыйдзе — ну і дзякуй богу; не — без гразоты яно таксама добра.

— А вось Мікола Трухан не думаў не гадаў, у момант аддаў богу душу,— спакойна расказваў дзед Архіп.— Прыйшоў ранкам у кантору, сеў за паперы ды і клюнуўся ў стол. Гатовы. Сэрца, гавораць.

— Яму і сарака не было,— сказала маці, неахвотна падтрымліваючы гамонку дзеда, а мы з Міцем сядзелі, няёмка пераздзірквалася і ўважна маўчалі.

— Ад ціску ён,— удакладніла маці.

— Раней да ста гадоў жылі і не ведалі, што гэта за ціскі такія,— працягваў Архіп, выціраючы ручніком вусы і бараду.— Гнілыя цяпер нейкія, слабыя пайшлі людзі... Гладкі, здаровы на выгляд, высокі, як дуб, а сярэдзіна, нутро — адно парахно... І каб жа галодныя былі, як некалі... Усяго хапае... Еш, хоць распеража́ся... І медыцыны хапае... Цяпер чуць што і адразу: «Нервы. Ціскі!» Ціснуць адзін на аднаго людзі, вось і ціск атрымліваецца.

— А ў вас, дзядуля, які ціск? — спытаў Міця і хітра падміргнуў мне.

— А бог яго ведае, сынок... Людзей я не чапаў, і яны мяне не чапалі,— проста адказаў Архіп.

— Цікава.— Міця ў роздуме пагладзіў свой загарэлы лоб.— Цікава, як гэта вам удавалася?.. Тут тыдзень не пражывеш, каб з кім-небудзь не счапіцца. Не толькі за сябе... Другі раз работа стаіць, а некаму гэта да лямпачкі. Як жа тут не зачэпіш яго?

— Не знаю, не ведаю,— буркнуў дзед Архіп і пацягнуўся рукою да перніка.

— І ўсё-такі, як вы ўмудрыліся, дзед, столькі гадоў уціхую пражыць? — Міця паціснуў плячыма.— З усімі, кажаце, людзьмі ладзілі. Ну а дзе, скажам, вы былі, калі вайна? Столькі ж страшэнных войнаў прайшло пры вашым жыцці!

— Войны ўсялякія ішлі,— згадзіўся Архіп.— Людзі любяць ваяваць. А для маіх ног заўсёды зямлі хапала. Каму не хапала, тыя і ваявалі, біліся...

— Нам лішняй зямлі таксама не трэба, але бывае, што табе і па сваёй зямлі хадзіць не даюць,— уздыхнуўшы, сказала маці, мабыць, прыгадала апошнюю вайну і загінуўшага бацьку.

— Вось, вось,— ажывіўся Міця.— Бывае, што цябе ні за што за горла бяруць. Як жа тут быць, дзеду? Ну, дапусцім, з фашыстам вы не ваявалі, на печы сядзелі, грэлі

старыя косці... А ў грамадзянскую, у рэвалюцыю дзе былі?

— Дзе быў? — Архіп пакруціў галавою, паглядваючы на нас.— Тутака і быў. У Вербавічах. Дзе ж мне яшчэ быць?

— Гавораць, баі тут ішлі. Вёска з рук у рукі пераходзіла... То белым, то чырвоным,— заўважыў Міця.

— А вы, дзядуля, за каго былі? — вырашыўшы падтрымаць размову, спытаў я.

— За каго ж мне быць. За сябе і быў,— адказаў Архіп.

— Выходзіць, ні вашым, ні нашым? — Міця строга прыжмурыў зеленаватыя вочы.— Але ж запраста маглі шпокнуць: усім як угадзіць?

Архіп пустым позіркам учапіўся ў Міцю. Здаецца, ён не разумеў, што ад яго хочуць.

— Пайду адпачываць, Міцька,— памаўчаўшы, сказаў ён, падняўся з-за стала, пакланіўся, насунуў на галаву шапку. Выйшаў і сеў на ганку, падставіў сябе пад чырвоныя праменні заходзячага верасплеўскага сонца.

«Міцька... Ага, пра нас, трыццацігадовых, Архіп думае, мабыць, як пра маленькіх. Ён жа ўтрая старэйшы. Магчыма, ён і размаўляе з намі, як з дзецьмі — недадумкамі, беражэ сваю глыбокую мудрасць для нейкіх асаблівых, сапраўдных часоў, сустрэч і надзей,— думаў я.— Але павінен жа ён хоць раз стаць самім сабою, якім трэба было яму быць, павінен жа ён нарэшце сказаць калінебудзь такія словы, за якімі горда і мудра паўсталі б доўгае чалавечае жыццё, яго векавы вопыт!»

— Дзе ён цяпер жыве? — спытаў я ў мамы.

— У сваёй унучкі, Дар'і Каламар. Яна сама трэці год на пенсіі. У дзеда таксама нейкая пенсія. Не за стаж, а быццам бы па старасці. Калі тут пачынаўся калгас, Архіп ужо быў пенсіянерам. Жыў, не бедаваў, гора не ведаў. Пчолы трымаў, мёд на кірмаш вазіў. Бачылі дом у Дар'і? Гэта ён на мёдзе, кажуць, пабудаваў.

— У газеце пра яго нядаўна пісалі,— сказаў Міця.

Не ўяўляючы, чым мог зацікавіць Архіп газету, я спытаў:

— Пра што ж?

— Ну як у такіх выпадках пішуць? Рэдкасць! Знаходка! Чалавеку за сто, а ў яго, глядзіце, і валасы не выпадалі, і зубы цэлыя, і ціск — першы сорт.

Праз паўгадзіны мы павячэралі і выйшлі на вуліцу. Архіп усё яшчэ сядзеў на ганку. Пасля яды ён быў у добрым настроі, пачаў прыгадваць і з пятага на дзесятае расказваць, як калоў у пана дровы ў галодныя гады ды рабіў у лазні. За каго ён быў, каго паважаў? Ды ў яго ўсе мыліся, парыліся.

«Ні то белыя, ні то чырвоныя, ні то зялёныя... Усе галяком, хіба разбярэш...»

— Ну і жыццё ў вас, дзядуля,— са шкадобай і папрокам сказаў Міця і неяк сумна і паблажліва ўсміхнуўся. Ён старанна паправіў на азяблай шыі Архіпа стары брудны шалік, зашпіліў на яго плашчы ўсе гузікі, паднырнуўшы пальцамі пад жорсткую бараду.

Папрок не адразу прадраўся да зарослых мохам даўгалецця мазгоў Архіпа.

— Жыццё маё не крадзенае,— памаўчаўшы, проста і міралюбна сказаў стары і звярнуўся да мяне, быццам за дапамогай: — Скажы, Сяргеевіч?

Я змаўчаў, не хацеў праўдзівым словам пакрыўдзіць старажытнага чалавека.

— Эх, даў бы бог здароўя, а дзён наперадзе багата,— гладзячы далонню бараду, сказаў Архіп.

— А нашто яны вам, гэтыя дні? — уздыхнуўшы, з сумам спытаў Міця.— Ды вам хоць трыста гадоў адпусці...

Не дагаварыўшы, ён вяла махнуў рукою і пачаў задумліва глядзець некуды ўдалячынь, не слухаючы і не заўважаючы дзеда Архіпа, быццам яго з намі і не было.

7 Зак. 935

# Сонечны лівень

1

Ён быў закаханы і паводзіў сябе пакорліва, як малое дзіця. Калі Тамара сказала, што хоча ўбачыць яго сяброў, Віктар адышоў ад акна, за якім ліў дождж, і зняў тэлефонную трубку.

— Прывітанне, качэўнік,— сказаў ён.— Пазнаў? Ты абяцаў учора прыйсці. Спраў заўсёды хапае. Прыходзь, я хачу цябе бачыць... Пазнаёмлю з Тамарай... Ага, з Томай.

Віктар паклаў трубку.

— Ён прыедзе пасля... Калі зможа...

Тамара пацiснула плячыма.

— Ён на самай справе вельмі заняты?

— Ага. Мы працавалі некалі разам. Толькі я потым паехаў, а ён так і застаўся там, у тайзе... Сібірскі мядзведзь. Зда-р-овы... Паслязаўтра назад едзе... Прыязджаў у камандзіроўку... Быў на Палессі. У геолагаў...

Віктар абышоў стол. Тамара сядзела ў крэсле, і ён абняў яе ззаду за плечы. За вокнамі ішоў дождж, і ў пакой краўся змрок. Віктар пацалаваў яе ў шыю, а потым, адцягнуўшы каўнер світэра, у плячо. Ён улоўліваў пах тых жа духоў, што і паўгода назад, калі яны ўпершыню сустрэліся.

— Ты ведаеш, як я шчаслівы з табою,— сказаў Віктар. Ён зазірнуў Тамары ў вочы, жартаўліва прыклаў руку да грудзей.— Я аддаю табе сэрца!

І схаваў свой твар у Тамарыных валасах.

— Ты ўжо раз аддаваў,— сказала яна.

— Дык у чым жа справа?

Тамара памаўчала.

— Сядзь там.— Яна паказала рукою на табурэт, які стаяў з другога боку стала.— Толькі перш адчыні акно.

Віктар падышоў да рамы, расчыніў яе насцеж, і ў пакой уварвалася густое шапаценне дажджу. Унізе блішчаў асфальт, слізгалі мокрыя парасоны і машыны. З вышыні яны здаваліся плоскімі. Было чуваць, як шамацяць шыны, стукаюць абцасы і глуха звініць у вадасцёкавых трубах вада.

Ён адшмаргнуў убок штору і азірнуўся. Віктару было

за трыццаць. Ён насіў белыя сарочкі, модныя гальштукі, быў хударлявы, статны і молада выглядаў.

— Дзякую. Цяпер сядзь там.

Яна сачыла, як ён абходзіць стол. У яго быў шчаслівы твар.

Віктарава пакорлівасць раздражняла Тамару. У рэшце рэшт хіба трэба выконваць усе яе жаданні!

Віктар сядзеў насупраць. На ім добра ляжаў цёмны касцюм, з верхняй кішэні якога тырчала белая адпрасаваная хусцінка. Ён падтыкнуў пальцам угору, бліжэй да вачэй, акуляры, што спаўзлі на кончык носа, і зноў сядзеў нерухома, паслухмяна, як вучань, глядзеў на Тамару.

«У яго прыгожы твар...— падумала яна.— Тонкі і сімпатычны. Некалі гэта ўсё роўна павінна здарыцца... Так можна адной і звекаваць. Жыццё вельмі кароткае, каб яго пражыць так. А ён усё ж добры».

І спытала:

— Ты заўсёды будзеш такім уважлівым і паслухмяным, так?

— Заўсёды! — крыкнуў ён, ускочыў з табурэта і кінуўся да Тамары. Яна падняла руку.

— Пачакай, калі ласка, і сядзь там.

## 2

Антон не хацеў ехаць. Ён вельмі стаміўся за дзень і думаў пра тое, што трэба трохі паспаць, потым спусціцца ў буфет і павячэраць. Але ехаць прыйдзецца. «Я хачу пазнаёміць цябе з Тамарай,— ён усміхнуўся.— Відаць, па вушы закахаўся стары халасцяк». Яны сябравалі там, у Сібіры. Потым, калі Антон абзавёўся сям'ёю, а Віктар паехаў назад, у Мінск, ужо не сябравалі і толькі калінікалі бачыліся. У кожнага былі свае звычкі і свае інтарэсы. Дружба некуды знікла, пакінула толькі памяць пра сябе, якую Віктар працягваў называць дружбай.

Антон з сумам глядзеў на заплаканыя шыбы, потым скінуў чаравікі, прылёг на канапу: «Трохі паляжу... Пяць хвілін толькі».

Яго разбудзіў тэлефон.

— А-а... Ды не, я еду... Добра...

Ён паклаў трубку і пайшоў у ванную. Пасля халоднай вады вочы ўсё роўна засталіся заспанымі і стомле-

нымі. «Няхай»,— падумаў Антон. Прычасаў валасы. Хацеў надзець гальштук, але раздумаў і закінуў яго ў шафу. Сыдзе і так.

Калі Антон званіў у дзверы кватэры, нумар якой назваў яму па тэлефоне Віктар, думаў, што прабудзе тут нядоўга. Гадзіну, не больш. Пасядзіць трохі і паедзе. Яму шкада было гэтага вечара, за які можна было шмат зрабіць.

Дзверы адчыніў Віктар, і Антон трапіў у калідорчык, цьмяна асвечаны лямпай, што гарэла ў пакоі на стале.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі, і Антон сказаў:

— Хваліся.

Віктар прыклаў да губ палец, потым ціха прамовіў:

— Ты зусім недзе згубіўся. Праходзь.

І дапамог яму зняць плашч.

Антон правёў пальцамі па жорсткіх тугіх валасах і рушыў у пакой. Яму ўсё яшчэ здавалася, што ён не прачнуўся і ў яго заспаныя вочы.

Тамара сядзела ў крэсле бокам да дзвярэй. Антон убачыў яе твар з вялікімі бліскучымі вачыма і падфарбаванымі губамі. Потым зірнуў на рукі. Яны ляжалі на падлакотніках і былі маленькія і спакойныя ў косым святле настольнай лямпы. Круглыя і прыгожыя калені выпіналіся з-пад вузкай кароткай сукенкі. Потым яшчэ раз зірнуў на твар. Кірпаты нос і падбародак з ямкай рабілі яго зусім юначым.

Антон пакланіўся і адчуў, што санлівасць з яго як рукою зняло. Віктар падыходзіў ззаду:

— Знаёмся.

Антон паціснуў працягнутую руку. Яна была цёплай і зусім схавалася, патанула ў яго далоні.

— Гавораць, у вас багата работы? — Тамара глядзела на Антона, падняўшы насмешлівы твар. У яе быў высокі светлы лоб і кароткая з крутымі хвалямі прычоска.

— Чаго добрага, а гэтага хапае,— сказаў Антон і ўсміхнуўся. Ён выпусціў яе пальцы, якія ўсё яшчэ трымаў у руцэ, і павярнуўся да Віктара. Той стаяў і глядзеў на яго так, як глядзіць чалавек, які здзівіў прысутных нечым незвычайным.

Антон стукнуў яго па спіне і сказаў:

— Ты зусім не мяняешся. Па-мойму, нават маладзееш.

— Так думаеш? — Віктар быў задаволены.

— Я падагрэю чай,— сказала Тамара і пайшла на кухню. Антон паглядзеў ёй услед. Яна была стройная і хуткая, як ластаўка.

— Жэнішся?

Віктар паціснуў плячыма.

— Я хоць цяпер.

— Віншую.

— Рана. Не клеіцца нешта, Антон.

— Сціплы вельмі.

Антон сеў у крэсла. Ён чуў, як на кухні звінелі шклянкі і з шумам цякла з крана вада. За акном стаяў мокры паўзмрок. А ў пакоі — мяккае святло. Два сталы — пісьмовы і круглы. Тахта і кніжная шафа з бліскучым шклом.

Антон закурыў і адкінуўся на спінку крэсла. Было спакойна і добра. Калі прыйшла Тамара, ён дапамог ёй паставіць на стол кубкі... Потым сядзелі насупраць за сталом і размаўлялі. Антон пасля не мог успомніць, пра што яны гаварылі. У памяці толькі засталося адчуванне нечага радаснага, прыўзнятага, як бывала ў дзяцінстве перад навагоднімі святамі.

Віктар паставіў на стол бутэльку віна, і яны пілі яго. Спачатку за сустрэчу, потым за Сібір, за работу і за ўсіх разам. І ў Тамары былі гарачыя і шчаслівыя вочы.

Антон расказваў пра тое, як у мінулым годзе ледзь не загінуў — заблудзіўся ў тайзе. Гэта была сумная гісторыя, але яна расказвалася весела, бо тут была Тамара і быў прыўзняты настрой. Антон чуў, як смяялася Тамара, улоўліваў далікатны, тонкі пах яе духоў, і яму было добра ад гэтага смеху, і ад мяккага святла лямпы, і ад размовы, нетаропкай і спакойнай, з доўгімі ненадакучлівымі паўзамі.

Потым яны пілі чай і напаўголасу спявалі песні. У Тамары быў цудоўны голас — мяккі і пяшчотны. Антон услухоўваўся ў яго, і яму не хацелася ісці скрозь дождж у пусты няўтульны нумар старой гасцініцы. Ён дакараў сябе, што не прыйшоў сюды ўчора. І думаў, што і сёння, магчыма, не трэба было яму сюды прыходзіць. Тады ўсё засталося б, як і раней, на сваіх месцах. Прыйшло ў галаву, што трэба падняцца, развітацца, і тады ўсё зробіцца звычайным і спакойным — спакойны дождж, спакойная вуліца, апусцелая за ноч, спакойная гасцініца з заспаным швейцарам ля ўвахода.

Ён вырашыў, што трэба ісці, але яшчэ нейкі час сядзеў, дакурваючы цыгарэту, і глядзеў праз блакітны дым на Тамарыны рукі, маленькія і лёгкія, якімі яна перастаўляла на стале кубкі.

— Хочаце яшчэ чаю? — спытала яна і паглядзела Антону ў вочы. Ён зірнуў на цыгарэту, убачыў, што яна дагарэла да самых пальцаў, і сказаў:

— Не, Тамара, дзякую, мне пара.

— Можа, пасядзіце яшчэ. На вуліцы дождж.

У яе былі цёмныя сумныя вочы.

Антон падумаў, што ўсё ж трэба ісці. Ён паглядзеў у акно і сказаў, што дождж не перачакаеш і да раніцы. Потым падняўся і падзякаваў ёй. Віктар таксама ўстаў. Хутчэй за ўсё ён хацеў правесці Антона толькі да дзвярэй, але Тамара сказала:

— У такім выпадку табе таксама пара.

Яны апранулі плашчы і моўчкі спусціліся з лесвіцы.

На вуліцы гарэлі ліхтары, і дажджавыя кроплі, праляталочы ля іх, мільгалі срэбнай машкарой. Ліхтары адлюстроўваліся ў мокрым асфальце.

Антон спыніў таксі амаль ля самага пад'езда, развітаўся з Віктарам і паехаў. Сядзеў на заднім сядзенні, глядзеў, як шчоткі змятаюць з лабавога шкла машыны дажджавыя кроплі, і адчуваў, быццам скончылася свята. Быццам у апошні раз загарэліся і патухлі агні навагодняй ёлкі, а яе, голую і аблыселую, вынеслі з дома і кінулі ў снег. І ў пакоі зрабілася прасторна, пуста і будзённа.

Антон пацягнуўся за цыгарэтай у кішэню і, калі ўзяў яе з пачкі губамі, адчуў пах Тамарыных духоў. Ён не выветрыўся яшчэ з пальцаў пасля развітання, захаваўся, і Антон не стаў прыкурваць, бо яму не хацелася, каб гэты пах знік. Ён зноў успомніў, як, увайшоўшы ў пакой, убачыў Тамару — вельмі тоненькую, з прыгожымі вялікімі вачыма, з хуткімі рукамі. І зрабілася трывожна і неспакойна.

Ён павольна падняўся ў свой нумар. Не здымаючы плашча і не запальваючы святла, расчыніў акно і доўга ля яго стаяў, услухоўваючыся ў таропкае і густое стукаценне кропель дажджу па вадасцёкавай трубе.

Горад засынаў, і тухлі вокны, і Антон глядзеў, як слепнуць дамы і як чырвонымі іскрамі праносяцца па вуліцы рэдкія машыны.

Потым ён прыкурыў і зноў адчуў пах Тамарыных духоў і, ужо больш не вагаючыся, пацягнуўся да тэлефона. Ён паставіў яго на падаконнік так, каб на яго падала святло вулічнага ліхтара, і набраў нумар.

### 3

«Як гэта дзіўна»,— думала Тамара. Яна распранулася і, не выключаючы святла, легла ў пасцель. Акно пакінула незачыненым, і ў ім злёгку варушылася штора.

Тамара ляжала на жываце, апусціўшы падбародак на рукі. «Як гэта дзіўна...»

Калі ён званіў, каб папрасіць прабачэння, што не прыйдзе, яна ўзяла трубку. І ўпершыню пачула яго голас. Ён быў глыбокі і мяккі, як цемень за расчыненым акном. І абыякавы. Гэта пакрыўдзіла яе. І ўсё-такі ў думках яна ўвесь час вярталася да гэтай размовы — кароткай і нязначнай. І хацела ўявіць сабе Антона па расказах Віктара і па голасу, які пачула ў трубцы. Але з гэтага нічога не атрымалася. Проста тое, што гаварыў Віктар, ніяк не хацела сумяшчацца з тым, што ёй уяўлялася па голасу.

А потым ён прыйшоў, быццам нешта павінна здарыцца. І яна ніяк не магла пазбавіцца ад гэтага адчування нават пасля таго, як усе разышліся і ўжо нічога не магло адбыцца. Яна разумела, ведала, што ўжо позна, што пара спаць і што трывожнае адчуванне чакання проста ашуквала яе. І ўсё-такі яна не патушыла святло і ляжала з расплюшчанымі вачыма. І глядзела ў вільготную цемень за акном. І ўслухоўвалася ў ціхі шэпт дажджу. І ўспамінала. Спачатку, як ён увайшоў і затрымаўся на момант ля дзвярэй. А потым зайшоў у пакой і пакланіўся. І тады яна ўбачыла ў яго нізка схіленай кучаравай галаве бліскучыя кроплі дажджу. Яны заблыталіся ў густой чупрыне.

У яго была буйная галава і чырвоны твар з моцным носам, вялікім ротам і рэзкімі, упартымі губамі. Твар, апалены ветрам. Ён падняў яго, і Тамара ўбачыла вельмі светлыя і стомленыя вочы.

...А потым яны сядзелі за сталом і гаварылі. І ёй было добра сядзець, слухаць і нешта балбатаць не задумваючыся. І глядзець на яго рукі, загарэлыя, аж да закасаных рукавоў. Гэта былі прыгожыя моцныя рукі. Не

жылістыя, але вельмі моцныя і ласкавыя. Яна адчувала гэта, і ўвесь вечар ёй хацелася прыціснуцца да іх шчакой і на момант адчуць сябе маленькай і залежнай ад гэтых рук, ад іх добрай і ласкавай сілы.

Гэта было дзіўна і нечакана, але нічога не магла з гэтым зрабіць. І, заплюшчваючы вочы, зноў і зноў бачыла іх і цясней прыціскалася падбародкам да падушкі, стараючыся адагнаць ад сябе трывожнае адчуванне нечага.

Калі дзынкнуў тэлефон, яна, не ўстаючы, схапіла трубку і адчула, як забілася сэрца.

— Алё! Алё!

Трубка маўчала, і яна ўслухоўвалася ў яе доўга і пільна, як услухоўваюцца ў цішыню. Трубка маўчала, і тады яна нясмела сказала:

— Антон?

— Прабачце, Тома. Я разумею, што вельмі позна.

Яна паспешліва адказала:

— Не, не, я не сплю. Гаварыце.

— Я хацеў сказаць вам дзякуй... За вечар... І яшчэ... мне было вельмі добра з вамі, Тамара,— у трубцы дрыжаў яго голас.

— Мне таксама было добра. Мне ўсё здавалася, што вы пазвоніце. Я не спала.

— Я пазваніў... Мне хацелася пачуць ваш голас. Можаце прыняць гэта, як прызнанне ў каханні,— сказаў ён з сумнай усмешкай.— Для мяне гэта не страшна. Я адязджаю паслязаўтра.

— Так. Для вас гэта не страшна.

— І таму я скажу вам...— Ён памаўчаў.— Я да гэтых пор чую пах вашых духоў. Я ўспамінаю ваш твар. Мне вельмі хацелася чуць ваш голас.

— Мне таксама. Я не хачу, каб вы ехалі...

4

— Я думала, што так бывае толькі ў кнігах. У старых раманах. І раптам...

Яны стаялі на мокрай платформе, каля вагона, а вакол снавалі рознакаляровыя плашчы і вастраверхія капюшоны. І парасоны. Стаялі вельмі блізка адно ля аднаго, і кроплі дажджу плылі па іх тварах.

— Я таксама думаў.— Антон пацалаваў яе пальцы і сціснуў іх у далонях.— Увесь час прыгадваю, як не ха-

цеў ісці і як потым прыйшоў сонны і сумны. Увесь сон прапаў, калі раптам убачыў цябе.— Ён змоўк.— Вельмі няёмка перад Віктарам.

— Пра што ты гаворыш? Мне, каб разабрацца і зразумець, трэба было, каб так здарылася.

— Таварышы пасажыры! Да адпраўлення поезда застаецца дзве мінуты. Просім вас заняць свае месцы, а праважаючых выйсці з вагонаў!

Ён сціснуў ёй віскі і, нахіліўшыся, пацалаваў у шчокі. Яны былі мокрымі. Потым Антон пацалаваў яе ў губы. І адчуў сам, як у яго накіпаюць слёзы, і ўбачыў, які ў яе разгублены быў твар, калі яна сказала:

— Ну вось і ўсё. І больш нічога. Толькі памяць. Бывай!

Тамара прыўзнялася на наскі і моцна пацалавала яго, абхапіўшы рукамі за шыю.

— Дзякую!

Потым павярнулася і пачала праціскацца сярод бліскучых ад дажджу плашчоў і парасонаў. Антон кінуўся ўслед, але цягнік крануўся, і ён ужо на хаду ўскочыў у тамбур.

## 5

Ён сядзеў ля акна ў паўпустым рэстаране і глядзеў, як таропка слізгацяць упоперак шкла змейкі дажджавых кропель. І ўспамінаў Тамарын твар з дрыжлівымі губамі, яркімі і салёнымі ад слёз. Прыкрыўшы далонямі твар, дыхаў пахамі духоў, што засталіся на іх, і ў яго быў адчайны настрой. І Антон не ведаў, як ад яго пазбавіцца. І думаў пра тое, што недзе бокам, стараной прайшло яго юнацтва, якое забыў, і каханне, кароткае і апантанае, як сонечны лівень, прадбачыць якога нікому не дадзена.

# Да маці

Аўтобус сунуўся па непралазнай гразоце, надрыўна, да нейкага металёвага стогну ў маторы, роў, тузаўся ў слізкіх каляінах, яго часта заносіла, закручвала ўпоперак дарогі. А дождж усё ліў і ліў, густа і часта сек, як шротам, па жалезнай спіне аўтобуса. Ад акна тхала холадам, са шчылін дзьмула імжой. Павел дрыжэў усім целам і шкадаваў, што забыў, спяшаючыся, дома дажджавік. Аўтобус аб нешта стукнуўся, асеў у лужыне і заглух. Ён адвярнуўся да акна і нечакана для сябе заплакаў. Слёзы плылі па твары, салілі губы. Ён не выціраў слёз, усё вакол — вокны, вопратка, твары людзей — было мокрым ад дажджу, і, мабыць, ніхто не заўважаў, што ён плача. І ніхто не ведаў, што ў невялікай вёсцы памірае маці Паўла і ён спяшаўся застаць яе жывою. Трэба было напаследак сказаць маці, што вінаваты перад ёю, што заўсёды хацеў зрабіць нешта добрае і ўсё не было калі, не даходзілі рукі — і вось ужо позна. З вострым запозненым болем і ласкай у думках абдымаў яе, худзенькую, туліўся да яе маленькага роднага твару.

І раней ён не вельмі каб клапаціўся пра маці, а яна ўсё што магла аддавала ім, дзецям.

У памяці ўсплылі далёкія нішчымныя гады: сядзелі яны — Коля, Віця, Ніна, ён, Паўлік, і самы старэйшы Барыс — за сталом, маці разлівае апалонікам ім у міскі зацірку.

Думкі яго цягнуліся далей, вярталі ў сумнае галоднае дзяцінства. Ён глядзеў на мокрае слязлівае лабавое шкло аўтобуса, па якім разбягаўся пучок трэшчын.

...І раптам убачыў такую ж сетку-павуціну пад нагамі, пачуў хрумсткі трэск, які каленцамі-штуршкамі разбягаўся па лёдзе, радасныя крыкі хлапчукоў. Яны цеснай купкай бягуць па сажалцы. Малады, тонкі лёд іскрамі-трэшчынамі ўгінаецца пад імі, паквоктвае, павохквае. І раптам ледзяная вада апаліла цела, і ён адчайна закрычаў. На крык прыбегла спалоханая маці і выцягнула яго з палонкі. Потым было вельмі цёпла... Кідаўся непрытомны ў ложку, а маці паіла яго гарачым малаком. Не спала дзве ночы, усё вохкала, гаравала, захутвала яго ў кажух. І, пазіраючы на яе, кляўся сабе, што, калі выздаравее, будзе яе заўсёды любіць і слу-

хаць. Але пасля хваробы ён па-ранейшаму аднекваўся, калі маці прасіла прынесці цяляці травы, загнаць у двор карову. Рабіць гэта яму было сумна. Ён чакаў такога выпадку, калі можна будзе па-сапраўднаму дапамагчы маці. Аднак гэты выпадак так і не надарыўся. Горад, вучоба ў інстытуце, жаніцьба зусім аддалілі, адасобілі яго ад маці. І наведваў цяпер, думаў пра яе ўсё радзей і радзей, хіба толькі калі было вельмі цяжка ў жыцці. З нядобрымі думкамі ён прыгадаў і братоў. Усе з'ехалі ў горад. Толькі ў вёсцы затрымалася Ніна, але жыве яна не з маці — выйшла замуж за механіка з суседняга саўгаса. І ва ўсіх дзеці. Нараджаць panараджалі, а гадаваць — каб хто-небудзь іншы. На ўсё лета вязуць іх да маці — забаўляйся, маўляў, з унукамі, каб не было сумна. Як быццам і на самой справе ў яе няма работы. Тут і карова, і куры, і свінчо, і соткі... Клапоціцца, круціцца цэлымі днямі без адпачынку. Павел дадумаў, што трэба было ў гэты водпуск пабыць з жонкаю ў вёсцы, дапамагчы маці. Але ўжо было позна: ён дастаў дзве пуцёўкі на поўдзень, а Уладзіка, каб развязаць сабе рукі, паспеў ужо сплавіць, адвезці да маці на лета.

Дождж перастаў, сціх. Неба пасвятлела. Цёмнае сырое ворыва, што цягнулася за акном аўтобуса, наткнулася, набегла на пралесак густых маладых бяроз, за якімі тоўпіліся хаты.

Павел узбег на ганак, з заміраючым сэрцам прыхінуўся да дзвярэй, баючыся іх адчыніць. «Можа, не паспеў, спазніўся»,— падумаў ён і рвануў на сябе дзверы. З напаленай хаты ў твар тхнула цеплынёй.

— Тата! — крыкнуў раптам, убачыўшы яго, з печы Уладзік. З-за шторы вызірнуў яшчэ адзін дзіцячы твар. Павел не вытрымаў, кінуўся ў другую палавіну хаты, убачыў маці і сястру Ніну. Маці ляжала на ложку, тварам да дзвярэй, вочы яе былі заплюшчаны.

— Ціха,— ціха сказала Ніна, аглядаючы брата.— Здымі чаравікі, гразі цэлы воз прынёс...

Ён вярнуўся ў сенцы, дрыжлівымі рукамі развязаў слізкія шнуркі, сцягнуў з ног чаравікі, пайшоў босы па падлозе і сеў на скрыню насупраць сястры. Ніна ціха і плаўна круціла ручку швейнай машынкі. Побач ляжала шыццё з нейкай старызны. Сэрца Паўла сціснулі вострыя сорам і шкадаванне. З нянавісцю да сябе, да сястры, да братоў глядзеў ён цяпер на кучу гэтых неданоскаў, на

растаўсцелае цела Ніны, на яе круглыя рукі, якія спрытна стрыглі нажніцамі старую сукенку — шыла для маці. Насі, мама, радуйся падарункам! І так з году ў год. Выліняла настольніца, знасілася кофта ці сукенка — усё мацеры, у вёсцы сыдзе, кожнай анучы будзе рада. З нейкай здзіўленай злосцю глянуў ён зараз на сястру і не вытрымаў, з едкім шэптам крыкнуў:

— Кінь ты гэта рыззё! Як маці, што з ёю? Гавары...

Ніна са страхам зірнула на збялелы твар брата, на мокры, у брудных плямах касцюм, загаварыла, вінавата збіваючыся са слоў:

— Прыступ. Пазаўчора яшчэ скруціў... а цяпер быццам нічога, адпусціла. Хацела ўстаць, але я не дазволіла. Сама ўправілася, карову падаіла, пакарміла курэй, дала свінчаці, дзяцей накарміла.

— Якіх дзяцей?

— Нашых. Чыіх жа яшчэ... Уладзіка, Міхаську...

— Нашых! Дзіцячы сад тут устроілі... Чаму твой Мішка тут? Што, дома месца яму няма? Выправіла на шыю мацеры. Ну? Перапрацавалася, скажаш? Круглая, як кадушка...

— Божа, што з табою? Як з ланцуга сарваўся. Глянь ты на яго,— глуха затараторыла Ніна, ледзь не плачучы.— Я гэта на шыю маці дзіця сваё... А ты? Твой дзе? І яшчэ скажу, калі на тое пайшло... Нашага тут і не чуваць, ціхі. А з вашым Уладзікам управы няма: у калодзеж лезе, у разетку пальцы садзіць. Якія трэба нервы! Сто рублёў давалі, а не пайшла б да вас у нянькі. Змучылася з ім маці, а тут яшчэ гаспадарка... На часткі разрываецца... А вам напляваць! Збалаваліся там у горадзе. Нам ужо прабачце, мы пакуль у саўгасе не абзавяліся яслямі, гэта ў горадзе іх багата... А вязеце сюды.

— У мяне ж работа, дысертацыя, водпуск,— слабеючым голасам сказаў Павел і ўставіўся вачмі на свае босыя ногі.

— Ва ўсіх работа,— прымірэнча буркнула Ніна, устала з табурэта, выйшла ў кухню. Вярнулася, падала брату карэц, кавалак агурка.— Выпі з дарогі. Пасінеў увесь, як гусіны пуп... Захварэеш яшчэ.

Ён выпіў, захрумстаў агурком.

— Тата! — данёсся з кухні голас Уладзіка.

Павел не паварухнуўся.

Ён не заўважыў, як маці расплюшчыла вочы, і ўвесь уздрыгнуў, пачуўшы яе голас:

— Паўлік... Як жа... Замёрз, Павел... Ох, божа! — ціха і радасна захвалявалася яна і заварушылася ў ложку, абмацваючы сябе.

Павел кінуўся да ложка, прысеў, не ведаючы, што сказаць, і загаварыў горача і пяшчотна:

— Не трывожся, мама, ляжы. Мы ўсё зробім.

Ён глядзеў на яе зніякавелы ад худобы вузкі твар, лёгка сціскаў яе руку, адчуваў слабасць яе цела, і, як тады ў дзяцінстве, душу яго ахапілі шкадаванне і любоў. А маці ўжо прыўзнялася з падушкі, з непакоем аглядала хату, двор у акне, гаравала, што ў хаце не прыбрана, што хвароба адлучыла яе ад дамашніх спраў і яна не магла сустрэць сына як трэба. Яна папрасіла прабачэння нават за тое, што хворая. Потым успомніла дачку суседа Клаву — паштальёнку, якая з перапалоху разаслала ўсім Рудкавічам тэлеграмы: маці дрэнна, пры смерці.

— Вось сарока, людзей толькі патрывожыла,— ні то шкадуючы, ні то радуючыся, сказала маці і папрасіла ў Ніны сукенку.— Зірнула вось на цябе, і лягчэй стала.

Павел выйшаў на двор. Пад паветкай мітусіліся куры — іх ганяў ганарлівы чырвоны, як агонь, певень. У хляве парохквала свінчо. Вароты хлява былі адчынены, і адтуль тхала цёплым пахам гною, мокрага сена.

Па кароткай мокрай лесвіцы ён падняўся на гарышча. Тут было змрочна і сыра, горка пахла палыном, з усіх куткоў веяла шолахамі і страхам, казкамі з дзяцінства. Ён убачыў лыжу, некалі абабітую ім бляхай з кансервавай бляшанкі. Побач ляжала ржавае, без спіц кола ад веласіпеда і круты, быццам рогі каровы, руль. Павел падумаў, што зусім нядаўна тут цякло яго жыццё. Штосьці ён майстраваў, перарабляў, і гэтыя, цяпер нікому не патрэбныя жалязякі тады яму былі вельмі дарагія. І ад таго, што яны ляжаць так, як ён іх пакінуў, што можна паглядзець, дакрануцца да іх, у душы ў яго з новай сілай успыхнула гарачае, светлае пачуццё к дому, да маці.

Ён уявіў, як працякае гэты стары прагнілы дах, калі ідуць асеннія дажджы, як доўга цягнуцца зімовыя вечары і ночы для маці.

Злазячы з гарышча, ён зірнуў на вылінялы на сонцы

і дажджы, спалавелы стажок сена, абкладзены з усіх бакоў жэрдкамі. «Накасілі, прывезлі... І паветку нехта перакрыў»,— падумаў Павел і прыгадаў мінулае лета, калі яны — Мікола, Віктар і ён — з жонкамі прыехалі сюды з горада на два выхадныя дні адпачыць і заадно дапамагчы маці. І два дні прабеглі незаўважна ў застольных размовах, песнях. Раптам нехта ўспомніў, што трэба пералатаць дах, пераставіць плот, і ўсе похапкам кінуліся ў кладоўку і хлеў, шукалі цвікі, сякеры, дошкі і ішлі ў двор. Жонкі ўслед пакрыквалі: «Перапраніцеся!» Але перапранацца чамусьці ніхто не хацеў. З хаты раптам выбегла маці і, ледзь не плачучы, пачала прасіць, каб кінулі работу, не ганьбілі яе перад людзьмі: раз у год сабраліся разам — і ні пасядзець, ні пагаварыць. Скажуць, адразу работу дала. Усе лёгка і ахвотна згадзіліся з ёю, бо і на самай справе вельмі ўжо няёмка было ім, святочным і прыбраным, цягаць гнілыя дошкі, калупаць стары дах. Іх чакаў на стале пачастунак. І цяпер адрамантаваная кімсьці паветка выклікала ў Паўла пачуццё сораму і дакору. Ён выйшаў на ганак, прысеў на лаўку, выцягнуў з кішэні цыгарэты, запалкі, пачаў чыркаць.

— Адсырэлі, Павел Капітонавіч! Такая пагода... Вазьміце мае,— пачуў ён за спіною знаёмы голас і азірнуўся.

Перад ім стаяў дзед Акім, іх сусед,— высокі стары без барады і вусоў, у ватоўцы і зімовай шапцы-вушанцы.

— Добры дзень, дзед! — узрадаваўся Павел, беручы з яго рук цёплы карабок.— Праходзь, сядай.

Цяжка і асцярожна стары Акім падняўся па прыступках на ганак, прысеў побач.

— Ты, дзядуля, аслабеў, пабялеў...

— Праўду кажаш,— згодна махнуў галавою Акім.— Куды дзенешся? Выветрыўся. Гэта, глянь, толькі зямля заўсёды цёмная ды неба блакітнае. А чалавек ліняе з часам.

Памаўчалі. Павел зірнуў у шэрыя вочы дзеда, якія слязіліся ад старасці, убачыў у іх крыжыкі аконных рам і падумаў, што некалі ў гэтых жывых люстэрках адлюстроўваўся і ён, спачатку — галапузым, потым — падлеткам, пазней — студэнтам. Паўлу хацелася спытаць у яго пра нешта галоўнае, пра маці, але з языка сарвалася звычайнае:

— Ну, як жывеш?

— Патроху. Хлеб ёсць, ды зубоў няма,— сказаў дзед.— Старыя паміраюць, а маладыя — у горад... Дажываю і я свой век. Вясною Сцяпан Дубняк памёр, наш старшыня. Ды ты яго ведаў. Аднагодак твайго бацькі. Яны і на фронт разам ішлі. Ваш загінуў, а Сцяпан вярнуўся. І ледзь не да смерці быў старшынёю. Пры ім і вашай маці лягчэй было. Дапамагаў і сенам і дрывамі. А цяпер новы, малады ў нас старшыня. Чужая для яго наша вёска. І Антаніна для яго — пустое месца. У яго першы інтарэс — рабочая сіла. А маці што? Быў час, рабіла. А тут сэрца. Вунь як прыступ схапіў... Я аж напалохаўся, унучку паслаў на пошту, каб вам паведаміць. Як яна зараз, маці?

— Нічога, лепш зрабілася,— ціха сказаў Павел.

— Можа, палягчэе. Адпусціць на які час. Гэта ваеннае гора і галадуха бокам вылазяць... Хапіла ёй адной з вамі... Столькі перацярпець, перагаладаць... І ўсе вы засталіся маленькія ў яе на руках — адно другога не панясе. І на працадзень пасля вайны мала давалі. А было вас пяцёра, галапузых, як шпакоў. Кожнаму трэба нешта даць у рот. А што? З лесу, калі вас насіла на сабе, хавала ад карнікаў, ад пагібелі, вярнулася на сваё селішча без каровы. А на месцы хаты адны галавешкі... Небам вы ўсе на першым часе накрываліся, хадзілі голыя, не было што на цела накінуць. Спухлі б з голаду, калі б людзі і дзяржава не дапамаглі. А цяпер, калі выйшлі ў людзі, трэба вам адзін аднаго трымацца... Маці ў вас адна... Усё жыццё гаравала на вас. Больш цяпер яе шкадуйце... Я іншы раз і хачу ёй дапамагчы, ды дзе там... Нягожы зрабіўся. Сіл няма... Тыдні тры назад паветку перакрыў ёй, праўда. Шэсць дзён патраціў на гэта... А ў цябе, скажам, на гэтую справу пайшло б не больш трох гадзін. Праўду кажу?

— Разумею. Дзякуй,— сказаў Павел, кінуў акурак і апусціў галаву.

— Ды яно яшчэ б туды-сюды, калі б быў пад рукою матэрыял,— працягваў дзед.— Хату хацеў маці перакрыць, дах згніў, дажджом яго прабівае... І ўсяго трэба лістоў дваццаць шыферу. Але знайдзі, дастань паспрабуй яго. У калгасе ёсць, але трапляе ён таму, хто бліжэй каля начальства ходзіць.

— Шыфер будзе! Заўтра ж пайду да старшыні. Усё зробім,— цвёрда сказаў Павел.

Каля варот раптам загула і спынілася машына.

Адчыніліся дзверцы. З кабіны выскачыў Віктар, высокі, даўганогі, зірнуў на хату і неяк слепа, няўпэўнена ступіў на ганак. Услед за ім сышла жонка Алена — лупавокая таўстуха, і малодшы Рудковіч — Мікола. Яны падышлі да прыступак, замерлі.

— Нічога, мацеры вашай лягчэй,— кашлянуўшы, сказаў дзед Акім.— Сэрца ў яе...

— Мамка! — усклікнула Алена і кінулася ў хату.

Гупаючы нагамі па брудным мокрым ганку, усе падаліся ў сенцы.

— Вось і кажу: сэрца,— дагаворваў, застаўшыся адзін на ганку, дзед.— Мацерына сэрца ў дзяцей, а дзіцячае — у камені.

Ён падняўся з лаўкі і пайшоў дамоў. Але доўга там не пабыў, бо хутка прыбег па яго Павел і пацягнуў старога на сямейную вячэру.

— Не, Павел, не пайду,— упарціўся дзед.— Людзі вы маладыя, мне не раўня...

— Чакаюць жа вас. Маці паслала.

— Калі так... Адмовіцца ад яе запрашэння грэх.

Павел пасадзіў суседа да маці, сам за стол не сеў. Ён круціўся з Нінаю на кухні, рэзаў цыбулю, мыў шклянкі, лазіў у пограб па агуркі, памідоры. Яму падабалася гэтая вясёлая мітусня перад маці і братамі, падабаўся іх смех з яго нявопытнасці ў кухоннай справе, ён і сам усміхаўся з усяго, што бачыў і чуў. Пілі ад радасці, што маці жывая, пілі з дарогі, каб сагрэцца. Толькі дзед Акім і маці быццам не заўважалі бутэлек, сядзелі, маўчалі. Павел глядзеў на маці і ўсё вышукваў, якія сказаць ёй словы, каб яна і ўсе родзічы зразумелі, як ён яе любіць. З нейкага цвярозага куточка яго розуму прабівалася скрозь блытаніну вясёла-п'яных думак адна патрэбная і надзейная, і Павел хацеў яе дадумаць, запамятаць. Гэтая думка несла ў сабе ўсё самае лепшае, светлае, чым поўнілася яго сэрца. Але хмель тűманіў галаву, не даваў зрабіць гэтую думку яснай, гатовай для выказвання. І ён не стрымаўся, агледзеў усіх за сталом, высока падняў шклянку і моцна, урачыста ўсклікнуў:

— Таварышы!

Усе павярнуліся да яго, прыціхлі.

— Таварышы, я шчаслівы бачыць вас і нашу дарагую маму за гэтым сямейным сталом. Вось яна, нашая мама! У вайну яна засталася з намі адна. Усіх яна выхадзіла, выгадавала, выхавала, выратавала. Ні аднаго не згубіла. І ўсё добрае, што ёсць у нас цяпер, за што нас, Рудковічаў, прызнаюць і паважаюць у людзях — усё гэта ад яе, ад нашай мамы...

Голас Паўла цішэў. Слухаючы яго, усе задумліва глядзелі перад сабою. Маці ўзіралася ў твар сына, губы яе дробна, нервова дрыжалі, і яна прыкрывала іх куточкам хусткі.

— Усё сваё жыццё яна аддавала і аддае нам, а мы? — працягваў ён.— З-за работы, жонак забываем часам пра яе. Так! А наша мама засталася адна. Ні дапамогі ад нас, ні радасці... Адны клопаты... Сорамна? Вельмі. Мама, прабач нам. Беражы сябе. Мы дапаможам, заўсёды будзем дапамагаць цяпер, з гэтага дня. Сто гадоў табе шчасця!

Павел перакуліў у рот шклянку, са стукам паставіў яе на стол. Нехта заляпаў у далоні. Ціньнулі шклянкі. Усе разам загаманілі.

— Так, сынкі, так! Маці — яно... Жонка, як пяецца ў той песні, знойдзе сабе другога, а маці сына — ніколі,— замармытаў дзед Акім і шапнуў Паўлу: — А ты пра шыфер не забудзь.

Ён кіўнуў дзеду галавою, потым падняўся з-за стала, каб зноў гаварыць. Хацелася сказаць нешта прыемнае, што аб'ядноўвала б усіх, хто сядзеў тут за сталом. Гаварыў пра тое, што яны, браты, вывучыліся, выйшлі ў людзі толькі дзякуючы маці і цяпер павінны шанаваць яе. І калі кожны з іх, братоў, будзе хоць трохі дапамагаць маці, усім будзе добра. І яшчэ ён нешта гаварыў і бачыў, што яго ветліва хочуць спыніць, бо вельмі ўжо доўгай здалася яго прамова. Усім хацелася размоў і вясёласці. Павел адчуваў, што яго словы пра дабрату, дабрату да маці, якія ішлі з глыбіні душы, тонуць, губляюцца ў бразгаце відэльцаў і лыжак, размовах тых, хто сядзеў за сталом і ўжо яго не слухаў. І ён не дагаварыў, сеў. Пачаў слухаць, што гавораць за сталом. Амаль усе браты запрашалі маці пераехаць жыць да іх у горад.

— ...газ, вада розная: адзін кран крутнуў — кіпень, другі — крынічная. Хочаш, напусці ў ванну і плавай сабе. Усё пад рукою: і лазня, і калодзеж, і печ. Вось жыццё,

мама! І дроў не трэба, толькі і ведай краны круці,— гаварыў Мікола, меншы брат, і твар яго густа чырванеў.

— Не, Колька, сядзі ты і лепш маўчы,— пярэчыў больш цвярозы Віктар.— Жывеш чорт ведае дзе. А я ў цэнтры, пуп горада. Кінатэатры, кірмаш, цырк — усё блізка. І калі ўжо вырашаць...

Доўга яшчэ спрачаліся, раіліся, як уладзіць усё лепшым чынам, і толькі маці сядзела зусім анямелая і ўсміхалася няведама ад чаго.

— Пра гэта лепш не гаварыць,— бурчаў дзед, пачуўшы пра пераезд маці ў горад.— Тут у яе гаспадарка, соткі, свая хата. А там што яна будзе рабіць? Сядзець у хаце, як птушка ў клетцы. Яшчэ нявестка... Наслухаліся мы, як старыя жывуць у гарадскіх дзяцей.

Павел падтрымаў старога Акіма.

— Беражы той куток, дзе адрэзалі табе пупок! — успомніў ён прымаўку, якую чуў тут, у роднай вёсцы, у дзяцінстве. Тады пачалі гаварыць пра дапамогу: чым і як аблегчыць адзінокую старасць маці. Павел важка і пераканаўча напомніў пра шыфер, які ён заўтра ж дастане; яшчэ ён мае намер пагаварыць з новым старшынёю, каб той ведаў, каго ён забывае і не паважае.

Потым выпілі. Алена, разамлелая і пачырванелая, адкінулася на спінку стула, прыжмурыла чорныя лупатыя вочы і нясмела заспявала пра тое, як касіў Ясь канюшыну. Усе спахапіліся, што яшчэ не спявалі, разам перасталі гаманіць і падхапілі песню.

Разышліся спаць позна і праспалі да абеду. Павел расплюшчыў вочы і спужаўся, што ў акне стаіць сонца і трэба нешта рабіць. Ён падняўся з ложка, выйшаў на кухню і трапіў у абдымкі Хведзі, мужа Ніны. Ён прыехаў на матацыкле з суседняй вёскі па Ніну. Са спальні выйшлі Віктар, Мікола і Алена.

— Хай бы яшчэ спалі... Ніхто ж не гоніць... Гэта ж у горадзе ўсё бежкі ды бежкі,— мітусілася маці, вохкала...

— А Барыс, ваш лётчык, чаму не прыехаў? Высока лётае. Яго, відаць, і тэлеграмай у небе не дастанеш,— рагатаў Хведар.— Але малайцы. Дружна, па-ваеннаму. Трывога — і вось вы.

Селі за стол.

Маці зусім пахарашэла за ноч, худзенькі яе твар наліўся тонкай чырванню, трымалася яна дзябёла. І цяж-

кім сном прыгадаўся Паўлу ўчарашні дзень — дождж, аўтобус, дарога, вострая трывога за маці. Цяпер ён цешыўся думкаю, што бяда адступіла, што ўсё пройдзе, як наогул праходзяць і забываюцца ў жыцці ўсялякія непрыемнасці. На душы была такая лёгкая радасць, што хацелася бясконца некаму дзякаваць, некага любіць. І ўжо вельмі да месца была зараз шклянка гарэлкі. Пасля другой зусім зрабілася добра, захацелася курыць, гаманіць. І наогул, куды ні глядзеў бы Павел, усё вакол здавалася зразумелым, уладкаваным, лашчыла вока. Бяскрыўдна выглядаў на каленях маці Уладзік, было нешта ўтульнае, прыемнае ў яго картавым балбатанні, у яго твары, ва ўсім гэтым вечным, святым сяброўстве дзіцяці і старога чалавека. Без унука на руках маці ўяўлялася збяднелай, нечага пазбаўленай: так пасаваў да яе маршчын, дабраты ўнучак. І Паўла зноў пацягнула сказаць тост. І раптам па яго целе прабег халадок: ён успомніў, што трэба ісці да старшыні. Але ісці па справе да незнаёмага чалавека п'яным — пэўна ўсё сапсаваць. Яму зрабілася пагана. Ён скоса паглядзеў на стол, пачаў сябе лаяць: дурань, што піў. Але вакол яго клубілася весялосць, і Павел пачаў сябе ўгаворваць не браць у рот больш ні кроплі, каб да вечара працвярозіцца і схадзіць да старшыні. І зноў з прагнасцю пачаў ён узірацца на родных, лавіць у галаве новыя думкі пра маці, якая, магчыма, знемагла ў суме па іх, дзецях, і цяпер адразу налілася жыццём, акрыяла, расквітнела пры іх.

Кароткі кастрычніцкі дзень. З захаду разам з ветрам насунуўся вечар, прытушыў сонца, злізаў і растварыў у барвовым паўзмроку яго праменні, і яно халодным малінавым шарам патанула за лесам.

Хведар зірнуў у акно, падняўся з-за стала і пайшоў да матацыкла. Сказаў Ніне, каб збіралася дамоў. Заспяшаліся і браты: дацямна трэба паспець выехаць на шашу. Больш за ўсіх пачала мітусіцца маці. Яна ўгаворвала дзяцей пераначаваць, спадзявалася, што паслухаюцца, але ўсе намерыліся ехаць. Тады яна кінулася ў кладоўку, адтуль — у пограб, несла яйкі, памідоры, слоікі з маслам і смятанай, кавалкі сала, запарушанага кменам і перцам. І ўсё гэта яна таропка совала, таптала ў сумкі.

— Не трэба, мама... Многа не кладзіце,— вінавата гаварылі сыны.

— У горадзе ўсё з капейкі. А тут — сваё.

І яны змаўкалі.

Перад развітаннем стоўпіліся вакол стала, кульнулі яшчэ па адной, дапіўшы астатняе,— не прападаць жа дабру. Пад ногі Паўла падкаціўся аднекуль Уладзік, учапіўся за штаны і захныкаў.

— Ану збірайся. Дзе паліто? — клапатліва і строга сказаў ён.

— Як хочаце, а дзяцей не аддам,— раптам цвёрда азвалася маці.— Куды іх цягнуць у такую непагадзь. Самі, памажы божа, даехалі б.

— Не бойся, мама.

— Ноч жа на двары.

Змоўклі. Віктар пайшоў на двор заводзіць машыну.

Загудзеў матор, нецярпліва і рэзка прагучалі гудкі — усіх падспешвалі. У апошні раз маці прагна паглядзела на сыноў і адразу зніякавела, неяк уся зменшылася і бязгучна закашляла ў хусцінку. Усе цягнуліся да яе, абдымалі, усцешвалі і ішлі да машыны.

І вось яна засталася на ганку зусім адна. А за яе спіною, расплюшчыўшы аб шкло насы, глядзелі з акна на ад'язджаючых Уладзік і Мішка. І Паўла працяла раптам жорсткае шкадаванне, ён хацеў нешта зрабіць у гэты апошні момант, але машына кранулася з месца...

— Злезь з сумкі, мядзведзь! Памідоры падавіш,— крычала на некага ў цемені Алена.

Не набраўшы хуткасці, машына раптам тупа і рэзка спынілася, быццам на нешта наткнулася. Павел высунуўся ў акно і ўбачыў дзеда Акіма. Стары стаяў без шапкі. Перамагаючы вецер і шум матора, ён крычаў хрыпла і слаба, давячыся задышкай і кашлем:

— Шыферок, Павел Капітонавіч! З шыферам як будзе?

— Будзе, дзядуля! Зробім. Я з горада старшыні напішу... Я яму! Ён у мяне...— з грознай усмешкай патрос кулаком Павел.

# Бацька і сын

Андрэйка стаяў на шашы і чакаў бацьку. Бацька рана прачынаўся, ездзіў на ўвесь дзень на работу некуды далёка за пасёлак і вяртаўся дамоў толькі позна ўвечары. Хлопчык напружана ўглядаўся ў шэрую глыбіню шашы, дрыжаў ад холаду — на дварэ ўжо стаяла сырая тужлівая восень. І раптам сам сабе ўсміхнуўся — з вільготнай смугі выплыла, вынырнула згорбленая постаць бацькі. Ён набліжаўся, хутка круціў педалі веласіпеда — думаў, відаць, што яго чакае сын, і спяшаўся. Бацька пад'ехаў, злез з веласіпеда, пасадзіў на раму сына, потым сам сеў, і яны паехалі.

— Даўно, Андрэйка, чакаеш? — спытаў бацька.

— Не,— схлусіў хлопчык, каб не засмучаць бацьку.— Толькі прыйшоў, а ты ўжо едзеш.

Яны трохі праехалі па шашы, потым звярнулі на лясную сцежку, пацямнелую ад вячэрняга змроку.

— Рана пачало змяркацца,— азваўся бацька.— На той год у такую пару ты пойдзеш у школу. Потым, калі трохі падрасцеш, куплю табе веласіпед. А там, глядзі, і машыну навучышся вадзіць.

— Тады буду вазіць цябе, тата, на работу.

— Добра,— згадзіўся бацька.— Чакаць засталося не так ужо і доўга. Гадоў дзесяць. Ты еў хоць што-небудзь? — раптам спытаў ён.

— Еў. Боршч.

Потым бацька маўчаў, і яны каціліся ў вячэрняй цішы асенняга лесу. За пралескам пачынаўся пасёлак, яны даехалі да двара, і бацька спыніў веласіпед, зірнуў на цёмныя вокны хаты і нічога не сказаў. Ён павёў веласіпед па сцежцы саду, а хлопчык ішоў ззаду, нейкі разгублены і ціхі: мабыць, ён заўважыў позірк бацькі — маці не было дома.

Яны ўвайшлі ў хату, уключылі святло. У хаце было непрыбрана. Бацька пайшоў мыцца, потым вярнуўся, зірнуў на гадзіннік і сказаў:

— Не дачакаемся яе. Будзем вячэраць.

Ён пайшоў у кухню, а сын пачаў завіхацца ля стала. Дастаў з буфета празрыстую настольніцу, відэльцы, нажы і талеркі. Хутка бацька прынёс з кухні патэльню з яечняй, памідоры, і яны пачалі есці. Бацька нехаця, ма-

рудна еў, думаў пра нешта сваё, можа, пра дарогу, якую будаваў у новы горад.

Андрэйка сказаў:

— Тата, давай пераедзем у горад. Тут сумна...

— Пераехаць не так, сын, проста,— уздыхнуў бацька.

Яны зноў памаўчалі, потым бацька пайшоў у кухню, паставіў на пліту чайнік, а сын тым часам прыбраў са стала талеркі.

— Не так проста,— паўтарыў ён, вярнуўшыся.— У жыцці ўсё не так проста.

Хлопчык не зразумеў, што меў на ўвазе бацька, а можа, і разумеў, але цьмяна, адным сэрцам. Ён наогул шмат што разумеў, разумеў і тое, што маці пакінула іх, хоць і жыве з імі ў доме, кожную раніцу едзе на работу і вяртаецца позна ўвечары, гаваркая і таропкая, прыціскае яго да сябе, з такой нецярплівасцю, узахлёб цалуе, што заўсёды хочацца ад яе адхінуцца.

Бацька наліў сабе і сыну чаю.

— На той год пойдзеш у школу,— сказаў бацька, думаючы пра сваё.

— Будзем кожны раз раніцай ездзіць на веласіпедзе. Школа ж па дарозе. Будзем з табою заўсёды ўдваіх.

Бацька неяк дзіўна паглядзеў на яго, спытаў:

— Чаму толькі ўдваіх? А маці?

Хлопчык доўга глядзеў у сподак, нешта думаў, потым выдыхнуў:

— Цётка Валя кажа, што мы з табою цяпер не патрэбны маме.

— Наслухаўся,— буркнуў бацька.— Ці мала што гавораць людзі.

Андрэйка памаўчаў, потым зноў азваўся:

— Яна нас цяпер не любіць. Яна любіць дзядзьку Пецю. Яны разам ездзяць у горад. Ён заўсёды чакае яе на станцыі. Цётка Валя кажа, што пра гэта ўсе ведаюць, толькі адзін ты не ведаеш.

— Перастань! — сказаў бацька.— Нельга так гаварыць пра маму.

— Яна падманвае нас, тата,— вымавіў нечакана хлопчык.— Я не люблю яе больш. Я люблю цябе... Цёця Валя...

— Ніколі не слухай гэту цёцю,— перабіў яго бацька.— Ці мала што можа яна сказаць. Няма ёй што рабіць, вось і распускае розныя плёткі.

Сын зразумеў — бацька не хоча, каб ён гаварыў пра маці. Ён саскочыў з табурэта, дапамог бацьку прыбраць са стала. Потым яны пайшлі ў сад, пачалі хадзіць па сцежках. Бацька часта спыняўся, узіраўся ў цемень, і сын разумеў, чаму ён пільна ўглядаецца ў канец сцежкі.

Маці прыйшла дамоў толькі праз гадзіну, пачала, захлёбваючыся ад слоў, гаварыць, быццам апраўдвацца:

— Спазнілася на аўтобус. Цэлы час чакала. Ліда ўзяла ў кіно білеты, пайшлі пасля работы. Фільм быў доўгі...

Маці пераапранулася. Хлопчык чуў шолах яе сукенкі і ўсплёскі вады ва ўмывальніку. Потым падышла да яго, пяшчотна спытала, што сёння ён рабіў, прыціснула Андрэйку да сябе. Ад яе пахла духамі і нечым другім, калі цалавала яго. Хлопчык ведаў, што яна робіць толькі выгляд, быццам яго любіць, і зусім не верыў ёй.

Маці сядзела за сталом, ела яешню, але было бачна, што яна есць цераз сілу, а потым хлопчык пачуў, як бацька сказаў: «Ад цябе пахне віном» і маці хутка адказала: «Ліда купіла канфеты з лікёрам, з'ела некалькі іх і сапсавала сабе апетыт».

Маці не даела яешню, не захацела піць чай, заклапочана паглядзела на гадзіннік:

— Дзевяць гадзін ужо... Пара спаць, Андрэйка!

Калі ён лёг, прасунула пад коўдру руку, памацала Андрэйку, сказала: «Худзенькі ты нейкі», але ён моўчкі ляжаў і думаў пра тое, што маці гэта сказала толькі для таго, каб пачуў бацька. Рукі маці здаваліся зусім чужымі, і Андрэйка адвярнуўся да сцяны.

— Спі, сынок,— сказала яна, пацалавала сына ў шчаку.

Ён заплюшчыў вочы, маці трохі пасядзела ля яго і выйшла з пакоя. Потым у хаце стала ціха.

Хлопчык ляжаў і слухаў. Цішыня звінела, быццам у пакой наляцелі камары, і ён пачуў як бацька сказаў:

— Што будзем рабіць, Вера?

— У якім сэнсе? — спытала маці.

— У сэнсе нашага жыцця.

— Усё прыдумляеш і толькі здзекуешся з мяне,— сказала яна і захліпала.

У хаце зноў стала ціха.

Раніцай, калі маці яшчэ спала, хлопчык нацягнуў на сябе штаны і світэр, хуценька выйшаў у другі пакой, дзе на канапе спаў бацька. Было яшчэ зусім рана. Ён адамкнуў ключом дзверы і выйшаў на ганак.

Блішчала мокрая трава, і між дрэў стаяў туман. Хлопчык пайшоў у сад, пахадзіў адзін, згроб у кучу апалыя чырвоныя лісці. І раптам пачуў з хаты бацькаў голас:

— Андрэйка, што ты робіш у садзе? Чаму так рана прачнуўся?

Ён не мог сказаць, што збудзіўся, каб не праспаць, калі бацька паедзе на работу. Сёння яны зноў да шашы паедуць разам, і можна будзе нічога па дарозе не гаварыць, толькі адчуваць за плячом біццё бацькавага сэрца.

Бацька намазаў яму маслам вялікую лусту хлеба, паклаў на яе сыру, і яны сядзелі ўдвух за сталом і пілі чай. Потым бацька пайшоў да хлеўчука, выкаціў з яго свой веласіпед, адчыніў варотцы і пасадзіў сына на раму наперадзе сябе.

— Мы цяпер заўсёды будзем ездзіць раніцай, тата,— сказаў сын.— Я буду прачынацца заўсёды рана. І раней класціся спаць.

Веласіпед каціўся ў ранішнім халодным паўзмроку, сын сядзеў наперадзе бацькі, адчуваў спіною яго грудзі, грэўся аб іх, а рукі трымаў разам з бацькавымі на рулі, і яны разам кіравалі веласіпедам. Яны мінулі пралесак, і на шашы ўжо зусім развіднела. Бацька саскочыў з веласіпеда, зняў сына з рамы, паставіў на зямлю.

— Ты толькі едзь па сярэдзіне шашы, не зваліся ў канаву,— сказаў хлопчык, трывожна пазіраючы на шашу.

— Асцярожна буду ехаць,— адказаў бацька.— А ў тумане я ўключу агеньчык.

# Скрыпун, або Паганіні з Зарэчча

## 1

Пасля работы Васіль часцей за ўсё хадзіў на ўскраіну горада. Ён падоўгу блукаў па вузкіх вулках, якія ўсе да адной збягалі да Прыпяці — акурат як у яго Зарэччы. На гэтых вулках Васіль дыхаў пахамі дыму з комінаў; ён часта спыняўся, і сэрца ў яго замірала, захлыналася, калі ў чым-небудзь хлеўчуку чуў лапатанне і кукарэканне пеўня. Тут і калодзежы былі такія ж, як у яго вёсцы. Не верылася, што зусім блізка адсюль цякло другое жыццё: з чэргамі ў кінатэатрах, таўхатнёй у аўтобусах, з нясмачным баршчом у падвальнай сталоўцы інтэрната і заўсёды прыдзірлівым Пятровічам.

Калі вулка выводзіла Васіля на бераг Прыпяці, ён садзіўся на траву, слухаў плёскат вады і тужліва глядзеў удалячынь, дзе віднеліся апавітыя смугою блакітныя астравы. Ці то ад блакіту, ці то ад свежага ветру, а можа, яшчэ ад нечага Васілю хацелася плакаць, прытуліцца да чыйго-небудзь пляча. Васілю здавалася, што яго жыццё склалася вельмі няўдала. Там, у Зарэччы, за ім змалку хадзіла вельмі крыўдная мянушка — Байструк. Сваю маці Васіль амаль не памятаў — яна памерла, калі яму было пяць гадоў. Казалі, што яна вельмі хораша спявала. Сваё дзяцінства ён дажываў у добрых людзей — падпаскам пасвіў кароў, хадзіў за чаргою. Наняты з чужой вёскі пастух — была такая завядзёнка,— разам з Васілём начаваў і карміўся па чарзе ў кожнай хаце. Калі прыходзіла зіма, ён некуды знікаў з вёскі, а Васіль пачынаў жыццё пацяганцам і пахатухай: у школу ён ішоў з адной хаты, а начаваць прыходзіў у другую — па чарзе, пакуль не пераначуе, не перабудзе ва ўсіх селішчах Зарэчча. У кожнай хаце пра яго казалі: «Муху не пакрыўдзіць», любілі і шкадавалі, як свайго, і Васіль з-за сарамлівасці часта недаядаў, урокі вучыў, каб не перашкаджаць гаспадарам, дзе-небудзь у кутку, уткнуўшы ў плечы галаву. Калі Васілю споўнілася шаснаццаць гадоў, усёй вёскай справілі яму касцюм, купілі шапку, дзве пары чаравікаў і правялі ў горад вывучыцца, узбіцца на якую-небудзь спецыяльнасць. Усе меркавалі, што бойкае гарадское жыццё і інтэрнат зробяць

яго, як і кожнага падхлопца, спрытным і кемлівым, але Васіль не змяніўся. У першыя дні свайго новага гарадскога жыцця прачынаўся ён па сваёй старой пастуховай звычцы — да світання. Баючыся вокрыку пастуха, ён хутка спрасонку прадзіраў вочы і намацваў штаны. Толькі потым да Васіля даходзіла, што на пашу кароў яму гнаць не трэба, і, радуючыся, ён падаў на ложак і не прачынаўся да самай раніцы.

Часова Васіля прыладкавалі на работу ў майстэрні. Падыходзячы да яе, ён яшчэ здалёк шукаў вачыма Пятровіча і па яго паходцы ўгадваў, злосны сёння брыгадзір ці не. Калі Пятровіч сярдзіты, дык бегае, носіцца па двары майстэрні, пры добрым настроі ходзіць цішэй.

На гэты раз, убачыўшы брыгадзіра, Васіль міжволі спыніўся, каб не трапіць брыгадзіру пад гарачую руку: той амаль бег. І, быццам здагадаўшыся пра Васілёвы думкі, Пятровіч азірнуўся і крыкнуў:

— Чаму цягнешся, як спутаны?

— Ды я... Я ж не спазніўся, Іван Пятровіч.

— Ты сваёю хадою сум толькі наганяеш. Пашукай у кладоўцы ключ.

Зноў чэпіцца з раніцы, аж работа валіцца з рук. Ды і якая гэта работа: робіш абы-што! Васілю хацелася вывучыцца на электразваршчыка, ён і пайшоў на будоўлю, а не на завод, бо тут абяцалі адкрыць праз тыдзень курсы зваршчыкаў. Але прайшоў ужо трэці месяц, а начальства ўсё цягне, і Васіль з-за гэтага лічыцца рознарабочым, робіць, што скажуць і куды пашлюць. То перацягвае з месца на месца радыятары, то перамешвае, лапаціць раствор. Хіба гэта жыццё?

Думаючы пра ўсё гэта, Васіль перакідваў у кладоўцы жалязякі.

Моцна бухаючы ботамі, забег да яго Пятровіч:

— Чаго тут корпаешся?

— Ключ шукаю.

— Знайшоўся ключ. Бяжы да Рыжова. Ды хутчэй!

«Вось зноў гоніць на новае месца... І за што ён на мяне ўз'еўся?»

## 2

Аднойчы пасля крыку брыгадзіра Васілю стала вельмі маркотна, і, каб разагнаць сум, ён паехаў у кіно, але

трапіў не на камедыю і не развесяліўся. У інтэрнат ісці не хацелася, і ён пайшоў паблукаць па мала яшчэ знаёмым горадзе. Васіль пераходзіў з вуліцы на вуліцу, не мог надзівіцца з неонавых агнёў-шыльд магазінаў і кінатэатраў. І ў адным глухім ціхім завулку спыніўся — пачуў раптам тонкі голас скрыпкі. Мелодыя неслася з другога паверха невысокага дома — з расчыненага насцеж акна, пад якім стаялі маладыя таполі. Васіль прыхіліўся да адной з іх плячом і пачаў слухаць скрыпку. І пад яе ціхі галасок прыгадалася ўсё самае добрае і прыгожае, што было ў яго жыцці. Гэтае самае прыгожае находзіла на Васіля ў полі на прыволлі ветру і травы, і заўсёды раніцай, калі зямлю яшчэ не смажыла спёка і каровы не баяліся слепакоў. Тады можна было сесці на траву або легчы на спіну, знайсці вачыма ў небе жаўрука і замерці, прытаіць дыханне, услухоўваючыся ў яго песню. Гэты ласкавы галасок з неба здзіўляў Васіля адным: адкуль у гэтай маленькай шэрай птушкі такія пяшчотныя пералівы? І чаму іх так добра чуваць з такой вышыні? Сапраўднае дзіва гэты жаўрук! Ды хіба толькі ў адным жаўруку дзіва? Колькі ні хадзі па полі, колькі ні мерай яго крокамі, заўсёды тут цябе што-небудзь узрадуе і здзівіць. Цвіркуны, перапёлкі, дзікія галубы. А само жыта... Прысядзь у ім, прыціхні і пачуеш мяккі шэпт — то працяжны, то пяшчотны і сумны. Калі Васіль апамятаўся ад музыкі, ад думак, святло ў акне ўжо патухла. Зачынена была і рама. Васіль вырашыў гэты дом запамятаць — на ўсякі выпадак. На сцяне дома, заўважыў ён, была шыльда: «Музычная сямігадовая школа».

На другі дзень пасля работы ён не губляў часу, а адразу падаўся да музычнай школы. На гэты раз усе вокны школы былі расчынены насцеж, і з кожнага чуліся дзіцячыя галасы або музыка. Недзе наверсе — здавалася, на самым гарышчы — пераліваліся галасы баянаў. «Ра-ра-ры-ра-ра»,— падказваў некаму прыгожы жаночы голас, а потым гэта не вельмі ўдала паўтарыла піяніна. І ва ўсёй гэтай неразбярысе губляўся, то тонучы зусім, то ледзь-ледзь выныраючы з гукаў, няўпэўнены, кволы галасок скрыпкі. Васіль замёр, заціх пад топалем — усё чакаў, усё спадзяваўся, што скрыпка, як і ўчора, зайграе адна, але не дачакаўся — святло ва ўсіх вокнах патухла амаль у адзін час, і музыканты разышліся па дамах.

З гэтага вечара Васіль пачаў кожны вечар хадзіць да музычнай школы. Робячы выгляд, быццам бы чытае газету, ён пільна і прагна ўзіраўся ў вокны. Здзіўляла яго адно: як гэта дзеці заходзяць у двор школы без боязі? Ідуць і нават гарэзяцца, быццам тут вучаць арыфметыку і іншыя сумныя навукі, але толькі не музыку. Як хацелася Васілю хоць раз зайсці разам з усімі ў клас, пакласці на плячо скрыпку, заплюшчыць вочы і пацягнуць па струнах смычком! Васіль не раз заходзіў у магазін «Мелодыя» і ведаў пра скрыпкі ўжо ўсё: колькі рублёў яны каштуюць, як іх трымаць рукамі ў час ігры, што такое смычок.

Іграць! Вывучыцца іграць, што б там ні было! А потым у Палацы культуры «Будаўнік» на якім-небудзь канцэрце выступіць са сцэны. Што тады скажа прыдзірлівы Пятровіч? А Валька Церах, самая гарэзлівая з дзяўчатмуляраў, якая ўсё падміргвае і сарамаціць яго, самлее тады, відаць, ад зайздрасці. І Васіль, калі ішоў да школы, думаў кожны раз: «Сёння зайду і ўгавару, каб навучылі іграць і мяне». Але зайсці ў школу ён так і не адважваўся — не хапала смеласці.

Аднаго разу ён нёс мяшок з цэментам з трэцяга паверха на другі, спатыкнуўся і выпусціў з рук мяшок. Той паляцеў у лесвічны пралёт. На бяду Васіля, унізе быў Пятровіч. Ён абазваў хлопца самымі брыдкімі словамі.

Тады Васіль і адважыўся.

### 3

Баязліва адчыніўшы дзверы школы, Васіль зайшоў у калідор і агледзеўся. Убачыў на адных дзвярах надпіс «Настаўніцкая», крадком падышоў і пастукаў у іх. Дзверы бязгучна праваліліся ў глыбіню, і Васіль апынуўся ў шырокім пакоі. За сталом сядзелі жанчыны і пра нешта гаварылі. Калі ўбачылі яго ў дзвярах, змоўклі. Васіль кашлянуў, зірнуў на самую сур'ёзную, на яго думку, жанчыну і сказаў:

— Мне б... Навучыце, калі ласка, мяне іграць на скрыпцы.

І засаромеўся сваёй смеласці, апусціў вочы і толькі тут заўважыў, што на яго сарочцы не хапае двух гузікаў, а боты былі запэцканы ў цэмент — прыйшоў у школу

прама з будоўлі, не перапранаючыся. Васіль зноў падняў вочы на жанчын. Усе яны былі прыбраныя, з пафарбаванымі губамі, і ён пачырванеў ад сораму яшчэ гусцей.

— Навучыце...

— На скрыпцы? Нічога ў вас не атрымаецца. Вы спазніліся гадамі,— адказала тая самая жанчына, на якую больш за ўсё спадзяваўся Васіль.

— Мне трэба, вельмі трэба...

— Позна. Гадоў дзесяць назад трэба было прыйсці да нас. Тады б... На скрыпцы вучаць з шасці-сямі гадоў.

Васілю хацелася было сказаць, што ён, можа, таксама пачаў бы вучыцца іграць з сямі гадоў, але ў яго Зарэччы не толькі музычнай школы, але і скрыпкі ніколі ў нікога не было. Але замест гэтага ён сказаў:

— Вы не бойцеся, я старанны...

— Гм... гэта вы кожны вечар у нас пад вокнамі стаіце? — спытала жанчына, і Васіль прызнаўся, што ён прыходзіць сюды, каб паслухаць голас скрыпкі.

— Вельмі шкада... Але вельмі і позна прыйшлі... Дапамагчы нічым не магу...

І Васіль выйшаў у калідор. Там ён спыніўся каля раскладу, даведаўся, што ўрокі ідуць да позняга часу, і на наступны дзень ужо не спяшаўся. Абпаласнуўся пасля работы ў душы, адпрасаваў штаны, апрануў чыстую сарочку і зноў пайшоў да школы.

На гэты раз ён адчуваў сябе больш упэўнена: ноччу доўга думаў і цяпер ведаў, што трэба сказаць у настаўніцкай гэтай важнай жанчыне. І калі яна зноў пачала пераконваць яго, што позна надумаўся вучыцца іграць на скрыпцы, Васіль сказаў:

— Ламаносаў у дзевятнаццаць гадоў пайшоў у першы клас. І ўсіх дагнаў. Нават перагнаў.

— Дык гэта ж Ламаносаў! — не здавалася жанчына.

— А я Юшкевіч! Можа, потым таксама будуць гаварыць: «Дык гэта ж Юшкевіч!» Можа так здарыцца, праўда?

Жанчына ўсміхнулася і з цікавасцю паглядзела на Васіля:

— Вы і заўтра да нас прыйдзеце?

— Абавязкова! — проста сказаў Васіль.

— Так, так...— задумліва пазіраючы на Васіля, жанчына пастуквала па стале алоўкам.— Так і быць: заўтра я пакажу вас Івану Юр'евічу.

4

Іван Юр'ервіч, прысадзісты саракагадовы мужчына, быў гарачы, калючы чалавек. Зірнуўшы ледзь улоўным позіркам на Васіля, ён накінуўся на жанчыну:

— Ведаю, наперад ведаю, што будзеце мне гаварыць... Але ж гэта скрыпка, разумееце, скрыпка...

— Ды пачакайце вы, не гарачыцеся,— спакойна азвалася жанчына і павяла яго ў пусты клас.

З-за дзвярэй, куды яны зайшлі, чулася іх спрэчка, але разабраць, пра што там спрачаюцца, было нельга. Нарэшце дзверы адчыніліся, Іван Юр'евіч пераступіў парог і ўвесь аж гарэў у твары. Злосна зірнуўшы на Васіля, сказаў:

— Пайшлі!

Прыйшлі ў цесны пакойчык на адно акно. На падаконніку, звесіўшы ногі, сядзеў хлапчук. Убачыўшы настаўніка, ён саскочыў на падлогу і хутка схапіў у рукі сваю скрыпку, што ляжала на старым, палінялым піяніна.

— Гатовы, Алег? Пачалі! — даў каманду Іван Юр'евіч і сеў за піяніна.

Васіль застаўся стаяць каля сцяны.

Хлапчук расставіў шырэй ногі, набраў поўныя грудзі паветра і крануў смычком струны, але настаўнік адразу ж абарваў яго ўдарам далоні па вечку; унутры піяніна застагнала, быццам там нешта надарвалася. Хлапчук перастаў іграць і спакойна паглядзеў на Івана Юр'евіча.

— Не цягай смычок! Гэта табе не пад носам рукавом шмаргаць! Вось, вось, так лепш!

Гук цягнуўся, пішчаў доўга, і Іван Юр'евіч увесь аж падаўся наперад.

— Во, во, во! Так, так! Куды палез? У яму не падай. Правая рука як бервяно! Ты мяне зразумеў, Алег? Хай галава падказвае пальцам!

Алег іграў, а Іван Юр'евіч размахваў рукамі, ускокваў з месца, зноў садзіўся і тупаў нагою:

— Мала радасці! Паніхіда... Байчэй трэба, байчэй!

«Гэта ён знарок так моцна крычыць... Страх на мяне наганяе»,— падумаў Васіль.

— Б'юся з табою, Алег, а толку ніякага... Лянота ў тваім целе сядзіць. Ідзі дамоў.

Ён і пасля таго, калі хлопчык выйшаў за парог, усё не мог супакоіцца:

— На скрыпцы, бач, сына захацелі навучыць іграць... Бегаў бы сабе, ганяў бы мяч!

А ў клас між тым зайшоў худзенькі хлопчык. Задумліва пазіраючы ў акно, ён выняў з футляра маленькую, як цацка, скрыпку, а з кішэні штаноў — маленькую падушачку.

— Пеця, ты навучыўся прывязваць падушку? — спытаў настаўнік.

— Не яшчэ,— прызнаўся малы і пачырванеў.

— Эх ты, герой героевіч! А канцэрт слухаў?

— Слухаў.

— Ну і як?

— Харошы канцэрт.

— Адказ прафесіянала! Што мы на сёння падрыхтавалі?

— Паланез.

— Што ж, і паланез сыграем, і п'еску... А пакуль паганяем гамы.

Заплюшчыўшы вочы, хлопчык паціху вадзіў смычком па струнах, і скрыпка звінела ціха і пяшчотна — быццам пчала над кветкаю. Іван Юр'евіч таксама заплюшчыў вочы, заківаў у такт галавой, заўсміхаўся, і мяккая яго ўсмешка доўга не сыходзіла з твару. Але калі ён правёў хлопчыка за дзверы і застаўся з Васілём, твар яго зноў зрабіўся абыякавым і незадаволеным, якім быў увесь час, калі практыкаваўся Алег.

— Што ж будзем рабіць з табою, таварыш Юшкевіч?

— Вучыцца, што ж яшчэ... А скрыпку трэба купіць самому?

— Пачакай са скрыпкай. Ідзі сюды, паўтарай за мною,— ён падняў вечка піяніна і лёгенька ўтапіў пальцам клавіш. Васіль падцягнуў голасам. Настаўнік паціскаў яшчэ і яшчэ, а ён усё паўтараў за ім.

— Слых выдатны... Шкада... Ану пастукай, як я,— Іван Юр'евіч пачаў выбіваць алоўкам то марудныя, то імклівыя камбінацыі. Вася лёгка паўтараў за ім і ні разу не збіўся.

— Так, брат, так! — зірнуў ён на Васіля з прыжмурам у вачах.— І ўсё ж скрыпку купляць не спяшайся. Пакуль мы зробім вось што...— Настаўнік вырваў з блакнота ліст і пачаў хутка пісаць.— Зойдзеш у бібліе-

тэку і для пачатку прачытаеш вось гэта. А потым пабачым, што да чаго.

У бібліятэцы яму далі сем кніжак, і ўсе такія тоўстыя, што ледзь змясціліся пад рукою. «І куды іх столькі? Для чаго? Хіба іх прачытаеш?» — думаў разгублена Васіль.

З палучкі ён купіў сабе самую танную, нямую скрыпачку. Васіль саромеўся сваёй нязвыклай пакупкі і хаваў скрыпку далей ад чужых вачэй — пад прастыню і падушку. Калі ж заставаўся ў пакоі адзін, даставаў скрыпку і ласкава пагладжваў далонню пакатую спінку і крутыя яе бакі. Чапаць струны ён пакуль што не адважваўся.

З усіх кніг, якія параіў яму прачытаць Іван Юр'евіч, адна была вельмі цікавая, і Васіль не мог ад яе адарвацца, пакуль не прачытаў да канца. Яна была пра скрыпача Паганіні. Вось ужо больш за сто гадоў, пісаў аўтар гэтай кнігі, свет не ведае скрыпача лепшага за Ніколо Паганіні.

Васіль не верыў гэтаму. Такога не можа быць, думаў ён сам сабе, бо ўсё на свеце з кожным годам мяняецца і паляпшаецца. Лепшымі і вышэйшымі цяпер ставяць дамы, выпускаюць магутныя машыны, тэлевізары. Хімія змяніла тканіну, а разам з гэтым і ўсю вопратку. Замест газовак даўно гарыць электрычнасць, ды і сама яна вунь якая розная: ёсць лямпачкі-грушы, ёсць выцягнутыя, як свечкі, і ёсць сплюшчаныя, як грыбы. Ёсць нават і дзённае святло — гэтыя марозна-белыя палкі. І калі ўсё на свеце так мяняецца і паляпшаецца, дык чаму б адставаць ад жыцця скрыпачам? Яны ж, мабыць, таксама стараюцца — каму ахвота адставаць? Ды і было б, нарэшце, сорамна іграць горш, чым ігралі сто гадоў назад. Не, тут пісьменнік нешта наблытаў, тут даў ён прамашку. Не можа такога быць, каб не было цяпер скрыпача лепшага за Паганіні.

Зноў і зноў перачытваў Васіль тыя старонкі ў кнізе, якім не верыў, і аднойчы не вытрымаў і спытаў у настаўніка. Іван Юр'евіч пацвердзіў: лепшага за Паганіні скрыпача не было і няма ва ўсім свеце. Так і сказаў: «Не, мабыць, не...» «А калі праўда? Ну, што ж... Будзе скрыпач лепшы за Паганіні!» — сказаў сам сабе Васіль і пачаў з таго дня практыкавацца на скрыпцы ўпарта і рашуча. Настаўнік задаваў яму на дом развучыць п'еску,

а Васіль сам, па сваёй волі, развучваў яшчэ тры, чатыры. Іграў ён, асвоіўшы музыкальную азбуку, кожную вольную хвіліну і ўсюды — у сваім пакоі, на лесвічнай пляцоўцы. Не адзін раз даводзілася залазіць і на гарышча. Пастуховая звычка прачынацца на досвітку спатрэбілася цяпер як ніколі. Да работы Васіль паспяваў наіграцца так, што аж у галаве гудзела. З яго пасмейваліся: «Пілікай, пілікай — на старасці гадоў кавалак хлеба заробіш». І яму прыдумалі крыўдную мянушку Скрыпун. Васіль перажываў, крыўдзіўся да слёз, але ад свайго не адступаў. І тады камендант інтэрната паклаў аднойчы перад ім ключ ад дзвярэй: «Ігpай у чырвоным кутку, туды ніхто не заглядвае».

Ад ўрока да ўрока мяняліся адносіны Івана Юр'евіча да Васіля. Калі ў першыя дні Васіль браў у рукі смычок і скрыпку, настаўнік адразу прыкрываў вочы далонню і нібы драмаў, дык цяпер ён часта ўскокваў з табурэта і горача падказваў:

— Грыф, грыф зацісну ў! Нізка ўзяў!

Часам ён браў руку Васіля ў сваю далонь, уважліва разглядваў яе, гаварыў з сумам у голасе:

— Ну і падушачкі на пальцах — пяты. З такімі мазалямі ты не адчуваеш струн. Я, мабыць, знайду табе другую работу, будоўля табе не на карысць ідзе. Рукі ў музыканта павінны быць лёгкімі, чуйнымі, нервовымі. Высякаць музыку — гэта не бярвенні абчэсваць.

Васіль і сам не заўважыў, як з нейкай пары глыбока-глыбока засеў у ім голас. Ён чуў гэты голас заўсёды: і спранку, і ўвесь дзень, і ў сне. Што за голас... ён і сам зразумець не мог. Здавалася, што ў спякотны поўдзень над спелымі аўсамі завісае працяжны звон. Пачынаецца недзе далёка, на ўскраі палетка, і вецер гоніць яго да самых вушэй. Ніколі ў жыцці Васіль не чуў гэтага звону над спалавелымі аўсамі, але чамусьці быў перакананы, што звон гэты ўсё-такі бывае і звініць ён толькі так, як засеў у душы. Часам гэты голас ператвараўся ў нешта жывое, і тады яму хацелася ўзяць яго на рукі, прылашчыць, закалыхаць, быццам дзіця. Іншы раз голас бунтаваўся ў ім, быццам прасіўся на волю, і тады Васіль заплюшчваў вочы і адчуваў, як па ўсім яго целе бяжыць холад: так шмат у гэтым голасе было жывога суму і сілы.

Гэты голас спрабаваў выціснуць са сваёй скрыпачкі

Васіль. Кароткі летні дзень змяняўся доўгім вечарам, вечар пераходзіў у ноч, а Васіль мучыўся і мучыўся ў чырвоным кутку, і часам яму пачынала здавацца, што ён быццам бы злавіў гэты голас на смычок, але той адразу ж уцякаў, знікаў, і даводзілася паўтараць усё спачатку. Аднойчы ён іграў асабліва доўга, і рука, што трымала смычок, анямела так, што пальцы давялося на ёй расціраць другою рукою.

«Здаецца, не дастаць мне да Паганіні,— нехта бы сказаў аднойчы Васілю.— Калі б быў у мяне бацька і не даваў бы мне патолі, прымушаў бы, як самога Паганіні прымушалі... з чатырох гадоў... Можа, тады б... Ды і то... Я вось не магу ніяк узяць адзін голас, а той браў на памяць цэлы канцэрт ды яшчэ перайначваў яго на свой манер... Не, такім, відаць, трэба нарадзіцца... Можа, трохі падвучыцца і стаць сярэднім скрыпачом?.. Ім... для чаго? Сярэдніх і без мяне вунь колькі, грэблю гаці. Не ўжо: ці іграць лепш, чым Паганіні,— ці кінуць зусім...»

— Слухаем вось цябе,— хрыпата сказаў брыгадзір, сказаў непрывыкла ціха, зняў свой брыль і пачаў церабіць яго ў пальцах.— Трэба ж так, га! Ты вось што, Васіль... Хочаш, мы купім табе самую дарагую скрыпку? А што? Купім. Усё-ткі брыгада ў нас не з апошніх.

Па дарозе ў музычную школу Васіль думаў пра адно і тое ж: не апярэдзіць яму Паганіні. І не дацягнуць да яго... Ніколі. Ці варта тады вучыцца? І звярнуў з вуліцы, у школу не пайшоў. Не задумваючыся, куды ён ідзе і чаму, звярнуў у завулак. Так апынуўся ён на ўскраіне горада. Калі ж на вочы яму трапіўся першы калодзеж, Васіль пайшоў чамусьці да яго. Калодзеж быў стары, даўно закінуты. Васіль нагнуўся над зрубам і зазірнуў у яго глыбіню. Адтуль тхнула ў твар холадам і прэллю, там было цёмна, нібы ў пограбе. Толькі далёка-далёка ўнізе блішчаў маленькі кружок неба. І вось адтуль, з вады, з панылым здзекам адсвечваў, глядзеў на Васіля худы, падобны на чорнага грака чалавек — Паганіні.

Васіль падняў над зрубам скрыпку і расціснуў пальцы. Яна бязгучна паляцела ў мёртвую цемень і толькі ў глыбіні, перад самай, мабыць, вадою, зачапілася за дошку і выдыхнула рэзкім, жывым і пранізліва хворым голасам. І нешта абарвалася ў душы Васіля.

У імгненне пранеслася ў галаве: цяпер ён не будзе бачыць Івана Юр'евіча з яго ўсмешкамі і падказкамі, не

будзе цяпер усіх гэтых таропка радасных збораў у музычную школу, не адчуваць больш яму ў руках ласкава слізкую і лёгенькую, як пярынка, скрыпку. І Васілю зрабілася так шкада самога сябе, што ён гатовы быў заплакаць, застагнаць ад роспачы, як толькі што застагнала ў калодзежы яго скрыпка.

«Пачакай, пачакай»,— сіліўся нешта сказаць Васіль і адчуў, што губы ў яго засмяглі, нібы спякліся. Аднекуль выплыў слабы голас і прымусіў Васіля прыслухацца. З калодзежа, з гнілой халоднай зелені, усё яшчэ вяртаўся голас-рэха скрыпкі. І раптам гэты слабы галасок пагучнеў, пачаў разрастацца і шырэць у вушах Васіля, потым уціхаміўся, пацішэў. І ўсяго яго працяла холадам, і калі Васіль супакоіўся, зразумеў, гэтая музыка, што нядаўна гучала, сціхаючы і глухнучы, была тым самым голасам-звонам, што працяжна вісеў над спалавелымі аўсамі.

Васіль нахіліўся над калодзежам і доўга ў яго ўглядаўся, але там было так цёмна, што нічога нельга было ўбачыць.

# На пакосе

Выехалі ў самы няўдалы час — пад вечар і ў дождж. Такая непагадзь стаіць часта ўлетку. Толькі пацягне ветрам, і глядзіш, закаламуцілася на небасхіле, пашарэла ў рацэ вада. Неба ўсё ніжэй і ніжэй ціснецца да зямлі. Іншы раз непагадзь доўга прымерваецца, потым раптам абарвецца вецер, і так зробіцца ціха, быццам усё на свеце адразу перастала дыхаць, і вось ужо пайшоў дождж, нудны, дробны, як з частага сіта.

— Толькі б не зацяжны,— уздыхнуў Аляксей Ваўчок.

Ён уціснуў у плечы галаву, каб не мокла патыліца, прывыкла згорбіўся і выехаў з двара. Калі падвода прагрукатала па мастку цераз канаву, ён азірнуўся на хату.

У вокнах, за запацелымі шыбінамі, мільгнулі твары меншых — адзін, два, тры. Усе яны зайздросцілі старэйшаму брату, Слаўку, які сядзеў на возе разам з бацькам, накінуўшы на галаву ад дажджу мяшок. Слаўку было радасна, што бацька ўзяў яго на сенакос.

— Глядзі, каб не размок хлеб! — панура кінуў цераз плячо яму бацька.

Слаўка заварушыўся, засунуў торбу глыбей у сена, нахіліўся над ёй грудзьмі. Не размокне. Бацька азірнуўся, упарадкаваў на возе косы і граблі, дакрануўся чамусьці да мяшка на галаве сына, быццам праверыў, ці мокры ён, і надоўга змоўк. Зрэдку ён нокаў на каня, але голас у яго быў зусім не такі, як раней, вясёлы і рэзкі, а нейкі ціхі і задумлівы. Слаўка здагадваўся, чаму за адзін дзень так змяніўся бацька, і не лез да яго з размовамі. Ён толькі вызіркваў з-пад мяшка і бачыў, як усё больш і больш цямнее шэрая ватоўка на згорбленай бацькавай спіне.

— Тата, накрыйся!

Бацька не азваўся.

Пакос быў далёка, за пятнаццаць кіламетраў. Слаўку падабалася, што дарога далёкая. Ён глядзеў наперад з-пад свайго мяшка, радуючыся кожнаму новаму павароту або ўзгорку, і ўсё чакаў, калі пакажацца вёска Турбінка.

Пра гэтую вёску ён начуўся з дзяцінства. Ён памя-

таў, як заязджалі да іх у двор падводчыкі з гэтай вёскі. Яны спыняліся, калі вярталіся з горада, з кірмашу. Мужчыны заходзілі ў хату пагаварыць з бацькам пра жыццё, а які-небудзь малады хлапец сядзеў на возе і іграў на гармоніку.

— Тата, Турбінка хутка будзе?

— У? — Бацька з цяжкасцю адарваўся ад сваіх дум.

— Турбінка хутка? — спытаў зноў Слаўка.

— Не. Падрамай трохі.

Слаўка стаў на калені, наскуб з-пад сябе сухога сена і ўжо хацеў упасці бокам у сваю пасцель, як раптам заўважыў у баку горада слуп пражэктара.

— Глядзі! — усклікнуў ён.

— Блізка ўжо...— адказаў бацька і рвануў на сябе лейцы.— А ты драмай сабе, драмай...

Слаўка лёг, накрыўся сырым мяшком і заціх.

У Турбінку прыехалі ноччу.

Слаўка прачнуўся, калі воз затармусіўся на мосце. Ён пачуў нейкія гукі, цяжкія і непрыемныя, і адразу высунуў з-пад мокрага мяшка галаву.

Дождж перастаў. На ўсёй вёсцы свяціліся два-тры акны, у астатніх хатах было цёмна. У хаце, каля якой спыніўся конь, лыпнула і загарэлася святло.

Бацька злез з воза, узышоў на ганак і завёў гамонку з гаспадыняй хаты.

— Трава цяпер добрая? — спытаў бацька.

— Густая і высокая. Усю ж вясну мачыла ды парыла,— адказаў жаночы голас.— Было б толькі каму касіць... І атава вырасце густая, што касу не пацягнеш.

Бацька распрог вобмацкам каня, напаіў яго, прывязаў лейцамі да воза, забраў торбу з ядою і павярнуўся да сына:

— Ну, пайшлі. Паспім да світання.

Уладкаваліся, укубліліся ў сене на гарышчы. На вячэру з'елі па кавалку хлеба і заснулі.

Раніца прыйшла вельмі хутка, была яна цёплая, але мокрая: зямля парыла туманам, млела ў чаканні сонца.

— Выспаўся? — спытаў бацька, крануўшы Слаўку за плячо.

— Ды не... Толькі ж заснулі.

— Разамніся трохі.

Бацька злез з гарышча, сеў на паваленае шула, пакурыў і пайшоў запрагаць каня.

На пакос прыехалі хутка. Быў ён зусім блізка, за выганам. У бярэзніку раскінуліся шырокія палянкі з нечапанай травой, якая стаяла ля самай дарогі, цяжкая ад дажджу, увагнулася і, пераблытаная, перавітая ветрам, стракацела ад спелых кветак.

— Вось раздолле, вось дзе можна разысціся, разгуляцца з касою! — не ўтрымаўся бацька.

Ён распрог каня, пусціў яго на другі бок дарогі пасвіцца, падышоў да воза і адвязаў косы. Адну падаў сыну.

— Пойдзем,— сказаў ён.— Станеш за мною.

І не сходзіў з месца, утаропіўшыся вачыма ў зямлю.

Потым, быццам апамятаўшыся, абвёў позіркам палянку, папляваў на далоні і пачаў шырока махаць касою. Яе бліскучае палатно адразу аблілося расою, каса пасвіствала спачатку на розныя галасы, потым прыціхла, прыглухла, знайшла патрэбны тон і ўжо не зрывалася з яго.

— Пачынай пракос! — крыкнуў бацька.

Слаўка махнуў няўдала два разы, а на трэці засадзіў касу з разгону ў зямлю.

— Стой! Ты што — не бачыш, дурань! — Бацька злосна кінуў вобзем сваю касу.— Ты што...

Слаўка ўздрыгнуў. Ён падумаў, што зараз бацька падыдзе і дасць яму па патыліцы. І з усёй сілы, хістаючы яе ў бакі, ірвануў на сябе з купіны касу. Яна вылезла з зямлі. І тут жа зразумеў, што расхістаў касу, і цяпер стаяў, адчуваючы яшчэ большую віну, не падымаў галавы. Чакаў. Вось ужо пачуліся блізка бацькавы крокі, два вялікія боты пырснулі расою з шырокіх наскоў і спыніліся побач. Ён увесь сціснуўся. «Вось зараз... зараз...» — думаў ён, але бацька не кранаўся з месца. Слаўка асцярожна, з-пад самых броваў, зірнуў угару.

Над ім стаяў бацька.

— Тата, я не хацеў...

Вялікая рука мякка легла на шыю. Цёплы палец памацаў тонкую ключыцу, і адразу стала спакойна.

— Ну, ты не спяшайся, калі водзіш касою,— гаварыў бацька, адварочваючы ад сына вочы.— Давай спачатку перасадзім яе... Умееш? Не? Тады хутчэй вучыся...

Ён узяў касу і з нейкай паспешлівасцю пачаў выбіваць клін і аслабаняць кальцо.

— Вось знялі. А цяпер трэба зноў насадзіць. Гэта проста робіцца... Глядзі...

Ён зноў насадзіў кальцо, злёгку яго заціснуў.

— А цяпер бач, як яно выходзіць? Паправіць трэба клінам... Як сякеры папраўляць... Пад кальцо клін забіць трэба цесна, каб палатно не хісталася, не хадзіла ў бакі. Толькі трэба ўзяць другі клін...— Ён падбег да воза, адкалоў нажом ад дошкі трэску, завастрыў яе на хаду.— Вось гэты падойдзе. Вось так. Бачыш, каса на месца стала. Гэта для цябе якраз, а для мяне інакш.

— А як? — спытаў Слаўка, не разумеючы, чаму так мітусіцца, спяшаецца бацька.

— Для мяне круцей трэба, бо я вышэйшы за цябе... Зразумеў... А цяпер табе трэба ручку апусціць...— Бацька драпануў пазногцем па касавільне і да гэтай адзнакі пачаў апускаць ручку. Развязаў раменьчык, які сціскаў рабінавую гладкую, як костка, ручку, і зноў замацаваў яе. На другім, ніжэйшым месцы.— Вось цяпер і табе будзе добра. Памерай... Вось так, добра. А цяпер пойдзем да пракоса.

Бацька спяшаўся. Ён падняў сваю касу, стаў нa перадзе правым бокам і некалькі разоў павёў па траве касою. Траву зносіла, быццам падмятала ўбок, і яна клалася роўным густым валком.

— Ну, а цяпер ты!

Слаўка таксама павёў касою некалькі разоў, але не дацягнуў палатно да канца.

— Нічога, нічога! — падбадзёрваў бацька. Ён стаў ззаду, сагнуўся, узяў рукі сына ў свае, і яны разам пачалі вадзіць касою, ступаць наперад па пракошы.— Вось так! Бокам стань, бокам!

Слаўка ніколі не бачыў бацьку такім цярплівым і мудрым, а той усё трымаў яго за рукі, паступова адпускаючы іх, і вось ужо зусім пакінуў яго аднаго. Слаўка ўсё зразумеў, толькі не хапала спрыту, звычкі. Узмахі касы памалу рабіліся больш упэўненымі і роўнымі.

— Так, так! — ківаў здалёк бацька, махаючы ўжо сваёю касою.

Ён давёў, дагнаў да канца свой пракос, зноў вярнуўся да таго месца, адкуль пачаў касіць, забраў у сына пачаты рад, а яму загадаў пачынаць новы.

— Не спяшайся,— гаварыў ён спакойна.— Вось так вадзі касою, вось так. Спачатку націскай на пятку, а потым на насок. Зразумеў?

— Зразумеў! — ківаў Слаўка.

Ён касіў цяпер ахвотна, але не чыста. Астаўляючы ззаду сябе кучкі травы, збіваў касою вяршкі, але траплялiся і добрыя, чыстыя лапікі пракошы, і гэта радавала іх абодвух. Бацька кожны раз гаварыў:

— Вось ужо лепш!

Некалькі разоў спыняліся і мянташылі косы.

Сонца паднялося, памацнела за воблакамі і вось ужо пабегла светлымі плямамі па палянках і верхавінах дрэў — гэта вынырвала, выслізгвала яно з хмар. Часам яно выходзіла на шырокую прагаліну неба між аблок і нейкі час стаяла ў ёй, пакуль зноў не засцілалі яго белыя хмары. Каршун вылецеў з лесу, спыніўся, завіснуў над травою — будзе добрая пагода.

— Адпачні трохі! — пераводзячы дыханне, падаў голас бацька.

Ён ужо скінуў сарочку і быў у майцы.

— Не, я не стаміўся.

Але вось Слаўку напаткала новая бяда: яго касу падвартаваў у траве тупалобы і круталобы камень. Каса з усяго размаху ўрэзалася ў яго — насок адскочыў у траву, адляцеў.

— Тата! — І, як раса з касы, пырскнулі слёзы з яго вачэй.

Дрыжачымі рукамі Славік падняў над сабою касавільна з абломанай касою і ад роспачы апусціўся на калені, пачаў абмацваць рукамі траву, шукаць у ёй насок. Хутка знайшоў, пачаў прыстаўляць яго да месца, прылепваць да палатна, быццам той мог прырасці, прыклеіцца.

Падышоў бацька.

— Камень,— усхліпнуў Слаўка.

— Нічога,— уздыхнуў бацька.

— Я незнарок... У траве ён...

— Нічога, нічога... Мы хутка ўжо закончым касіць. Зграбём ды на воз... І паедзем дамоў.

— А сушыць?

— Дома высахне.

— А чаму не тут?

— Няма калі.

Яны зноў стаялі адзін насупраць другога, белагаловыя, шэравокія — адзін у аднаго.

— Можна і тут высушыць.

— Няма калі,— уздыхнуў бацька.— Бачыш, каршун кругамі ходзіць,— раптам сказаў ён, задраўшы ў неба галаву, потым нечакана дадаў: — Не гаруй, цяпер табе мая каса застанецца. Ты трохі падвучыўся касіць... Цяпер ты кармільцам будзеш, гаспадаром...

— А ты? — ледзь выдыхнуў Слаўка.

— А я... Мне заўтра на вайну... Ты вось што...— Ён абхапіў яго галаву сваімі мазолістымі далонямі, лёгка прыхіліў, прыціснуў яе да сваіх грудзей.— Ты мне прабач, Слаўка, калі што не так...

— Тата!..

# Пуцёўка

1

Захутаная па самыя вочы кажухом і хусткай-абпіненкай, Настаха сядзела на ганку і глядзела на гразкую, набрынялую ад дажджу вуліцу.

У панылых фарбах восені старая шукала і знаходзіла прыкметы таго, што наперадзе для яе мала добрага: зноў дажджы, доўгія зімовыя ночы, бяссонніца, халады.

У яе целе ўсё менш заставалася цяпла, кроў не грэла, і прыходзіў канец — хутка паміраць.

Настаху аж ускаланула. Паміраць, дык ужо летам: вакол зелена, свеціць сонца, цёплая зямля. Ды і магілу лягчэй выкапаць. А зімою паспрабуй... Колькі будзе клопатаў...

Больш за ўсё баялася яна прынесці некаму клопаты, у старасці зрабіцца для людзей непатрэбнай. Усё жыццё Настаха правяла ў кругаверці клопатаў і трывог, у рабоце на саўгаснай ферме. Цяпер яна на пенсіі, жыве ў замужняй дачкі Каці. Апісала ёй гэты дом, аддала ёй і свае невялікія грошы:

— Нашто яны мне, Каця? Мне толькі б хлеба ды цёплы куток.

— Як аддзякаваць табе, мама? Чым? — ніяк не мог, пачуўшы такое, апамятацца зяць, Міхась.

— Жыві з Кацяй суладна... Вось і аддзячыш мне. Не крыўдзі яе. Яна ў мяне адна засталася,— прасіла і настаўляла Настаха.

Раніцай зяць ёй сказаў:

— У спальні табе не холадна, мама? Можа, на печы цяплей будзе, га? Каця там табе паслала ўжо.

І старая перабралася на печ. Калі выздаравела, хацела было вярнуцца ў сваю спальню, але ложак быў заняты. Марыйка, унучка, раней спала на канапе. А цяпер во якая вырасла!

Як ёй без сваёй спальні?

У апошні час у Настахі зусім аслабелі вочы і рукі. Цяпер яна толькі тое і рабіла, што сядзела каля выпаленай печы ў цёплых валёнках ды часам выходзіла на двор падыхаць свежым паветрам і знайсці сабе якую-небудзь лёгкую работу. Старая дзякавала богу, што яе па-

куль носяць ногі і ў хаце яна не зусім яшчэ нездаляшчы чалавек, сёе-тое можа зрабіць: насыпаць проса куранятам, падмесці двор, папасвіць на выгане гусей. А нядаўна надумалася звязаць унучцы кофту. Пра гэты свой клопат Настаха думала з нейкай радасцю. Для ўнучкі яна нічога не шкадавала, дагаджала ёй чым магла. Добрая, ласкавая Марыйка. З ёй часам толькі і адвядзеш душу. Қаці заўсёды няма калі: клапоціцца, круціцца то на птушкаферме, то дома. Ды і пра што ёй гаварыць з маці? Усё перагаворана ўжо. Ды і маці не ў крыўдзе на яе: есці, піць ёй даюць, сядзіць у цяпле. Што яшчэ трэба старому чалавеку?

Зяць Міхась таксама цэлы дзень носіцца на матацыкле ад фермы да фермы. Заатэхнікам ён. Калі за ўвесь тыдзень скажа Настассі некалькі слоў, дык гэта яшчэ добра.

Другая справа Марыйка. Чарнавокая, вясёлая. Ускочыць у хату — і адразу смех, бегатня...

— Бабулька, ты спіш? — звонкі голас прагучаў над самым вухам, вывеў Настаху з дрымоты. Яна расплюшчыла вочы і ўбачыла перад сабою вясёлы твар унучкі.— Мне далі пуцёўку ў ГДР.

Марыйка прыціснулася гарачым тварам да лба Настахі, потым выскачыла ў сенцы, нешта гаворачы. Голас яе патануў сярод частага стукату абцасаў аб падлогу, парыпвання дзвярэй, і старая нічога не зразумела.

Потым Марыйка выскачыла на ганак, прамільгнула паўз вокны на вуліцу, весела крыкнула:

— Нас павязуць у Германію!

У блакітнай куртцы з балонні, у лёгкай шапачцы, тая подбегам ішла па вуліцы. Калі постаць Марыйкі знікла з вачэй, старая раптам ціха войкнула. Ёй зрабілася пагана. «У Германію, гаворыць... Куды?! Божа, што ж гэта яна сказала...» Яе сэрца раптам закалацілася ад страху.

— Марыйку ў Германію... За што?

— Зарабіла — саўгас даў пуцёўку. Чаго перапалохалася? — падышла да маці дачка.

— Ох, Қацечка... Гэта ж у Германію... Нашую Вару некалі туды таксама немцы павезлі... І не вярнулася, бедненькая...

— Ды што з табою? Тады была вайна. Зноў на цябе находзіць markroзнае. Ідзі адпачні.

На печы Настаха ляжала да самага вечара, усё не-

шта думала. Тое, што ўнучка паедзе ў Германію, спачатку яе непакоіла, але, добра падумаўшы, яна вырашыла, што ў гэтай паездцы нічога нечаканага няма. З немцамі цяпер не ваюем, сябруем. Яе больш хвалявала цяпер іншае. Марыйка паедзе туды, дзе згубілася дачка Вара, дзе ляжаць у зямлі яе сыны Міця і Грыша. Хаця яна і цяпер не верыць, што яе дзеці забітыя. Яна не бачыла іх мёртвымі, і яе цешыла надзея: можа, жывыя і яшчэ вернуцца. Ад такіх думак на вочы Настахі наплывалі слёзы баязлівай радасці. І цяпер, лежачы на печы, яна падумала: вось паедзе Марыйка і раптам сустрэне ў гэтай самай Германіі Міцю, Грышу і Вару. На сыноў яна пахаронкі атрымала. А дачка загінула недзе. І ніхто не прыслаў весткі. У вайну многія так прападалі, а потым знаходзіліся. Можа, і Вара жывая.

Яна спадзявалася і верыла. Усе справы і жыццё яе дзяцей здаваліся ёй такімі цудоўнымі і бяскрыўднымі, па-людску добрымі і бязгрэшнымі, што загінуць бясследна яны ніяк не маглі.

З гэтымі думкамі Настаха не заўважыла, як заснула. Разбудзіў яе голас дачкі:

— Зусім пасінела ад холаду. Хіба ў хаце мала месца? Бач, плот сабою падпіраюць,— лаялася Каця.

— Мама!

— Што мама? Як цяляты: дзе збягуцца, там і ліжуцца...

— Не трэба крычаць, маці,— азваўся Міхась.— Не маленькая ўжо. Дваццаць гадоў. Кахае Алега. І хлопец, скажу, ён талковы.

— Ну зайшлі б у хату, пагаварылі б. Маці я табе ці не? Пакладуць на калені транзістар ды і сядзяць моўчкі, як нямыя. Мы раней хоць размаўлялі, песні спявалі. А цяпер, паглядзіш, усё за іх транзістар робіць.

— Хадзі, унучка, да мяне,— ласкава паклікала Настаха, вызірнуўшы з-за коміна печы.— А на маці не крыўдуй. На тое яна і маці. Дабра хоча. Запрасі ў хату Алега. Хай прыйдзе. А калі трэба будзе, вяселле справім.

— Адразу і вяселле,— усміхнулася Марыйка, падышла бліжэй да Настахі і спытала: — А ў цябе, бабулька, вяселле было?

— А як жа,— загаварыла яна, радуючыся пытанню ўнучкі. Яна звыклася даўно з тым, што ў хаце да яе адносяцца, як да малога дзіцяці, рэдка раяцца, яе цяпе-

рашнія думкі і клопаты надта нікога не цікавяць, быццам у такіх гадах у галаве няма ні думак, ні клопатаў, быццам заўсёды яна была вось такою нягожаю, старою. Пытанне ўнучкі нечакана расхвалявала яе, і яна нават разгубілася, не ведаючы, што яшчэ сказаць.

— Бабулька, а кофту мне хутка звяжаш? — шапнула ўнучка.

— Да дня нараджэння...

— А мне Алег транзістар дае ў дарогу. З музыкай паеду,— весела сказала Марыйка.

Настаха згубіла ў думках тое, што хацела сказаць унучцы, змоўкла.

— Шчаслівая ты, Марыйка. Дай божа ўсім так, як табе,— трохі пазней з сумам сказала яна.— А маім хлопцам не пашанцавала... Не паспела іх пажаніць нават... І нявесты былі...

— Якіх хлопцаў?

— Маіх. Міцю і Грышу... Хіба ты не ведаеш? Твае родныя дзядзькі...

Памаўчалі.

— Я пайду,— азвалася ўнучка.— Трэба збірацца ў дарогу... Тры дні, і я ў Германіі.

Сэрца Настахі зноў заныла: Марыйка хутка будзе там, дзе ляжаць Міця і Грыша. І гэтую далёкую дарогу, па якой так цяжка і доўга ішлі салдаты, унучка праедзе за тры дні. На момант старая цяпер пашкадавала і папракнула сябе: чаму яна не пабыла, калі была яшчэ ў здароўі, у Германіі сама? Не знайшлося смеласці, ды і клопаты не пускалі. Цяпер можна было б, ды хіба паедзеш? Толькі і хапае сілы схадзіць на могільцы адведаць свайго старога. Яна заўважыла, што Марыйка хоча некуды пайсці, і таропка загаварыла:

— Калі паедзеш? Я прасіла б цябе, унучка... Ці не зайшла б ты ў Германіі на магілкі Міці і Грышы? А то выйдзе не па-людску: з'ездзіць і не праведаць.

Марыйка здзівілася:

— Дзівачка ты, бабулька... У нас маршрут. Як жа я буду шукаць, хто мяне пусціць? Яшчэ адстану ад групы.

— Знайсці магілкі можна... Было б жаданне,— баязліва настойвала Настаха.— У пахаронках, што мне з фронту прыслалі, ёсць назвы тых нямецкіх мясцін.

— Нават не ведаю, што тут рабіць,— разгубілася Марыйка.

— Германія, кажуць, вялікая. Калі б было здароўе, я пешшу яе абышла б, а знайшла...

— Ну, добра, добра... Заўтра паглядзім пахаронкі, на карце пашукаем.

— Праўда, Марыйка, на карце,— падхапіла Настаха.

— Добра, добра...

Марыйка пайшла ў сваю спальню. Старая разумела, як гэта не проста — знайсці ў Германіі магілы. І лёгкі тон голасу ўнучкі ёй не спадабаўся, але абнадзеіла сама згода Марыйкі выканаць просьбу. Настаха злезла з печы, пайшла ў кухню, запаліла святло. Абшмуленую скрынку, у якой захоўваліся яе рэчы і ўсялякія старыя дакументы, зяць даўно запіхнуў пад ложак. Яна апусцілася на калені, запаўзла пад ложак і адчыніла скрынку, выняла з яе сумачку і пайшла ў спальню да ўнучкі.

— Вось яны, паперы,— нясмела сказала яна.

Марыйка падняла з падушкі галаву. Настаха падала ёй сумачку. Першай знайшлася пахаронка на Грышу. Марыйка моўчкі патрымала на далонях зжоўклы лісток і сказала:

— Месца гібелі дзядзькі Грышы тут не ўказана. Толькі нумар вайсковай часці, дата.

— Як не ўказана?! — спалохалася Настаха.— Усё там было. Паштарка, памятаю, дае мне пісьмо, а я ёй: «Адкуль?» Яна зірк на канверт: «З Германіі...» Дзе ж ён, канверт? — дрыжлівымі рукамі пачала таропка перабіраць паперы.— Згубіўся, мабыць... На ім усё было напісана. А дзе Міцькава папера?

— Ты не спяшайся, бабуля.

Знайшлі пахаронную і на Міцю. Марыйка слізганула вачыма па выліналых радках, бязгучна заварушыла губамі.

— Во, тут указана,— сказала яна, аддаючы пахаронку Настасі.— Дзядзька Міця загінуў смерцю героя каля горада Найдорф. На карце трэба пашукаць. Можа, мы будзем каля гэтага горада ехаць.

— Дай божа. Ды і дзе яму, вашаму маршруту, яшчэ ісці, як не па гэтых мясцінах?! — у голасе Настахі гучалі надзея і радасць. Маршчыністы твар разгладжваўся, харашэў.

— Заўтра я пайду ў школу. Там ёсць вялікая карта. На ёй нават невялікія пункты ўказаны. Я пашукаю.

— Дзякую, унучка,— сказала Настаха і пайшла са спальні.

Яна ўзлезла, крэкчучы, на печ і легла, адчуваючы ў душы і целе лёгкасць і задавальненне.

2

Увесь дзень Настаха чакала Марыйку. Тая пайшла раніцай у саўгасную кантору і доўга не прыходзіла.

Апоўдні неба ачысцілася ад лахманоў нізкіх хмар. Выбліснула сонца, павесялела на дварэ. Настаха нацягнула на сябе кажух, выйшла і села на ганку.

Дарога дымілася, падсыхала. А над галавою, недзе ў сонечнай вышыні, плылі жалобныя крыкі жураваў. Настаха падняла вочы і доўга ў небе шукала жывыя ланцужкі птушак, але не знайшла. Курлыканне сціхала. Настаха ўслухоўвалася ў яго, і на душы ад нечага рабілася лёгка і сумна. Яна раптам падумала пра свайго старога. Трэці год ляжыць у труне. Зараз і яму чуць бы гукі жураваў і гэты ціхі дзень, калі ўсюды і ўсім добра, калі і смерці, здаецца, няма і ніколі не будзе.

— Добры дзень, Васільеўна! — пачула яна глухаваты голас.

Міма, кульгаючы, ішоў настаўнік Буцэвіч. Невялікі, але ладны, моцны. Валасы ў яго светлыя, зачэсаны пахлапечы на правы бок, таму ён выглядае маладзей сваіх гадоў. А было яму пад шэсцьдзесят.

— Добрага здароўя, Іван Сцяпанавіч,— убачыла настаўніка і ўзрадавалася Настаха.— Са школы? Заходзьце ў госці. Да вас не прыбягала Марыйка з просьбаю?

— Не, не бачыў... А што за просьба? — Буцэвіч падышоў да ганка.

— Марыйка ў Германію збіраецца.

— Я чуў пра гэта.

— Едзе. А я з просьбай. Кажу, можа, адшукаеш магілы Міці і Грышы. Вы, Іван Сцяпанавіч, памятаеце, мабыць, маіх хлопцаў?

— Як жа. Памятаю. Асабліва Рыгора. Мне і яму амаль у адзін дзень павесткі прынеслі. А Міця тады, здаецца, яшчэ хадзіў у школу.

— Ага, вучыўся. Канчаў школу. Абодва там, у Германіі, палеглі. Вось і прашу Марыйку наведаць магілы. Пра Грышу мала напісана, а ў Міцінай пахаронцы на-

ват той горад указаны, каля якога яго забілі... Толькі дзе ён — не ведаем. Марыйка вырашыла пашукаць на карце, пайшла да вас у школу.

— Як горад завецца?

— Забыла, Іван Сцяпанавіч.— Яна безнадзейна махнула рукою.— Цяжкая назва.

— Хай Марыйка да мяне зойдзе. У Германіі я быў у вайну.

— Якая яна, Германія? — Настаха зірнула ў загарэлы твар Буцэвіча.

— Германію я бачыў вясной сорак пятага. Якою яна была? Сумная. Ды і якая краіна ў вайну бывае прыгожай.

— А людзі, немцы? Вы мне пра іх скажыце... Вельмі ж яны лютавалі ў вайну.

— Розныя сустракаліся немцы. У адной, памятаю, вёсцы жанчына нас сустракала, як родных. Чакала нас. Фашысты і ў сваёй краіне лютавалі. У гэтай немкі мужа павесілі. Адмовіўся ваяваць супраць нас. А потым сына забілі, дачку звезлі ў канцлагер.

— Божа-божачка,— паківала галавою Настаха.

— Намучылася гэтая нямецкая маці,— працягваў Буцэвіч.— Вось прыйдзе да такой ваша Марыйка — усё кіне, а дапаможа.

— А дзе такую жанчыну знайсці?

— У кожнай вёсцы.

Падышла Каця.

— Вы прабачце маме,— з усмешкай сказала яна, звяртаючыся да настаўніка.— Чую, яна і да вас прыліпла са сваім наказам. Яна ў нас такая: усім работу дасць. Як па-вашаму, ці можна праз столькі гадоў знайсці магілы?

— Можна,— цвёрда адказаў Буцэвіч.

— Толькі ім, нашым хлопцам, якая ад гэтага карысць? — уздыхнула Каця.— Шукай ці не шукай, а жывых не знойдзеш.

Яна апусціла вочы, і яе маленькі вастраносы твар яшчэ больш змізарнеў. Настаха, пазіраючы на дачку, падумала, што Каця замучылася ад работы, ад клопатаў. А клопаты адны: не ведае, куды дабро падзець. Панакуплялі з Міхасём усяго, што трэба і што не трэба. Мітусіцца ўсё: і не хварэе, а худая, быццам ёй есці не даюць.

— Пагаварылі, і хопіць. У маці акрамя гаварыльні няма ніякіх клопатаў, а мне трэба на ферму бегчы,— сказала дачка і пайшла трухам за вароты.

Настаха яшчэ трохі пагаманіла з настаўнікам, потым паднялася на ганак, зайшла ў хату, села спіною да цёплай печы і пачала вязаць кофту. Вязанне трохі пазбавіла яе ад думак. Прыгрэўшыся, незаўважна задрамала. Марыйка прыйшла дамоў толькі ўвечары. Настаха падала ёй на стол есці і чакала, калі ўнучка ўспомніць пра ўчарашнюю размову, але не дачакалася і спытала:

— Ты на карту ў школе глядзела?

— Ой, бабулька, забыла... Забегалася. Пуцёўка за граніцу... Не кожнага пашлюць. Трэба добрая характарыстыка... Пакуль атрымала адпускныя... Час яшчэ ёсць. Паспею. Спачатку трэба аформіць пуцёўку, потым астатняе... У мяне цэлы воз заказаў... Купі тое, прывязі гэта. Ну, я пабегла.

Яна выскачыла з-за стала і кінулася ў дзверы. Каля ганка Марыйку чакаў Алег. Марыйка ўзяла яго пад руку, і яны пайшлі на вуліцу.

## 3

За сталом, калі вячэралі, Настаха сядзела насупраць зяця. Ёй хацелася падрабязна расказаць яму пра свой клопат. Што ён на гэта скажа? Можа, як і ўнучка, назаве яе дзівачкай? Яму па-бацькоўску пагаварыць бы з Марыйкай, даць строгі наказ... Міхась быў разгаворлівы. У саўгасе адкрылі філіял раённай дзяржплемстанцыі. Навіною Міхась дзяліўся з Кацяй, але тая круцілася каля пліты і мала яго слухала. Тады ён перавёў позірк на Настаху.

— Ты, маці, даяркай была... Ведаеш, якая гэта выгода. Раней як: трэба семя — гані машыну ў раён. Пакуль прывязеш — якасць ужо не тая. Толькі палову кароў пакрывалі штучным шляхам. А потым гадаем — адкуль ялавасць.

— Ды... позні ацёл,— дадала Настаха. Ёй было прыемна, што зяць дзеліцца з ёй важнымі справамі. Прыемнымі былі і ўспаміны пра нядаўні час, калі яна сама рабіла на ферме і з ёю раіліся.

— Праўда, і позні ацёл,— працягваў зяць. З гонарам пачаў гаварыць пра будаўніцтва тыпавога кароўні-

ка і ветлабараторыі. Цяжка было яму гэтага дамагчыся ў дырэктара саўгаса. Гаварыў Міхась гучна, размахваў рукамі. Увесь ён быў апантаны клопатамі, незвычайнай занятасцю такімі сур'ёзнымі і паспешлівымі справамі, што пра свой клопат Настаха нават і не асмелілася сказаць.

І тут у хату ўвайшла Марыйка.

— Бабулька, усё добра! — крыкнула яна з парога.— Знайшлі мы гэтую вёску. Іван Сцяпанавіч нават расхваляваўся. Гаворыць, знойдзеш магілу твайго дзядзькі, прывязі з яе зямлі. У школе піянеры ствараюць музей.

Бацька зірнуў на дачку, перавёў позірк на цешчу:

— Якую магілу?

У грудзях у Настахі соладка і балюча заныла. Пачала расказваць.

— Ну і ну... А ты разумееш, куды едзе Марыйка? Разумееш? — Міхась перагнуўся да яе цераз стол, вочы яго ні то ад гонару, ні то ад боязі расшырыліся.— Не ў суседнюю Дуброўку. Не. У Германію. Во! Разумець трэба. Ты, маці, як маленькае дзіця. Тысячы нашых палеглі там. Тысячы магіл! Лягчэй іголку знайсці ў стозе сена. Ты разумееш?

Настаха, апусціўшы галаву, сядзела як вінаватая.

Зяць гаварыў далей:

— Калі б было так проста, усе паехалі б шукаць. Ды вось не едуць! Дзяўчынка першы раз у свой век сабралася паглядзець белы свет. А мы яе клопатамі, наказамі завалілі.

— Не вельмі перарабілася,— сказала Каця.

— На нас, ішакоў, ёй няма чаго раўняцца. У яе сваё жыццё. Лепшае, чым было ў нас.

Твар Міхася зрабіўся сумны і задумлівы.

— Ветраная цяпер моладзь. Ад лёгкага жыцця,— гаварыла Каця, прыбіраючы стол.— Яе цяпер нічым не здзівіш... Усё ведае наперад.

— Граматная... Я некалі ў канцэртах выступаў. Мог артыстам стаць. Ды есці не было што.

Настаха вырашыла апярэдзіць зяця, падвесці яго да размовы пра галоўнае — пра паездку Марыйкі, пра сваіх дзяцей.

— А Міця хацеў лётчыкам стаць,— пачала яна.

— Які Міця? — падняў зяць на яе вочы.

— Сын мой...

— А-а-а...

Яна загаварыла мацней:

— Памятаеш, Каця, як ён крылы ўсялякія майстраваў.

— Памятаю.

— І я запісалася б у парашутысты, калі б быў у нас аэраклуб,— сказала Марыйка.— Бабулька, а чаму дзядзька Міця не стаў на фронце лётчыкам?

Пра сваіх дзяцей Настаха магла б расказваць усё, што ні спытай, але тут не змагла вымавіць ні слова, змаўчала.

— Вайна не пытае, куды і што ты хочаш,— быццам адказваючы за яе, суха і строга сказаў зяць.— Яшчэ і зараз людзі мучацца ад яе.

— Гаворыш, быццам сам быў на фронце,— усміхнулася Каця.

— На фронце не быў, а гора хапіў,— змрочна адказаў Міхась.— Калі забілі бацьку, захварэла маці. Нас, дзяцей, было чацвёра ў яе, самы старэйшы — я. Вось і гадаваў іх. Калі б застаўся ў жывых бацька, я выйшаў бы ў вялікія людзі.

— Ты і зараз, Міша, вялікі чалавек,— з гонарам сказала Настаха.— Вунь якую гаспадарку вядзеш. Падумаць толькі! Чатыры фермы.

— Адказнасці хапае, клопатаў — во! — Зяць правёў далонню сабе па шыі і адразу павесялеў.— Раблю як вол. Няма калі лоб выцерці. І людзі, начальства мяне паважаюць...

Слухаючы зяця, Настаха радавалася, што дагадзіла яму сваімі словамі. Яна ківала галавою, падтаквала Міхасю, глядзела яму ў вочы, а ён, быццам хвалячы цешчу, загаварыў пра ферму, дзе не так даўно рабіла Настаха.

— А Зорку і Рыжуху не выбракавалі? — спытала яна.

— Ім яшчэ даіцца ды даіцца,— ласкава сказаў Міхась.— Гэта ж твае, мама, кароўкі. Надоі ў іх яшчэ вялікія. Умела ты з каровамі ладзіць,— задумліва і светла ўсміхнуўся ён. Трохі памаўчаў.— А ты на мяне не глядзі, мама. На тое, што часта бываю злосны, плюнь. За дзень набегаешся, нанервуешся з людзьмі... Такая ў мяне работа... Трэба што — скажы... Гаворыш, трэба знайсці магілу Змітра ў Германіі? Мы Марыйцы накажам. Яна знойдзе. Чуеш, Марыйка?

— Мы з Іванам Сцяпанавічам знайшлі на карце вёску, што ўказана ў пахаронцы. Калі дазволяць, наведаю магілу,— адказала Марыйка. Яна стаяла, прысланіўшыся спіною да цёплай печы, адагравалася пасля халоднай вуліцы.

— Вось і дамовіліся, магілку наведай, пасадзі кветкі. А ты, маці, не хвалюйся,— зірнуў Настасі ў твар і сказаў зяць.— Усё будзе добра... Хаця і не люблю я ўсялякіх цырымоній на магілах... Што зменіш, чым паможаш тым, хто ляжыць у зямлі? Не вернеш іх... Хіба толькі наплачашся... А гэта не па майму нутру. Жыццё прасцей. Сум і слёзы трэба глушыць работаю. Будаваць, гадаваць — вось лепшая памяць пра загінуўшых. А ты, маці, будзь спакойнай. Няма ў цябе віны ні перад мёртвымі, ні перад жывымі. У мяне, думаю, таксама няма. Раблю як вол. І гэта ўсё ж важней, чым пускаць слёзы.

— А як жа не плакаць? — уздыхнула Настаха.— Колькі гадоў прайшло, а я і зараз пра іх думаю... Не выходзяць з галавы.

— Душыць сябе горам не трэба. Пара і забываць сваё гора. Колькі прайшло гадоў...

— Яны жыцця свайго не шкадавалі...— пачала Настаха.

— Дзякуй ім і вечная памяць. Мы шануем гэта. Я таксама не шкадую сябе ў рабоце. І рады: дзеці нашыя будуць жыць лепш, чым мы. Да гэтага імкнуся... Міця, Грыша... Іх ужо не вернеш.

Зяць змоўк. Маўчалі ўсе. Марыйка пайшла ў сенцы. Кіўнула Настасі:

— Бабулька, мы з табою пасля пагамонім.

Настасі здавалася, што размова яшчэ не закончана, трэба было нешта дагаварыць, хоць і не ведала што. Ды і нашто пярэчыць зяцю? Згадзіцца з ім яна ніяк не магла. Пакуль жывая яна, жывыя з ёю, у яе цяжкіх думках і дзеці Настахі.

## 4

У дзень ад'езду Марыйкі Настасі было так добра і лёгка на душы, як ніколі. Яе грэла добрае і нейкае новае пачуццё ўдзячнасці і павагі да дзяцей, да Марыйкі. Настаху радавалі дарожныя зборы-клопаты, паездка ўнучкі, ад якой яна чакала вельмі многага, і гэтае ча-

канне зрабілася сэнсам яе цяперашняга жыцця, якое цягнулася ў душэўнай адзіноце, суме.

Чыгуначны паўстанак быў у двух кіламетрах ад вёскі. Насуперак угаворам Каці Настаха таксама пайшла праводзіць Марыйку. Сама не ведала, адкуль узялася ў яе сіла. Яна ішла, папіраючы сябе палкаю, і радавалася сонечнаму дню і таму, што крочыць з маладымі, быццам бы нанава жыве на белым свеце.

— Мама, як ты? — пытала Каця.

— Нічога, дзякаваць богу,— кіўнула Настаха і куточкам хусцінкі выцерла з твару пот. Сэрца яе трывожна білася, дрыжала і глухла.

— Дайду як-небудзь...

Цягнік пазніўся. Па пероне сумна праходжваліся пасажыры. Алег паставіў на асфальт чамадан Марыйкі, узяў у дзяўчат свой транзістар і пачаў лавіць мелодыю.

— Дзяўчаты, фокс! — усклікнуў ён, падаў Настассі ў рукі прыёмнік і пусціўся ў скокі. Марыйка і яе сяброўкі, узмахваючы рукамі, таксама пачалі віхляцца па пероне. Настаха, абапершыся на кіёк, трымала транзістар і глядзела на гэтае вясёлае блазенства, цярпліва чакала, калі моладзь перастане скакаць. Ёй хацелася яшчэ раз пагаманіць з Марыйкай, пасядзець з ёю перад далёкай дарогай, сказаць унучцы напаследак некалькі слоў. Трэск і завыванне транзістара не былі суладны з яе настроем, з ціхім сумам расстання, з тугою чыстага асенняга неба.

Раптам блізка пранізліва загуло. Яна ўздрыгнула і азірнулася. На яе неслася цёмнае тулава цеплавоза. Цяжка застукацелі колы, закружыліся па пероне жоўтыя лісці, шматкі газет. У Настахі закружылася галава. Нехта выхапіў з яе рук транзістар, пачуліся таропкія галасы, усе пабеглі ў хвост цягніка. Настаха таксама патрухала ўслед, але яе спыніла адышка, у вачах пацямнела. Бліснулі ад вячэрняга сонца вокны і металёвыя поручні вагонаў, асляпілі яе, зноў недзе пранізліва загудзела, зноў пабеглі.

Пра маці Каця ўспомніла, калі цягнік крануўся з месца. Яна ўбачыла яе каля нейкага мужчыны. Той падтрымліваў яе, не даючы ўпасці, і позіркам шукаў па баках, каму б перадаць нямоглую бабулю. Каця падбегла да маці.

— Што з табою, мама?

Настаха расплюшчыла вочы і, цяжка дыхаючы, пачала глядзець на вокны, што плылі перад вачыма.

— Гаварыла, не ідзі на станцыю... Не паслухала,— з папрокам і шкадаваннем сказала Каця.

— Нічога, зараз пройдзе... А дзе Марыйка?

— Паехала.

— Ну і добра, дзякуй богу,— шаптала яна.

На душы ў Настахі адлягло. Яе сэрца зноў пачало запаўняцца салодкім і тужлівым пачуццём расстання, чакання і надзей.

## 5

Настаха ледзь дабрыла да вёскі. Калі б не было побач Каці, якая падтрымлівала яе пад руку, яна не дайшла б. Цела яе дрыжала ад слабасці. Як толькі ўвайшлі ў вёску, яна папрасіла піць.

Каця пабегла ў двор, прынесла ў конаўцы вады. Настаха дзвюма рукамі схапілася за карэц і прагнымі глыткамі пачала піць... У вачах у яе пацямнела, з твару пагнала пот.

А ноччу навалілася гарачыня, кашаль.

Каця сядзела ля ложка маці, ціха плакала:

— Казалі табе — не ідзі. Сама сабе знайшла бяду. Што цяпер рабіць?

— Нічога. Пройдзе,— праз сілу прастагнала Настаха.— А памру — толькі і бяды... Цяпер я спакойная, Каця... За вас, за сябе. Што магла, усё зрабіла. Толькі Марыйцы, дай божа, каб пашанцавала... Знайсці магілкі... Нельга магілкам без дагляду... Хіба дрэннымі былі яны, мае хлопцы? Хіба няма ў іх мацеры?

— Ты не трывож сябе,— Каця ручніком выцірала твар маці.— Ляжы спакойна, хутчэй выздаравееш.

— Праўда, донька, выздаравею. Нельга мне паміраць. Марыйку трэба дачакацца. Не, Каця, я не памру.

Настаха праз сілу піла гарачае малако, зелле і на трэці дзень паднялася з ложка. Нават пачала вязаць кофту.

Яна прымусіла сябе ўзяцца за работу, хоць у грудзях яшчэ гняло і не адпускаў кашаль. Жыла яна цяпер, чакаючы Марыйку, у нейкай урачыстай напружанасці, як перад светлым святам. Адступіла бяссонне, ночы для

яе пакарацелі, зрабіліся непрыкметнымі, а маленькія шэрыя дні восені — доўгімі і ўтульнымі.

Яна перабралася ў Марыйчыну спальню: пры хваробе лазіць на печ было ёй цяжка.

Неяк раніцай Настаха прачнулася, захацела сама прыбраць ложак, узбіць падушкі. Рабіла яна гэта з частымі перадышкамі, але з задавальненнем. З-пад падушкі да яе ног упаў белы скрутачак. Настаха падняла яго, але тут жа выпусціла з рук, атарапелая ад здзіўлення, падобнага на перапалох. Гэты скрутак яна давала перад ад'ездам Марыйцы.

«Няўжо ў спешцы забыла? Тады навошта хаваць пад падушку?» Не верачы сваім вачам, Настаха прысела на табурэт і асцярожна пачала яго развязваць. Так, ён самы. Вось паперка, на якой напісаны адрас...

«Як жа так, Марыйка?.. І чаму мне нічога не сказала?»

Настаха адагнала ад сябе думкі, што яе падманулі. І раптам прыгадала словы зяця: «Калі б было ўсё так проста, усе паехалі б шукаць. Ды вось не едуць. Не люблю ўсялякія цырымоніі на могілках... Што зменіш, чым паможаш тым, хто ляжыць у зямлі? Не вернеш іх... Хіба толькі наплачашся...»

Яна прыгадала зараз яго словы з вялікай крыўдай і горыччу і адразу здагадалася, што з ёю абышліся нядобра. Пад грудзьмі моцна запякло, і Настаха ледзь паднялася з табурэта, дацягнулася да ложка.

Не адчуваючы ні болю, ні дыхання, яна ціха ляжала і глядзела ў акно. Па небе нізка цягнуліся цяжкія, набрынялыя дажджом хмары, і яна лёгка плыла разам з імі, ціха і сонна апускалася ў цемру.

Прыйшла з работы Каця, убачыла зжоўклы твар маці, скрутак у яе руках і, здагадаўшыся пра ўсё, кінулася да яе:

— Што з табою?

— Марыйка спяшалася... І забыла вось адрас... Без яго не знойдзе,— не дагаварыла Настаха і надрыўна закашляла.

— Мама, не бяры да сэрца...— голас у Каці задрыжаў.— Марыйка тут не вінаватая... Гэта ўсё ён натварыў... Гаворыць, што ў цябе памрачэнне ў галаве... Здзяцінілася, кажа...

— Яно і праўда... Пад старасць людзі або разумнеюць, або дурнеюць...

— Прабач, мама. Я не хацела цябе пакрыўдзіць... Тут Міша ўсіх узбаламуціў.

Словы Каці не ўсцешылі, а яшчэ больш растрывожылі. Цяпер яна канчаткова пераканалася, што яе падманулі. З кожнай гадзінай ёй рабілася горш, хвароба ў ёй зноў асмялела, супраціўляцца ёй у Настахі не было цяпер ні сіл, ні жадання.

## 6

З райцэнтра Міхась вяртаўся дамоў раніцай. Двухдзённы семінар жывёлаводаў прайшоў для яго ўдала, добра: яму давялося аж два разы выступаць. І яму было што расказаць: саўгас кожны год перавыконвае планы па здачы мяса і малака, трымае вядучае месца ў раёне.

Асабліва ён быў задаволены, што на семінары прысутнічаў чалавек з вобласці, які слухаў яго прамовы, згодна ківаў галавою, а ў адным з перапынкаў падышоў да яго, паціснуў руку і нават пачаставаў цыгарэтай.

З-за лесу паказалася вёска. Ён спыніў матацыкл каля сваіх варот, пайшоў у хату і ў дзвярах сутыкнуўся з Кацяй. Здушана плачучы, яна кінулася яму на грудзі.

— Што тут у вас?

— Маці памерла,— горка, па-дзіцячы сіратліва сказала Каця. Потым адхіснулася, паглядзела на яго чужымі вачыма.— Гэта ты ўсё натварыў... А я, дурная, развесіла вушы, слухала... «Калі цвяроза падумаць, калі ўзважыць...» Вось і ўзважыў... А яна, маці, усё па-свойму ўзважыла.

Ён пераступіў парог і зайшоў у хату, не верачы плачу жонкі. Яго позірк упёрся ў доўгі чорны прамавугольнік, які стаяў амаль ад падлогі да столі. Міхась здагадаўся, што гэта люстра, завешанае чорным прасцірадлам. На стале гарэла высокая свечка, святло яе гублялася ў праменнях ранішняга сонца. Маці ляжала на дзвюх ссунутых лаўках, непазнавальна доўгая, прамая і строгая.

Ён павярнуўся і выйшаў у сенцы. Убачыў там жонку, са страхам падышоў да яе.

— Паслухай, як жа так?.. Няўжо ад таго? — ціха спытаў ён, чакаючы і баючыся жончыных слоў.

— Ад таго, Міша, самага, выкінуў жа ты з чамадана адрас. Ды і прастуда ў яе яшчэ была. І вось расхвалявала сябе гэтым адрасам...

— Трэба ж, з-за глупства... Чорт ведае што!

— Ты тут чарцей не ўспамінай... Грэх... І маці цяпер не чапай словам. Для цябе глупства, а для яе важней за гэта, можа, нічога на свеце і не было...

Змоўклі.

## 7

Хавалі Настаху ў ціхі асенні дзень. У паветры стаяла сонечная прахалода, а на могілках пасля дажджоў тхала ўжо зімовай вільгаццю.

Музыканты ішлі за труною, важныя і строгія. Усе людзі, асабліва дзеці, больш глядзелі на іх, чым на труну. Гучна і ўрачыста сумна ліліся медныя галасы. Аддаючыся ў самым сэрцы, бухаў бубен. Іграў духавы аркестр, цяжкімі ўздыхамі склікаў, прыцягваў людзей.

На пахаванне выйшла ўся вёска: з аркестрам тут ніколі нікога не хавалі.

# Сымон і Змітро

Пасля адлігі на Вуглы напусцілася такая сцюжа, прыціснуў такі мароз, што людзі шосты дзень баяцца выходзіць на вуліцу. На вёсцы не ўбачыш жывой душы, вуглоўцы сядзяць у хатах, адлежваюцца на печы, чытаюць газеты, слухаюць радыё ды глядзяць тэлевізары. Усё добра, толькі адна бяда — дзеці з-за холаду не ходзяць у школу і ад іх няма спакою ў хаце. Ды куды ім у школу ісці! Другая лянівая жонка вядро з памыямі баіцца вынесці на двор, шухне з парога — на снег пасыплюцца льдзінкі.

Даўно, казалі старыя, не было такога лютага марозу. Ад няма чаго рабіць людзі рознае гаварылі. Адны казалі — к вайне, другія — к недабору ў полі. А самая старая Домна гугнявіла сваёй радні: «Нешта страшнае будзе. Шэсць дзён сабакі не брэшуць, вароны носяцца над камінамі. Памрэ, мабыць, нехта».

І спраўдзіліся на тое словы Домны. У нядзелю пайшлі па вёсцы чуткі, што памёр стары Змітро.

Яго ведалі добра не толькі ў Вуглах, але і ў суседніх вёсках. Быў Змітро рабацяшчым чалавекам, майстрам — і печ добрую злепіць, і кажух пашые, і калодзеж выкапае. І сам па сабе быў ён чалавекам добрым.

І загаманілі, завалтузіліся ў вёсцы:

— Вось табе і на!.. Памёр, скажы... Ён жа мне, каб яму мякка спалася на тым свеце, добрую печ зляпіў. З самае вайны грэе добра, гудзе, як самавар. Як прыйшоў з фронту Змітро, наперш пачаў усім печы рабіць. Вуглы нашыя толькі адбудоўваліся пасля таго, як іх немцы спалілі. У Вуглах не было і вуглоў...

— Вялікая карысць была вёсцы ад яго. Усіх апранаў у кажухі. Пашые — адно заглядзенне.

— Шкада Змітра. Хай бы замест яго які злы чалавек памёр.

Старшыня калгаса раніцай ужо імчаўся на санях, спыняўся каля хат — збіраў мужчын капаць Змітру магілу.

Тыя, да каго ён заходзіў у двор, бурчалі:

— Здагадаўся, бач яго... Для Змітра і без слоў кожны пойдзе капаць магілу... І прасіць не трэба.

Мужчыны і жанкі пачалі апранацца ў цёплае, каб ісці апошні раз пакланіцца Змітру.

А Рыгор, старэйшы яго сын, пабег да старога Сымона з асабістым запрашэннем.

— Дзядзька Сымон,— гаварыў Рыгор,— бацька наш памёр. Перад смерцю прасіў, каб вы з цёткай Аўдоццяй прыйшлі развітацца з ім.

Аўдоцця, жонка Сымона, развязала канцы хусткі, пачала выціраць вочы, а Сымон уздыхнуў:

— Ай-яй-яй... Памёр, кажаш... А цяжка аддаваў душу богу?..

— Не. Зусім лёгка... Памёр ціха, як малое дзіця... Трошкі толькі пастагнаў. А то ўсё гаварыў.

— Гаварыў? Пра што ж ён?

— Ды так, пра ўсё. Аджыў, кажа, я сваё... Пад сэрцам гняце, баліць. Асколак... Не выцягнулі ў шпіталі. Спяшаліся. Ён і раней скардзіўся, што ў грудзях у яго нешта цісне. Хату, гаворыць, новую я пабудаваў, а пограб да зімы не паспеў выкласці цэглай... Яшчэ непакоіўся, што кажухі не паспеў пашыць людзям — багата аўчын у яго ў скрыні ляжыць. Людзі пананосілі. Прыйдуць, кажа, забіраць назад. Гаварыў, што зямля на кладах мёрзлая: капаць будзе мужчынам цяжка. Прасіў, каб з аркестрам з хаты правялі і на магіле ніякіх прамоў не гаварылі... А то старшыня пачне па паперцы бубніць і нагаворыць лішняга... А на памінках каб усяго хапала. І выпіўкі і закусі... Пра вас, дзядзька Сымон, і пра цётку Аўдоццю гаварыў перад смерцю. Напаследак, кажа, пабачыць іх вельмі хочацца. І пад раніцу заціх. Заснуў, думалі. Дакрануліся, а ён не дыша. А вочы адкрытыя, як жывыя. Блішчаць... Слёзы яшчэ не высахлі...

Мужчыны ішлі капаць магілу. На могілках разграблі снег, пачалі дзяўбці зямлю, а яна як камень. Прынеслі сухое галлё, запалілі, каб хоць трохі адагрэць. Адпарылася, разамлела зямля, і быццам злёгку свежым запахла ворывам.

Мужчыны гаманілі:

— І надумалася ж Змітру ў такі мароз паміраць... Даўно ніхто з нашых вуглоўцаў не паміраў зімою.

— А хіба ён павінны вясною ці летам паміраць, калі ў кожнага багата работы?

Хавалі Змітра апоўдні. Людзей пасходзілася багата, уся вёска сышлася ад малога да старога. Мароз трохі

адлёг, але ўсчалася завіруха. Снег валіў густы, буйны і такі хуткі, што аж сляпіў вочы, забіраўся за каўнер.

Людзі стаялі ля хаты нябожчыка, моўчкі. І вось у дзвярах паказалася труна, і завіруха прагна накінулася на яе. Сняжынкі спачатку раставалі на дамавіне, як на агні, бо труну вынеслі з цёплай хаты, але потым яна астыла і ўся заляпілася снегам.

Людзі рушылі на могілкі. Музыканты зайгралі пахавальны марш. Ад вёскі да самых могілак расцягнулася пахавальная працэсія. Даўно такога шматлюднага пахавання не было ў вёсцы. На могілках труну знялі з плячэй і паставілі ля магілы, глянулі, а ў ёй поўна снегу намяло, і не відаць было зусім твару нябожчыка. Старая Аўдоцця, жонка Змітра, выграбла рукамі снег з труны, ласкава абцерла хусцінкай твар нябожчыка, а потым пачала ім выціраць свае слёзы, што сыпаліся з вачэй.

Музыканты яшчэ раз зацягнулі нудную — аж сэрца раздзіралася — мелодыю. Калі музыка сціхла, старшыня калгаса хацеў было прамову сказаць перад труною, палез у кішэню за паперкай, выняў, пачаў разгортваць, але вецер выхапіў з рук лісток і занёс яго ў магілу. Тады старшыня зняў шапку і пачаў без паперкі:

— Таварышы! Вось ён перад намі, дарагі Змітро Паўлавіч. Быў ён перадавіком-калгаснікам, смелым байцом-воінам.

І харошая атрымалася ў старшыні прамова. Усіх за душу ўзяла. Калі старшыня перастаў гаварыць, мужчыны пачалі забіваць на дамавіне вечка. Зноў зайграла музыка, зноў загаласіла радня нябожчыка.

Аўдоццю сілком адцягнулі ад труны і ў спешцы забылі змясці са Змітра снег, які зноў заляпіў яму твар.

Труну апусцілі ў зямлю. Пасыпаліся першыя мёрзлыя і цвёрдыя глыжы ў магілу. Яны туга і гучна стукалі аб вечка труны, быццам у вялізны бубен, і зямля, здавалася, уздрыгнула і загудзела пад нагамі на ўсіх могілках. Потым зямля сыпалася ў магілу глушэй, мякчэй, і ўсё сціхла...

На памінках людзей таксама было багата. Яны цягнуліся да глыбокай ночы. Пяць разоў у вялікую хату нябожчыка набіваліся людзі. Адны выходзілі, другія заходзілі, сядалі за сталы, пілі, елі і вялі ціхую нетаропкую гамонку пра жыццё і смерць:

— Чалавека добрым словам не памянуць — вялікі грэх... Усю вёску вадою паіў — усе калодзежы выкапаны яго рукамі. Ніколі, бывала, не гандляваўся... Колькі дадуць, толькі і возьме.

— Ды што гаварыць! Ён і людзям даваў, і сам меў. Прыйдзеш, бывала, да яго папрасіць што-небудзь, ніколі не адмовіць. Памятаю, дачка ў мяне аднойчы захварэла, мёду папрасіла. Узяў я шклянку і да Змітра. А ён сподак цэлы мне паклаў, дае, а сам пытае: «Можа, мала будзе?»

— Яно, ведаеш, калі шчыры дае, дык яму здаецца, што ён мала дае... А вось калі скупы дае, таму здаецца, што ён многа дае.

За сталом сядзеў і Сымон Тузік. Ён чуў, пра што гаварылі, не прапускаў ні слова, а сам усё набулькваў у шклянку гарэлку і піў, піў з нейкай злосцю, прагай, хацеў быць п'яным, але не п'янеў: на ўсіх глядзеў спадылба і маўчаў. З ім ніхто не гаварыў. І ніхто не перашкаджаў яму думаць.

Калі пачалі разыходзіцца з памінак, ішлі кучкамі: суседзі з суседзямі, сябры з сябрамі. Сымон выйшаў з хаты, і ісці яму не было з кім. Застаўся адзін на вуліцы, пастаяў трохі, уздыхнуў і сам сабе падумаў: «Вось яно як атрымоўваецца... Адзін застаўся. Быў сябар адзіны і той памёр... Аўдоцця мая на печы ляжыць хворая. І сын мой на памінках быў з жонкаю... І не падышоў... Быццам я чужы які... І чым я не дагадзіў людзям?»

Цяжка ступаў па глыбокім снезе з памінак Сымон. Завіруха густой белай сцяною напірала на грудзі, балюча секла ў твар, сляпіла вочы. Сымон адварочваўся, хаваў твар у каўнер кажуха і ішоў бокам. Ён заплюшчыў вочы і, сагнуўшыся ад тугога ветру, ішоў наўгад, а пад нагамі ў яго было мякка-мякка, быццам у сне ступаў па мяккім і бясконцым пухавіку. І толькі адно было пагана — пераносіць наперад ногі. Дыханнем ён саграваў твар, падбародак, і яму рабілася цяплей; вецер над галавою выводзіў песню-калыханку, і хацелася Сымону ўпасці на мяккі пухавік-снег, заснуць і пра ўсё забыць.

І калі б вецер дзьмуў ззаду і лёгка нёс Сымона, ён пэўна б зваліўся на замеценую снегам дарогу і перастаў бы пра ўсё думаць. Але вецер быў сустрэчны, не даваў ісці, і Сымон настойліва перастаўляў па снезе ногі, ішоў наперад.

І ніяк не магла ад Сымона адвязацца адна і тая ж думка — думка пра жыццё і смерць. Сымона здзіўляла, што раней ён ніколі так глыбока, з болем у душы, не задумваўся пра гэта. А цяпер ён і так прыкіне, і гэтак прымерыць — кароткае і незразумелае чалавечае жыццё. Чаму і нашто жыве на зямлі чалавек? «Эх, жыццё-быццё! — думаў Сымон.— Бы ветрам цябе знясло. Ці даўно мы са Змітром былі маладымі, разам на фронт ішлі. А калі вярнуліся, пакахалі адну дзяўчыну. Самую прыгожую ў вёсцы. Біліся, бывала, за яе. І сябрамі былі і ворагамі былі... Было... З вайны вярнуўся Змітро — усе грудзі ў ардэнах. Любіў ён у той час паказацца на людзі з узнагародамі, асабліва перад Аўдоццяй».

Сымон раптам спатыкнуўся і паляцеў потырч у гурбу. Калі агледзеўся, са страхам зразумеў, што збіўся з дарогі і трапіў на могілкі... І блізка ля яго, перад самым носам, з-пад снегу тырчаў крыж. Чуць далей у шалёнай кругаверці завірухі пагойдваліся і скакалі перад вачыма Сымона крыжы на магілах. Ён хутка выняў рукі з гурбы, ірвануўся назад і тут жа застыў на месцы. Перад ім стаяў роўны і высокі новы крыж. Сымон адразу пазнаў магілу Змітра. Яе ўжо замяло снегам, вырасла на ёй белая гурба.

Сымон ачомаўся ад страху, азірнуўся вакол — нідзе нічога не відаць, усюды белы бурлівы кіпень, і густая ўпартая завіруха пад надрыўны плач і хліпанне задумала злосную віхуру з крыжамі. І здавалася яму, што ўся зямля зыбаецца, кружыцца ў яго пад нагамі і скача і над галавою кружыцца неба; усё вакол белае-белае, а за ім, мабыць, нідзе нічога няма: ні хат, ні вёскі, ні лесу, ні Аўдоцці — нічога, быццам гэта і ёсць «той свет», адкуль ніхто ніколі не вяртаецца. Прыгадалася Сымону дамавіна, у якой ляжыць Змітро. «Мабыць, незнарок усё гэта,— падумаў Сымон і бліжэй падышоў да магілы,— незнарок мяне зноў прывяло да цябе, Змітро. Мабыць, і я хутка перабяруся сюды, прыйду да цябе назусім. Хутка! Хоць я і жывы цяпер, але я, лічы, мярцвяк... Хоць памры, нікому ад гэтага гора не будзе. Ніхто мяне не пашкадуе, калі памру. Хоць пакаяцца перад табою, Змітро, трэба, пакуль жывы. Прабач, Змітро, грэх нашу перад табою. Ніколі не забуду, як украў у цябе, калі быў малы, самакат з двара. Харошы быў самакат. Запольскія хлопцы напалі на мяне, хацелі надаваць у шыю,

але ты заступіўся. Даўно гэта было, у дзяцінстве, а вось з галавы не выходзіць...»

Сымон глыбока ўздыхнуў і ўжо не думаў, а гаварыў пад посвіст завірухі:

— І Аўдоццю я адбіў. Нагаварыў ёй на цябе. Абы што гаварыў... Даруй, Змітро... А яна, дурная, брала ўсё на веру. І да мяне пачала хіліцца. Не любіў я цябе, Змітро, калі ты ў ардэнах міма праходзіў... І любавалася тады табою Аўдоцця... Не любіў за тое, што ўсе людзі ў вёсцы цябе паважалі і ставілі ў прыклад сваім дзецям. Не любіў і разам з тым любіў. Бо ты быў такім добрым і моцным чалавекам, якіх цяпер, мабыць, і на ўсім свеце няма. Колькі мы з табою разам солі з'елі! А вось добрае што табе я, лічы, нічога не зрабіў. А каму я рабіў гэтае добрае?

Доўга яшчэ стаяў Сымон ля магілы Змітра і думаў уголас. Збоку здавалася, што стаяць у белым бурлівым кіпені два нябожчыкі — крыж на магіле Змітра, калматы ад снегу і падобны на чалавека, з рукамі, тонкай шыяй, з маленькай сівою галавою, і Сымон, замецены, ухутаны белым снежным покрывам.

Ішоў Сымон дамоў сваёю вуліцай і нёс у цяжкай галаве цяжкія думкі. Ні ў адной хаце не відаць было ні агеньчыка, нідзе ні адной душы. Быццам усё вымерла.

Праходзячы паўз хату суседкі, старой Язэпіхі, Сымон спыніўся, і раптам прыйшло ў галаву, што восенню ён збіраўся перакрыць ёй дах. Але ў Язэпіхі ў той час не было грошай, каб заплаціць за работу. І ён адмовіўся ёй памагчы. Сымон падняў галаву... У саламяным даху, замеценым снегам, чарнела вялікая чорная дзірка.

«Божа, божа! — падумаў ён.— Дай мне зіму перазімаваць. А ўлетку, цётка, капейкі ў цябе не вазьму. Пакрыю дах на заглядзенне людзям!

А заўтра пайду з сынам мірыцца. Адвяду яму сваю цяліцу. Будзе ўнукаў малаком паіць, калі ацеліцца. І трэба Аўдоцці новае паліто купіць. Хай пакажацца перад людзьмі ў новым...»

У Сымона раптам знайшлося шмат спраў, якія ён павінен зрабіць, пакуль жывы. І трохі ў яго адлегла на сэрцы. Ён лягчэй уздыхнуў і пайшоў да сваёй хаты.

# ЗМЕСТ


| | |
|---|---|
| Мар'я з Хатак | 5 |
| Жыві | 30 |
| Адна | 39 |
| Даўнія сябры | 44 |
| Анюта | 57 |
| Петрык | 64 |
| Вераснёўскай раніцай | 70 |
| Сяргей, сын Антолі | 76 |
| На сваім селішчы | 88 |
| Карова | 95 |
| Апошні дзень | 105 |
| Увосень | 112 |
| Жаніх | 120 |
| Верка і Валодзя | 133 |
| Аборка на чамадане | 141 |
| Святлана | 148 |
| Цыганка | 166 |
| Залатая казка | 173 |
| Нінка Перагуд | 184 |
| Пахатуха | 188 |
| Сонечны лівень | 194 |
| Да маці | 202 |
| Бацька і сын | 213 |
| Скрыпун, або Паганіні з Зарэчча | 217 |
| На пакосе | 228 |
| Пуцёўка | 234 |
| Сымон і Змітро | 250 |


---


Николай Фомич Копылович

ДНИ ТИХОЙ ОСЕНИ

Рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Я. І. Курто. Мастак М. А. Вецік. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктары Л. М. Вайцяшэня, Я. Ф. Харко.

ІБ № 984

Здадзена ў набор 21.08.80. Падп. да друку 02.03.81. АТ 07525. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,44. Ул.-выд. арк. 13,33. Тыраж 6000 экз. Зак. 935. Цана 1 р. 10 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.